ААТ «Белгазпрамбанк»
ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь»
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

# ДЗЕСЯЦЬ СТАГОДДЗЯЎ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

## ДЕСЯТЬ ВЕКОВ ИСКУССТВА БЕЛАРУСИ
## TEN CENTURIES OF ART IN BELARUS

З музейных, прыватных збораў
і карпаратыўнай калекцыі
ААТ «Белгазпрамбанк»

Каталог выстаўкі
27.03–10.07.2014

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «ЧАТЫРЫ ЧВЭРЦІ»
2014

УДК 7.03(476)
ББК 85.1(4Беи)
Д26

**Каталог выпускаецца па заказе
ААТ «Белгазпрамбанк»
у рамках карпаратыўнага праекта
«Арт-Беларусь»**

Кіраўнік карпаратыўнага праекта
**Уладзімір Сажын**

Аўтар канцэпцыі выстаўкі
**Уладзімір Шчасны**

Куратары арт-праекта:
**Уладзімір Шчасны,
Надзея Усава**

Каардынатар праекта
**Іна Бушыла**

Арганізатар выстаўкі
**Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь**
(генеральны дырэктар **Уладзімір Пракапцоў**)

Афармленне выстаўкі:
Любоў Лявонцьева (Ludi Architects, г. Санкт-Пецярбург),
Ігар Асоўскі (ТАА «Куб Икс», г. Санкт-Пецярбург),
Алена Матросава (г. Мінск),
Відутэ Павілаўскайтэ (Інстытут праектавання
і рэстаўрацыі помнікаў, г. Вільнюс)

## Удзельнікі арт-праекта

ААТ «Белгазпрамбанк» (старшыня праўлення — В. Бабарыка)
ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь» (генеральны дырэктар — У. Маёраў)
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь (генеральны дырэктар — У. Пракапцоў)
Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь (дырэктар — А. Рыжкоў)
Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» (дырэктар — С. Клімаў)
Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік (дырэктар — Т. Джумантаева)
Нацыянальная бібліятэка Беларусі (дырэктар — Р. Матульскі)
Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (дырэктар — М. Скобелеў)
Барысаўскі дзяржаўны аб'яднаны музей (дырэктар — А. Раховіч)
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (рэктар — С. Абламейка)
Веткаўскі музей народнай творчасці імя Ф. Р. Шклярава (дырэктар — Г. Нячаева)
Віцебскі абласны краязнаўчы музей (дырэктар — Г. Савіцкі)
Галерэя мастацкага шкла і керамікі «VAIVA» (г. Мінск, дырэктар — Л. Чарняк)
Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе» (дырэктар — М. Паграноўскі)
Гомельскі палацава-паркавы комплекс (генеральны дырэктар — А. Госцеў)
Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі (в. а. дырэктара — А. Рыбак)
Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (дырэктар — Ю. Кітурка)
Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (дырэктар — А. Ляшкевіч)
Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (дырэктар — З. Кучар)
Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (дырэктар — В. Даніловіч)
Карцінная галерэя імя Я. Я. Майсеенкі (г. Буда-Кашалёва Гомельскай вобласці; дырэктар — Л. Жукава)
Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. В. Масленікава (дырэктар — А. Хахракоў)
Музей гісторыі Магілёва (дырэктар — А. Бацюкоў)
Музей гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі (дырэктар — В. Акапян)
Мінскі абласны краязнаўчы музей (г. Маладзечна; дырэктар — Т. Лянкевіч)
Музей Беларускага Палесся (г. Пінск; дырэктар — І. Дзямчук)
Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр (настаяцельніца — ігумення Еўдакія (Ляўшук))
Смаргонскі гісторыка-краязнаўчы музей (дырэктар — Л. Белуш)
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (дырэктар — А. Лакотка)
Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (дырэктар — А. Груша)
Сядзібна-паркавы комплекс «Панскі маёнтак Сула» (в. Сула Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці; дырэктар — А. Запольскі)
Парафія касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Кемелішкі Астравецкага раёна (ксёндз Раман)
Парафія касцёла Святой Тройцы ў г. п. Ружаны Пружанскага раёна (ксёндз Януш Пуліт)
ТДА «Выдавецтва "Чатыры чвэрці"» (дырэктар — Л. Анцух)

Арганізатары праекта выказваюць асаблівую ўдзячнасць Паўлу, Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі

Мастацтва Беларусі — з'ява, якая ўвабрала ў сябе вынікі шматвяковай дзейнасці народаў, якія засялялі тэрыторыю краіны. Нават у наш час, час глабалізацыі і стандартызацыі, захоўваюцца яго характэрныя рысы, а традыцыя служыць надзейным падмуркам для новых творчых здзяйсненняў.

У помніках мастацтва і культуры Беларусі, як ні ў якіх іншых, гарманічна пераплятаюцца традыцыі розных этнасаў, канфесій, стыляў і кірункаў. У сусветным мастацтвазнаўстве трывала замацаваліся такія паняцці, як «беларускі іканапіс», «беларуская разьба скразная», «слуцкія паясы», «Віцебская мастацкая школа» і многія іншыя, што кажа аб сусветным прызнанні дасягненняў айчыннага мастацтва.

Міністэрствам культуры сумесна з прыватнымі кампаніямі і банкамі праводзіцца актыўная работа па папулярызацыі мастацтва Беларусі як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Надзейным спонсарам важных культурных мерапрыемстваў стаў Белгазпрамбанк. Дзякуючы яго ініцыятыве і падтрымцы з поспехам быў ажыццёўлены праект «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», які стаў першым этапам рэалізацыі шырокамаштабнага праекта «Арт-Беларусь».

«Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» — не проста выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, арганізаваная пры падтрымцы Белгазпрамбанка. Гэта культурны праект нацыянальнага ўзроўню, які з'яўляецца візітнай карткай Беларусі. У ім прынялі ўдзел прыватныя калекцыянеры, музеі Беларусі і замежжа, перадаўшы на час унікальныя культурныя каштоўнасці са сваіх збораў. Упэўнены, што і беларусы, і замежныя турысты адкрыюць для сябе шмат новага і важнага, а галоўнае — упершыню ў гісторыі незалежнай Рэспублікі Беларусь яны змогуць ацаніць мастацтва краіны ва ўсёй яго разнастайнасці і хараstве.

Хачу выказаць словы падзякі ўсім арганізатарам і ўдзельнікам выстаўкі і пажадаць далейшых творчых поспехаў у справе захавання і папулярызацыі дасягненняў культуры і мастацтва Беларусі!

**Барыс Святлоў,**
Міністр культуры Рэспублікі Беларусь

Искусство Беларуси — явление, которое впитало в себя результаты многовековой деятельности народов, населявших территорию страны. Даже в наше время, время глобализации и стандартизации, сохраняются его характерные черты, а традиция служит надежным фундаментом для новых творческих свершений.

В памятниках искусства и культуры Беларуси, как ни в каких других, гармонично переплетаются традиции различных этносов, конфессий, стилей и направлений. В мировом искусствоведении прочно закрепились такие понятия, как «белорусская иконопись», «белорусская резь сквозная», «слуцкие пояса», «Витебская художественная школа» и многие другие, что говорит о мировом признании достижений отечественного искусства.

Министерством культуры совместно с частными компаниями и банками проводится активная работа по популяризации искусства Беларуси как в республике, так и за ее пределами. Надежным спонсором важных культурных мероприятий стал Белгазпромбанк. Благодаря его инициативе и поддержке с успехом был осуществлен проект «Художники Парижской школы из Беларуси», ставший первым этапом реализации широкомасштабного проекта «Арт-Беларусь».

«Десять веков искусства Беларуси» — не просто выставка в Национальном художественном музее Республики Беларусь, организованная при поддержке Белгазпромбанка. Это культурный проект национального уровня, который является визитной карточкой Беларуси. В нем приняли участие частные коллекционеры, музеи Беларуси и зарубежья, предоставив на время уникальные культурные ценности

из своих собраний. Уверен, что и белорусы, и зарубежные туристы откроют для себя много нового и важного, а главное — впервые в истории независимой Республики Беларусь они смогут оценить искусство страны во всем его многообразии и великолепии.

Хочу выразить слова благодарности всем организаторам и участникам выставки и пожелать дальнейших творческих успехов в деле сохранения и популяризации достижений культуры и искусства Беларуси!

**Борис Светлов,**
Министр культуры Республики Беларусь

The art of Belarus is a phenomenon which has absorbed the results of the activities of many nations, that for centuries inhabited our country. Even at the present time, a time of globalization and standardization, it retains distinctive features, while traditions serve a reliable foundation for future creative achievements.

Traditions of various ethnic communities, denominations, styles and trends are harmoniously interwoven, as nowhere else, in the monuments of art and culture in Belarus. The notions 'Belarusian icon-paining', 'Belarusian wood carving', 'Slutsk sashes', and Vicebsk art school', which are firmly incorporated in the world's art studies, manifest the international recognition of the country's art.

The Ministry of Culture, private companies and banks take active joint measures for popularizing the art of Belarus within the country and abroad. *Belgazprombank* has become a reliable sponsor of important cultural events. Thanks to its initiative and support, the project 'Artists of the School of Paris of Belarusian Origin' has been successfully implemented as the first stage in the large-scale Art-Belarus Project.

'The Ten Centuries of Art in Belarus' is not just an exhibition at the National Art Museum of the Republic of Belarus supported by *Belgazprombank*. It is a cultural project at a national level, a 'visiting- card' of Belarus. Individual collectors, and museums of Belarus have taken part in the project by lending unique cultural artefacts from their collections. There is no doubt, that both residents of Belarus and foreign tourists will experience many new and important discoveries and, what is most important of all, they will be able for the first time in the history of independent Belarus to appreciate the diversity and splendor of the country's art in their entirety.

May I thank all organizers and participants of the exhibition and wish them every success in maintaining and popularizing the achievements in culture and arts of Belarus!

***Boris Svetlov,***
Minister of Culture of the Republic of Belarus

Праект «Арт-Беларусь», які вырас з карпаратыўнай калекцыі ААТ «Белгазпрамбанк» — «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», — набыў статус праекта нацыянальнага маштабу, які прызваны паказаць гістарычны зрэз выяўленчага мастацтва Беларусі ва ўсёй паўнаце і цэласнасці. Сёння «Арт-Беларусь» здольны служыць аднаўленню сувязей з культурна-гістарычнай спадчынай мінулага і надаць новы імпульс развіцця сучаснаму беларускаму мастацтву.

Выстаўка «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», правядзенне якой было ініцыявана банкам у садружнасці з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры ў 2014 годзе, — вельмі яркае таму пацверджанне. На працягу чатырох месяцаў жыхары і госці беларускай сталіцы змогуць пазнаёміцца з выдатнымі ўзорамі беларускага мастацтва. Многія экспанаты будуць дэманстравацца шырокай публіцы ўпершыню. Ніколі да гэтага ў адным месцы не збіралі для паказу настолькі маштабную экспазіцыю прадметаў беларускага мастацтва, створаных за дзесяць стагоддзяў: ад часоў Візантыі — да сучаснасці! Колькасць экспанатаў набліжаецца да пяці соцень. Усе яны прайшлі экспертны адбор, многім спатрэбіліся рэстаўрацыйныя работы. Так ці інакш, у праекце ўдзельнічаюць практычна ўсе музеі краіны, у тым ліку рэгіянальныя, а таксама прыватныя калекцыянеры і карпаратыўныя калекцыі.

Перад арганізатарамі выстаўкі як часткі праекта «Арт-Беларусь» ставілася мэта паказаць працэс развіцця культуры Беларусі ў яго паўнаце і бесперапыннасці.

Складанасць прытрымлівання прынцыпу паўнаты была выклікана, у прыватнасці, актуальнасцю праблемы вызначэння прыналежнасці творчасці таго ці іншага мастака да айчыннай культуры. Два дзесяцігоддзі пасля набыцця нашай краінай рэальнага суверэнітэту па-ранейшаму існуюць меркаванні, прыхільнікі якіх упарта не бачаць месца ў айчынным мастацтве для многіх дзеячаў сусветнага маштабу толькі таму, што яны не былі носьбітамі мовы тытульнай нацыі ці не належалі да пераважнай на момант іх нараджэння рэлігіі. Разам з тым Беларусь ніколі не была і сёння не з'яўляецца адзінамоўнай і монаканфесіянальнай краінай. Многія з тых, хто нарадзіўся ў сем'ях, дзе гаварылі на ідыш, польскай або рускай мовах, былі сапраўднымі патрыётамі Радзімы, як бы яна ні называлася ў той ці іншы перыяд гісторыі, і даказвалі гэта сваёй творчасцю. Тым не менш, прымаючы пад увагу традыцыйныя паняцці, было вырашана выкарыстоўваць замест вызначэння «беларускае мастацтва» больш шырокае паняцце — «мастацтва Беларусі». У дадзеным выпадку тэрмін «Беларусь» абазначае тэрыторыю ў сучасных межах Рэспублікі Беларусь.

Аналіз эвалюцыі культуры на беларускіх землях сведчыць аб бесперапыннасці творчага працэсу нават у самыя трагічныя перыяды айчыннай гісторыі. На жаль, вялікая колькасць твораў мастацтва была знішчана падчас войнаў і сацыяльных узрушэнняў. Многія творы мастацтва ў сілу розных прычын апынуліся за межамі Беларусі. Па іроніі лёсу, менавіта таму яны дайшлі да нашых дзён. Не аспрэчваючы законных правоў іх новых уладальнікаў, трэба будзе зрабіць усе магчымыя намаганні для ўвядзення твораў мастацтва, якія знаходзяцца за мяжой, у культурны і навуковы абарот шляхам сумеснага выкарыстання з той краінай, дзе яны захоўваюцца. Для гэтага могуць быць выкарыстаны абменныя выстаўкі, набыццё твораў мастацтва на аўкцыёнах або ў прыватных калекцыянераў, атрыманне іх музейнымі ўстановамі нашай краіны ў часовае захоўванне. У выніку акажуцца запоўненымі прабелы ў гісторыі айчыннага мастацтва (як, напрыклад, XIX стагоддзе), з-за якіх пра Беларусь да нядаўняга часу казалі як пра «культурную пустыню».

У ходзе падрыхтоўкі выстаўкі праводзіўся аналіз гісторыі культуры Беларусі і сучасных тэндэнцый яе развіцця. Вынікі даследаванняў, несумненна, будуць спрыяць распаўсюджванню інфармацыі пра творчасць мастакоў папярэдніх пакаленняў, садзейнічаць намаганням па прасоўванні работ сучасных мастакоў у краіне і за мяжой. Больш поўнае ўяўленне пра гісторыю айчыннага мастацтва стане асновай для прагнозаў яго далейшага развіцця ў кантэксце сусветнай культуры.

Арганізатары выстаўкі імкнуліся пабудаваць экспазіцыю такім чынам, каб любы наведвальнік, незалежна ад узроўню мастацкай адукацыі, мог самастойна, без дапамогі экскурсавода, пранікнуцца мастацтвам Беларусі, усвядоміць неверагодна складаны працэс яго развіцця. Спадзяюся, што гэтая задача выканана і выстаўка будзе спрыяць павышэнню цікавасці суайчыннікаў і гасцей нашай краіны да мастацтва Беларусі. Праект прызваны стымуляваць развіццё творчага пошуку мастакоў, яшчэ больш

пашырыць кругагляд мастацтвазнаўцаў. Гэта адпавядае пазіцыі Белгазпрамбанка, заснаванай на садзейнічанні прагрэсіўнаму развіццю грамадства шляхам павышэння яго культурнага ўзроўню, заахвочвання творчай ініцыятывы.

Мастацтва — вечна жывы працэс. У любым музеі, на нашу думку, павінна быць хаця б адна пустая зала для разважання будучых экспанатаў і ўвасаблення новых ідэй. Ёсць падобныя задумы і ў Белгазпрамбанка.

**Віктар Бабарыка,**
старшыня праўлення ААТ «Белгазпрамбанк»

Проект «Арт-Беларусь», выросший из корпоративной коллекции ОАО «Белгазпромбанк» — «Художники Парижской школы из Беларуси», — приобрел статус проекта национального масштаба, который призван показать исторический срез изобразительного искусства Беларуси во всей полноте и целостности. Сегодня «Арт-Беларусь» способен служить восстановлению связей с культурно-историческим наследием прошлого и придать новый импульс развития современному белорусскому искусству.

Выставка «Десять веков искусства Беларуси», проведение которой инициировано банком в содружестве с Национальным художественным музеем Республики Беларусь и Министерством культуры в 2014 году, — ярчайшее тому подтверждение. На протяжении четырех месяцев жители и гости белорусской столицы смогут ознакомиться с выдающимися образцами белорусского искусства. Многие экспонаты будут демонстрироваться широкой публике впервые. Никогда до этого в одном месте не собирали для показа столь масштабную экспозицию предметов белорусского искусства, созданных за десять веков: от времен Византии — до современности! Количество экспонатов приближается к пятистам. Все они прошли экспертный отбор, многим понадобились реставрационные работы. Так или иначе, в проекте участвуют практически все музеи страны, включая региональные, а также частные коллекционеры и корпоративные коллекции.

Перед организаторами выставки как части проекта «Арт-Беларусь» ставилась цель показать процесс развития культуры Беларуси в его полноте и непрерывности.

Сложность соблюдения принципа полноты была вызвана, в частности, актуальностью проблемы определения принадлежности творчества того или иного художника к отечественной культуре. Два десятилетия спустя после обретения нашей страной реального суверенитета по-прежнему существуют точки зрения, сторонники которых упорно не видят места в отечественном искусстве для многих деятелей мирового масштаба только потому, что они не были носителями языка титульной нации или не принадлежали к преобладающей на момент их рождения религии. Вместе с тем Беларусь никогда не была и сейчас не является моноязычной и моноконфессиональной страной. Многие из тех, кто родился в семьях, где говорили на идиш, польском или русском языках, были истинными патриотами Родины, как бы она ни называлась в тот или иной период истории, и доказывали это своим творчеством. Тем не менее, принимая во внимание традиционные понятия, было решено использовать вместо определения «белорусское искусство» более широкое понятие — «искусство Беларуси». В данном случае термин «Беларусь» обозначает территорию в современных границах Республики Беларусь.

Анализ эволюции культуры на белорусских землях свидетельствует о непрерывности творческого процесса даже в самые трагические периоды отечественной истории. К сожалению, огромное количество произведений искусства было уничтожено во время войн и социальных потрясений. Многие произведения искусства в силу разных причин оказались за пределами Беларуси. По иронии судьбы, именно поэтому они дошли до наших дней. Не оспаривая законных прав их новых владельцев, предстоит

предпринять все возможные усилия для введения произведений искусства, находящихся за рубежом, в культурный и научный оборот путем совместного использования с той страной, где они хранятся. Для этого могут быть использованы обменные выставки, приобретение произведений искусства на аукционах или у частных коллекционеров, получение их музейными учреждениями нашей страны на временное хранение. В результате окажутся заполненными пробелы в истории отечественного искусства (как, например, XIX столетие), из-за которых о Беларуси до недавнего времени говорили как о «культурной пустыне».

В ходе подготовки выставки проводился анализ истории культуры Беларуси и современных тенденций ее развития. Результаты исследований, несомненно, будут способствовать распространению информации о творчестве художников предыдущих поколений, содействовать усилиям по продвижению работ современных художников в стране и за рубежом. Более полное представление об истории отечественного искусства станет основой для прогнозов его дальнейшего развития в контексте мировой культуры.

Организаторы выставки стремились построить экспозицию таким образом, чтобы любой посетитель, независимо от уровня художественного образования, мог самостоятельно, без помощи экскурсовода, проникнуться искусством Беларуси, осознать невероятно сложный процесс его развития. Надеюсь, что эта задача выполнена и выставка будет способствовать повышению интереса соотечественников и гостей нашей страны к искусству Беларуси. Проект призван стимулировать творческий поиск художников, еще больше расширить кругозор искусствоведов. Это соответствует позиции Белгазпромбанка, основанной на содействии прогрессивному развитию общества путем повышения его культурного уровня, поощрения творческой инициативы.

Искусство — вечно живой процесс. В любом музее, по нашему мнению, должен быть хотя бы один пустой зал для размещения будущих экспонатов и воплощения новых идей. Есть подобные замыслы и у Белгазпромбанка.

**Виктор Бабарико,**
председатель правления ОАО «Белгазпромбанк»

The Art-Belarus project, developed from the ‘Artists of Paris School from Belarus’ *Belgazprombank* corporate collection, has acquired the status of anational-scaleproject which is intended to demonstrate the historical cross-section of fine arts in Belarus in all its fullness and integrity. Today the Art- Belarus project can be used for the re-establishment of links with the cultural and historical heritage of the past and to give a new impetus to the development of contemporary Belarusian art.

The ‘Ten Centuries of Art in Belarus’ exhibition initiated by the Bank in cooperation with the National Art Museum of the Republic of Belarus is a most vivid confirmation of the above statement. For four months residents of the Belarusian capital and its guests will be able to see outstanding specimen of Belarusian art. Many exhibits will be displayed to the general public for the first time. Never before has such a large-scale display of items of Belarusian art, created during ten centuries, from the times of Byzantium to the present, has been formed and displayed in one place! The number of exhibits is almost five hundred. They all have been screened by experts, some of them required restoration. In one way or another, practically all museums of the country, including those in the regions, as well as individual collectors and corporate collections participate in the project.

The organizers of the exhibition, as part of the Art-Belarus project, were set to demonstrate the process of the development of art in Belarus in its integrity and continuity.

The difficulty in observing the principle of integrity was caused by a remaining problem of identifying the creative activity of an artist as a part of national culture. Two decades after the country acquired real

sovereignty, there still exist points of view advocated by those who do not see any place in national art for many artists of world scale. This is just because they were not speakers of the language of the country's titular nation or did not belong to a religion which was predominant at the time of their birth. It is worth mentioning that Belarus has never been a monolingual country or a country of a single religious denomination. Many of those who were born into families speaking Yiddish, Polish or Russian became genuine patriots of the Homeland, whatever name it had at various periods of its history. However, taking into account traditional notions, it has been decided to use instead of 'Belarusian art' a broader notion which is ' art of Belarus'. In this particular case the term 'Belarus' means the territory within the present borders of the Republic of Belarus.

The analyses of the evolution of culture in the Belarusian landsprove the continuity of the artistic creative process even at the most tragic periods of the national history. Unfortunately, a huge number of works of art were destroyed during wars and social upheavals. Due to various reasons, many art works are now outside Belarus. Ironically, namely because of that they have survived. Without disputing the legitimate rights of their new owners, all possible measures have to be taken to introduce these art works into cultural and scientific use through their shared use with countries of their present location. Exchange exhibitions, acquisition of works of art at auctions or from individual collectors, and their borrowing by museums can be used for this purpose. This will help to fill gaps in the history of the national art (i. e. of the 19$^{th}$ century) which until recently were used to consider Belarus to be a 'cultural desert'.

In the course of the exhibition preparation, the analysis of the history of culture of Belarus and modern tendencies of its evolution was undertaken. The results of the study will undoubtedly contribute to the extension of information onartists of previous generations and assist in the promotion of works by contemporary artists in the country and abroad. A wider vision of the history of national art will be the basis for predicting its further development in the context of world culture.

The organizers of the exhibition tried to form the display in a way that any visitor, irrespective of his or her level of art education, could, independently of a guide's services, perceive the art of Belarus, and to understand the incredibly complex process of its development. I hope that this task has been fulfilled and the exhibition will promote the interest of the compatriots and guests of our country towards the art of Belarus. The project is supposed to encourage the creativity of artists and to widen further the range of interests of art critics. This corresponds to the stand of *Belgazprombank* based on the promotion of the progressive development of society by raising its cultural level, and on the encouragement of creative initiatives.

Art is an ever live process. In our opinion, any museum should have a spare room for displaying future exhibits and implementing new ideas. *Belgazprombank* has such ideas.

***Victor Babariko,***
*Chairman of the Management Board Belgazprombank OJSC*

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, з'яўляючыся адным з найбуйнейшых устаноў культуры краіны, бачыць сваю місію ў захаванні, трансляцыі і інтэрпрэтацыі сусветных і айчынных дасягненняў мастацтва.

Лёс культурнай спадчыны Беларусі складаны і неадназначны. Гістарычныя і палітычныя абставіны, разбуральныя войны, канфесійная барацьба, змена дзяржаўнасці і тэрыторыі — усё гэта прывяло да таго, што мноства ўнікальных збораў загінула або было страчана, некаторыя прадметы мастацтва былі вывезены за межы краіны. Менавіта таму настолькі вялікая значнасць унікальнага выставачнага праекта «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Арганізатары выстаўкі, правядзенне якой ініцыявана ААТ «Белгазпрамбанк» і ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь» у садружнасці з Нацыянальным мастацкім музеем і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, імкнуліся ўвасобіць грандыёзныя мэты — паказаць мастацтва Беларусі ў выглядзе жывога і бесперапыннага працэсу, інтэграванага ў сусветную мастацкую прастору. Увасабленне такога праекта запатрабавала аб'яднання намаганняў многіх музеяў рэспублікі, якія беражліва захоўваюць у сваіх зборах айчынныя культурныя каштоўнасці. Такое плённае супрацоўніцтва спрыяла рэалізацыі галоўнай ідэі выстаўкі — паказаць не толькі свету, але і самім нам, беларусам, нашы нацыянальныя здабыткі.

**Уладзімір Пракапцоў,**
дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь,
заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

Национальный художественный музей Республики Беларусь, являясь одним из крупнейших учреждений культуры страны, видит свою миссию в сохранении, трансляции и интерпретации всемирных и отечественных достижений искусства.

Судьба культурного наследия Беларуси сложна и неоднозначна. Исторические и политические обстоятельства, разрушительные войны, конфессиональная борьба, изменение государственности и территории — все это привело к тому, что множество уникальных собраний погибло или было утеряно, некоторые предметы искусства были вывезены за пределы страны. Именно поэтому так велика значимость уникального выставочного проекта «Десять веков искусства Беларуси». Организаторы выставки, проведение которой инициировано ОАО «Белгазпромбанк» и ОАО «Газпром трансгаз Беларусь» в содружестве с Национальным художественным музеем и Министерством культуры Республики Беларусь, стремились воплотить грандиозные цели — показать искусство Беларуси в виде живого и непрерывного процесса, интегрированного в мировое художественное пространство. Воплощение такого проекта потребовало объединения усилий многих музеев республики, бережно сохраняющих в своих собраниях отечественные культурные ценности. Такое плодотворное сотрудничество способствовало реализации главной идеи выставки — показать не только миру, но и самим нам, белорусам, наше национальное достояние.

**Владимир Прокопцов,**
директор Национального художественного музея Республики Беларусь,
заслуженный деятель искусств Республики Беларусь

The National Art Museum of the Republic of Belarus being one of the largest institutions of culture in the country understands its mission as to preserve, broadcast and interprete both global and national achievements of art.

The faith of Belarusian cultural heritage is complex and ambiguous. Historical and political circumstances, destructive wars, confessional struggle, changes in state and territory — have all led to the disappearance and destruction of many unique collections; some pieces of art have left the country. This is the very reason why the unique exhibition project 'Ten Centuries of Art in Belarus' is so important. The organisers of the exhibition, which was initiated by 'Belgazprombank' and 'Gazprom transgaz Belarus' in collaboration with the National Art Museum and the Ministry of culture of the Republic of Belarus, intended to achieve a grand aim — to show the art in Belarus as a living and continuous process integrated into the global artistic environment. The embodiment of such a project demanded the joint efforts of many museums in the Republic which have been carefully keeping national cultural treasures in their collections. Such fruitful work contributed to the realisation of the exhibition's main aim — to show not only to the world, but also to us, Belarusians, our national treasure.

***Uladzimir Prakaptsou,***
*General Director of the National Art Museum of the Republic of Belarus,*
*Honoured worker of arts of the Republic of Belarus*

# Спроба рэканструкцыі дзесяці стагоддзяў мастацтва Беларусі

Выстаўка «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» стала тым рэдкім выпадкам, калі распрацоўка канцэпцыі мастацкай экспазіцыі была даверана не мастацтвазнаўцу або прафесійнаму арганізатару выставак, а яе наведвальніку. Дзякуючы ініцыятыве ААТ «Белгазпрамбанк» і згодзе кіраўніцтва Нацыянальнага мастацкага музея з'явілася магчымасць пабудаваць экспазіцыю такім чынам, каб наведвальнікі змаглі самастойна разабрацца ў складаным працэсе развіцця мастацтва Беларусі. Для гэтага была распрацавана такая сістэма арганізацыі экспазіцыі, якая адлюстроўвала б эвалюцыю мастацтва Беларусі ў яе паўнаце і бесперапыннасці на працягу дзесяці стагоддзяў.

Шматлікія публікацыі па гісторыі айчыннага мастацтва з'яўляюцца вынікамі глыбокіх даследаванняў, аднак часта носяць вузканакіраваны характар. Таму арганізатары выстаўкі вырашыліся на спробу скласці з мноства фрагментаў калі не поўную карціну развіцця мастацтва на беларускіх землях, то хаця б яе завершаныя контуры.

Пры адборы твораў побач з ацэнкай узроўню прафесійнага майстэрства аўтара ўлічвалася ступень, у якой яго творчасць стала ў свой час адкрыццём, прарывам у мастацтве, і тое, як яна паўплывала на развіццё айчыннай і сусветнай культуры. Улічваючы факт, што аўтары твораў, уключаных у праект экспазіцыі, належалі да розных этнічных і моўных груп, было вырашана выкарыстоўваць замест вызначэння «беларускае мастацтва» больш шырокае паняцце «мастацтва Беларусі». Творцы, прадстаўленыя на выстаўцы, нарадзіліся на землях, што складаюць сучасную Беларусь, альбо, пасяліўшыся ў нашай краіне, зрабілі выключны па сваёй значнасці ўклад у развіццё айчыннага мастацтва.

Мастацтва на беларускіх землях, у сілу іх геаграфічнага становішча, заўсёды знаходзілася пад уплывам самых розных культурных плыней. Таму было складана класіфікаваць больш за 400 твораў, адабраных для выстаўкі, строга па стылях і напрамках. У многіх выпадках творы і іх аўтары прадстаўлены ў падраздзелах, прысвечаных асобным мастацкім школам у шырокім разуменні гэтага вызначэння.

У адпаведнасці з тэорыяй станаўлення асобы, распрацоўкай якой займаўся і наш суайчыннік Л. С. Выгоцкі (1896–1934), храналагічны і псіхалагічны ўзрост — два розныя, несупадальныя паняцці. Творчыя здольнасці могуць фарміравацца ў раннім узросце і затым аказваць вырашальны ўплыў на ўвесь працэс станаўлення асобы. Мастакі, якія атрымалі пачатковую прафесійную адукацыю ў Беларусі, а затым воляй лёсаў надоўга апынуліся за межамі радзімы, у сваіх творах свядома, а часцей — падсвядома, адлюстроўвалі асяродак, дзе яны фарміраваліся як асобы. У тым ліку яшчэ і таму іх творчасць з'яўляецца часткай беларускай культуры.

У ходзе работы над праектам экспазіцыі канцэпцыя выстаўкі, прынятая экспертным саветам і зацверджаная навуковым саветам Нацыянальнага мастацкага музея, па сваёй сутнасці не змянілася. Некалькі іншымі сталі толькі назвы 6 асноўных раздзелаў і 20 падраздзелаў.

Асновай для экспазіцыі выступілі мастацкія творы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея і карпаратыўнай калекцыі ААТ «Белгазпрамбанк». Пасля наведвання 14 музеяў краіны хваляванні з нагоды магчымага недахопу экспанатаў змяніла трывога ў сувязі з дэфіцытам плошчы для адабраных экспанатаў.

Значная частка твораў атрымана з больш за 20 беларускіх музеяў. Шэраг экспанатаў быў ласкава прада-стаўлены бібліятэкамі, рэлігійнымі арганізацыямі і прыватнымі калекцыянерамі.

Падчас працы над тэматыка-экспазіцыйнымі планамі мне і сакуратару выстаўкі Н. М. Усавай, а таксама каардынатару спонсарскіх праектаў Белгазпрамбанка І. Л. Бушыле неацэнную дапамогу аказалі загадчыкі і супрацоўнікі адпаведных аддзелаў Нацыянальнага мастацкага музея, члены экспертнага савета. Арганізатары выстаўкі спадзяюцца, што яна стане укладам у рэканструкцыю цэласнай карціны эвалюцыі мастацтва Беларусі, у разуменне яго месца ў сусветнай культурнай спадчыны.

**Уладзімір Шчасны,**
аўтар канцэпцыі і куратар выстаўкі
«Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі»

# Попытка реконструкции десяти веков искусства Беларуси

Выставка «Десять веков искусства Беларуси» стала тем редким случаем, когда разработка концепции художественной экспозиции была доверена не искусствоведу или профессиональному организатору выставок, а ее посетителю. Благодаря инициативе ОАО «Белгазпромбанк» и согласию руководства Национального художественного музея появилась возможность построить экспозицию таким образом, чтобы посетители смогли самостоятельно разобраться в сложном процессе развития искусства Беларуси. Для этого была разработана такая система организации экспозиции, которая отражала бы эволюцию искусства Беларуси в ее полноте и непрерывности на протяжении десяти веков.

Многочисленные публикации по истории отечественного искусства являются результатами глубоких исследований, однако часто носят узконаправленный характер. Поэтому организаторы выставки решились на попытку сложить из множества фрагментов если не полную картину развития искусства на белорусских землях, то хотя бы ее завершенные контуры.

При отборе произведений наряду с оценкой уровня профессионального мастерства автора учитывалась степень, в которой его творчество стало в свое время открытием, прорывом в искусстве, и то, как оно повлияло на развитие отечественной и мировой культуры. Учитывая факт, что авторы произведений, включенных в проект экспозиции, принадлежали к разным этническим и языковым группам, было решено использовать вместо определения «белорусское искусство» более широкое понятие «искусство Беларуси». Художники, представленные на выставке, родились на землях, составляющих современную Беларусь, либо, обосновавшись в нашей стране, внесли исключительный по своей значимости вклад в развитие отечественного искусства.

Искусство на белорусских землях, в силу их географического положения, всегда находилось под влиянием самых разных культурных течений. Поэтому было сложно классифицировать более 400 произведений, отобранных для выставки, строго по стилям и направлениям. Во многих случаях произведения

и их авторы представлены в подразделах, посвященных отдельным художественным школам в широком понимании этого определения.

В соответствии с теорией становления личности, разработкой которой занимался и наш соотечественник Л. С. Выготский (1896–1934), хронологический и психологический возраст — два разных, несовпадающих понятия. Творческие способности могут формироваться в раннем возрасте и затем оказывать решающее влияние на весь процесс становления личности. Художники, получившие начальное профессиональное образование в Беларуси, а затем волею судеб надолго оказавшиеся за пределами родины, в своих произведениях сознательно, а чаще — подсознательно, отражали среду, где они формировались как личности. В том числе еще и поэтому их творчество является частью белорусской культуры.

В ходе работы над проектом экспозиции концепция выставки, принятая экспертным советом и утвержденная научным советом Национального художественного музея, по своей сути не изменилась. Несколько иными стали лишь названия 6 основных разделов и 20 подразделов.

Основой для экспозиции явились художественные произведения из фондов Национального художественного музея и корпоративной коллекции ОАО «Белгазпромбанк». После посещения 14 музеев страны опасения по поводу возможного недостатка экспонатов сменила тревога в связи с дефицитом площади для отобранных экспонатов. Значительная часть произведений получена из более чем 20 белорусских музеев. Ряд экспонатов был любезно предоставлен библиотеками, религиозными организациями и частными коллекционерами.

При работе над тематико-экспозиционными планами мне и сокуратору выставки Н. М. Усовой, а также координатору спонсорских проектов Белгазпромбанка И. Л. Бушило неоценимую помощь оказали заведующие и сотрудники соответствующих отделов Национального художественного музея, члены экспертного совета. Вместе с тем организаторы выставки надеются, что она станет вкладом в реконструкцию целостной картины эволюции искусства Беларуси, в понимание его места в мировой культуре.

**Владимир Счастный,**
автор концепции и куратор выставки
«Десять веков искусства Беларуси»

# The Attempt to Reconstruct the Ten Centuries of Art in Belarus

The Ten Centuries of Art in Belarus exhibition is a unique case when neither an art expert nor a professional exhibition organizer but an exhibition visitor has been entrusted with the development of the conception of an art exhibition. Thanks to the initiative of the *Belgazprombank* and the consent of the National Art Museum, it has become possible to arrange the display in a way that visitors could understand on their own the intricate process of the development of art in Belarus. With this in mind, the display has been designed to reflect the evolution of art in Belarus in its integrity and continuity.

Numerous publications on the history of art in Belarus are the results of in-depth studies. However, they are often narrowly focused. Therefore, the organizers of the exhibition have attempted to fit together numerous fragments so as to have if not a full picture of the development of art in Belarusian lands then at least its complete outline.

In selecting works of art it was taken into consideration not only the professional skills of the authors but also the degree to which their creative activities had been innovative for their time, and whether they were a break-through in art and had an impact on their country's and the world's culture. Taking into consideration the fact that the authors of the works, included in the exhibition, belonged to different ethnic groups and spoke different languages, it has been decided to use instead of the notion 'Belarusian art' a broader one which is the 'art of Belarus'. The artists, whose works are displayed at the exhibition, were born on the territories, which form the present-day Belarus, or came to the country and made exceptionally important contributions to the development of its art.

The art in the Belarusian lands due to their geographical position have always been influenced by various cultural trends. Therefore, it was difficult to classify over 400 exhibits strictly by styles and trends. In many cases, the works and their authors are represented in the display's subdivisions dedicated to individual art schools in the broadest sense of this notion.

According to the personality development theory, contributed also by our compatriot L. S. Vygotski (1896–1934), chronological and psychological ages are two different, non-coinciding notions. Creativity can develop at an early age and then produce a decisive influence on the whole process of personality development. Artists who had their primary professional education in Belarus and then found themselves far from their homeland reflected consciously, or often unconsciously, the environment where they had been formed as personalities.

In the course of the project's implementation, the conception of the exhibition approved by the council of experts and adopted by the academic council of the National Art Museum, actually did not change. There have been slight changes to the titles of 6 divisions and 20 subdivisions.

The exhibition is based mostly on the art objects in the collections of the National Art Museum and *Belgazprombank*. After visits to 14 museums, the problem of a shortage of space has replaced the initial worries about the lack of exhibits. A large number of exhibits have been kindly lent by 27 museums, libraries, and religious communities, as well as by individual collectors.

The preparation of the exhibition by fellow curator Nadzeya Usava, the coordinator of *Belgazprombank* sponsorship projects Inna Bushila and myself have been greatly assisted by heads and staff of appropriate departments of the National Art Museum, and members of the Council of Experts. The organizers of the exhibition hope that it will be another step forward in the reconstruction of the integral vision of the evolution of art in Belarus and in understanding its place in the world culture.

***Uladzimir Shchasny,***
*Author of conception and curator*
*of the Ten Centuries of Art in Belarus exhibition*

# Візантыйская традыцыя ў беларускім мастацтве

Чаму візантыйская традыцыя такая важная для разумення беларускага мастацтва X–XVIII стст. Гэта далучэнне да адзінага старажытнага кораня еўрапейскай хрысціянскай культуры. Велізарная міжземнаморская дзяржава Візантыя, што прыйшла на змену Старажытнаму Рыму і антычнай культуры, стварыла новае хрысціянскае мастацтва і амаль 1000 гадоў (VI–XV стст.) была жыватворнай крыніцай мастацтва ўсіх хрысціянскіх краін, пры гэтым дазваляючы з’яўляцца новым нацыянальным варыянтам іканапісу, архітэктуры, дэкаратыўна-прыкладной творчасці.

Візантыйскія традыцыі сёння выступаюць сімвалам духоўнага акармлення праваслаўных краін і, што вельмі важна, унутранай формай мастацкіх твораў сакральнага мастацтва. Беларусь на працягу X–XVIII стст. атрымала ў свае мастацкія сховішчы вялікую колькасць візантыйскіх помнікаў: абразоў, дробнай пластыкі, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але галоўным з’явілася стварэнне на падставе асэнсаванай візантыйскай традыцыі прынцыпаў уласнага, спрадвечнага нацыянальнага (рэгіянальнага) мастацтва.

Многія стагоддзі старажытнабеларускія (заходнярускія) княствы былі наўпрост звязаны з Візантыяй. У XII ст. полацкія князі адпраўляліся да сваіх адзінаверцаў у Візантыю не толькі ў госці, але і ў выгнанне. Святая Еўфрасіння Полацкая здзейсніла паломніцтва да хрысціянскіх святыняў і атрымала для Полацка славуты абраз Божай Маці Эфескай. У XVI–XVIII стст. слуцкія праваслаўныя брацтвы звярталіся непасрэдна да візантыйскага патрыярха. У 1634 г. кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла ўзяў пад сваё заступніцтва слуцкія праваслаўныя манастыры. Своеасаблівым звяном паміж Візантыяй і Беларуссю стала Украіна.

Беларусь, у сваю чаргу, успрымалася Расіяй XVII ст. часткай «другога Рыма», мастком, што вёў у Заходнюю Еўропу, краіну «рымскіх цэзараў», ад якіх пачаўся першы Рым, адбыўся «другі Рым» у Канстанцінопалі і, нарэшце, павінен быў сцвердзіцца «трэці Рым» у Маскве. У XVII ст. мастацкі вопыт беларускіх майстроў, якія пераехалі ў Масковію, радыкальна змяніў рускую культуру. Яна выйшла да рэнесансна-барочнай вобразнасці, да арнаментыкі і новых мастацкіх тэхнік у апрацоўцы дрэва і керамікі. Крамлёўскія церамы і маскоўскія цэрквы змяніліся, аздобленыя яркімі эмалевымі кафлямі, прыгажосць душы хрысціяніна прыпадобнілася райскаму саду ў інтэр’ерах храмаў з высокімі разьбянымі пазалочанымі і пасярэбранымі іканастасамі, клірасамі, аналоямі «беларускай разьбы».

Першымі «дазволілі ўбачыць» візантыйскую традыцыю беларускай культуры ў глыбіні стагоддзяў археолагі [1]. Гаворка ідзе аб прадметах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XII–XVI стст.: каменных і літых абразках. Далей гэтую традыцыю прадстаўляюць прадметы, захаваныя беларускай праваслаўнай царквой: разьбяны каменны абразок Маці Божай Жыровіцкай і Крыж Еўфрасінні Полацкай, рарытэтныя музейныя помнікі.

Нямала твораў дробнай пластыкі, выкананых з розных гатункаў каменю, знойдзена пры археалагічных раскопках у Полацку, Мінску, Навагрудку, Ваўкавыску. Разьба па камені патрабавала прафесійнага майстэрства і асаблівага эстэтычнага густу, гэта быў элітны від мастацтва. Аналіз тэматыкі каменных абразкоў сведчыць пра перавагу выяў папулярных святых. Раскопкі ў Навагрудку і Пінску адкрылі два самыя старажытныя артэфакты — вытанчаныя візантыйскія каменныя абразкі Маці Божай Замілаванне і Спаса Эмануіла. Сталі вядомыя розныя ўзоры візантыйскіх паўсядзённых рэчаў: амфары, распісное мастацкае шкло,



Барысаглебская (Каложская) царква, г. Гродна. XII ст.

дробная пластыка [2]. Высветлілася, што шэраг каменных візантыйскіх абразкоў паўтаралі непасрэдна на месцах майстры старажытнабеларускіх (заходнярускіх) княстваў. Прыкладам таму — касцяная пласцінка з Ваўкавыска, бронзавая абразок-падвеска з Копысі.

Адным з самых цікавых і арыгінальных узораў каменнай разьбы з'яўляецца стэатытавы абразок з выявай імператара Канстанціна Вялікага і імператрыцы Алены, знойдзены ў археалагічным слаі XIII ст. Верхняга замка ў Полацку ў 1967 г. Гэты абразок — своеасаблівы сімвал вернасці візантыйскай традыцыі ў раманскай Еўропе і Беларусі. Да такой высновы прыйшоў расійскі медыявіст В. Р. Пуцко, які ўбачыў у ім працу раманскага майстра XII ст., выкананую з візантыйскага арыгінала X ст. З названым помнікам супастаўляльная ў мастацкім плане двухбаковая каменная іконка, адшуканая на замчышчы ў Мінску (на адным баку — выява Багародзіцы, на другім — апостала Пятра). Арыгінальнасць яе ў іканаграфічным ізводзе Маці Божай Адзігітрыі або Халкапратысы, рэдкасным для старажытнарускіх каменных абразкоў XII ст. Але менавіта такі тып ікон аказаўся прынятым у Полацку. Ён жа паўтараецца ў алавяным фрагменце з Турава. Надзвычай цікавы па стылі каменны абразок з выявай святога Мікалая і архідыякана Стэфана, знойдзены ў Мінску ў 1957 г. Гэта падарожная ікона. Святы Мікалай быў заступнікам вандроўнікаў, а святы Стэфан успрымаўся як «спадарожнік і таварыш» тых, хто знаходзіцца ў дарозе (першая палова XIII ст.).

Як прыклад беларускай сярэдневяковай дробнай пластыкі можна назваць рэльеф з выявай Маці Божай на выносным крыжы, выкананым майстрам Лазарам Богшам у 1161 г. па заказе святой Еўфрасінні Полацкай з выкарыстаннем разнастайных, цяпер ужо страчаных тэхнік (коўка, перагародчатая эмаль). Гэты помнік уяўляе сабой мастацкія традыцыі Канстанцінопаля, Кіева і з'яўляецца шэдэўрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі.

Некалькі стагоддзяў мінула ў гісторыі мастацтва Беларусі, пакуль у яе культуры з'явіўся твор, годны называцца помнікам сусветнага значэння. Гаворка ідзе аб рэльефе Маці Божай Жыровіцкай, цудатворным Жыровіцкім абразе. Гісторыя адносіць з'яўленне святыні да 1470 г., часу вяртання з замежнага падарожжа Солтана, падскарбія Вялікага Княства Літоўскага, баярына і маршалка надворнага, адкуль ён і прывёз гэтую рэліквію. Па царкоўнай легендзе, абраз быў знойдзены на грушы пастушкамі Солтана — значыць, падзея не магла адбыцца раней за 1494 г., калі Солтан стаў уладальнікам мястэчка Жыровічы. Абразок хутка праславіўся цудамі, і Солтан пабудаваў першую драўляную царкву, што згарэла падчас вялікага пажару ў Жыровічах у 1520 г. На папялішчы абразок знайшлі дзеці. У XVI ст. у Жыровічах быў закладзены манастыр. Усе польскія каралі, пачынаючы з Уладзіслава IV, прыходзілі пакланіцца цудатворнаму абразу Маці Божай, які быў каранаваны ў 1730 г. З 1839 г. манастыр зноў стаў праваслаўным і да 1845 г. лічыўся цэнтрам Літоўскай епархіі.

На Жыровіцкай іконе пададзена рэльефная выява Маці Божай Замілаванне: Прадвечнае Дзіця на правай руцэ Марыі. Прапорцыі фігур высакародныя. Зморшчыны мафорыя трактаваны графічна, німбы пададзены ў невысокім рэльефе. Можна гаварыць аб добрым майстэрстве выканання іконы. Малюнак і пластыка пацвярджаюць, што гэта твор таленавітага майстра. Стылістычныя асаблівасці дазваляюць датаваць абраз апошнімі дзесяцігоддзямі XV ст.

Выпадковая знаходка ў Тураве археолага П. Ф. Лысенкі іконы з выявамі Нерукатворнага Спаса са святымі Мікалаем і Уласіем дае магчымасць уявіць мясцовую традыцыю разьбы XV ст. Рэльеф адрозніваецца прымітывізмам, і шэраг навукоўцаў гэтыя яго асаблівасці тлумачаць няскончанасцю працы. Але блізкія стылістычныя рысы можна выявіць і ў разьбе майстра Ананія з Пінска.



Маці Божая Жыровіцкая. XV ст.

Майстру Ананію належаць два абразкі «Премудрость созда себе дом» і «Святы». Яны захоўваюцца ў Рускім музеі Санкт-Пецярбурга. Расшыфроўка надпісу, які ідзе па перыметры выявы, дазваляе выказаць здагадку, што замаўляў іх князь Фёдар Іванавіч Яраславіч, які княжыў у Пінску ў 1409–1522 гг. Кампазіцыя «Премудрость созда себе дом» — ілюстрацыя дзявятай прытчы Саламона. Ідэі Боскай Мудрасці Сафіі былі важнымі для праваслаўнай сярэдневяковай культуры Беларусі.

Ікона — самая пашыраная і ўстойлівая форма ўвасаблення візантыйскай традыцыі. Беларускія абразы захоўвалі візантыйскую традыцыю (увага да залатога фону, лакальных колераў, плоскасці) нават тады, калі руская ікона пачала мяняцца ў XVII ст. (запаўненне фону архітэктурнымі дэталямі, што задаюць прасторавую глыбіню, паказ руху, аб'ёмнасць формы), хоць усё гэта таксама прыйшло ў беларускае сакральнае мастацтва, але не змяніла яго тыпалогіі да XVIII ст., не прывяло да падзелу і непрымірэнчаму існаванню, як у рускай культуры, двух відаў рэлігійнага жывапісу: акадэмічнага іканапісу і народнай іконы, якой гандлявалі карабейнікі на кірмашах. Беларуская ікона, якая сфарміравалася ў канцы Сярэднявечча — на пачатку Рэнесансу, можна сказаць, увайшла ў прастору «прадоўжанага часу»: ніякія змены на яе не ўплывалі, яна заставалася такой, якой сустрэла перыяд свайго станаўлення.

Найбольш старажытнымі помнікамі, якія прадстаўляюць візантыйскую традыцыю, з'яўляюцца роспісы Спаса-Праабражэнскай (Спаса-Еўфрасіннеўскай) царквы (каля 1161) і іконы, перададзеныя ў Полацк з Канстанцінопаля.

У ахвярніку алтара Спаса-Праабражэнскага храма намалявана Маці Божая Агіясарытыса (Халкапратыйская), якая стаіць у малітоўным засяроджанні з раскінутымі ўбакі рукамі. Фрэска паўтарала ікону, дасланую ў Полацк (каля 1157) па просьбе Еўфрасінні візантыйскім імператарам Мануілам VIII Камнінам (1143–1180) і канстанцінопальскім патрыярхам Лукой Хрысавергам (1157–1170) за некалькі гадоў да ўзвядзення храма. Сама ікона да сёння не знойдзена. Паводле падання, яна паходзіла з горада Эфеса ў Малой Азіі і была напісана евангелістам Лукой. Сведчанне шанавання ў Полацкім княстве абраза Маці Божай Эфескай (Агіясарытысы) дазваляе выказаць здагадку аб візантыйскай традыцыі ў іканапісе гэтых зямель XII ст. [3]. Гэтаму факту не супярэчыць стыль фрэсак Спаскага храма Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Але да XII ст. у візантыйскіх майстроў павінны былі з'явіцца мясцовыя вучні. Культура сталічнага горада Кіева пацвярджае дадзенае меркаванне, але полацкія іконы таго часу пакуль не вядомы. Другая ікона Маці Божай Эфескай — Полацкай — Корсунскай — Тарапецкай, якая цяпер захоўваецца ў Рускім музеі Санкт-Пецярбурга [4], на жаль, да канца не ўведзена ў кантэкст старажытнабеларускага мастацтва.

Да сярэдзіны XIII ст. заходнярускія княствы апынуліся пад пагрозай уварвання рыцараў-крыжакоў і мангола-татараў. Гэтыя гістарычныя рэаліі вызначылі ўзнікненне новай дзяржавы на беларускіх землях (і часткова этнічна літоўскіх) — Вялікага Княства Літоўскага.

Аб характары развіцця мастацтва беларускіх зямель XIII ст. можа сведчыць «Пахвальнае слова князю Уладзіміру Васількавічу», уключанае ў склад Галіцка-Валынскага летапісу Іпацьеўскай рэдакцыі. Князь пабудаваў кола абаронных умацаванняў ад крыжакоў, так званых валынскіх вежаў, самая знакамітая з якіх — Камянецкая вежа каля брэсцкага горада Камянца. Гэты ж князь іконамі і кнігамі з каштоўнымі камянямі ўпрыгожыў мноства цэркваў. Ацэньваючы іканаграфію і стылістыку



Спаса-Праабражэнскі сабор Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, г. Полацк. XII ст.



Фрэскі Спаса-Праабражэнскага сабора Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, г. Полацк. XII ст.

гэтых рэчаў, даследчыкі адносяць іх да візантыйскага мастацкага арэала, а менавіта да мастацтва манастыра Святой Кацярыны на Сінаі. Пісьмовыя крыніцы і помнікі мастацкай культуры сведчаць аб устойлівасці візантыйскага ўплыву на беларускіх землях XII–XIII стст., асабліва ў княжацкім адукаваным асяроддзі.

Войны, якія бясконца раздзіралі беларускія землі, прывялі да знішчэння твораў або да знікнення іх са звыклага месцазнаходжання. На гэты працэс таксама паўплывала культурная сітуацыя XIV–XX стст.: пры змене культурнай парадыгмы адбывалася замена прадметаў рэлігійнага ўжытку, яны маглі быць вывезенымі з Беларусі, страціць легенду паходжання і аказацца невядомымі ў зборах далёкіх і блізкіх ад Беларусі гарадоў і краін. Прыкладам такога кшталту «страты» можа з’яўляцца знакамітая ікона «Блакітнае Успенне» XV ст. з Траццякоўскай галерэі ў Маскве. Гэты выдатны помнік сярэдневяковага мастацтва ніколі не ўключалі ў беларускі іканапіс, хоць абраз у 1914–1917 гг. быў вывезены з Мінска вядомым збіральнікам старажытнарускага жывапісу І. С. Астравухавым.

«Блакітнае Успенне» — выдатны ўзор адлюстравання глыбокага блакітнага святла як сімвала ўзнёслага яднання вышняга і дольнага светаў. Вывучэнне іконы Г. М. Паповым пацвердзіла візантыйскі характар помніка. Мінскі архівіст і мастацтвазнаўца А. А. Ярашэвіч гіпатэтычна аднавіў гісторыю міграцыі «Блакітнага Успення» ў межах беларускіх зямель [5], лакалізаваўшы яе месцазнаходжанне ў Беларускім Палессі (Палессе — землі ўздоўж ракі Прыпяць з гарадамі Брэстам, Пінскам, Туравам). Іканаграфія і колеравы строй «Блакітнага Успення» звязаны са школай вядомага грэчаскага майстра Андрэаса Рыцаса (1422–1492), выдатнага прадстаўніка італа-крыцкага жывапісу. Два творы падобнай іканаграфіі школы А. Рыцаса захоўваюцца ў Галерэі Сабаўда ў Турыне і Музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна ў Маскве. Для кампазіцыйнага ладу грэчаскай іконы характэрна завостраная мандорла вакол выявы Хрыста з херувімскімі абліччамі па краі, бо слава Уседзяржыцеля ахоплівае ўвесь космас. Міндалепадобная мандорла — з’ява рэдкая для візантыйскай іканаграфіі, часцей за ўсё мандорла мае круглыя абрысы. Другая адметнасць, на якую звярталі ўвагу А. І. Някрасаў і В. В. Церашчатава, — кулісныя архітэктурныя пабудовы з буйнымі гранямі «чарапіцы» даху, узнясенне Багародзіцы на руках крылатых анёлаў.

Прыклад «Блакітнага Успення» як доказ працяглай прысутнасці візантыйскай традыцыі ў культуры беларускіх зямель падмацоўваецца наяўнасцю на тэрыторыі брэсцкага Палесся іншай выдатнай

візантыйскай іконы XV ст. — «Маці Божая Заміла-ванне». Знайшла гэты старажытны твор у царкве горада Маларыта Брэсцкай вобласці стваральнік Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі В. В. Церашчатава ў 1979 г. Атрыбутаваў ікону (удакладніў час яе стварэння і аўтара-выканаўца) Ю. А. Пятніцкі, навуковы супрацоўнік Санкт-Пецярбургскага Эрмітажа [6].

Мінская ікона Маці Божай Замілаванне была напісана ў сярэдзіне XV ст. мастаком са Спарты Нікалаасам Ламбудзісам. Найбліжэйшымі аналогіямі мінскага абраза з'яўляюцца іконы «Маці Божая Замілаванне (Елеуса)» з Эрмітажа і прыватнага збору ў горадзе Афіны таго ж аўтара. На афінскім творы маецца надпіс: «Рука Нікалааса Ламбудзіса са Спарты». Як асаблівасць мінскага іканапіснага ізводу Маці Божай Замілаванне з эпітэтам «Елеуса» — залаты надпіс на рукаве мафорыя Марыі, аголеныя да каленяў ножкі Дзіцяці, на дзіва святланосны стыль пісьма. Нікалаас Ламбудзіс як бы перакладае на выяўленчую мову словы гімна: «Зраблю імя Тваё памятным з роду ў род; таму народы будуць славіць Цябе векавечна». Вобразнасць слоў гімна адпавядае колеру і святлу іконы: «Усё адзенне Тваё, як смірна, і алой, і касія; …у Афірным золаце». Немагчыма схаваць наша асабістае захапленне фактам, які адкрыўся пасля кансультацый з А. С. Шпунтам, мастаком-рэстаўратарам гэтага помніка. Для сініх і чырвоных пігментаў фарбаў іконы былі выкарыстаны расцёртыя каштоўныя камяні, што і вызначыла дзіўную святланоснасць выявы, дзе, як у жывым крышталі, адбіваюцца і збіраюцца промні. Каштоўнасць і святасць твора не метафара, а быццё іконнага вобраза.

«Блакітнае Успенне» і «Маці Божая Замілаванне (Елеуса)» былі не адзінымі візантыйскімі помнікамі ў беларускай культуры таго часу. Можна спаслацца на шэраг фактаў, якія даказваюць прысутнасць грэчаскіх майстроў і твораў «maniera greca» — грэчаскай манеры, што выкарыстоўвалася пры двары вялікага князя Вітаўта (1350–1430). Аўтар знакамітай «Хронікі Сарматыі» XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі піша аб наяўнасці партрэта Вітаўта і яго жонкі, выкананых у грэчаскай манеры ў алтары капліцы віцебскага замка.

Вынікі аналізу мастацкага працэсу XV ст. дазваляюць гаварыць аб прысутнасці пастаяннага візантыйскага (грэчаскага) архетыпа ў беларускім іканапісе. Да гэтага ж шэрагу з'яў варта аднесці ікону цудатворнай Маці Божай Мінскай, іканаграфія якой, згодна з высновамі Н. П. Кандакова, вядомага рускага вучонага-іканографа і добрага знаўцы італа-крыцкай школы, «у ліку вялікай серыі абразоў XV ст. прыйшла з Балканскага паўвострава праз Паўднёвую Расію зусім не з Польшчы». Паводле легенды, яўленне гэтай іконы адбылося 13 жніўня 1500 г. у Мінску на рацэ Свіслач, і яна адразу была перанесена ў замкавую царкву. Сёння абраз знаходзіцца пад запісам XVII–XVIII стст., і першапачатковую кампазіцыю можна ўбачыць толькі на рэнтгенаграме гэтага твора.

Візантыйска-грэчаскі ўплыў знаходзіць працяг у абразах канца XV–XVI стст. на землях таго ж Беларускага Палесся. Прыкладамі распачатай трансфармацыі візантыйскай традыцыі XVI ст. могуць служыць «Маці Божая Адзігітрыя» з Дубянца і «Маці Божая Страсная» з Пінска. Адметнай рысай выявы Маці Божай Адзігітрыі з Дубянца з'яўляецца строгасць іконнага аблічча, якая мяжуе з невымоўнай пакутай. З пункту гледжання развіцця візантыйска-беларускай традыцыі гэты жывапісны помнік як бы падводзіць бліскучы вынік працяглага існавання грэчаскай манеры. Стваральнік Дубянецкага шэдэўра ў дасканаласці карыстаўся ўсімі прыёмамі іканапіснага майстэрства. Ён свабодна ўзнаўляў традыцыйную «графічную» грэчаскую манеру, падкрэсліваючы арнаментальны малюнак складак мафорыя і формы рук з асаблівай музычнасцю паўтаральнага лінейнага рытму. У той жа час яго пэндзаль творыць цуды мяккасці і пяшчоты ў перадачы валасоў на галаве Прадвечнага Дзіцяці Хрыста. Майстар як віртуоз, ён, можна меркаваць, умеў многае, але, мабыць, ішоў следам за пажаданнямі заказчыка, а той аддаваў перавагу паўтарэнню старажытнага візантыйскага прататыпа.

«Маці Божая Адзігітрыя» з Пінска XVI ст. таксама ўяўляе інтэрпрэтацыю візантыйскага канона. Іканаграфія выявы ўзыходзіць да візантыйскай іконы Божай Маці Страсной: у правым і левым верхніх кутах жывапіснага поля відаць аплечныя постаці анёлаў, што трымаюць прылады пакут: злева — васьміканечны праваслаўны крыж, справа — дзіду і губку. Светласць іконы дасягае свайго гранічнага дэкаратыўнага гучання, з бліскучым залатым фонам яна становіцца «пресветло чудесной». Дадзены помнік палескай школы іканапісу паказвае,

у якім кірунку пойдзе змена візантыйскага канона ў наступныя дзесяцігоддзі.

Ікона Хрыста Уседзяржыцеля з Быценя (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) уяўляе сабой варыянт далейшага перайначвання візантыйскай традыцыі на беларускай глебе. Сутнасць гэтага працэсу вельмі характэрная: візантыйскую трактоўку захоўвае фігура, але рэзка змяняецца выява твару. У візантыйскую традыцыю беларускай культуры прыходзіць іншая ўстаноўка, па сутнасці падобная да мастацкіх задач Андрэя Рублёва, які змяніў візантыйскі абраз на славянскі. Невядомы беларускі майстар, абстрагуючыся ад грэчаскай традыцыі, імкнецца «гаварыць на мове сваёй зямлі». Прычым агульны сінтаксіс візантыйскай выяўленчай мовы прымае гэтае новае правіла даволі арганічна. Быценская ікона разумеецца па-візантыйску, як каўчэг Боскай ласкі: выява выступае на залатым разьбяным арнаментальным фоне.

З канца XVI ст. у беларускім мастацтве праяўляецца іканаграфічны ўзор, тыражаваны друкаванай графікай. Напрыклад, абраз «Параскева» канца XVI — пачатку XVII ст. паўтараў адну з кніжных гравюр таго часу. Н. Ф. Высоцкая называе такой крыніцай выяву «Святой Петкі» з кнігі «Мінея выбраная», што была выдадзена Бажыдарам Вукавічам у Венецыі ў 1538 г. Гэта даволі даступная крыніца, таму што асноўным апірышчам візантыйскай традыцыі XVI–XVII стст. была італа-крыцкая школа іканапісу на востраве Крыт, які знаходзіўся пад уладай Венецыі з 1205 да 1667 г. Мастацкія асаблівасці іконы пакутніцы Параскевы тыя ж, што і быценскай «Хрыстос Уседзяржыцель»: у абліччы выяўляюцца беларускія антрапалагічныя рысы, яна мае разьбяны пазалочаны фон, падобны да малюнкаў італьянскага ткацтва і нямецкай набойкі XV–XVI стст.

Іконы XVII ст. варта разглядаць у межах грэка-візантыйскай традыцыі. У гэты перыяд можна гаварыць аб станаўленні беларускай школы іканапісу. Арыентацыю на старажытную традыцыю пацвярджаюць гравюры, якія выдаюцца праваслаўнымі брацтвамі Вільні, Оршы, Магілёва і ўкраінскіх гарадоў Кіева, Львова. Напрыклад, знакаміты друкар беларускага Куцеінскага манастыра (Орша) Спірыдон Собаль перабраўся ў Куцейна з Кіева. Выдадзеную ў Куцейне ў 1637 г. «Гісторыю пра Варлаама і Іасафа» перакладаў з грэчаскай мовы на беларускую Іасаф Палаўка, намеснік магілёўскага брацкага Богаяўленскага манастыра. Змест абранай для перакладу і друку кнігі вельмі знакавы. Гэта аповед пра «камень веры» — роздум аб сутнасці веры, які быў актуальны для дыскусій XVII ст. Аўтарства гэтага распаўсюджанага ў сярэдневяковай Еўропе рамана прыпісвалася Іаану Саваіту або Іаану Дамаскіну (каля 675 — каля 749). Разважанні Іаана Дамаскіна аб сутнасці іконнага вобраза (трактат «Аб Боскім вобразе») былі асновай візантыйскай эстэтыкі выяўленчага мастацтва. У канцы XVII ст. (1681) кніга пра Варлаама і Іасафа, ілюстраваная рэфарматарам расійскага іканапісу Сымонам Ушаковым, стане знакавым помнікам рускай культуры. У стварэнні рускай «Гісторыі пра Варлаама і Іасафата» возьмуць удзел беларус Сімяон Полацкі і ўкраінскі гравёр Афанасій Трухменскі.

Найбольш вядомым помнікам магілёўскага іканапісу 1640–1650-х гг. з'яўляецца ікона «Нараджэнне Маці Божай». Імя заказчыка фігуруе ў надпісы: Пётр Яўсеевіч з Галынца, з датай «1649». Падзея прыходу ў свет Багародзіцы зафіксавана як канкрэтна-гістарычная, якая нядаўна адбылася і доўжыцца вечна. Да святой Ганны прыйшлі пакланіцца жанчыны. Святой Іаакім, як галава сям'і, прысутнічае побач, нянькі займаюцца нованароджанай. Асноўны трансцэндэнтны сэнс перадаецца не прадметным напаўненнем, а структурай кампазіцыі, колерам і святлом іконы. Да сярэдзіны XVII ст. атрымліваюць распаўсюджанне жыційныя іконы, гэта значыць выявы са сцэнамі з жыцця святога. Напрыклад, абраз Параскевы Пятніцы 1659 г. са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, дзе святая Параскева прадстаўлена з сямю клеймамі яе пакутніцкага жыцця.

Да сярэдзіны XVII ст. вылучылася яшчэ адна тэндэнцыя засваення візантыйскай спадчыны. Яе можна назваць стылізатарскай, яна носіць вытанчана-эстэтычны характар. Прыкладам стылізацыі візантыйскай мастацкай спадчыны можна назваць абраз Маці Божай Адзігітрыі Баркалабаўскай, датаваны 1659 г., калі адбылося яе дзівоснае з'яўленне ў праваслаўным жаночым Баркалабаўскім манастыры пад Магілёвам. Цяпер гэты абраз знаходзіцца ў царкве горада Быхава Магілёўскай вобласці. Легенда яго з'яўлення паведамляе наступнае. У 1659 г. «князь рускі» Пажарскі вяртаўся з Польшчы і таемна правозіў ікону Багародзіцы. Калі вайсковы атрад князя праходзіў каля манастыра, «абраз стаў нерухомы»: коні не маглі

зрушыць з месца і ніякія намаганні людзей не прымусілі кавалькаду працягваць шлях. Пажарскі зразумеў, што «Багародзіца хоча» застацца ў манастыры і перадаў ікону ігуменні Баркалабаўскай абіцелі Фаціне Кіркораўне. Абраз праславіўся многімі цудамі.

У яго кампазіцыйным колеравым ладзе паўторана ўсё тое, што складае прыгажосць візантыйскай іконы. Пявучая пластычная лінія абрысаў фігур, якая гарманічна імкнецца да авала, выразнасць жэстаў, зіхоткая яркасць каларыту, што быццам бы выпраменьвае святло знутры. У трактоўцы вопраткі Немаўляці Хрыста выкарыстоўваўся традыцыйны візантыйскі асіст, дробныя залатыя лініі, якія пакрываюць мігатлівым святлом жывапісную паверхню гіматыя. Каларыстычная гама дзівіць кантраснасцю колеравых спалучэнняў, як на візантыйскіх іконах: светлы, амаль белы колер хітона Хрыста і бардова-чорны мафорыя Маці Божай. Залаты фон іконы ўпрыгожаны разьбяным арнаментам. Мастак выкарыстаў візантыйскую традыцыю як нейкі дэкаратыўны прыём, што прымушае ўспомніць старажытную іконную манеру.

Візантыйская традыцыя працягвае існаваць у беларускім іканапісе ў формах, блізкіх рускай іконе XVII ст. Захаваўся абраз з Макар’еўскага манастыра вёскі Чонкі Гомельскай вобласці «Маці Божая Жываносная Крыніца» (канец XVII — пачатак XVIII ст.). У гэтай арыентаванай на візантыйскую традыцыю выяве дастаткова свабодна выкарыстоўваецца аб’ёмная (заходнееўрапейская) трактоўка твараў і постацей, перспектыўна правільна перадаюцца архітэктурныя збудаванні з аб’ёмнымі калонамі і купаламі. Уключаецца і яшчэ адно заходнееўрапейскае новаўвядзенне, якое «цішком» гучыць у агульным ладзе іконы, — адлюстраванне на заднім плане прыроды. Пейзаж па-адраджэнску касмічны і маштабны, але ён не дадае нічога акрамя светлай плямы ў мастацкую будову іконы. Гэта значыць, усё мноства заходнееўрапейскіх навацый як бы патанае ў агульным візантыйскім кантэксце кампазіцыі.

Працягвае візантыйскія традыцыі ў першай чвэрці XVIII ст. басценавіцкі майстар, названы так па трох іконах 1723–1728 гг., што паходзяць з сяла Басценавічы Магілёўскай вобласці. На гэтую акалічнасць звяртае ўвагу знаўца беларускага і ўкраінскага іканапісу В. Р. Пуцко. Ён піша: «Мяркуючы па ўсім, басценавіцкі майстар быў цесна звязаны са Смаленскам. На гэта паказваюць выявы на іконе Аўрамія і Меркурыя Смаленскіх у аднайменнай іконе на фоне горада. А таксама ўстаўленая ў дошку ікона Маці Божай Адзігітрыі маскоўскага спісу пачатку XVI ст. (знакамітая «Маці Божая Смаленская»). Відавочнае стылістычнае падабенства і з абразамі смаленскага рэгіёна. Напрыклад, творамі ўкраінскага майстра С. М. Трусіцкага, які разам з памочнікамі стварыў у 1730–1739 гг. грандыёзны іканастас Успенскага сабора ў Смаленску. Басценавіцкі майстар сярод сваіх беларускіх сучаснікаў выглядае вельмі індывідуальным і, у адрозненне ад іх, смела выкарыстоўвае заходнія мадэлі» [7].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што візантыйская традыцыя беларускай іконы XVII–XVIII стст. вельмі плённа адаптавала заходнееўрапейскія іканаграфічныя ўзоры і акадэмічныя жывапісныя прыёмы. Візантыйская стылістычная норма была вызначальнай у фарміраванні мастацкага вобраза іконы. Магло быць так: абраз пачыналі пісаць па заходнееўрапейскай іканаграфічнай схеме, пры гэтым уключалі заходнееўрапейскія прыёмы мадэліроўкі формы і перадачы прасторы. Але ў выніку ікона аказвалася «візантыйскай», гэта значыць захоўвала асноўныя рысы адпаведнай манеры пісьма, што не дазваляла заходняй мастацкай сістэме праявіць сябе ў поўнай меры. Мастакі вытрымлівалі патрэбны баланс, які дазваляў візантыйскай стылістыцы быць вызначальнай у вобразным ладзе таго ці іншага помніка беларускай іканаграфіі.

*Вольга Бажэнава,*
кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У РАЗДЗЕЛЕ «ВІЗАНТЫЙСКІЯ ТРАДЫЦЫІ»

**Богша Лазар**
(XII ст.)

*Залатых спраў майстар, ювелір, эмальер.*

*Па паходжанні Лазар быў выхадцам з Паўднёва-Заходняй Русі або з заходніх славян. Імя Лазар атрымана ім у хрышчэнні, а Богша, па адной з версій, — скарачэнне ад імя Багуслаў, распаўсюджанага ў заходніх славян у XII ст.*

*Мяркуюць, што ён пазнаёміўся з мастацтвам перагародчатай эмалі ў Візантыі і Грузіі (першая з краін, што пераняла з Візантыі гэтае мастацтва).*

*У 1161 г. па блаславенні прп. Еўфрасінні Полацкай выканаў для храма Спаса-Праабражэнскага сабора Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра залаты шасціканечны напрастольны крыж. У 1941 г. крыж быў выкрадзены і вывезены з краіны; цяпер яго месцазнаходжанне не вядома.*

*Крыж, упрыгожаны шматколернымі тонкімі перагародчатымі эмалямі з пагруднымі выявамі святых, стылізаваным раслінным і геаметрычным арнаментам і надпісамі, а таксама каштоўнымі камянямі і жэмчугам, вылучаўся высокім мастацкім узроўнем выканання. У творчай манеры Лазара Богшы спалучаліся геаметрычнасць і маляўнічасць.*

*Наяўнасць дакладнай даты вырабу і імя майстра ставяць залаты крыж у шэраг найвялікшых каштоўнасцей у гісторыі культуры Старажытнай Русі.*

*У 1997 г. М. Кузьмічом была зроблена копія-рэканструкцыя рэліквіі па архіўных фотаздымках і малюнках XIX ст.*

**Полацкі Сімяон** (Пятроўскі-Сітняновіч Самуіл Гаўрылавіч)
(1629–1680)

*Дзеяч усходнеславянскай культуры, духоўны пісьменнік, багаслоў, паэт, драматург, перакладчык.*

*Нарадзіўся ў заможнай купецкай сям'і. Атрымаў бліскучую пачатковую адукацыю. У 1656 г. пастрыгся ў манахі Полацкага Богаяўленскага манастыра, дзе на працягу васьмі гадоў выкладаў у брацкай школе. У 1651 г. скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію з дыпломам дыдаскала, у 1653 г. — Віленскую езуіцкую акадэмію. У 1664 г. пераехаў у Маскву, дзе сустрэў цёплы прыём пры царскім двары, атрымаў магчымасць займацца педагагічнай і асветніцкай дзейнасцю. З 1667 г. прызначаны выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей.*

*У канцы 1670-х арганізаваў і ўзначаліў друкарню ў Крамлі. Па ініцыятыве С. Полацкага была заснавана першая ў Маскве вышэйшая агульнаадукацыйная навучальная ўстанова — Славяна-грэка-лацінская акадэмія. Тут жа апублікаваў «Посах кіравання» (1667), два аб'ёмныя зборнікі твораў: «Сад шматколерны» (1678) і «Рыфмалагіён» (1680). Напісаў дзве п'есы (школьныя драмы): «Камедыя прыпавесці пра блуднага сына» і «Камедыя пра Навуходаносара-цара…». Пасля смерці асветніка яго казанні выйшлі ў дзвюх кнігах: «Абед душэўны» (1681) і «Вячэра душэўная» (1683).*

*У яго творчасці сфарміраваўся самабытны ўсходнеславянскі тып барочнай культуры, які грунтаваўся на сінтэзе сярэдневяковых і рэнесансавых каштоўнасцей, з аднаго боку, і кампрамісе паміж праваслаўным традыцыяналізмам і еўрапейскім рацыяналізмам, з другога.*

**Маркіянавіч Васіль**
(1730, г. Слуцк Навагрудскага ваяводства — ?)

*Мастак-іканапісец.*

*Паходзіў з сям'і заможных слуцкіх купцоў, якія належалі да праваслаўнай канфесіі. Пра Васіля Маркіянавіча ў інвентары і рэвізіі Слуцка за 1750 г. сказана, што яму 20 гадоў ад роду і што ён з'яўляецца мастаком слуцкага праваслаўнага Траецкага манастыра. Навучаўся ў іканапіснай школе-майстэрні Кіева-Пячэрскай лаўры, пра што сведчыць навучальны малюнак з подпісам: «Року 1749 м-ца августа 19 дня рисовал Васил Мартиянович из Слуцка…»*

*Адзіны падпісаны ўласным імем мастака твор — ікона «Дэісус» (1758) — быў напісаны В. Маркіянавічам для іканастаса праваслаўнай царквы в. Вялікі Рожан Слуцкага княства. Для гэтай жа царквы ім былі напісаны яшчэ чатыры іконы, але яны не маюць аўтарскага подпісу. Аўтарства Маркіянавіча вызначаецца па стылістычнай роднасці з іконай «Дэісус». Іконы «Троіца старазапаветная» (1761), «Пакроў», «Дабравешчанне» (1761, па атрыбуцыі Н. Ф. Высоцкай), двухбаковая выносная ікона «Маці Божая Адзігітрыя — Уваскрашэнне Хрыста» (1766) захоўваюцца ў НММ РБ. Для царквы в. Вялікі Рожан майстар напісаў таксама іконы «Св. Мікалай з жыціем», «Апосталы Пётр і Павел». Акрамя гэтых сямі абразоў з творчай спадчыны В. Маркіянавіча захаваліся ікона «Маці Божая Адзігітрыя Чанстахоўская» (1773) і ікона «Хрыстос Пантакратар».*

*Тапаграфія твораў мастака сведчыць аб тым, што ён меў досыць шырокую мастацкую практыку, выконваў працы для цэркваў г. Слуцка, для слуцкага Траецкага манастыра і для шэрагу сельскіх цэркваў Слуцкага княства.*

**Кузьміч Мікалай Пятровіч**
(нар. 1950, в. Вулька Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл.)

*Мастак-ювелір, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (2007).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава (1982). Тады ж пачаў займацца ювелірнай справай і тэхнікай эмалей. У пачатку 1990-х гг. удзельнічаў у шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных выстаў, у тым ліку ў сімпозіуме па эмалі ў Іспаніі (1990) і выстаўке эмалей у Германіі (1995). Член Беларускага саюза мастакоў з 1987 г.*

*У 1997 г. вырабіў поўнапамерную копію Крыжа Еўфрасінні Полацкай. У гэтым жа годзе стаў лаўрэатам прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», быў адзначаны ордэнам Святога князя Уладзіміра III ступені. У 1998–2007 гг. працаваў над стварэннем стаўратэкі для крыжа і ракі для мошчаў святой Еўфрасінні. Узнагароджаны ордэнамі Крыжа прападобнай Еўфрасінні Полацкай (2002) і Прападобнай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай (2007).*

# Византийская традиция в белорусском искусстве

Почему византийская традиция принципиально важна для понимания белорусского искусства X–XVIII вв. Это связь с единым основанием христианской культуры. Огромная средиземноморская держава Византия, пришедшая на смену Древнему Риму и античной культуре, создала новое христианское искусство и почти 1000 лет (VI–XV вв.) была животворным источником для искусства всех христианских стран, позволяя при этом появляться новым национальным вариантам иконописи, архитектуры, декоративно-прикладного творчества.

Сегодня византийские традиции — символ духовного окормления православных стран и, что очень важно, внутренняя форма художественных произведений сакрального искусства. Беларусь на протяжении X–XVIII вв. получила в свои художественные кладовые большое количество византийских памятников: икон, мелкой пластики, предметов декоративно-прикладного искусства, но главным оказалось создание на основе осмысленной византийской традиции принципов своего, исконного национального (регионального) искусства.

Многие века древнебелорусские (западнорусские) княжества были напрямую связаны с Византией. В XII в. полоцкие князья отправлялись к своим единоверцам в Византию не только в гости, но и в изгнание. Святая Евфросиния Полоцкая совершила паломничество к христианским святыням и получила для Полоцка знаменитую икону Богоматери Эфесской. В XVI–XVIII вв. слуцкие православные братства обращались непосредственно к византийскому патриарху. В 1634 г. киевский митрополит Петр Могила взял под свое покровительство слуцкие православные монастыри. Опосредующим звеном между Византией и Беларусью стала Украина.

Беларусь, в свою очередь, воспринималась Россией XVII в. частью «второго Рима», мостиком, ведущим в Западную Европу, страну «римских цезарей», от которых начался первый Рим, состоялся «второй Рим» в Константинополе и, наконец, должен был утвердиться «третий Рим» в Москве. В XVII в. художественный опыт переехавших в Московию белорусских мастеров радикально изменил русскую культуру, которая вышла к ренессансно-барочной образности, к орнаментике и новым художественным техникам в обработке дерева и керамики. Кремлевские терема и московские церкви преобразились, украшенные яркими эмалевыми изразцами, красота души христианина уподобилась райскому саду в интерьерах храмов с высокими резными золоченными и серебреными иконостасами, клиросами, аналоями «белорусской рези».

Первыми «позволили увидеть» византийскую традицию белорусской культуры в глубине веков археологи [1]. Речь идет о предметах декоративно-прикладного искусства XII–XVI вв.: каменных и литых иконках. Далее эту традицию представляют предметы, сохраненные Белорусской православной церковью: резной каменный образок Богоматери Жировицкой и Крест Евфросинии Полоцкой, раритетные музейные памятники.

Немало произведений мелкой пластики, выполненных из разных сортов камня, найдено при археологических раскопках в Полоцке, Минске, Новогрудке, Волковыске. Резьба по камню требовала профессионального мастерства и тонкого эстетического чутья, это был элитный вид искусства. Анализ тематики каменных иконок свидетельствует о преобладании изображений популярных святых. Раскопки в Новогрудке и Пинске открыли два древнейших артефакта — изящнейшие



Подземелье Софийского собора, г. Полоцк. XI–XII вв.

византийские каменные иконки Богоматери Умиление и Спаса Эммануила. Стали известны различные образцы византийских повседневных вещей: амфоры, расписное художественное стекло, мелкая пластика [2]. Выяснилось, что ряд каменных византийских иконок повторяли непосредственно на местах мастера древнебелорусских (западнорусских) княжеств. Примером тому — костяная пластинка из Волковыска, бронзовая иконка-подвеска из Копыси.

Одним из самых интересных и оригинальных образцов каменной резьбы является стеатитовая иконка с изображением императора Константина Великого и императрицы Елены, найденная в археологическом слое XIII в. Верхнего замка в Полоцке в 1967 г. Она своеобразный символ верности византийской традиции в романской Европе и Беларуси. К такому выводу пришел русский медиевист В. Г. Пуцко, который увидел в ней работу романского мастера XII в., выполненную с византийского оригинала X в. С названным памятником сопоставима двухсторонняя каменная иконка, обнаруженная на замчище в Минске (на одной стороне — изображение Богородицы, на другой — апостола Петра). Оригинальность ее в иконографическом изводе Богоматери Одигитрии или Халкопратиссы, редком для русских каменных иконок XII в. Но именно такой тип икон оказался принятым в Полоцке. Он же повторяется в оловянном фрагменте из Турова. Чрезвычайно интересна по стилю каменная иконка с изображением святого Николая и архидиакона Стефана, найденная в Минске в 1957 г. Это путная икона. Святой Николай был покровителем путешествующих, а святой Стефан воспринимался как «спутник и товарищ», находящихся в пути (первая половина XIII в.).

Как пример белорусской средневековой мелкой пластики можно назвать рельеф с изображением Богоматери на воздвижальном кресте, выполненном мастером Лазарем Богшей в 1161 г. по заказу святой Евфросинии Полоцкой с использованием разнообразных, ныне уже утраченных техник (ковка, перегородчатая эмаль). Этот памятник представляет художественные традиции Константинополя, Киева и является шедевром декоративно-прикладного искусства Беларуси.

Несколько веков прошло в истории искусства Беларуси, пока в ее культуре появилось произведение, достойное называться памятником мирового значения. Речь идет о рельефе Богоматери Жировицкой, чудотворном Жировицком образе. История относит появление святыни к 1470 г., времени возвращения из заграничного путешествия Солтана, подскарбия Великого княжества Литовского, боярина и маршалка надворного, откуда он и привез эту реликвию. По церковной легенде, образ был найден на груше пастушками Солтана — стало быть, событие не могло состояться ранее 1494 г., когда Солтан стал владельцем местечка Жировичи. Иконка скоро прославилась чудесами, и Солтан построил первую деревянную церковь, которая сгорела во время большого пожара в Жировичах в 1520 г. На пепелище иконку нашли дети. В XVI в. в Жировичах был заложен монастырь. Все польские короли, начиная с Владислава IV, приходили поклониться чудотворному образу Богоматери, который был коронован в 1730 г. С 1839 г. монастырь снова стал православным и до 1845 г. считался центром Литовской епархии.

На жировичской иконе изображена Богоматерь Умиление: Предвечный Младенец на правой руке Марии. Пропорции фигур благородны. Складки мафория трактованы графически, нимбы даны в невысоком рельефе. Можно говорить о хорошем мастерстве исполнения иконы. Рисунок и пластика подтверждают, что это произведение талантливого мастера. Стилистические особенности позволяют датировать икону последними десятилетиями XV в.

Случайная находка в Турове археолога П. Ф. Лысенко иконы с изображениями Нерукотворного Спаса со святыми Николаем и Власием дает возможность представить местную традицию

резьбы XV в. Рельеф отличается примитивизмом, и ряд ученых эти его особенности объясняют незаконченностью работы. Но близкие стилистические черты можно обнаружить в резьбе мастера Анания из Пинска.

Мастеру Ананию принадлежат две иконки «Премудрость созда себе дом» и «Праздники». Они хранятся в Русском музее Санкт-Петербурга. Расшифровка надписи, идущей по периметру изображения, позволяет предположить, что заказывал их князь Федор Иванович Ярославич, который княжил в Пинске в 1409–1522 гг. Композиция «Премудрость созда себе дом» — иллюстрация девятой притчи Соломона. Идеи Божественной Премудрости Софии были важными для православной средневековой культуры Беларуси.

Икона — самая распространенная и устойчивая форма воплощения византийской традиции. Белорусские образы хранили византийскую традицию (внимание к золотому фону, локальным цветам, плоскости) даже тогда, когда русская икона начала меняться в XVII в. (заполнение фона архитектурными деталями, задающими пространственную глубину, передача движения, объемность формы), хотя все это также пришло в белорусское сакральное искусство, но не изменило его типологии до XVIII в., не привело к разделению и непримиримому существованию, как в русской культуре, двух видов религиозной живописи: академического иконописания и народной иконы, продаваемой коробейниками на базарах. Белорусская икона, сформировавшись в конце Средневековья — начале Ренессанса, можно сказать, вошла в пространство «продолженного времени»: никакие изменения на нее не влияли, она оставалась такой, какой встретила период своего становления.

Наиболее древними памятниками, представляющими византийскую традицию, являются росписи Спасо-Преображенской (Спасо-Евфросиниевской) церкви (ок. 1161) и иконы, переданные в Полоцк из Константинополя.

В жертвеннике алтаря Спасо-Преображенского храма изображена Богоматерь Агиосоритисса (Халкопротийская), стоящая в молитвенном сосредоточении с простертыми руками. Фреска повторяла икону, присланную в Полоцк (ок. 1157) по просьбе Евфросинии византийским императором Мануилом VIII Комнином (1143–1180) и константинопольским патриархом Лукой Хрисовергом (1157–1170) за несколько лет до возведения храма. Сама икона на сегодняшний день не найдена. По преданию, она происходила из города Эфеса в Малой Азии и была писана евангелистом Лукой. Свидетельство почитания в Полоцком княжестве образа Богоматери Эфесской (Агиосоритиссы) позволяет высказать предположение о византийской традиции в иконописи этих земель XII в. [3]. Этому факту не противоречит стиль фресок Спасского храма Спасо-Евфросиниевского монастыря. Но к XII в. у византийских мастеров должны были появиться местные ученики. Культура столичного города Киева подтверждает данное предположение, но полоцкие иконы того времени пока не известны. Вторая икона Богоматери Эфесской — Полоцкой — Корсунской — Торопецкой, которая сейчас хранится в Русском музее Санкт-Петербурга [4], к сожалению, до конца не введена в контекст древнебелорусского искусства.

К середине XIII ст. западнорусские княжества оказались под угрозой вторжения рыцарей-крестоносцев и монголо-татар. Эти исторические реалии определили возникновение нового государства на белорусских землях (и частично этнически литовских) — Великого Княжества Литовского.

О характере развития искусства белорусских земель XIII в. может свидетельствовать «Похвальное слово князю Владимиру Васильковичу», включенное в состав Галицко-Волынской летописи Ипатьевской редакции. Князь построил кольцо оборонительных укреплений от крестоносцев, так называемые волынские вежи, самая знаменитая из которых — Каменецкая башня около брестского города Каменец. Этот же князь иконами и книгами с драгоценными камнями украсил множество церквей. Оценивая иконографию и стилистику этих вещей, исследователи относят их к византийскому художественному ареалу, а именно к искусству монастыря Святой Катерины на Синае. Письменные источники и памятники художественной культуры свидетельствуют об устойчивости византийского влияния на белорусских землях XII–XIII вв., особенно в княжеских образованных кругах.

Войны, бесконечно терзавшие белорусские земли, привели к уничтожению произведений или к исчезновению их с постоянного местонахождения. На этот процесс также повлияла культурная ситуация XIV–XX вв.: при смене культурной

парадигмы происходила замена предметов религиозного обихода, они могли быть вывезенными из Беларуси, потерять легенду происхождения и оказаться неизвестными в собраниях далеких и близких от Беларуси городов и стран. Примером такого рода «потери» может являться знаменитая икона «Голубое Успение» XV в. из Третьяковской галереи в Москве. Этот выдающийся памятник средневекового искусства никогда не относили к белорусскому иконописанию, хотя икона в 1914–1917 гг. была вывезена из Минска известным собирателем древнерусской живописи И. С. Остроуховым.

«Голубое Успение» — прекрасный образец отображения глубокого голубого света, изливающегося символа возвышенного единения горнего и дольнего миров. Изучение иконы Г. М. Поповым подтвердило византийский характер памятника. Минский архивист и искусствовед А. А. Ярошевич гипотетически восстановил историю миграции «Голубого Успения» в пределах белорусских земель [5], локализовав ее местонахождение в Белорусском Полесье (Полесье — земли вдоль реки Припять с городами Брестом, Пинском, Туровом). Иконография и цветовой строй «Голубого Успения» связаны со школой известного греческого мастера Андреаса Рицоса (1422–1492), выдающегося представителя итало-критской живописи. Два произведения подобной иконографии школы А. Рицоса хранятся в Галерее Сабауда в Турине и Музее изобразительных искусств имени А. С. Пушкина в Москве. Для композиционного строя греческой иконы характерна заостренная мандорла вокруг изображения Христа с явленными херувимскими ликами по краю, ибо слава Вседержителя объемлет весь космос. Миндалевидная мандорла — явление редкое для византийской иконографии, чаще всего мандорла имеет круглые очертания. Другая отличительная черта, на которую обращали внимание А. И. Некрасов и О. В. Терещатова, — кулисные архитектурные строения с крупными гранями «черепицы» крыши, вознесение Богородицы на руках крылатых ангелов.

Пример «Голубого Успения» как доказательство продолжительного присутствия византийской традиции в культуре белорусских земель подкрепляется наличием на территории брестского Полесья другой выдающейся византийской иконы XV в. — «Богоматерь Умиление». Обнаружила это древнее произведение в церкви города Малорита Брестской области создатель Музея древнебелорусской культуры Национальной академии наук Беларуси О. В. Терещатова в 1979 г. Атрибутировал икону, то есть уточнил время ее создания и автора-исполнителя, Ю. А. Пятницкий, научный сотрудник Санкт-Петербургского Эрмитажа [6].

Минская икона Богоматери Умиление была написана в середине XV в. художником из Спарты Николаосом Ламбудисом. Ближайшими аналогиями минского образа являются иконы «Богоматерь Умиление (Елеуса)» из Эрмитажа и частного собрания в городе Афины того же автора. На афинском произведении имеется надпись: «Рука Николаоса Ламбудиса из Спарты». Особенность минского иконописного извода Богоматери Умиление с эпитетом «Елеуса» — это золотая надпись на рукаве мафория Марии, обнаженные до колен ножки Младенца, удивительно светоносный, почти светящийся стиль письма. Николаос Ламбудис как бы переводит на изобразительный язык слова гимна: «Сделаю имя Твое памятным в род и род; посему народы будут славить Тебя во веки и веки». Образность слов гимна соответствует цвету и свету иконы: «Все одежды Твои, как смирна, и алой, и касия; …в Офирном золоте». Невозможно скрыть нашего личного восхищения фактом, который открылся после консультаций с А. С. Шпунтом, художником-реставратором этого памятника. Для синих и красных пигментов красок иконы были использованы растертые драгоценные камни, что и определило удивительную светоносность изображения, где, как в живом кристалле, отражаются и собираются лучи. Драгоценность и священность изображения не метафора, а бытие иконного образа.

«Голубое Успение» и «Богоматерь Умиление (Елеуса)» были не единственными византийскими памятниками в белорусской культуре того времени. Можно сослаться на ряд фактов, доказывающих присутствие греческих мастеров и произведений «maniera greca» — греческой манеры, используемой при дворе великого князя Витовта (1350–1430). Автор знаменитой «Хроники Сарматии» XVI в. Матвей Стрыйковский пишет о наличии портрета Витовта и его жены, выполненных в греческой манере в алтаре каплицы витебского замка.

Результаты анализа художественного процесса XV ст. позволяют говорить о присутствии

постоянного византийского (греческого) архетипа в белорусском иконописании. К этому же кругу явлений следует отнести икону чудотворной Богоматери Минской, иконография которой, согласно выводам Н. П. Кондакова, известного русского ученого-иконографа и хорошего знатока итало-критской школы, «в числе большой серии икон XV в. пришла с Балканского полуострова через Южную Россию вовсе не из Польши». Согласно легенде, явление этой иконы произошло 13 августа 1500 г. в Минске на реке Свислочь, и она была сразу помещена в замковую церковь. На сегодняшний день икона находится под записью XVII–XVIII вв., и первоначальную композицию можно увидеть только на рентгенограмме этого произведения.

Византийско-греческое влияние находит свое продолжение в иконах конца XV–XVI вв. на землях того же Белорусского Полесья. Примерами начавшейся трансформации византийской традиции XVI в. могут служить «Богоматерь Одигитрия» из Дубенца и «Богоматерь Страстная» из Пинска. Отличительной чертой изображения Богоматери Одигитрии из Дубенца является строгость иконного лика, граничащая с безмерным страданием. С точки зрения развития византийско-белорусской традиции этот живописный памятник как бы подводит блистательный итог длительного бытования греческой манеры. Создатель дубенецкого шедевра в совершенстве пользовался всеми приемами иконописного мастерства. Он свободно воспроизводил традиционную «графическую» греческую манеру, подчеркивая орнаментальный рисунок складок мафория и формы рук с особой музыкальностью повторяющегося линейного ритма. В то же время его кисть творит чудеса мягкости и нежности в передаче волос на голове Предвечного Младенца Христа. Мастер виртуозен, он, как можно предполагать, умел многое, но, видимо, следовал пожеланиям заказчика, предпочитавшего воспроизведение древнего византийского прототипа.

«Богоматерь Одигитрия» из Пинска XVI в. также представляет интерпретацию византийского канона. Иконография изображения восходит к византийским образам Богоматери Страстной: в правом и левом верхних углах живописного поля виднеются оплечные фигуры ангелов, держащие в покровенных руках орудия страстей: слева — восьмиконечный православный крест, справа — копие и губку. Светлость иконы достигает своего предельного декоративного звучания, с сияющим золотым фоном она становится «пресветло чудесной». Данный памятник полесской школы иконописи показывает, в каком направлении пойдет изменение византийского канона в последующие десятилетия.

Икона Христа Вседержителя из Бытеня (Ивацевичский район Брестской области) представляет вариант дальнейшего видоизменения византийской традиции на белорусской почве. Суть этого процесса весьма характерна: византийскую трактовку сохраняет фигура, но резко меняется изображение лика. В византийскую традицию белорусской культуры приходит иная установка, в сущности сходная с художественными задачами Андрея Рублева, изменившего византийский лик на славянский. Неизвестный белорусский мастер, абстрагируясь от греческой традиции, стремится «говорить на языке своей земли». Причем общий синтаксис византийского изобразительного языка принимает это новое правило довольно органично. Бытенская икона понимается по-византийски как ковчег божественной благодати: изображение выступает на золотом резном орнаментальном фоне.

С конца XVI в. в белорусском искусстве дает о себе знать иконографический образец, тиражированный печатной графикой. Например, икона «Параскева» конца XVI — начала XVII в. повторяла одну из книжных гравюр того времени. Н. Ф. Высоцкая называет таким источником изображение «Святой Петки» из книги «Минея избранная», которая была издана Божидаром Вуковичем в Венеции в 1538 г. Это вполне доступный источник, потому что основным оплотом византийской традиции XVI–XVII вв. являлась итало-критская школа иконописания на острове Крит, находящегося под властью Венеции с 1205 по 1667 г. Особенности иконы великомученицы Параскевы те же, что и бытенской «Христос Вседержитель»: в лике появляются белорусские антропологические черты, она имеет резной золоченый фон, сходный с рисунками итальянского ткачества и немецкой набойки XV–XVI вв.

Иконы XVII ст. следует рассматривать в рамках греко-византийской традиции. В этот период можно говорить о становлении белорусской школы иконописи. Ориентацию на древнюю традицию

подтверждают гравюры, издаваемые православными братствами Вильны, Орши, Могилева и украинских городов Киева, Львова. Например, знаменитый печатник белорусского Кутеинского монастыря (Орша) Спиридон Соболь перебрался в Кутейно из Киева. Изданную в Кутейно в 1637 г. «Историю о Варлааме и Иосафе» переводил с греческого языка на белорусский Иосаф Палавко, наместник могилевского братского Богоявленского монастыря. Содержание выбранной для перевода и печати книги весьма знаменательно. Это рассказ о «камне веры», то есть размышление о сущности веры, которое было актуальным для дискуссий XVII в. Авторство этого распространенного в средневековой Европе романа приписывалось Иоанну Саваиту или Иоанну Дамаскину (ок. 675 — ок. 749). Размышления Иоанна Дамаскина о сущности иконного образа (трактат «О Божественном образе») были основой византийской эстетики изобразительного искусства. В конце XVII в. (1681) книга о Варлааме и Иосафате, иллюстрированная реформатором российского иконописания Симоном Ушаковым, станет знаковым памятником русской культуры. В создании русской «Истории о Варлааме и Иософате» примут участие белорус Симеон Полоцкий и украинский гравер Афанасий Трухменский.

Наиболее известным памятником могилевской иконописи 1640–1650-х гг. является икона «Рождество Богоматери». Имя заказчика фигурирует в надписи: Петр Евсеевич из Голынца, с датой «1649 год». Событие прихода в мир Богородицы зафиксировано как конкретно-историческое, недавно свершившееся и вечно длящееся. К святой Анне пришли поклониться женщины. Святой Иоаким, как глава семейства, присутствует рядом, няньки занимаются новорожденной. Основной трансцендентный смысл передается не предметным наполнением, а структурой композиции, цветом и светом иконы. К середине XVII в. получают распространение житийные иконы, то есть изображения сцен из жития святого. Например, икона Параскевы Пятницы 1659 г. из собрания Национального художественного музея Беларуси, на которой святая Параскева представлена с семью клеймами ее мученической жизни.

К середине XVII в. проявилась еще одна тенденция освоения византийского наследия. Ее можно назвать стилизаторской, она носит утонченно-эстетический характер. Примером стилизации византийского художественного наследия можно назвать икону Богоматери Одигитрии Барколабовской, датированную 1659 г., когда произошло ее чудесное явление в православном женском Барколабовском монастыре под Могилевом. Теперь эта икона находится в церкви города Быхова Могилевской области. Легенда ее появления гласит следующее. В 1659 г. «князь русский» Пожарский возвращался из Польши и тайно провозил образ Богородицы. Когда военный отряд князя проходил мимо монастыря, «образ стал недвижим»: кони не могли сдвинуться с места и никакие усилия людей не заставили кавалькаду продолжить путь. Пожарский понял, что «Богородица желает» остаться в монастыре и передал икону игуменье Барколабовской обители Фатинне Кирковровне. Образ прославился многими чудесами.

В его композиционном цветовом строе повторено все то, что составляет красоту византийской иконы. Певучая пластичная линия очертаний фигур, гармонично стремящаяся к овалу, выразительность жестов, сверкающая яркость колорита, будто бы излучающего свет изнутри. В трактовке одежд Младенца Христа использовался традиционный византийский ассист, мелкие золотые линии, покрывающие мерцающим светом живописную поверхность гиматия. Колористическая гамма поражает контрастностью цветовых сочетаний, как на византийских иконах: светлый, почти белый цвет хитона Христа и бордово-черный мафорий Богоматери. Золотой фон иконы украшен резным орнаментом. Художник использовал византийскую традицию как некий декоративный прием, заставляющий вспомнить древнюю иконную манеру.

Византийская традиция продолжает существовать в белорусском иконописании в формах, близких русской иконе XVII в. Сохранился образ из Макарьевского монастыря села Ченки Гомельской области «Богоматерь Живоносный Источник» (кон. XVII — нач. XVIII в.). В этом ориентированном на византийскую традицию изображении достаточно свободно используется объемная (западноевропейская) трактовка ликов и фигур, перспективно правильно передаются архитектурные строения с объемными колоннами и куполами. Включается и еще одно западноевропейское новшество, которое «звучит под сурдинку» в общем строе иконы, — изображение на заднем плане природы. Пейзаж по-возрожденчески космичен

пачало ўзыходзіць «трэцяе саслоўе». Узнікла амаль прафесійнае музейнае збіральніцтва. Ім займаліся Г. Татур у Мінску, Э. Гутэн-Чапскі ў Станькаве, А. Ельскі ў Замосці. У мастацтве Беларусі пад яўным уплывам рускага «перасоўніцтва», асабліва І. Рэпіна, які пэўны час жыў у сваім маёнтку ў ваколіцах Віцебска, узмацняюцца рэалістычныя тэндэнцыі, якія праявіліся ў творчасці Н. Сілівановіча, братоў І. і А. Гараўскіх.

У рамантычным і бідэрмеераўска-рэалістычным перыядзе развіцця беларускага мастацтва вобразы сялян набылі больш завершаны сацыяльны характар, але па-ранейшаму актуальным заставалася сцверджанне ў тэмах і сюжэтах жывапісных і графічных твораў ідэй адказнасці за лёс народа, неабходнасці не толькі яго выхавання, але і заклiку да лепшага жыцця. Культ ведаў і асветніцкая дзейнасць заставаліся ўстойлівымі канстантамі нацыянальнай свядомасці і ў гэты перыяд, пра што сведчаць палотны Н. Сілівановіча («Салдат і хлопчык», 1866; «У школу», 1870-я гг.), В. Сляндзінскага («Дзяўчынка каля дзвярэй», 1870-я гг.). Панарамныя акварэлі мастака-вандроўніка Ю. Пешкі з вывамі гарадоў і мястэчак закладуць аснову традыцыі мастацкага «партрэтавання» архітэктурных славутасцей Беларусі, што атрымае працяг у творчасці М. Кулешы і Н. Орды ў другой палове XIX ст.

Дзякуючы дыялогу многіх культур, што ўплывалі на Беларусь з прычын палітычнага характару і геаграфічнага месцазнаходжання, яе нацыянальныя адметнасці і каларыт не толькі захаваліся, але і ўмацаваліся. У выніку стала магчымым плённае развіццё выяўленчага мастацтва ў нашай краіне ў наступным, XX стагоддзі.

*Адам Мальдзіс*,
прафесар, доктар філалагічных навук,

*Людміла Вакар*,
кандыдат мастацтвазнаўства

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «КУЛЬТУРА ШЛЯХЕЦКІХ СЯДЗІБ»

**Сухадольскі Януарый Іванавіч**
(1797, г. Гродна — 1875, маёнтак Бойме каля м. Седльцы, Польшча)

*Жывапісец-баталіст.*

*Закончыў кадэцкі корпус Школы артылерыі і інжынераў войск Варшаўскага княства, вучыўся ў архітэктара З. Вогла і графіка С. Курчыньскага. У чыне падпаручніка служыў ад'ютантам у генерала В. Красінскага. Упершыню паказаў свае аматарскія работы на варшаўскай выстаўцы вытанчаных мастацтваў у 1825 г. Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гг. З 1832 г. жыў у Рыме, дзе браў урокі ў французскага баталіста Ж. Вернэ. З 1837 г. жыў у Варшаве, Парыжы, Гродне, Пецярбургу, ва ўласным маёнтку Бойме каля м. Седльцы на Падляшшы.*

*Па заказе фельдмаршала І. Паскевіча ў 1830–1840-я гг. выканаў цыкл карцін аб падзеях руска-персідскай вайны. Стварыў серыі карцін, прысвечаных гістарычным падзеям у Вялікім Княстве Літоўскім і Польскім Каралеўстве, Рэчы Паспалітай («Бітва пад Грунвальдам», 1838; «Смерць гетмана Чарнецкага», 1844; «Абарона Чанстахова», 1854; «Юзаф Панятоўскі на кані перад войскам», 1857). Значная частка твораў мастака прысвечана асобе Напалеона, гісторыі яго ваенных паходаў і ўдзелу ў іх польскіх атрадаў, падзеям расійска-французскай вайны 1812–1814 гг.*

**Гараўскі Апалінарый Гілярыевіч**
(1833, маёнтак Уборкі Ігуменскага пав. — 1900, маёнтак Кірылавічы Пецярбургскай губ.)

*Жывапісец.*

*Вучыўся ў Брэст-Літоўскім кадэцкім корпусе. Па пратэкцыі архітэктара М. Бенуа залічаны ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, дзе вучыўся ў М. Вараб'ёва і Ф. Бруні (1850–1854). Як пенсіянер акадэміі ў 1855–1860 гг. удасканальваў майстэрства ў Жэневе, Дзюсельдорфе, Парыжы, Рыме. У 1865–1885 гг. выкладаў у Пецярбургскай рысавальнай школе пры Таварыстве заахвочвання мастакоў. У 1860–1880-я гг. у летнія месяцы жыў у маёнтку Уборкі, выязджаў на Палессе, у Пскоўскую губерню, дзе збіраў матэрыял для твораў.*

*Пісаў пейзажы і партрэты, адметныя высокім тэхнічным майстэрствам, жыццёвай праўдзівасцю, паэтычным асэнсаваннем навакольнага асяроддзя. З ліку значных: «Балота» (1852), «Пейзаж з ракой і дарогай» (1853), «На радзіме» (1860), «Рака Бярэзіна» (1868), «Вечар у Мінскай губерні» (1870-я гг.), «Старая моліцца» (1857), «Жанчына з палітрай» (1867), «Жаночы партрэт» (1868), «Партрэт мастака Л. Лагорыа» (1890-я гг.). Больш за 40 карцін мастака знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.*

**Гараўскі Іпаліт Гілярыевіч**
(1828, маёнтак Уборкі Ігуменскага пав. — ?)

*Пейзажыст.*

*Першапачатковыя веды па выяўленчым мастацтве атрымаў ад Машчынскага — выкладчыка Мінскай гімназіі, дзе ён вучыўся з 1840 па 1847 г. Вольны слухач Пецярбургскай акадэміі мастацтваў з 1855 г. Узнагароджаны срэбраным медалём за карціну «На берагах ракі Бярэзіны» (1857, знаходзіцца ў Дзяржаўным Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу). З 1855 г. удзельнічаў у выстаўках Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У сярэдзіне 1860-х гг. быў хатнім настаўнікам дзяцей генерала Дружыніна ў Мінску, затым жыў у Кіеве (1860–1870-я) і Пецярбургу. Далейшы лёс жывапісца пакуль не высветлены.*

*Вядомыя творы І. Гараўскага «На берагах ракі Бярэзіны» (1857), «Від у ваколіцах Бабруйска» (1858), «Ля крыжа. Смерць паўстанца» (1863, Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь).*

**Урублеўскі Ігнат**
(1858, в. Голні Гродзенскай губ. — 1953, Варшава, Польшча)

*Жывапісец, графік, майстар прыкладнога мастацтва.*

*Скончыў Рысавальную школу В. Герсана ў Варшаве. Супрацоўнічаў са шматлікімі часопісамі, куды даваў малюнкі са сваіх вандровак.*

*У канцы 1880-х–1890-я гг. ім былі выкананы партрэты сваякоў — Ельскіх: Аляксандра (1888), Ксаверыя Паўла (1894), Лявона (1910?). Да іх ліку належыць і акварэльны «Партрэт Людвіга Ельскага» — унука роднага брата дзеда Урублеўскага. Маляваў для «Памятнай кнігі да 100-годдзя Адама Міцкевіча», якая выйшла ў Варшаве. Выканаў альбом гравюр сухой іголкай, прысвечаных Нясвіжскаму замку (1907). Спраектаваў будынак мастацкага музея ў Мінску (1919).*

**Жукоўскі Станіслаў Юльянавіч**
(1873, в. Ендрыхоўцы Гродзенскай губ. — 1944, м. Прушкава каля Варшавы, Польшча)

*Жывапісец. Працаваў у галіне пейзажа, інтэр'ера, нацюрморта.*

*Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў у прыватнай гімназіі ў Варшаве і рэальным вучылішчы ў Беластоку, дзе маляванне выкладаў выпускнік Маскоўскага Строганаўскага вучылішча пейзажыст С. Южанін. У 1892 г. С. Жукоўскі, насуперак волі бацькі, паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. Яго настаўнікамі былі С. Каровін, М. Касаткін, А. Архіпаў, але найбольшы ўплыў на станаўленне мастака аказалі В. Паленаў і І. Левітан. З 1895 г. — член Таварыства перасоўнікаў, удзельнічаў у іх выстаўках, а таксама ў выстаўках аб'яднання «Свет мастацтва».*

*Да пачатку ХХ ст. С. Жукоўскі стаў адным з самых вядомых у Расіі пейзажыстаў імпрэсіяністычнага напрамку, атрымаў ганаровае званне акадэміка жывапісу Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1907), адкрыў у Маскве прыватную школу (1906–1917). Пасля крытыкі палітыкі савецкага ўрада ў галіне культуры, музейнай справы і выступленняў за захаванне старажытных дваранскіх сядзіб некаторы час жыў у правінцыяльных гарадах Расіі. У 1923 г. пераехаў у Польшчу, удзельнічаў у мастацкіх выстаўках (апошняя адбылася ў 1939 г.).*

*Падчас Другой сусветнай вайны мастак быў арыштаваны нацыстамі за ўдзел у Варшаўскім паўстанні. Загінуў у Прушкаўскім канцэнтрацыйным лагеры каля Варшавы (1944).*

**Ходзька Леанард Людвігавіч**
(1800, в. Аборак (цяпер Маладзечанскі р-н) — 1871)

*Выдавец, гісторык, публіцыст, бібліёграф. Аўтар пейзажных замалёвак.*

*Нарадзіўся ў сям'і маршалка Завілейскага павета Людвіга Ходзькі і ўладальніцы маёнтка Аборак Валерыі Дзядзеркі. Вучыўся ў Віленскім універсітэце (1816–1817). Член таварыства філарэтаў, дзе зблізіўся з А. Міцкевічам, Я. Чачотам, Т. Занам. З 1819 г. — сакратар М. К. Агінскага. У 1822 г. эмігрыраваў, з 1826 г. — у Парыжы.*

*Пісаў на польскай і французскай мовах. Аўтар паэмы «Залессе» (1821). Зрабіў замалёўкі Залесся (маёнтак М. К. Агінскага каля г. Смаргонь). Выдаў зборнікі твораў А. Міцкевіча (1828) і І. Красінскага (1830), мемуары М. К. Агінскага (1827–1828), працы па гісторыі, геаграфіі, статыстыцы. Напісаў біяграфію Т. Касцюшкі (1837), «Папулярную гісторыю Польшчы» (1863). Сабраў 125 тамоў дакументаў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Украіны і інш.*

**Місяровіч Алаіз**
(1825–1905)

*Літограф, рысавальшчык, жывапісец.*

*Жыў у Варшаве, выстаўляўся ў Таварыстве заахвочвання прыгожых мастацтваў. Быў звязаны з літаграфічнымі майстэрнямі Ю. Херкнера, М. Фаянса і Л. Ватсана. Працаваў пераважна ў жанры партрэта і відавога пейзажа. Аўтар (рысавальшчык і літограф) аддрукаваных у майстэрні М. Фаянса альбомаў «Жывапісны альбом Аўгустоўскай губерні» (1856), «Жывапісна-гістарычны альбом радомска-кракаўскі» (1858).*

*У 1873 г. у Варшаве выйшаў «Альбом гістарычных відаў Польшчы» Н. Орды, літаграфіі да якога падрыхтаваў А. Місяровіч у літаграфічным кабінеце М. Фаянса.*

# Искусство Беларуси XIX века: диалог культур и традиций

На развитие культуры и искусства Беларуси в XIX в. большое влияние оказали социально-политические процессы, обусловленные присоединением белорусских земель, которые ранее находились в пределах Речи Посполитой, к Российской империи.

На протяжении столетия неуклонно уменьшалось значение прежних крупных магнатских резиденций и частновладельческих городов в культурной жизни края. Несвиж, Слоним, Ружаны, Слуцк превращаются в провинциальные поселения, по сравнению с которыми возрастает значение административных центров. Витебск, Минск, Гродно приобретают статус губернских городов с соответствующей структурой органов управления общественной и конфессиональной жизни. В общегосударственном плане доминирующее положение принадлежало столице Российской империи — Санкт-Петербургу. Вместе с тем процессы политико-административного устройства на белорусских землях в XIX в. не снижали роли Варшавы и Вильны.

В этих условиях активизируется культурная жизнь в шляхетских усадьбах, приобретая демократический характер. Шляхетство, которое в XIX в. было переведено в дворянское сословие, составляло в то время до 10 % жителей края и сохраняло лидирующее положение в обществе. Именно в его среде, а также в среде местной буржуазии и мещанства, были сформированы многие свободолюбивые идеи, а их носители в значительной степени повлияли на развитие просвещения, литературы, искусства. Внутри шляхетского сословия существовала значительная разница между магнатами, во владении которых находились значительные имущественные средства, и средними слоями, а также «шарачковай», или «загоннай», шляхтой. Выходцы из этой среды проходили сложный путь формирования идейных взглядов от «тутэйшасці», регионального патриотизма и национализма, к осознанию своей белорускости. Он проходил на фоне роста революционных настроений в обществе, что проявлялось в организации тайных студенческих сообществ, например филоматы и филареты в Виленском университете, восстаний 1830–1831 гг. и 1863–1864 гг. Народное творчество питало многоязычную шляхетскую поэзию (А. Мицкевич, Я. Чечот, Я. Борщевский, В. Дунин-Марцинкевич), музыку (С. Монюшко, Ф. Миладовский, М. Карлович), изобразительное искусство (В. Ванькович, Я. Дамель, Н. Орда).

Наиболее заметный след в культурной жизни белорусского края в XIX в. оставили крупные шляхетские усадьбы, где хозяевами были собраны обширные исторические и художественные коллекции, архивы и библиотеки, где проходили популярные в то время салоны, музыкальные вечера, товарищеские встречи. Широкую известность такие усадьбы муз имели на Минщине у Тышкевичей, Монюшко, Ракицких, Ельских, Завишей; на Гродненщине — у Тизенгаузов, Юндилов, Огинских, Тышкевичей; на Витебщине — у Буйницких, Нитославских; на Брестчине — у Ордов; на Могилевщине — у Чернышовых и Муромцевых.

В развитии белорусского изобразительного искусства можно выделить три этапа, каждый из которых обусловливался рядом изменяющихся общественно-политических факторов, а потому был не только сложным, но и противоречивым по содержанию. Этот путь необязательно вел только вперед, к новым вершинам. Не обошлось и без отступлений, шагов в сторону, а то и назад, периодов ошибок и потери общественных и эстетических ориентиров.



Усадьба в Пружанах. Фото 2000-х гг.



Усадьба в Пружанах. Интерьер. Фото 2000-х гг.

Первый этап составляет тридцатилетие от создания Виленского университета и Полоцкой академии до процесса над филоматами и филаретами, последующего закрытия обоих учебных заведений, поражения восстания 1830–1831 гг.

По сравнению с предыдущим периодом в искусстве первой трети XIX в. происходило мало изменений. Из Вильны и из католических коллегиумов по-прежнему распространялись идеалы, связанные с историей, военными победами Речи Посполитой и особенно — Великого княжества Литовского. Проявлялись эти идеалы преимущественно в условных классицистических формах, а потом, с балладами и поэмами А. Мицкевича и Я. Чечота, постепенно получали романтическое звучание, а потому становились более понятными для народного восприятия.

Тем не менее в первой половине XIX в. художественная жизнь концентрировалась не только в Вильне и Полоцке, но и во многих «шляхетских гнездах» — усадьбах богатых и среднего достатка. Здесь будущие художники получали общее образование, постигали основы изобразительного искусства с помощью приглашенных учителей рисования. Основательную художественную подготовку давали в гимназиях и в двух действовавших на то время высших учебных заведениях — Виленской школе и Полоцкой иезуитской академии.

Наиболее значительную роль для культуры белорусских земель сыграла основанная в 1797 г. в Вильне кафедра изящных искусств при Главной литовской школе (с 1803-го — Виленский университет), которая в течение 35 лет была практически единственным центром, где готовили художников. Ведущим стилем в эти времена оставался классицизм, имевший свои характерные особенности и получивший условное название «виленский классицизм». Он отличался особой ментальностью, утверждением патриотических идей в несколько героизированной окраске и проявил себя в выборе сюжетов из истории Речи Посполитой и особенно Великого княжества Литовского, в осмыслении миссии художника как пророка, проповедника свободолюбивых ценностей. Виленская школа стала своего рода катализатором местной культурной жизни, центром притяжения талантливой молодежи края — Литвы и Беларуси.

Виленская художественная школа возникла на последнем этапе эпохи Просвещения, который принято рассматривать как предромантизм. В это время происходят значительные изменения в сфере образования и культуры. Утверждение идеи светского образования, меры Российской империи по ослаблению роли католической конфессии на присоединенных к ней землях привели к упразднению ордена иезуитов и реорганизации главного учебного заведения края, академии, в Главную литовскую школу (1793), а потом — в Виленский императорский университет (1803). Открытие в нем кафедры архитектуры (1793), а потом кафедр живописи и рисунка (1797), скульптуры (1803), гравюры (1811) способствовало кардинальному реформированию художественной жизни, сделало ее частью светской культуры. Владение навыками правильного рисунка и хороший вкус стали признаками образованной личности в высших и средних слоях общества. Соответственно, поднялся социальный статус художников, которые



Усадьба в Пружанах. Интерьер. Фото 2000-х гг.

вместе с литераторами стали выразителями идеалов эпохи.

Рожденная эпохой Просвещения на рубеже различных этнокультурных традиций, Виленская школа продемонстрировала культурно-исторический синкретизм белорусско-литовско-польского искусства и предопределила пути развития искусства Беларуси в последующие годы.

Второй период начался в 1832 г., когда после поражения ноябрьского восстания 1830 г. был закрыт Виленский университет, прекращено действие III Литовского статута, а в систему обучения, литературу и театр начали вводить русский язык. Одновременно активизировалось белорусское возрожденческое движение. Появились произведения В. Дунина-Марцинкевича, по его пьесе в Минске была поставлена оперетта «Идиллия», музыку к которой написал С. Монюшко. Популярностью пользовалась поэма «Тарас на Парнасе» К. Вереницына, стихи В. Сырокомли и А. Вериги-Даревского. Братьями К. и Я. Тышкевичами в Логойске был создан первый музей исторической тематики.

После поражения восстания 1830–1831 гг. изменились общественные и культурные ориентиры в крае: из Вильны — на столицу Российского государства Петербург, со все еще условного романтизма — на приземленное бытописание (в литературе — бидермейер). В изобразительном искусстве это отразилось в особой популярности жанров пейзажа и натюрморта. Именно к этому периоду относится творчество талантливого художника И. Хруцкого, воспитанника Петербургской академии художеств.

Вернувшись на родину либо выбрав белорусские земли как постоянное местожительство, профессиональные художники не только сумели избежать в творчестве антагонизма культур, но и стремились объединить в своих работах течения, господствовавшие в то время в искусстве Западной и Восточной Европы. Вместе с тем в произведениях художников, родившихся на белорусских землях, стала особенно ярко ощущаться местная ментальность, пристальное внимание к традиционной культуре.

Третий этап развития изобразительного искусства длился от поражения восстания 1863–1864 гг., в результате чего полонизированная знать в Беларуси была вытеснена русским дворянством и чиновничеством. Именно в это время на культурную арену начало выходить «третье сословие». Возникло полупрофессиональное музейное собирательство. Им занимались Г. Татур в Минске, Э. Гуттен-Чапский в Станьково, А. Ельский в Замостье. В искусстве Беларуси под явным влиянием русского «передвижничества», особенно И. Репина, который некоторое время жил в своем имении в окрестностях Витебска, усиливаются реалистические тенденции, проявившиеся в творчестве Н. Силивановича, братьев И. и А. Горавских.

В романтическом и реалистично-бидермейеровском периоде развития белорусского искусства образы крестьян приобрели более завершенный социальный характер, но по-прежнему актуальным оставалось утверждение в темах и сюжетах живописных и графических произведений идей ответственности за судьбу народа, необходимости не только его воспитания, но и призыва к лучшей жизни. Культ знаний и просветительская деятельность оставались

устойчивыми константами национального сознания и в этот период, о чем свидетельствуют полотна Н. Силивановича («Солдат и мальчик», 1866; «В школу», 1870-е гг.), В. Слендинского («Девочка около дверей », 1870-е гг.). Панорамные акварели художника-путешественника Ю. Пешки с изображениями городов и местечек заложат основу традиции художественного «портретирования» архитектурных достопримечательностей Беларуси, получат развитие в творчестве М. Кулеши и Н. Орды во второй половине XIX в.

Благодаря диалогу многих культур, которые влияли на культуру Беларуси из-за особенностей политического характера и географического местоположения, ее национальные особенности и колорит не только сохранились, но и укрепились. В результате стало возможным плодотворное развитие изобразительного искусства в нашей стране в следующем, XX веке.

*Адам Мальдис*,
профессор,
доктор филологических наук,

*Людмила Вакар*,
кандидат искусствоведения

## КРАТКИЕ БИОГРАФИИ АВТОРОВ ПРОИЗВЕДЕНИЙ В ПОДРАЗДЕЛЕ «КУЛЬТУРА ШЛЯХЕТСКИХ УСАДЕБ»

**Суходольский Януарий Иванович**
(1797, г. Гродно — 1875, имение Бойме около м. Седльцы, Польша)

*Живописец-баталист.*

*Окончил кадетский корпус Школы артиллерии и инженеров войск Варшавского княжества, учился у архитектора С. Вогла и графика С. Курчиньского. В чине подпоручика служил адъютантом у генерала В. Красинского. Впервые показал свои любительские работы на варшавской выставке изящных искусств в 1825 г. Участвовал в восстании 1830–1831 гг. С 1832 г. жил в Риме, где брал уроки у французского баталиста Ж. Верне. С 1837 г. жил в Варшаве, Париже, Гродно, Петербурге, в собственном имении Бойме около м. Седльцы на Подляшье.*

*По заказу фельдмаршала И. Паскевича в 1830–1840-е гг. выполнил цикл картин о событиях русско-персидской войны. Создал серии картин, посвященных историческим событиям в Великом княжестве Литовском и Польском Королевстве, Речи Посполитой («Битва под Грюнвальдом», 1838; «Смерть гетмана Чернецкого», 1844; «Защита Ченстохова», 1854; «Юзеф Понятовский на коне перед войском», 1857). Значительная часть произведений художника посвящена личности Наполеона, истории его военных походов и участия в них польских отрядов, событиям российско-французской войны 1812–1814 гг.*

**Горавский Аполлинарий Гиляриевич**
(1833, имение Уборки Игуменского уезда Минской губ. — 1900, имение Кирилловичи Петербургской губ.)

*Живописец.*

*Учился в Брест-Литовском кадетском корпусе. По протекции архитектора Н. Бенуа зачислен в Петербургскую академию художеств, где учился у М. Воробьева и Ф. Бруни (1850–1854). Как пенсионер академии в 1855–1860 гг. совершенствовал мастерство в Женеве, Дюссельдорфе, Париже, Риме. В 1865–1885 гг. преподавал в Петербургской рисовальной школе при Обществе поощрения художников. В 1860–1880-х гг. в летние месяцы жил в поместье Уборки, выезжал на Полесье, в Псковскую губернию, где собирал материал для произведений.*

*Писал пейзажи и портреты, отличавшиеся высоким техническим мастерством, жизненной правдивостью, поэтическим осмыслением окружающей среды. Из числа значимых: «Болото» (1852), «Пейзаж с рекой и дорогой» (1853), «На родине» (1860), «Река Березина» (1868), «Вечер в Минской губернии» (1870-е гг.), «Старая молится» (1857), «Женщина с палитрой» (1867), «Женский портрет» (1868), «Портрет художника Л. Лагорио» (1890-е гг.). Более 40 картин художника находятся в Национальном художественном музее Беларуси.*

**Горавский Ипполит Гиляриевич**
(1828, имение Уборки Игуменского уезда — ?)

*Пейзажист.*

*Первоначальные знания по изобразительному искусству получил от Мощинского — преподавателя*

*Минской гимназии, где он учился с 1840 по 1847 г. Вольный слушатель Петербургской академии художеств с 1855 г. Награжден серебряной медалью за картину «На берегах реки Березины» (1857, находится в Государственном Русском музее в Санкт-Петербурге). С 1855 г. участвовал в выставках Петербургской академии художеств. В середине 1860-х гг. был домашним учителем детей генерала Дружинина в Минске, затем жил в Киеве (1860–1870-е) и Петербурге. Дальнейшая судьба живописца пока не выяснена.*

*Известны произведения И. Горавского «На берегах реки Березины» (1857), «У креста. Смерть повстанца» (1863, Национальный художественный музей Республики Беларусь).*

**Врублевский Игнатий**
(1858, д. Голни Гродненской губ. — 1953, г. Варшава)

*Живописец, график, мастер прикладного искусства.*

*Окончил рисовальную школу В. Герсона в Варшаве. Сотрудничал со многими журналами, куда давал рисунки из своих путешествий.*

*В конце 1880-х–1890-е гг. им были выполнены портреты родственников — Ельских: Александра (1888), Ксаверия Павла (1894), Леона (1910?). К их числу принадлежит и акварельный «Портрет Людвига Ельского» — внука родного брата деда Врублевского. Рисовал для «Памятной книги к 100-летию Адама Мицкевича», вышедшей в Варшаве. Выполнил альбом гравюр сухой иглой, посвященных Несвижскому замку (1907). Спроектировал здание художественного музея в Минске (1919).*

**Жуковский Станислав Юлианович**
(1873, д. Ендриховцы Гродненской губ. — 1944, м. Прушково около Варшавы, Польша)

*Живописец. Работал в области пейзажа, интерьера, натюрморта.*

*Родился в шляхетской семье. Начальное образование получил в частной гимназии в Варшаве и реальном училище в Белостоке, где рисование преподавал выпускник Московского Строгановского училища пейзажист С. Южанин. В 1892 г. С. Жуковский, вопреки воле отца, поступил в Московское училище живописи, ваяния и зодчества. Его учителями были С. Коровин, Н. Касаткин, А. Архипов, но наибольшее влияние на становление художника оказали В. Поленов, И. Левитан. С 1895 г. — член Общества передвижников, участвовал в их выставках, а также в выставках объединения «Мир искусства».*

*К началу XX в. С. Жуковский стал одним из самых известных в России пейзажистов импрессионистического направления, получил почетное звание академика живописи Петербургской академии художеств (1907), открыл в Москве частную школу (1906–1917). После критики политики советского правительства в области культуры, музейного дела и выступлений за сохранение древних дворянских усадеб некоторое время жил в провинциальных городах России. В 1923 г. переехал в Польшу, активно участвовал в художественных выставках (последняя состоялась в 1939 г.).*

*Во время Второй мировой войны художник был арестован нацистами за участие в Варшавском восстании. Погиб в Прушковском концентрационном лагере около Варшавы (1944).*

**Ходько Леонард Людвигович**
(1800, д. Оборок (ныне Молодечненский р-н) — 1871)

*Издатель, историк, публицист, библиограф. Автор пейзажных зарисовок.*

*Родился в семье маршалка Завилейского уезда Людвига Ходько и владелицы поместья Оборок Валерии Дядерко. Учился в Виленском университете (1816–1817). Член общества филаретов, где сблизился с А. Мицкевичем, Я. Чечотом, Т. Заном. С 1819 г. — секретарь М. К. Огинского. В 1822 г. эмигрировал, с 1826 г. — в Париже.*

*Писал на польском и французском языках. Автор поэмы «Залесье» (1821). Сделал зарисовки Залесья (имение М. К. Огинского около г. Сморгонь). Издал сборники произведений А. Мицкевича (1828) и И. Красинского (1830), мемуары М. К. Огинского (1827–1828), работы по истории, географии, статистике. Написал биографию Т. Костюшко (1837), «Популярную историю Польши» (1863). Собрал 125 томов документов по истории Польши, Беларуси, Украины и др.*

**Мисерович Алоиз**
(1825–1905)

*Литограф, рисовальщик, живописец.*

*Жил в Варшаве, выставлялся в Обществе поощрения изящных искусств. Был связан с литографическими мастерскими И. Херкнера, М. Фаянса и Л. Ватсона. Работал преимущественно в жанре портрета и видового пейзажа. Автор (рисовальщик и литограф) отпечатанных в мастерской М. Фаянса альбомов «Живописный альбом Августовской губернии» (1856), «Живописно-исторический альбом радомско-краковский» (1858).*

*В 1873 г. в Варшаве вышел «Альбом исторических видов Польши» Н. Орды, литографии к которому подготовил А. Мисерович в литографическом кабинете М. Фаянса.*

# The Art in Belarus of the 19th century: the dialogue of traditions and cultures

After the Belarusian lands became a part of the Russian Empire, the residences of the magnates lost their role as major centres of arts. New centres of cultural life emerged in regional administrative centres like Viciebsk, Minsk, Hrodna and in gentry estates with their libraries, art collections and salons.

In the 19th century, the gentry made 10 % of the total population in the Belarusian lands and played an important role in the development of education, literature and arts. Many of its members adhered to liberal ideas, and also participated in clandestine societies and uprisings.

The gentry estates preserved the spirit of exquisite parties and friendly meetings, and continued the best traditions of national art. From those 'gentry nests' emerged dynasties of poets, musicians and artists. The initial art education was provided by private teachers. The Polack Jesuit Academy and Vilna University were the only higher educational institutions in the area providing professional training in art. The prevailing style there was Classicism.

It was a period of idealizing the past of the country and a growing interest in its ethnic roots; many young people became conscious of their national identity. Despite clear differences in their destinies, interests and preferences, artists followed the stylistic tendencies of Romanticism. In 1820, the Polack academy was abolished; the Vilna University was closed after the 1830–1831 uprising. Despite the defeat of the uprising, the process of national revival continued in literature and music: books in Belarusian were published and national dramas and operas were staged.

Artists, however, had to go for professional training to St. Petersburg, Moscow, Munich or Paris. Returning to their homeland and choosing Belarus for permanent residence, they managed not only to avoid cultural antagonism in their work, but also to combine different features common to Slavic art traditions with Western and Eastern European trends and thus to develop and enhance the traditions of local art. That led to the rapid development of professional Belarusian art in the 20th century.

*Adam Maldzis,*
professor,
doctor of philological sciences,

*Liudmila Vakar*,
candidate of Art Studies

## SHORT BIOGRAPHIES OF THE AUTHORS OF ART WORKS SHOWN IN 'THE CULTURE OF THE GENTRY ESTATES' SUBSECTION

**Sukhadolsky (Suchodolski), January**
(1797, Hrodna — 1875, Bojmie, Poland)

*Military art painter.*

*He took painting lessons from the Polish artist A. Brodowski; graduated from Svislač gymnasium. As a military art painter, he took part in the Russian war with Iran (1826–1828) during which he created a series of paintings by the order of the field marshal I. Paskevich. January Sukhadolsky took part in 1830–1831 uprising, immigrated to Rome. After amnesty he returned to his Homeland. By the invitation of Emperor Nikolay I he moved to St. Petersburg where he received a request to create a series of paintings with battle scenes of Russian–French war of 1812.*

*Among the artist's main works there are the 'Siege of Saragossa', 'The Horse Rider', 'The Grande Armée Crossing the Berezina' (some of the artist's works are in Homel Museum of Local History).*

**Haraŭsky (Goravsky, Horawski), Apalinari (Apollinaris)**
(1833, Uborki estate of Ihumen (Cherven) district in Minsk guberniya — 1900, Kirillovichi estate in St. Petersburg guberniya)

*A painter of landscapes and portraits.*
*He studied at Brest-Litovsk cadet corps. A famous Russian architect N. Benois contributed to his enrolment to St. Petersburg Academy of Arts (1850–1854). The landscape 'Swamp', created by A. Haraŭski in his first years of studying (1852), interested the Academic Council and was purchased by the heir of the Russian throne for his private collection. Apalinari Harauski was granted pension for studying abroad from 1855 to 1860. For his graduate work 'The View in Pskov guberniya' A. Haraŭski was awarded a great gold medal.*
*In 1860–1880 the artist lived in Uborki moving to St. Petersburg for winter where he taught at the School of Art at the Society for Encouraging Fine Arts.*
*Over 40 artist's works are in the collection of the National Art Museum of the Republic of Belarus.*

**Haraŭsky (Goravsky, Horawski), Ipalit (Ippolit)**
(1828, Uborki estate of Ihumen (Cherven) district in Minsk guberniya —?)

*Landscape painter.*
*The primary knowledge in art he received from Moshchinski, a teacher in Minsk gymnasium where he studied from 1840 to 1847. He was an irregular student of St. Petersburg Academy of Arts since 1855. He was awarded a silver medal for the painting 'On the Berezina River' (1857, now in collection of the Russian Museum in St. Petersburg). In 1864, Ipalit Haraŭski received a title of class artist of the 3rd degree in landscape painting. His other known paintings are 'The view of Babruisk environs' (1858), 'At a cross. Death of an insurgent' (in the National Art Museum of the Republic of Belarus).*
*Since 1855, he participated in exhibitions at St. Petersburg Academy of Arts. In the mid-1860s he was a private teacher for the children of general Druzhinin in Minsk; later he lived in Kiev (1860s–1870s) and in St. Petersburg.*
*Further life of the painter is unknown.*

**Wróblewski, Ignacy**
(1858–1953)

*Painter, graphic artist, master of applied arts.*
*He graduated from the drawing school of V. Gerson in Warszaw. Cooperated with many magazines, to which he gave the drawings of his trips.*
*In late 1880s–1890s he created the portraits of the Yelsky family: Alyaksandr Elsky (1888), Xsaveri Pavel Yelsky (1894), Leon Yelsky (1910?). They include a water-colour 'Portrait of Ludwig Yelsky', the grandson of the brother of Wróblewski's grandfather. He drew for the 'Memorial Book to the 100-years Anniversary of Adam Mickiewicz' which was issued in Warszaw. He created an album of drypoint etchings dedicated to Nyasviž Castle (1907). He designed the building of the Art Museum in Minsk (1919).*

**Żukowski (Zhukouski), Stanisław**
(1873, Yendruhoucy village in Hrodna guberniya — 1944, Pruszków near Warszaw, Poland)

*Painter of landscapes, interiors, still life.*
*He was born into the family of aristocrat deprived of possessions and the rights of the nobility for participating in the 1863 uprising. In 1892 S. Żukowski, against his father's will, went to Moscow to study painting. He graduated from Moscow School of Painting, Sculpture and Architecture where he was supervised by I. I. Levitan. Since 1895 he participated in the Itinerants exhibitions. In 1899 his painting 'Moonlit night' was purchased to the collection of the Tretyakov Gallery.*
*By the early 20th century Žukowski became one of the most famous landscape painters of the impressionist trend in Russia. Stanisław Žukowski participated in Mir iskusstva (The World of Art) exhibitions. He founded a private school in Moscow where taught from 1907 to 1917. In 1923, he moved to Poland.*
*During World War II the artist was arrested by the Nazi. He died in the concentration camp in Pruszków (1944).*

**Hodzka (Chodzko), Leanard (Leonard)**
(1800, Abarok village, now in Maladzečna district, — 1871, France)

*Publisher, historian, publicist, bibliographer. Created landscape sketches.*
*He was born into the family of Liudwig Hodzka, marshal of the nobility in Zavilejski district, and Valeria Dziadzerka, owner of the Abarok estate. He studied at the Vilna University (1816–1817). He was a member of the Filaret Association where he became close with A. Mickiewicz, J. Chachot, T. Zan. Since 1819, he was*

*M. K. Oginski's secretary. In 1822, he emigrated and since 1826 lived in Paris.*

*He wrote in Polish and French. He also created sketches of Zalessie (M. K. Oginski's estate near Smarhon). He published the collections of works by A. Mickiewicz (1828) and I. Krasinski (1830), the Memoires by M. K. Oginski (1827–1828), the works in history, geography, statistics. He wrote the biography of T. Kosciuszko (1837), 'The Popular History of Poland' (1863). Leanard Hodzka collected 125 volumes of documents on the history of Poland, Belarus, and Ukraine.*

**Misierovicz, Alois**
(1825–1905)

*Lithographer, graphic artist, painter.*

*He lived in Warsaw, exhibited in the Society for Encouraging Fine Arts. He was associated with the Warszaw lithography workshops of Joseph Herkner, Maximilian Faience and Leopold Watson. Alois Misierovicz worked mostly in portrait and landscape genres. He was the author (drawing and lithography) of 'The pictorial album of the Awgust county' (1856), 'The Radom-Krakow pictorial and historical album' (1858).*

*In 1873, in Warsaw the 'Album of Historical Views of Poland' by N. Orda was published. The lithographs to this album were made by A. Misierovicz in M. Faience's lithography shop.*



***Невядомы мастак***

**Партрэт хлопчыка.** XVIII ст. Палатно, алей. 80×67 см
Музей Беларускага Палесся

***Неизвестный художник***

**Портрет мальчика.** XVIII в. Холст, масло. 80×67 см
Музей Белорусского Полесья

***Unknown artist***

**Portrait of a boy.** 18th century. Oil on canvas. 80×67 cm
Museum of Belarusian Polesye



*Сухадольскі Януарый*

**Штурм крэпасці Ахалцых.** 1838 г. Палатно, алей. 98,5×135 см
Гомельскі палацава-паркавы ансамбль

*Суходольский Януарий*

**Штурм крепости Ахалцых.** 1838 г. Холст, масло. 98,5×135 см
Гомельский дворцово-парковый ансамбль

*Sukhadolsky, January*

**Siege of Akhaltsikhe.** 1838. Oil on canvas. 98.5×135 cm
Homel Palace and Park Emsemble



***Невядомы мастак першай паловы XIX ст.***

**Партрэт маладой жанчыны ў чорнай сукенцы.** 1840-я гг. Палатно, алей. 92,5×68,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Неизвестный художник первой половины XIX в.***

**Портрет молодой женщины в черном платье.** 1840-е гг. Холст, масло. 92,5×68,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Unknown artist of the first half of the 19th century***

**Portrait of a young woman in a black dress.** 1840s. Oil on canvas. 92.5×68.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Невядомы мастак*

**Мужчына з дзіцём на каленях.** Палатно, алей. 53×42 см (авал)
Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Е. Р. Раманава

*Неизвестный художник*

**Мужчина с ребенком на коленях.** Холст, масло. 53×42 см (овал)
Могилевский областной краеведческий музей им. Е. Р. Романова

*Unknown artist*

**A man holding a child.** Oil on canvas. 53×42 cm (oval)
E. R. Romanov Mahilioŭ Regional Local History Museum



***Невядомы мастак***

**Партрэт невядомай.** Палатно, алей. 50,5×39 см
Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Е. Р. Раманава

***Неизвестный художник***

**Портрет неизвестной.** Холст, масло. 50,5×39 см
Могилевский областной краеведческий музей им. Е. Р. Романова

***Unknown artist***

**Portrait of a woman.** Oil on canvas. 50.5×39 cm
E. R. Romanov Mahilioŭ Regional Local History Museum



*Хруцкі Іван*

**Мужчынскі партрэт.** 1851 г. Палатно, алей. 66,5×53 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Хруцкий Иван*

**Мужской портрет.** 1851 г. Холст, масло. 66,5×53 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Hrucky, Ivan*

**Portrait of a man.** 1851. Oil on canvas. 66.5×53 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Хруцкі Іван***

**У пакоях сядзібы мастака. Дзеці перад мальбертам.** 1854–1855 гг. Палатно, алей. 54,2×44 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Хруцкий Иван***

**В комнатах усадьбы художника. Дети перед мольбертом.** 1854–1855 гг. Холст, масло. 54,2×44 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Hrucky, Ivan***

**In rooms of the artist’s estate house. Children in front of an easel.** 1854–1855. Oil on canvas. 54.2×44 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Хруцкі Андрэй*

**Партрэт хлопчыка.** 1854 г. Палатно, алей. 34,8×27,7 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Хруцкий Андрей*

**Портрет мальчика.** 1854 г. Холст, масло. 34,8×27,7 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Hrucky, Andrey*

**Portrait of a boy.** 1854. Oil on canvas. 34.8×27.7 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Гараўскі Апалінарый*

**Купальшчыцы.** 1858 г. Палатно, алей. 41×56,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Горавский Аполлинарий*

**Купальщицы.** 1858 г. Холст, масло. 41×56,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Haraŭsky, Apalinari*

**Bathing women.** 1858. Oil on canvas. 41×56.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Гараўскі Апалінарый***

**Партрэт невядомай з палітрай.** 1867 г. Кардон, алей. 17,5×13,2 см (авал)
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Горавский Аполлинарий***

**Портрет неизвестной с палитрой.** 1867 г. Картон, масло. 17,5×13,2 см (овал)
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Haraŭsky, Apalinari***

**Portrait of an unknown woman with a palette.** 1867. Oil on cardboard. 17.5×13.2 cm (oval)
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Гараўскі Апалінарый***

**Жаночы партрэт. Ля мальберта.** 1868 г. Кардон, алей. 21,2×16,9 см (авал)
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Горавский Аполлинарий***

**Женский портрет. У мольберта.** 1868 г. Картон, масло. 21,2×16,9 см (овал)
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Haraŭsky, Apalinari***

**Portrait of a woman. In front of an easel.** 1868. Oil on cardboard. 21.2×16.9 cm (oval)
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Гараўскі Апалінарый***

**Жаночы партрэт. Каля раяля.** 1868 г. Кардон, алей. 21,4×17,9 см (авал)
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Горавский Аполлинарий***

**Женский портрет. У рояля.** 1868 г. Картон, масло. 21,4×17,9 см (овал)
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Haraŭsky, Apalinari***

**Portrait of a woman. At a piano.** 1868. Oil on cardboard. 21.4×17.9 cm (oval)
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Гараўскі Іпаліт***

**Ля крыжа. Смерць паўстанца.** 1863 г. Палатно, алей. 89×67 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Горавский Ипполит***

**У креста. Смерть повстанца.** 1863 г. Холст, масло. 89×67 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Haraŭsky, Ipalit***

**At a cross. Death of an insurgent.** 1863. Oil on canvas. 89×67 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Урублеўскі Ігнацій*

**Партрэт К. Ельскага.** 1890-я гг. Палатно, алей. 67×53 см
Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь

*Врублевский Игнатий*

**Портрет К. Ельского.** 1890-е гг. Холст, масло. 67×53 см
Национальный исторический музей Республики Беларусь

*Wróblewski, Ignacy*

**Portrait of K. Yelski.** 1890s. Oil on canvas. 67×53 cm
National History Museum of the Republic of Belarus



***Жукоўскі Станіслаў***

**Мінуўшчына.** 1912 г. Палатно, алей. 110×130,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Жуковский Станислав***

**Былое.** 1912 г. Холст, масло. 110×130,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Żukowski, Stanisław***

**Olden time.** 1912. Oil on canvas. 110×130.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Невядомы мастак***

**Навагрудак.** Пачатак XIX ст. Папера, літаграфія. 27,1×18,9 см
Прыватная калекцыя

***Неизвестный художник***

**Новогрудок.** Начало XIX в. Бумага, литография. 27,1×18,9 см
Частная коллекция

***Unknown artist***

**Navahrudak.** Early 19th century. Lithography on paper. 27.1×18.9 cm
Private collection




***Ходзька Леанард***

**Залессе ў Літве. Маёнтак М. К. Агінскага.** XIX ст. Літаграфія. 27,1×18,9 см
Прыватная калекцыя

***Ходько Леонард***

**Залесье в Литве. Поместье М. К. Огинского.** XIX в. Литография. 27,1×18,9 см
Частная коллекция

***Hodzka, Leanard***

**Zalesie.  M. K. Oginski's estate.** 19th century. Lithography. 27.1×18.9 cm
Private collection




***Місяровіч Алаіз***

**Дубой. Мінская губерня.** Па малюнку Н. Орды
1870-я або 1880-я гг. Папера, літаграфія. 32,2×44,7 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Мисерович Алоиз***

**Дубой. Минская губерния.** По рисунку Н. Орды
1870-е или 1880-е гг. Бумага, литография. 32,2×44,7 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Misierovicz, Alois***

**Duboj.** Based on N. Orda's water-colour
1870s or 1880s. Lithography on paper. 32.2×44.7 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Місяровіч Алаіз***

**Сядзіба Касцюшкі ў прадмесці Мерачоўшчына. Гродзенская губерня.** Па малюнку Н. Орды
1870-я гг. Папера, літаграфія. 28,6×39,1 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Мисерович, Алоиз***

**Усадьба Костюшко в предместье Меречевщина. Гродненская губерния.** По рисунку Н. Орды
1870-е гг. Бумага, литография. 28,6×39,1 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Misierovicz, Alois***

**Kosciuszko’s estate  in Meračouščyna.** Based on N. Orda’s water-colour
1870s. Lithography on paper. 28.6×39.1 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



**Кафля з сядзібы Т. Касцюшкі.** Пачатак XIX ст. Кераміка, паліва
Музей Беларускага Палесся

**Изразец из усадьбы Т. Костюшко.** Начало XIX в. Керамика, глазурь
Музей Белорусского Полесья

**A stove tile from T. Kosciuszko's estate.** Early 19th century. Glazed ceramics
Museum of Belarusian Palesse

# Полацкая мастацкая школа

Полацкая мастацкая школа сфарміравалася ў межах адукацыйнай сістэмы езуітаў, якія ў 1579 г. адкрылі ў Полацку калегіум. Напачатку мастацкія спецыяльнасці не былі аформлены як самастойныя дысцыпліны, а развіваліся дзякуючы патрэбам школьнага тэатра і практыкі аздаблення разнастайных рэлігійных працэсій і святочных цырымоній. У XVIII ст. у выніку рэфармавання вучэбных праграм быў уведзены курс архітэктуры, выкладаў яго Габрыэль Лянкевіч (1722–1798), палачанін, які атрымаў адукацыю ў Рыме. Пасля вяртання на радзіму ён займаўся будаўнічымі работамі езуіцкага комплексу, у прыватнасці пад яго кіраўніцтвам быў узведзены купал адноўленага касцёла Св. Стэфана.

У XVIII ст. у Полацку плённа развіваецца партрэтны жывапіс. Пры езуіцкім і дамініканскім кляштарах былі створаны партрэтныя галерэі. Яны мелі рэтраспектыўны характар і змяшчалі акрамя выяў сучаснікаў партрэты слынных дзеячаў каталіцкіх ордэнаў XVI–XVII стст. На пачатку 1770-х гг. у Полацку працаваў выдатны мастак позняга барока Сымон Чаховіч. Ён напісаў для калегіума 44 работы, якія аказалі вялікі ўплыў на развіццё мастацкай культуры горада. Дзякуючы ім склаўся кананічны вобраз духоўнай асобы, пра што сведчаць партрэты дамініканскіх манахаў са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Кампазіцыя простая: паясная выява паказана ў развароце «тры чвэрці», аднак кантраст чорна-белай манаскай вопраткі і выразная пластычная мадэліроўка твару і рук ствараюць дынамічны вобраз. Экспрэсія трымаецца на яркім святле па-за галовамі манахаў. Яно не мае відавочнай крыніцы паходжання, а таму прыўносіць у вобраз элементы сакральнасці. Узнікае ўражанне, што святло зыходзіць ад саміх адэптаў ордэна — прапаведнікаў, і гэта служыць найлепшай характарыстыкай духоўнай асобы.



Будынак, у якім змяшчаўся Полацкі езуіцкі калегіум. Фота 2010-х гг.

Напрыканцы XVIII ст. у Полацкім калегіуме фарміруецца збор еўрапейскага жывапісу, куды ўвайшлі карціны С. Розы, К. Дольчы, партрэты аўгусцейшых асоб Еўропы, выдатныя копіі з работ Рафаэля, Тыцыяна, Рубенса. Усё гэта разам з кнігазборамі ды іншымі каштоўнасцямі прывезлі манахі пасля забароны ў Еўропе з 1773 да 1814 г. езуіцкага ордэна. У гэты час Полацк становіцца сталіцай Таварыства Ісуса, што атрымала часовы прытулак у праваслаўнай Расійскай імперыі, да якой у 1772 г. адышлі ўсходнія гарады Беларусі. Сярод прыезджых знакамітасцей быў італьянскі жывапісец і архітэктар Каятан Анджыяліні.

У 1785 г. у Полацк прыязджае архітэктар, матэматык, музыкант, філолаг, медык Габрыэль Грубер (1740–1805). Ён істотна пашырыў межы мастацкай адукацыі, стварыў для яе выдатную базу, заклаў традыцыю ілюзорна-падманнай эстэтыкі, што надоўга стала галоўнай адметнасцю Полацкай школы. Па яго ініцыятыве ў 1788 г. быў узведзены новы вучэбны корпус, дзе размясціліся галерэя, музей (першы



Ф. Талстой. Вінаград. 1817 г. Дзяржаўная Траццякоўская галерэя.



Ф. Талстой. Парэчкі. 1818 г. Дзяржаўная Траццякоўская галерэя.

на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай), абсерваторыя, архітэктурны, фізічны, прыродна-гістарычны, мінералагічны, этнаграфічны і іншыя кабінеты. Пад кіраўніцтвам Г. Грубера было распрацавана шмат рухомых механізмаў, якія пры дэманстрацыі на занятках выклікалі надзвычайнае здзіўленне. Асабліва ўражваў змешчаны высока ў сцянной нішы бюст філосафа, здольны весці размову з наведвальнікамі на ўсіх еўрапейскіх мовах. Добрую славу мела зала архітэктонікі для малявання з унікальным зборам мадэлей старажытных помнікаў і калекцыяй гравюр, якіх налічвалася больш за 2000 аркушаў. Вялікія магчымасці для развіцця творчых здольнасцей давала выкарыстанне літаграфскага каменя, набытага для ілюстравання выданняў друкарні. Сцены галерэі былі ўпрыгожаны мазаікамі, фрэскамі і карцінамі, у тым ліку творамі самога Г. Грубера, майстра перспектывы і аптычных эфектаў. У гэтым пераконваюць яго эскізы дэкарацый з матывамі полацкай архітэктуры, якія захоўваюцца ў Гістарычным музеі ў Маскве. Услед за знакамітым архітэктарам і гравёрам Д. Б. Піранэзі Г. Грубер аднаўляў ордарныя формы Антычнасці адпаведна дыдактычнай паэтыцы Асветніцтва. Зацененыя прапілеі першага плана ўвасабляюць метафару духоўнага пераўтварэння кожнага, хто захоча прайсці праз іх, каб патрапіць у аздоблены калонамі двор Навукі і прагуляцца па залітай сонечным святлом галерэі. Эфекты святлаценю і вуглавая перспектыва перадаюць дынаміку пераадолення этапаў абранага шляху ўзыходжання да Ведаў і Веры.

Г. Грубер захапляўся мініяцюрай па сланавай косці, што было перанята яго вучнем медальерам і гравёрам Фёдарам Талстым (1783–1873). Даследчыца яго творчасці І. Свірыда сцвярджае, што ў ранніх працах з постацямі натуршчыкаў відавочны вопыт малявання з барочных гравюр, а ў акварэлях «Віла на возеры і абгарэлы край паперы», «Цюльпан і прагарэлая пляма» (1796, Траццякоўская галерэя) — ілюзіянісцкія эфекты. Верагодна, дакладны малюнак, насычаны мноствам дэталей, быў запазычаны ім з акварэлей, зробленых езуітамі для мінералагічнага і прыродна-гістарычнага кабінетаў у ваколіцах Полацка.

З 1812 да 1820 г. калегіум рэфармуюць у Акадэмію езуітаў з усімі правамі ўніверсітэта. Штогод падчас публічных экзаменаў ладзіліся выстаўкі, а таленавітых вучняў адпраўлялі за мяжу на стажыроўку. У іх ліку — Малахоўскі і Нядзвецкі, чые ўласныя творы і копіі былі адпраўлены ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Сярод выпускнікоў Полацкай акадэміі езуітаў былі архітэктар У. Дзягілевіч, скульптар Р. Слізень, мастакі В. Ваньковіч, К. Бароўскі, Т. Бычкоўскі. Добрымі навыкамі малюнка і жывапісу валодалі выхаванцы полацкіх езуітаў — археолаг і этнограф К. Тышкевіч, пачынальнік новай беларускай літаратуры Я. Баршчэўскі. Яму належаць такія словы пра alma mater: «…там юначае ўяўленне пад клапатлівым вокам настаўнікаў найперш вучылася пазнаваць Творцу гэтага свету, Яго апеку над кожным стварэннем і захапляцца прыгажосцю неба і зямлі».

Слынны партрэтыст Валенцій Ваньковіч (1800–1842) вучыўся 6 гадоў у Полацкай акадэміі езуітаў, пасля яшчэ 6 гадоў у Віленскім універсітэце і 3 гады ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

Яго біёграф Смакоўскі засведчыў, што рашэнне стаць мастаком Валенцій прыняў у Полацку пад уплывам партрэтнага жывапісу С. Чаховіча. Ён адзначаў здольнасць мастака ствараць у малюнках натуршчыкаў падманлівы святлацень, які выклікаў жаданне дакрануцца да намаляванай постаці, а таксама ўменне «гераізаваць» мадэль, пераўтварыць яе ў алегорыю, узняць рэальнае да ідэальнага. Гэтае імкненне мастака прысутнічае на яго рамантычных партрэтах, напрыклад «Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг», «Апафеоз Напалеона» і партрэт паэта-рамантыка Тамаша Зана.

Пасля закрыцця Акадэміі езуітаў (1820) у яе будынках быў размешчаны пераведзены з Віцебска ліцэй піяраў, дзе распачаў свой творчы шлях стваральнік акадэмічнага нацюрморта, пейзажыст і партрэтыст Іван Хруцкі (1810–1885). Галоўнай рысай яго творчасці з'яўляецца паэтычны натуралізм пластычнай мовы. На усіх яго палотнах гучыць лірычная партыя дробязей, якія канцэнтруюць на сябе першапачатковую ўвагу і паступова ўводзяць у нетаропкі рытм сузірання усёй кампазіцыі. Узнёслая паэтыка пры выяўленні паўсядзённых рэалій у творчасці І. Хруцкага натхнялася ўзорамі ілюзорнасці езуіцкага барока, прайшла выпрабаванне і сцвярджэнне праз засваенне акадэмічнага метаду ў Пецярбургу і, урэшце, стала вынікам сацыяльнага заказу шляхты і ўніяцкага духавенства Беларусі. У гэтым асяродку, нягледзячы на прыніжанасць і збядненне, яшчэ памяталі пра велічнасць мастацтва папярэдняга часу, тут былі запатрабаванымі ўзвышаная рытміка нацюрмортаў і раскоша арыстакратычных строяў на партрэтах І. Хруцкага.

Полацкая мастацкая школа ўзнікла і развівалася паралельна з Віленскай і прайшла праз стылі барока (С. Чаховіч, партрэты дамініканцаў), класіцызм (Г. Грубер, Ф. Талстой, Р. Слізень), рамантызм і бідэрмеер (В. Ваньковіч, К. Бароўскі, Т. Бычкоўскі, І. Хруцкі). Адметнасцямі Полацкай школы з'яўляюцца культываванне рэлігійна-духоўнага светаўспрымання, цікавасць да рэчаіснасці і паэтызацыя штодзённасці.

*Людміла Вакар,*
кандыдат мастацтвазнаўства

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «ПОЛАЦКАЯ ШКОЛА»

**Ваньковіч Валенцій**
(1800, в. Калюжыцы Ігуменскага пав. Мінскай губ. — 1842, г. Парыж, Францыя)

*Жывапісец, прадстаўнік рамантызму.*

*Паходзіў са шляхецкага роду герба «Ліс». Дзіцячыя гады прайшлі ў в. Сляпянцы пад Мінскам. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме ў Г. Грубера, потым у Віленскім універсітэце (1818–1824) у Я. Рустэма. У гэты час пісаў партрэты сяброў — паэтаў А. Міцкевіча, Ф. Маеўскага, Т. Зана, А. Адынца (частка з іх захавалася).*

*З 1825 г. удасканальваўся ў жывапісе і малюнку ў Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Асаблівае сяброўства яго звязвала з А. Міцкевічам, партрэты якога ён пісаў шмат разоў, у іх ліку «Міцкевіч на скале Аю-Даг» (1828). Выканаў партрэт піяністкі М. Шымаshowскай (1828). За дыпломную работу «Подзвіг маладога кіеўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 г.» атрымаў малы залаты медаль (1828). З 1829 г. жыў у доме свайго брата Эдварда ў Мінску (дом захаваўся, цяпер філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі), у сваім маёнтку ў в. Малая Сляпянка каля Мінска. У гэты час сустракаўся з Я. Дамелем, М. Кулешам, С. Манюшкам, В. Дуніным-Марцінкевічам. Моцны ўплыў на мастака аказалі ідэі філосафа-містыка А. Тавяньскага. Напісаў «Партрэт жонкі Адэлі з дзецьмі» (1834), «Партрэт К. Пясецкага» (1836), «Партрэт А. Тавяньскага» (1837), «Напалеон каля вогнішча» (1834).*

*У 1839 г. выехаў у Германію, працаваў у Мюнхене, Дрэздэне, Берліне, займаўся капіраваннем палотнаў майстроў італьянскага Адраджэння. У 1841 г. В. Ваньковіч пераехаў у Парыж, жыў у доме А. Міцкевіча. Выканаў работы «Апафеоз Напалеона», «Маці Божая Вастрабрамская» (абедзве 1841), «Ессеhomo», «Аўтапартрэт» (абодва 1842). Памёр ад сухотаў у Парыжы ў 1842 г., пахаваны на могілках Манмартр-дэ-Сэн-Дэні.*

**Хруцкі Іван (Ян) Фаміч**
(1810, м. Ула Лепельскага пав. Віцебскай губ. — 1885, маёнтак Захарнічы Віцебскай губ.)

*Мастак-жывапісец. Працаваў у жанры партрэта, нацюрморта, пейзажа і інш.*

*Нарадзіўся ў сям'і ўніяцкага святара. Мастацкую адукацыю атрымаў у Полацкім калегіуме, пасля*

*ў Пецярбургу браў прыватныя ўрокі ў партрэтыста Д. Доу і адначасова быў вольным слухачом Імператарскай Акадэміі мастацтваў, якую скончыў у 1836 г.*

*У пецярбургскі перыяд сфарміравалася творчая манера мастака, склаўся жанравы дыяпазон работ, у якім дамінавалі партрэт і нацюрморт. У 1830–1840-я гг. напісаў творы «Дзяўчынка з садавінай», «Вінаград і садавіна», «Хлопчык у чырвонай кашулі з кошыкам з грыбамі», «Партрэт невядомай з кошыкам у руках» (усе 1830-я), «Партрэт маладой жанчыны з кошыкам» (1835), «Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай», «Партрэт мітрапаліта І. Булгака» (абодва 1838). У 1838 г. за карціны «Кветкі і плады» і «Старая, якая вяжа панчоху» І. Хруцкага ўзнагародзілі малым залатым медалём Акадэміі мастацтваў.*

*Па сямейных абставінах у 1840 г. мастак вярнуўся ў Беларусь, пасяліўся ў сваім маёнтку Захарнічы каля Полацка. З 1846 г. працаваў па заказах праваслаўнага архіепіскапа І. Сямашкі ў Вільне, пісаў абразы для царквы Трох віленскіх пакутнікаў, для іканастасаў Аляксандра-Неўскага сабора ў Коўне і царквы святога Іосіфа ў Трынопалі, выканаў 32 партрэты царкоўных дзеячаў для архіерэйскага дома ў Вільні, партрэты шматлікай сям'і І. Сямашкі, віленскай шляхты, краявіды Вільні і яе наваколля, стварыў некалькі сямейных партрэтаў («Партрэт сям'і Гамаліцкіх», «Сямейны партрэт», абодва 1850-я), выканаў кампазіцыі «Дзеці перад мальбертам» (1850-я), «У пакоі. Хлопчыкі, якія разглядаюць альбом з малюнкамі» (1854), «У пакоях сядзібы мастака І. Хруцкага Захарнічы Полацкага павета Віцебскай губерні» (1855), «Аўтапартрэт» (1884) і інш.*

*У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь захоўваецца 25 работ жывапісца.*

**Заранка Сяргей Канстанцінавіч**
(1818, в. Ляды (цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл.) — 1871, г. Масква)

*Жывапісец, партрэтыст.*

*Браў урокі жывапісу ў А. Венецыянава (з сяр. 1830-х гг.), пры яго падтрымцы паступіў вольнаслухачом у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў (1834), дзе вучыўся ў М. Вараб'ёва. Акадэмік з 1843 г., з 1856 г. — прафесар Маскоўскага вучылішча жывапісу і скульптуры.*

*Талент мастака праявіўся ў папулярных на той час інтэр'ерах вядомых будынкаў, выкананых з дакументальнай дакладнасцю: «Фельдмаршальская зала Зімовага палаца» (1836), «Малая тронная зала Зімовага палаца» (1837), «Зала Вучылішча правазнаўства з групамі настаўнікаў і выхаванцаў» (1840–1841), «Унутраны выгляд Петрапаўлаўскага сабора», «Унутраны выгляд Марскога Нікольскага сабора ў Пецярбургу» (абодва 1843). Падобнае стаўленне да натуры было ўласціва і партрэтным творам мастака, у якіх мадэль, акружэнне, аксесуары выяўляліся з выключным тэхнічным майстэрствам: «Партрэт сям'і Турчанінавых» (1848), «Скульптар Ф. П. Талстой» (каля 1850), «Партрэт княгіні М. В. Варанцовай» (1851), «Партрэт А. С. Танеева» (1853), «Партрэт А. Х. Абамелек-Лазаравай» (1854), «Партрэт цэсарэвіча Мікалая Аляксандравіча» (1866), «Партрэт цэсарэвіча Аляксандра Аляксандравіча» (1867), «Партрэт княгіні В. Э. Шувалавай» (1870) і інш.*

# Полоцкая художественная школа

Полоцкая художественная школа сформировалась в рамках образовательной системы иезуитов, которые в 1579 г. открыли в Полоцке коллегиум. Сначала художественные специальности не были оформлены как самостоятельные дисциплины, а развивались благодаря потребностям школьного театра и практике декорирования разнообразных религиозных процессий и праздничных церемоний. В XVIII в. в результате реформирования учебных программ был введен курс архитектуры, который преподавал Габриэль Ленкевич (1722–1798), полочанин, получивший образование в Риме. После возвращения на родину он занимался строительными работами иезуитского комплекса, в частности под его руководством был возведен купол восстановленного храма Св. Стефана.

В XVIII в. в Полоцке плодотворно развивается портретная живопись. При иезуитском и доминиканском монастырях были созданы портретные галереи. Они имели ретроспективный характер и содержали кроме изображений современников портреты известных деятелей католических орденов XVI–XVIII вв. В начале 1770-х гг. в Полоцке работал выдающийся художник позднего барокко Сымон Чехович. Он написал для коллегиума 44 работы, которые оказали большое влияние на развитие художественной культуры города. Благодаря им сложился канонический образ духовной особы, о чем свидетельствуют портреты доминиканских монахов из собрания Национального художественного музея Беларуси. Композиция проста: поясное изображение показано в развороте «три четверти», однако контраст черно-белой монашеской одежды и выразительная пластическая моделировка лица и рук создают динамичный образ. Экспрессия поддерживается ярким светом за головами монахов. Он не имеет явного источника и поэтому привносит в образ элементы сакральности. Возникает впечатление, что свет исходит от самих адептов ордена — проповедников, и это служит лучшей характеристикой духовной личности.

В конце XVIII в. в Полоцком коллегиуме формируется собрание европейской живописи, куда вошли картины С. Розы, К. Дольчи, портреты августейших особ Европы, прекрасные копии работ Рафаэля, Тициана, Рубенса. Все это вместе с книгами и другими ценностями привезли монахи после запрета в Европе с 1773 по 1814 г. иезуитского ордена. В это время Полоцк становится столицей Братства Иисуса, получившего временное убежище в православной Российской империи, к которой в 1772 г. отошли восточные города Беларуси. Среди прибывших знаменитостей был итальянский живописец и архитектор Каэтан Анджиолини.

В 1785 г. в Полоцк приезжает архитектор, математик, музыкант, филолог, медик Габриэль Грубер (1740–1805). Он существенно расширил границы художественного образования, создал для него великолепную базу, основал традицию иллюзорно-обманной эстетики, надолго ставшей главной особенностью Полоцкой школы. По его инициативе в 1788 г. был возведен новый учебный корпус, где разместились галерея, музей (первый на территории бывшей Речи Посполитой), обсерватория, архитектурный, физический, природно-исторический, минералогический, этнографический и другие кабинеты. Под руководством Г. Грубера было разработано множество подвижных механизмов, которые вызывали крайнее изумление при демонстрации на занятиях. Особенно впечатлял размещенный высоко в стенной нише бюст философа, способный вести беседу с посетителями на всех европейских языках. Добрую славу имел зал



Портрет Габриэля Грубера (1740–1805). Гравюра.


Г. Грубер. Эскиз декораций Полоцкой иезуитской академии. 1785 г.

архитектоники для рисования с уникальным собранием моделей древних памятников и коллекцией гравюр, которых насчитывалось более 2000 листов. Большие возможности для развития творческих способностей давало использование литографского камня, приобретенного для иллюстрирования изданий типографии. Стены галереи были украшены мозаиками, фресками и картинами, в том числе произведениями самого Г. Грубера, мастера перспективы и оптических эффектов. В этом убеждают его эскизы декораций с мотивами полоцкой архитектуры, которые хранятся в Историческом музее в Москве. Вслед за знаменитым архитектором и граверам Дж. Б. Пиранези Г. Грубер воссоздавал ордерные формы Античности в соответствии с дидактической поэтикой Просветительства. Затененные пропилеи первого плана олицетворяют метафору духовного преобразования каждого, кто захочет пройти через них, чтобы попасть в уставленный колоннами двор Науки и прогуляться по залитой солнечным светом галереи. Эффекты светотени и угловая перспектива передают динамику преодоления этапов избранного пути восхождения к Знаниям и Вере.

Г. Грубер увлекался миниатюрой по слоновой кости, что было перенято его учеником медальером и гравером Федором Толстым (1783–1873). Исследователь его творчества И. Свирида утверждает, что в ранних работах с фигурами натурщиков очевиден опыт срисовывания с барочных гравюр, а в акварелях «Вилла на озере и обгоревший край бумаги», «Тюльпан и прогоревшее пятно» (1796, Третьяковская галерея) — иллюзионистские эффекты. Вероятно, точный рисунок, насыщенный множеством деталей, был заимствован им из акварелей, сделанных иезуитами для минералогического и природно-исторического кабинетов в окрестностях Полоцка.

С 1812 по 1820 г. коллегиум реформируют в Академию иезуитов со всеми правами университета. Ежегодно во время публичных экзаменов проводили выставки, а талантливых учеников посылали за рубеж на стажировку. В их числе — Малаховский и Недзвецкий, чьи собственные произведения и копии были отправлены в Петербургскую академию искусств. Среди выпускников Полоцкой академии иезуитов были архитектор В. Дягилевич, скульптор Р. Слизень, художники В. Ванькович, К. Боровский, Т. Бычковский. Хорошими навыками рисунка и живописи обладали воспитанники полоцких иезуитов — археолог и этнограф К. Тышкевич, родоначальник новой белорусской литературы Я. Борщевский. Ему принадлежат такие слова об alma mater: «…там юношеское воображение под заботливым взглядом учителей

в первую очередь училось познавать Творца этого мира, Его опеку над каждым созданием и восхищаться красотой неба и земли».

Знаменитый портретист Валентий Ванькович (1800–1842) учился 6 лет в Полоцкой академии иезуитов, затем еще 6 лет в Виленском университете и 3 года в Петербургской академии художеств. Его биограф Смаковский отмечал, что решение стать художником Валентий принял в Полоцке под влиянием портретной живописи Ш. Чеховича. Он отмечал способность художника создавать в изображениях натурщиков обманчивую светотень, которая вызывала желание прикоснуться к нарисованной фигуре, а также умение «героизировать» модель, преобразовать ее в аллегорию, возвысить реальное до идеального. Это стремление художника присутствует на его романтических портретах, например «Адам Мицкевич на скале Аю-Даг», «Апофеоз Наполеона» и портрете поэта-романтика Томаша Зана.

После закрытия Академии иезуитов (1820) в ее зданиях был размещен переведенный из Витебска лицей пиаров, где начал творческий путь создатель академического натюрморта, пейзажист и портретист Иван Хруцкий (1810–1885). Главной чертой его творчества является поэтический натурализм пластического языка. На всех его полотнах звучит лирическая партия мелочей, которые концентрируют на себе внимание и постепенно вводят в неспешный ритм созерцания всей композиции. Утонченная поэтика при выявлении повседневных реалий в творчестве И. Хруцкого вдохновлялась примерами иллюзорности иезуитского барокко, прошла испытание и утвердилась через освоение академического метода в Петербурге и, наконец, стала результатом социального заказа шляхты и униатского духовенства Беларуси. В этой среде, несмотря на униженность и бедность, еще помнили о величии искусства прежних времен, здесь были востребованны возвышенная ритмика натюрмортов и роскошь аристократических одежд на портретах И. Хруцкого.

Полоцкая художественная школа возникла и развивалась параллельно с Виленской и прошла через стили барокко (С. Чехович, портреты доминиканцев), классицизм (Г. Грубер, Ф. Толстой, Р. Слизень), романтизм и бидермейер (В. Ванькович, К. Боровский, Т. Бычковский, И. Хруцкий). Особенностями Полоцкой школы являются культивирование религиозно-духовного мировосприятия, интерес к действительности и поэтизация повседневности.

*Людмила Вакар,*
кандидат искусствоведения

## КРАТКИЕ БИОГРАФИИ АВТОРОВ РАБОТ В ПОДРАЗДЕЛЕ «ПОЛОЦКАЯ ШКОЛА»

**Ванькович Валентий**
(1800, д. Калюжыцы Игуменского уезда Минской губ. — 1842, г. Париж, Франция)

*Живописец, представитель романтизма.*

*Происходил из шляхетского рода герба «Лис». Детские годы прошли в д. Слепянке под Минском. Учился в Полоцком иезуитском коллегиуме у Г. Грубера, потом в Виленском университете (1818–1824) у Я. Рустема. В это время писал портреты друзей — поэтов А. Мицкевича, Ф. Маевского, Т. Зана, А. Одынца (часть из них сохранилась).*

*С 1825 г. совершенствовался в живописи и рисунке в Санкт-Петербургской академии художеств. Особая дружба его связывала с А. Мицкевичем, портреты которого он писал много раз, в их числе «Мицкевич на скале Аю-Даг» (1828). Выполнил портрет пианистки М. Шимановской (1828). За дипломную работу «Подвиг молодого киевлянина при осаде Киева печенегами в 968 г.» получил малую золотую медаль (1828). С 1829 г. жил в доме своего брата Эдварда в Минске (дом сохранился, теперь филиал Национального художественного музея Беларуси), в своем имении в д. Малая Слепянка под Минском. В это время встречался с Я. Дамелем, М. Кулешей, С. Монюшко, В. Дуниным-Марцинкевичем. Сильное влияние на художника оказали идеи философа-мистика А. Тавяньского. Написал «Портрет жены Адели с детьми» (1834), «Портрет К. Песецкого» (1836), «Портрет А. Тавяньского» (1837), «Наполеон у костра» (1834).*

*В 1839 г. выехал в Германию, работал в Мюнхене, Дрездене, Берлине, занимался копированием полотен мастеров итальянского Возрождения. В 1841 г. В. Ванькович переехал в Париж, жил в доме А. Мицкевича. Выполнил работы «Апофеоз Наполеона», «Богоматерь Остробрамская» (обе 1841), «Eccehomo», «Автопортрет» (оба 1842).*

*Умер от туберкулеза в Париже в 1842 г., похоронен на кладбище Монмартр-де-Сен-Дени.*

**Хруцкий Иван (Ян) Фомич**
(1810, м. Улла Лепельского уезда Витебской губ. — 1885, имение Захарничи Витебской губ.)

*Художник-живописец. Работал в жанре портрета, натюрморта, пейзажа и др.*

*Родился в семье униатского священника. Художественное образование получил в Полоцком коллегиуме, затем в Петербурге брал частные уроки у портретиста Дж. Доу и одновременно был вольнослушателем Императорской Академии художеств, которую окончил в 1836 г.*

*В петербургский период сформировалась творческая манера художника, сложился жанровый диапазон работ, в котором доминировали портрет и натюрморт. В 1830–1840-е гг. написал произведения «Девочка с фруктами», «Виноград и фрукты», «Мальчик в красной рубашке с корзиной с грибами», «Портрет неизвестной с корзиной в руках» (все 1830-е), «Портрет молодой женщины с корзиной» (1835), «Портрет неизвестной с цветами и фруктами», «Портрет митрополита И. Булгака» (оба 1838). В 1838 г. за картины «Цветы и плоды» и «Старуха, вяжущая чулок чулок» И. Хруцкого наградили малой золотой медалью Академии художеств.*

*По семейным обстоятельствам в 1840 г. художник вернулся в Беларусь, поселился в своем имении Захарничи около Полоцка. С 1846 г. работал по заказам православного архиепископа И. Семашко в Вильнюсе, писал иконы для церкви Трех виленских мучеников, для иконостасов Александро-Невского собора в Каунасе и церкви святого Иосифа в Тринополе, выполнил 32 портрета церковных деятелей для архиерейского дома в Вильнюсе, портреты многочисленной семьи И. Семашко, виленской шляхты, пейзажи Вильны и ее окрестностей, создал несколько семейных портретов («Портрет семьи Гамалицких», «Семейный портрет», обе 1850-е), исполнил композиции «Дети перед мольбертом» (1850-я), «В комнате. Мальчики, рассматривающие альбом с картинками» (1854), «В комнатах усадьбы художника И. Хруцкого Захарничи Полоцкого уезда Витебской губернии» (1855), «Автопортрет» (1884) и др.*

*В Национальном художественном музее Республики Беларусь хранится 25 работ живописца.*

**Зарянко Сергей Константинович**
(1818, д. Ляды (ныне Дубровенский р-н Витебской обл.) — 1871, г. Москва)

*Живописец, портретист.*

*Брал уроки живописи у А. Венецианова (с сер. 1830-х гг.), при его поддержке поступил вольным слушателем в Петербургскую академию художеств (1834), где учился у М. Воробьева. Академик с 1843 г., с 1856 г. — профессор Московского училища живописи и скульптуры.*

*Талант художника проявился в популярных на то время интерьерах известных зданий, выполненных с документальной точностью: «Фельдмаршальский зал Зимнего дворца» (1836), «Малый тронный зал Зимнего дворца» (1837), «Зал Училища правоведения с группами учителей и воспитанников» (1840–1841), «Внутренний вид Петропавловского собора», «Внутренний вид Морского Никольского собора в Петербурге» (оба 1843). Подобное отношение к натуре было свойственно и портретным произведением художника, в которых модель, окружение, аксессуары проявлялись с исключительным техническим мастерством: «Портрет семьи Турчанинавых» (1848), «Скульптор Ф. П. Толстой» (около 1850), «Портрет княгини М. В. Воронцовой» (1851), «Портрет А. С. Танеева» (1853), «Портрет А. Х. Абамелек-Лазаревой» (1854), «Портрет цесаревича Николая Александровича» (1866), «Портрет цесаревича Александра Александровича» (1867), «Портрет княгини В. Э. Шуваловой» (1870) и др.*

# The art School of Polack

The art school of Polack was formed by the Jesuit educational system with opening a Collegium in 1579. At the very beginning, the artistic specialties were not the independent ones, but existed thanks to the needs of the school theatre and the practice of decorating festive ceremonies. In the 18th century as the result of curriculum reformation, a course of architecture was introduced and taught by Habryel Liankievič (1722–1798), a Polacker who received his education in Rome. He guided the erection of the dome for St. Stephan Church.

In the 18th century, portrait painting was developing fruitfully. Portrait galleries were organised at the Jesuit and Dominican monasteries. They were of a retrospective nature, besides the contemporaries, the outstanding persons of the Order from the 16th–17th centuries were shown. In the early 1770s, an outstanding artist of the late Baroque Symon Čachowicz worked in Polack. He created 44 works for the Collegium, which influenced the development of the art tradition. The canonical image of the holy person was formed and this can be seen in the portraits of Dominican monks in the collection of National Art Museum of the Republic of Belarus. The expression is shown through the contrast of black-and-white monastic robes and expressive modelling of the faces and hands. The bright light behind the monks' heads has no visible source which produces a sacred element into the painting — as if the light was streaming from the adherents of the Order of preachers and which is the best characteristic of a spiritual person.

At the end of the 18th century, a collection of European paintings was formed at the Polack Collegium including the works by S. Rosa, K. Dolča, the portraits of European royalty, the fine copies of Rafael's, Titian's, Rubens's works. All of them, together with the collections of books and other treasures were brought by the monks during the prohibition of the Jesuit Order in Europe in 1773–1814. Among those famous who arrived was the Italian painter and architect Kaetan Angiolini.

In 1785 an architect, mathematician, musician, philologist, and physician Gabriel Gruber (1740–1805) arrived in Polack. He essentially widened the limits of artistic education, created a fine basis for it, and started the tradition of illusory and deceptive aesthetics which for a long time became the main feature of the School of Polack. Gabriel Gruber initiated the introduction of a new corpus in 1788 where a gallery, a museum (the first in the *Rzechpospolita*), an observatory, as well as the architectural, physical, natural and historical, mineralogical, ethnographical and other offices were situated.

Gabriel Gruber guided the construction of many movable mechanisms which provoked extraordinary surprise. One especially impressive was the philosopher's bust which could speak to the visitors in any European language. There was a well-known hall of architectonics for painting where a unique collection of models of ancient monuments and the collection of engravings (2000 sheets) were kept. Great possibilities for students were provided with the lithography stone, acquired for illustrating the editions of the printing shop. The walls of the gallery were decorated with mosaics, frescos and paintings including the works of G. Gruber, the master of perspective and optical effects, which is proved by his sketches of decorations with Polack architectural motives.

G. Gruber enjoyed carving ivory miniatures, and this love of carving was inherited by his student, medallist and engraver Fyodor Tolstoy (1783–1873). As the researcher of his art I. Sviryda states, his early paintings with models demonstrate the experience of painting from Baroque engravings, while in his water-colouring the illusionist effects are striking. He is likely to have

learnt to be attentive to small details while observing the Jesuits making their sketches for the mineralogical, natural, and historical offices in the outskirts of Polack.

From 1812 till 1820, the Collegium was reformed into the Jesuit Academy which had all the rights of a university. Annually, along with the exams, exhibitions were organised and talented students were sent abroad. Among them there were Malahouski and Niadzvecki whose independent works and copies were sent to the St. Petersburg Academy of Arts. Architect U. Dziahilevič, sculptor R. Sliezen, artists W. Wankovicz, K. Barouski, T. Byckouski were among the Polack Academy of Jesuits alumni. The archaeologist and ethnographer K. Tyskievicz, as well as the founder of new Belarusian literature J. Barshcheuski, both being the students of Polack Jesuit Academy had good skills of drawing and painting. The latter said about his Alma mater: '…there, under the careful guidance of mentors, the young views learned to know the Creator of this world, his care about every creature, and to adore the beauty of the sky and the ground'.

The famous portraitist Walencij Wankowicz (1800–1842) studied for 6 years in Polack Jesuit Academy, then for 6 years in Vilna University and for 3 more years in St. Petersburg Academy of Arts. His biographer W. Smakouski proved that the decision to become an artist Walencij made in Polack influenced by the portraits by S. Čachowicz. Smakouski noted the artist's ability to create deceptive chiaroscuro in model paintings provoking the desire to touch the painted figure, as well as the ability to historicise the model transforming it into an allegory, elevating the real to the ideal. This orientation to the Upper world is striking in the romantic portraits of 'Adam Mickiewicz on the Ayu-Dag Mount' and 'Poet Tomasz Zan'.

After the Jesuit Academy was closed, the Piarists Liceum was transferred from Viciebsk and located in the Academy's former buildings. There the founder of academic still life, landscape-painter and portraitist Ivan Hrucki (1810–1885) started his art carreer. The sublime poetry in showing the most detailed realities in Ivan Hrucki's art, was inspired by the examples of Jesuit Baroque illusiveness. This poetry passed the test and was acknowledged through the adoption of an academic method in St. Petersburg and finally became popular with the gentry and the Uniate clergy in Belarus.

The School of Polack emerged and developed at the turn of the 18th–19th centuries and passed through the following styles: Baroque (S. Čachowicz, the portraits of the Dominicans), Classicism (G. Gruber, F. Tolstoy, R. Slizen), Romanticism and Biedermeier (W. Wankowicz, K. Barouski, T. Byčkouski, I. Hrucki). The particularity of the School of Polack is the cultivating of religious and spiritual understanding of the world, the interest to reality and the poeticising of the every-day life.

*Liudmila Vakar,*
candidate of Art Studies

## SHORT BIOGRAPHIES OF THE AUTHORS OF ART WORKS SHOWN IN 'THE POLACK SCHOOL' SUBSECTION

**Wańkowicz, Walenty**
(1800, Kalužica village in Ihumen (now Berazino) district of Minsk guberniya — 1842, Paris, France)

*Painter of Romanticism trend.*

*He studied at Polack Jesuit Collegium, then at Vilna University (1818–1524) in the class of Y. Rustem. W. Wańkowicz created the portraits of his friends, young poets A. Mickiewicz, F. Maewski, T. Zan, A. Odinec.*

*Since 1825, he studied at St. Petersburg Academy of Arts mastering his skills in drawing and painting. He was a close friend of A. Mickiewicz, painted a number of his portraits, including 'Adam Mickiewicz on the Ayu Dag Rock'.*

*In 1839, he moved to Germany where he copied the works by the Italian Renaissance masters. In1841, W. Wańkowicz moved to Paris where he lived with the Mickiewicz family. His last works were devoted to Napoleon. In 2000, the museum of the artist was established in Minsk in the house of the Wańkowicz family.*

**Hrucky (Khrutsky), Ivan (Jan)**
(1810, Ulla, now in the Bešankovici district, of Vicebsk guberniya — 1885, estate of Zakharnici of Vicebsk gubernya)

*Painter, a creator of Russian classic still life.*

*He was born into the family of a Uniate priest. He received artistic education at the Polack Collegium, then*

*took private lessons from famous artist J. Dowe in St. Petersburg and at the same time he was an extracurricular student at the St. Petersburg Academy of Arts which he graduated from in 1836.*

*After he obtained permission to copy paintings in the halls of the Hermitage, he painted still lives there ('A still life with a bird', 'A still life with a vase', 1832). In 1838, for his paintings 'Flowers and fruit' and 'An old woman knitting a sock' I. Hrucki was awarded a small gold medal of the Academy of Arts.*

*In twenty years (1830–1850) he created over 40 still life paintings, the landscapes of Yelagin island in St. Petersburg, the portraits of the famous people like book publisher I. Glazunov, Metropolitan I. Bulgak and others.*

*Since 1846, I. Hrucki painted on requests of the Orthodox archbishop Semashko icons for the church of the Three Martyrs of Vilna, icons for the iconostasis of the Alexandr Nevsky Church in Kovno, for the Church of St. Joseph in Trinopol, 32 portraits of clergy for the bishop's house in Vilna, portraits of numerous members of Semashko family, portraits of Vilna gentry, the landscapes of Vilna and its environs, created several family portraits, including 'The Portrait of the Hamalicki family', 'Family Portrait' and others.*

*The last known paintings by the artist were 'The Portrait of an Unknown Man' (1851), 'The Portrait of Adam Mickiewicz' (1855) made from the photograph and his only 'Self-Portrait' (1884).*

*I. Hrucki left around 100 paintings (25 of them are in the National Art Museum of the Republic of Belarus).*

**Zaranka (Zaranko), Sergey**

(1818, Liady village of Dubroŭna district in Vicebsk guberniya — 1871, Moscow)

*Portrait- painter.*

*He was a pupil of A. G. Venetsianov (1830s) and a student of St. Petersburg Academy of Arts (1834). He was academician since 1843, professor at Moscow School of Painting, Sculpture and Architecture since 1856. The works by S. Zaranka are distinguished by the precision of drawing and the portrait resemblance manifested in portraits of O. A. Petrov (1849), A. P. Tolstoy (1850), N. V. Sokurova (1854).*

*The artist painted over 100 works, including views of the St. Nicholas Cathedral, of the Throne Hall in Winter Palace and portraits of professors and students of the Imperial School of Law.*




***Невядомы мастак***

**Партрэт даміниканца Тамаша Ганусевіча.** Другая палова XVIII ст. Палатно, алей. 72×60 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Неизвестный художник***

**Портрет доминиканца Томаша Ганусевича.** Вторая половина XVIII в. Холст, масло. 72×60 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Unknown artist***

**Portrait of Dominican monk Tomasz Hanusiewicz.** Second half of the 18th century. Oil on canvas. 72×60 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Невядомы мастак***

**Партрэт дамініканца Казіміра Стравінскага.** Канец XVIII ст. Палатно, алей. 73×61 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Неизвестный художник***

**Портрет доминиканца Казимира Стравинского.** Конец XVIII в. Холст, масло. 73×61 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Unknown artist***

**Portrait of Dominican monk Kazimierz Strawinski.** Late 18th century. Oil on canvas. 73×61 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Ванькові Валенцій***

**Партрэт Тамаша Зана.** 1837–1839 г. Палатно, алей. 85,2×69 см
Карпаратыўная калекцыя Белгазпрамбанка

***Ванькович Валентий***

**Портрет Томаша Зана.** 1837–1839 г. Холст, масло. 85,2×69 см
Корпоративная коллекция Белгазпромбанка

***Wańkowicz, Walenty***

**Portrait of Tomasz Zan.** 1837–1839. Oil on canvas. 85.2×69 cm
Corporate collection of Belgazprombank



***Хруцкі Іван***

**Ружы і плады.** 1839 г. Палатно, алей. 48,8×66,3 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Хруцкий Иван***

**Розы и плоды.** 1839 г. Холст, масло. 48,8×66,3 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Hrucky, Ivan***

**Roses and fruit.** 1839. Oil on canvas. 48.8×66.3 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Хруцкі Іван***

**Партрэт хлопчыка ў саламяным капелюшы.** Канец 1830-х — пачатак 1840-х гг. Палатно, алей. 66×53 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Хруцкий Иван***

**Портрет мальчика в соломенной шляпе.** Конец 1830-х — начало 1840-х гг. Холст, масло. 66×53 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Hrucky, Ivan***

**Portrait of a boy with a straw hat.** Late 1830s — early 1840s. Oil on canvas. 66×53 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Заранка Сяргей*

**Партрэт Ф. П. Талстога.** Каля 1850 г. Палатно, алей. 133×103 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Зарянко Сергей*

**Портрет Ф. П. Толстого.** Около 1850 г. Холст, масло. 133×103 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Zaranka, Sergey*

**Portrait of F. P. Tolstoy.** C. 1850. Oil on canvas. 133×103 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus

# Мастакі — выпускнікі расійскіх школ Санкт-Пецярбурга і Масквы з Беларусі ў XIX – пачатку XX стагоддзя

У зборах дзяржаўных музеяў Беларусі захаваліся творы нямногіх з дзясяткаў жывапісцаў Беларусі, звязаных з расійскімі мастацкімі школамі ў Санкт-Пецярбургу і Маскве ў XIX і на мяжы XX ст.

Самай галоўнай мастацкай установай Расійскай імперыі была Акадэмія «трох самых знакамітых мастацтваў», заснаваная ў Санкт-Пецярбургу па ўказе імператрыцы Елізаветы Пятроўны ў 1757 г. Першым вучнем Імператарскай Акадэміі мастацтваў, які паходзіў з далучанага да Расіі ў канцы XVIII ст. Паўночна-Заходняга краю, лічыцца гравёр Міхал Падалінскі (1783–1856). Ён родам з-пад Оршы, вучыўся ў партрэтным класе акадэміі з 1802 па 1808 г. і атрымаў «атэстат першай ступені са шпагай».

У 1820-я гг. у Пецярбург «для далейшага ўдасканалення ў жывапісе і малюнку» на чатыры гады быў пасланы як стыпендыят Віленскага ўніверсітэта Валенцій Ваньковіч (1825–1829). Ён паспяхова вучыўся ў карыфея гістарычнага жывапісу акадэміка А. Я. Ягорава і прэтэндаваў пасля завяршэння навучання і атрымання вялікага залатога медаля на шасцігадовую замежную пенсіянерскую паездку (якую так і не змог ажыццявіць з-за недахопу сродкаў у Віленскага ўніверсітэта). Доўгі час у Беларусі не было ніводнага твора гэтага выдатнага мастака. На выстаўцы прадстаўлены «Партрэт Томаша Зана», 1839 (?), карпаратыўная калекцыя ААТ «Белгазпрамбанк»), напісаны ў час вучобы Ваньковіча ў Санкт-Пецярбургу.

В. Ваньковіч атрымаў ад Акадэміі мастацтваў званне «прызначанага» і збіраўся пісаць праграму на «сапраўднага акадэміка». Пасля заканчэння вучобы яго знаходжанне на радзіме ў Мінску было кароткатэрміновым: ён адразу з’ехаў за мяжу. Разам з В. Ваньковічам вучыліся ўраджэнцы краю К. Падчашынскі і І. Невіль.

У 1832 г. пасля паражэння лістападаўскага паўстання 1830 г. як рассаднік смуты і «гнездилище польского вольнодумства» быў зачынены Віленскі ўніверсітэт: многія яго выкладчыкі і студэнты падтрымалі паўстанцаў. Закрылася і кафедра прыгожых мастацтваў, якая дзейнічала пры ўніверсітэце каля 40 гадоў. Яшчэ раней указам Аляксандра I (1823) вучоба за мяжой была забароненая. Увага ўсіх жадаючых стаць мастакамі звярнулася да Пецярбурга. У 1830-я гг. XIX ст. рэзка ўзрасла роля Санкт-Пецярбургскай Імператарскай акадэмічнай школы. Так, у сілу гістарычных прычын Акадэмія мастацтваў у Санкт-Пецярбургу стала дамінантай мастацкай адукацыі на беларускіх землях з другой трэці XIX ст., хоць узаемадзеянне мастацкіх школ Вільні і Пецярбурга пачалося значна раней, у пачатку 1800-х.

Сталічны Пецярбург прыцягваў вялікімі перспектывамі — разнастайнасцю творчага жыцця, багатымі мастацкімі калекцыямі, магчымасцю імператарскіх заказаў і хуткага прызнання.

У 1827–1839 гг. у Акадэміі мастацтваў у майстэрні Максіма Вараб’ёва вучыўся ўраджэнец мястэчка Ула, што на Віцебшчыне, прызнаны майстар нацюрморта Іван Хруцкі, у 1840-я гг. — яго браты Андрэй і Яўстафій (апошні застаўся жыць у Пецярбургу). Традыцыю сямейнага навучання працягнулі былыя прыгонныя магілёўскіх уладанняў князёў

Любамірскіх браты Сяргей (1918–1870), Іосіф, Васіль і Мікалай Заранкі ў 1830-я, а ў 1850–1870-я гг. — ураджэнцы Ігуменскага павета Мінскай губерні браты Гараўскія: Апалінарый вучыўся ў акадэміі з 1851 па 1860 г., Іпаліт — з 1855 па 1864 г., Гілярый — у 1868–1873 гг.

У 1830–1840-я гг. у Акадэміі мастацтваў вучыліся Канстанцін Кукевіч (1818–1840) і Кандрат Карсалін (1809–1877) са Слуцка, у 1850-я — Нікадзім Сільвановіч (1834–1919) з-пад Маладзечна.

У першай палове XIX ст. у Расійскай імперыі сталі адчыняцца і іншыя прафесійныя навучальныя ўстановы, дзе можна было атрымаць мастацкую адукацыю. У 1843 г. у Маскве пачало дзейнічаць больш дэмакратычнае, чым Акадэмія мастацтваў, Вучылішча жывапісу і скульптуры пры Маскоўскім мастацкім таварыстве. Пасля далучэння да яго ў 1865 г. Маскоўскага палацавага архітэктурнага вучылішча гэтая навучальная ўстанова атрымала назву Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. Для жывапісцаў



Вітольд Бялыніцкі-Біруля. Фота мяжы XIX–XX стст.

і скульптараў курс навучання доўжыўся восем гадоў. Выпускнікі Маскоўскага вучылішча і Пецярбургскай акадэміі мастацтваў фактычна мелі аднолькавы статус, хоць прэстыж акадэміі быў невымерна вышэйшым. З 1856 г. у вучылішчы пачаў выкладаць выпускнік акадэміі ураджэнец вёскі Ляды Магілёўскай губерні Сяргей Заранка. Старэйшым прафесарам жывапісу ў вучылішчы ён заставаўся да смерці ў 1870 г. Партрэт віцэ-прэзідэнта Акадэміі мастацтваў Фёдара Талстога (1850, НММ РБ, аўтарскае паўтарэнне) лічыцца вяршыняй творчасці жывапісца.

У 1890-я гг. у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў І. Левітана, С. Каровіна, В. Паленава і І. Пранішнікава вучыліся ўраджэнец Магілёўшчыны Вітольд Бялыніцкі-Біруля і Станіслаў Жукоўскі з Гродзеншчыны, які адкрыў у Маскве ў 1907–1917 гг. прыватную школу жывапісу.

Добрую рэпутацыю мела ліберальная па правілах паступлення Дзяржаўная рысавальная школа пры Таварыстве заахвочвання мастакоў, заснаваная ў Пецярбургу ў 1839 г. Школа займалася падрыхтоўкай майстроў для мастацкай прамысловасці. Асабліва прывабным было тое, што вучняў прымалі круглы год і самых здольных з іх з часам вызвалялі ад платы за навучанне і нават давалі стыпендыі. З 1901 г. штогод дваіх выпускнікоў школы накіроўвалі ў замежныя камандзіроўкі. Дваццаць гадоў (з 1865 па 1885) у гэтай школе выкладаў Апалінарый Гараўскі, а з 1895 па 1916 г. — Тадэвуш Дмахоўскі з-пад Пінска. У 1906 г. дырэктарам школы стаў Мікалай Рэрых. У яго бытнасць у школу паступілі: у 1906 г. — Марк Шагал (1887–1985), у 1910-я — выпускнікі гродзенскай гімназіі, у будучым вядомыя беларускія графікі брат і сястра Аркадзь (1896–1941) і Зінаіда (1898–1993) Астаповічы.

Мала хто з выпускнікоў расійскіх школ у XIX ст. вяртаўся працаваць на радзіму. Прыкладам могуць служыць Іван Хруцкі, які апошнія дваццаць гадоў жыцця працаваў у сваім маёнтку Захарнічы пад Полацкам, і Міхаіл Падалінскі, які выкладаў у мінскай гімназіі аж да сваёй смерці.

Пасля заканчэння акадэміі многія з яе выхаванцаў бывалі на радзіме толькі наездамі, калі атрымлівалі заказ або часовую працу. Так, Іпаліт Гараўскі спачатку вучыў дзяцей генерала Дружынина ў Мінску, а пазней састаяў «куратарам» у маёнтку Трошчынскіх на Украіне. Апалінарый Гараўскі пісаў карціны для касцёлаў, Сільвановіч распісваў

праваслаўныя храмы ў Лідскім павеце. Незапатрабаваныя на радзіме, яны рана ці позна з'язджалі ў буйныя мастацкія цэнтры Расіі ці Каралеўства Польскага. Так, ураджэнцы Мінска мастакі Ціт Бычкоўскі, Казімір Мардасевіч, Леў Пігулеўскі трывала ўвайшлі ў гісторыю польскага мастацтва, а Ісаак Аскназій, Апалінарый Гараўскі, Вітольд Бялыніцкі-Біруля і Станіслаў Жукоўскі — рускага.

Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. (яму прысвечана карціна Іпаліта Гараўскага «Смерць паўстанца», 1863, НММ РБ) мясцовай каталіцкай інтэлігенцыі (акрамя духоўных асоб і лекараў) было забаронена займаць пасады ў краі. На ўсе вакантныя месцы, у тым ліку і выкладчыкаў малявання, запрашалі мастакоў з цэнтральных расійскіх губерняў. Зарплата настаўнікам і чыноўнікам, якія працавалі ў Паўночна-Заходнім краі, асаблівым распараджэннем урада падвойвалася. І беларускія губерні з 1830-х гг. прынялі цэлую армію прафесійных выкладчыкаў малявання. У іх ліку былі і каля 30 мастакоў з вышэйшай акадэмічнай адукацыяй. Многія з іх працавалі ў Беларусі толькі некалькі гадоў, іншыя затрымліваліся на дзесяцігоддзі. У Беларусі жылі, працавалі і ўдзельнічалі ў мясцовых выстаўках многія рускія жывапісцы — выпускнікі Акадэміі мастацтваў: А. Строкаў, М. Мікешын, М. Атрыганьеў, А. Мяшчэрскі, І. Шышкін, П. Сухадольскі, Г. Семірадскі, Л. Плахаў, І. Пахітонаў, М. Энгель, П. Сейтгоф, М. Неўраў, К. Савіцкі, Ю. Клевер і, нарэшце, вялікі рускі мастак І. Рэпін.

Звесткі аб выкладчыках-беларусах у гімназіях і вучылішчах гарадоў Беларусі адзінкавыя (напрыклад, няккласны мастак Я. Зяньковіч выкладаў у Гродне каля 20 гадоў). Можна ўявіць, колькі выхаванцаў былі навучаны маляванню, але вынікі іх творчай працы практычна невядомыя, карціны не захаваліся. І справа не толькі ў дзвюх войнах XX стагоддзя, якія прынеслі разбурэнні і незаменныя страты ў сферы культуры, хоць і ў гэтым таксама. Большасць мастакоў былі вымушанымі і часовымі жыхарамі чужога і непрыхільнага да іх края, яны, хоць і імкнуліся, але не змаглі ўтварыць няхай тонкі, але адукаваны пласт культурнага асяроддзя беларускіх гарадоў. Незайздросны быў лёс гэтай першай хвалі «мастацкіх місіянераў» — імёны іх згублены ў невядомасці.

Іншая хваля мастакоў — ураджэнцаў Беларусі, якія скончылі Акадэмію мастацтваў на мяжы XX ст., прынесла больш значныя вынікі.

У 1870–1880-я гг. у акадэміі вучыліся Антоній Васюцінскі (1858–1935) з Магілёва і мінчук Казімір Мардасевіч (1859–1923), Аляксандр Лукашэвіч (1865–?) з мястэчка Сянно Магілёўскай губерні, ураджэнец Гродзеншчыны Антоній Каменскі (1860–1923), Пінскага павета Тадэвуш Дмахоўскі (1852–1930), Зянон Ленскі (1864–1927), Генрых Вейсенгоф (1874–1922), Жазэфіна Пашкевіч з-пад Мінска.

Вялікая колькасць яўрэйскіх прозвішчаў сярод вучняў. Нягледзячы на трохпрацэнтны цэнз і цяжкасці з атрыманнем правоў на жыхарства ў Пецярбургу, у Акадэмію мастацтваў паступаюць Ілля Гінзбург (1859–1939) з Гродна, Ісаак Аскназій (1856–1903) з Дрысы, мінчане Борух Кацэнбоген (1864–1912) і Якаў Кругер (1869–1940), Майсей Маймон (1860–1923) з-пад Навагрудка, Леў Альпяровіч (1874–1913) з мястэчка Куранец Віленскай губерні, Майсей Сляпян (1872–1942) з Мінска і Сямён Абугаў (1877–1950) з мястэчка Беразіно Мінскай губерні і многія іншыя яўрэі Паўночна-Заходняга краю.

Прыход у акадэмію у 1894 г. перасоўнікаў і звязаная з гэтым дэмакратычная рэформа акадэміі зноў зрабілі яе прыцягальнай для таленавітай моладзі беларускіх зямель. У 1890-я гг. свае майстэрні ў акадэміі адкрываюць рэалісты І. Рэпін, У. Макоўскі, І. Шышкін, А. Куінджы.

У 1890-я гг. у майстэрні мастакоў-перасоўнікаў паступаюць Леў Альпяровіч, Якаў Кругер, Фердынанд Рушчыц, Майсей Сляпян. Усе яны вярнуліся на радзіму і працавалі для яе. Рушчыц, напрыклад, заснаваў у Вільні польскамоўны часопіс «Tygodnik Wileński» — аналаг пецярбургскага «Свету мастацтва» ў Паўночна-Заходнім краі. Гэты часопіс асвятляў падзеі мастацкага жыцця краю, прапагандаваў творчасць мясцовых жывапісцаў. Спецыяльны нумар часопіса быў прысвечаны артыстычнаму Мінску, дзе Рушчыц правёў гімназічныя гады. Па ініцыятыве мастакоў — выпускнікоў Акадэміі мастацтваў у беларускія гарады запрашалі так званыя паралельныя выстаўкі перасоўнікаў, якія знаёмілі з дасягненнямі рускага рэалізму, арганізоўвалі выстаўкі мясцовых мастакоў і аматараў. Выпускнікі Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу адкрылі першыя прыватныя школы малявання: у 1897 г. — Юрый Пэн у Віцебску, у 1904–1906 гг. у Мінску — Якаў Кругер, Якаў Кацэнбоген і Ігнат Яроменка. Праграмы гэтых навучальных устаноў былі пабудаваны па

схеме акадэмічных школ, адной з мэтаў іх працы была падрыхтоўка да паступлення ў Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу.

Нельга не прызнаць выключнай ролі Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў і Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства ў фарміраванні на працягу стагоддзя — з 1830 г. і, па сутнасці, да 1930-х гг. — мастацкага асяроддзя ў Беларусі. На тэрыторыі нашай краіны не існавала ніводнай вышэйшай навучальнай мастацкай установы да 1918 г., калі Марк Шагал адкрыў у Віцебску Вышэйшае народнае мастацкае вучылішча.

Акадэмія мастацтваў, а пасля і Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства былі галоўнымі мастацкімі ўстановамі велізарнай імперыі, цэнтрам прыцягнення таленавітай моладзі з усіх яе ўскраін. З яе выходзілі найбольш адукаваныя і прафесійныя мастакі, якія пазней стварылі аднастайны мастацкі асяродак на ўсіх ускраінах метраполіі на мяжы стагоддзяў, сфарміравалі эстэтычны густ насельніцтва, адкрылі маленькія філіялы акадэміі — прыватныя школы з распрацаванымі і зацверджанымі акадэміяй праграмамі навучання. Практычна ўсе губернскія і павятовыя гарады мелі выкладчыкаў з расійскай акадэмічнай адукацыяй. Гэта значна пашырыла магчымасці атрымання пачатковых ведаў у галіне выяўленчага мастацтва непасрэдна на месцах, дало шанс шматлікім мастакам з народа. Таксама значная і культуртрэгерская роля Акадэміі мастацтваў, якая ўключала ў рэчышча вялікадзяржаўнай рускай мастацкай традыцыі вучняў-«іншародцаў» дзякуючы цвёрдай рэгламентаванасці ў выбары сюжэтаў і тэм, кансерватыўнасці навучання і кананічнасці методык выкладання. Цікава, што пры такой татальнай мастацкай гегемоніі мастацтва беларускіх зямель пачатку XX ст. не засталося толькі правінцыйным варыянтам, залежнай функцыяй ад сталічных дасягненняў. Яно не паддалося акадэмічнай нівеліроўцы, а ў пачатку XX ст. змагло спарадзіць своеасаблівыя самабытныя феномены.

У выпускнікоў Акадэміі мастацтваў Юрыя Пэна вучыўся Марк Шагал, у Янкеля Кругера — Хаім Суцін, у Івана Трутнева — Язэп Драздовіч. Іх імёны шырока вядомыя. Пародокс у тым, што гэтыя мастакі ніколі не былі вучнямі акадэміі. Іх творчасць атрымала вядомасць шмат у чым дзякуючы таму, што яны змаглі пераадолець акадэмічныя каноны сваіх настаўнікаў, выявіўшы ў жывапісе свежае арыгінальнае бачанне свету, якое ўвабрала традыцыйную рэлігійную вобразнасць старых культурных цывілізацый народаў Беларусі.

*Надзея Усава,*
наменсік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце
Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «ШКОЛЫ САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА І МАСКВЫ»

**Карсалін Кандрат Ільіч**
(1809, г. Слуцк — не раней за 1883, г. Слуцк)

*Жывапісец, партрэтыст.*

*Першапачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у выкладчыка малюнка Слуцкай гімназіі Т. Гесэ. Паступіў вольным слухачом Імператарскую Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу (1836), па заканчэнні (1839) атрымаў званне свабоднага пазакласнага мастака. Залічаны на пасаду мастака 12-й Расійскай духоўнай місіі ў Пекіне, куды К. Карсалін прыбыў у 1840 г. і знаходзіўся каля трох гадоў.*

*Па прычыне хваробы вярнуўся ў Расію і пасяліўся ў Іркуцку (1843), затым зноў пераехаў у Санкт-Пецярбург (1846). Працягваў займацца жывапісам, пісаў абразы. У 1854 г. атрымаў званне акадэміка за партрэт оберсвятара арміі і флотаў Кутневіча. У час знаходжання ў Пецярбургу пісаў пейзажы, партрэты, карціны на біблейскія сюжэты, абразы. У 1879–1883 гг. жыў у Слуцку. З ліку захаваных работ: «Партрэт невядомага», «Партрэт К. Я. Дарагана», «Партрэт А. І. Дарагана», «Партрэт маладога чалавека», абразы «Нараджэнне Хрыста» і «Уваскрэсенне Хрыста» для царквы рускага консульства ў японскім горадзе Хакадаце, пейзаж «Від на загарадны палац у ваколіцах Пекіна».*

**Сіліванович Нікадзім Юр'евіч**
(1834, в. Цынцавічы Вілейскага павета Вілейскай губ. — 1919, в. Цынцавічы)

*Жывапісец, партрэтыст.*

*Нарадзіўся ў сям'і дзяржаўнага селяніна, што дазволіла атрымаць агульную адукацыю ў павятовым пяцікласным вучылішчы ў Маладзечне. У 1859 г.*




***Зайцаў Мацвей***

**Партрэт В. К. Бялыніцкага-Бірулі.** 1922 г. Палатно на кардоне, алей. 44×34,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Зайцев Матвей***

**Портрет В. К. Бялыницкого-Бирули.** 1922 г. Холст на картоне, масло. 44×34,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Zaytsaй, Matvei***

**Portrait of V. K. Bialynitsky-Birulya.** 1922. Oil on canvas laid on cardboard. 44×34.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Астаповіч-Бачарава Зінаіда*

**Аўтапартрэт.** 1923 г. Фанера, алей. 44,5×33,4 см
Калекцыя Е. Д. Смірновай

*Астапович-Бочарова Зинаида*

**Автопортрет.** 1923 г. Фанера, масло. 44,5×33,4 см
Коллекция Е. Д. Смирновой

*Astapovich-Bocharova, Zinaida*

**Self-portrait.** 1923. Oil on plywood. 44.5×33.4 cm
Collection of E. D. Smirnova



***Сляпян Майсей***

**Клябанскі млын.** 1925 г. Фанера, палатно, алей. 46,5×34,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Слепян Моисей***

**Клебанская мельница.** 1925 г. Фанера, холст, масло. 46,5×34,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Sliepian, Moisie***

**The Kleban mill.** 1925. Oil on canvas laid on plywood. 46.5×34.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus

# МАСТАЦКІЯ ШКОЛЫ НА МЯЖЫ XIX–XX СТАГОДДЗЯЎ

## ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ ШКОЛЫ НА РУБЕЖЕ XIX–XX ВЕКОВ

## THE ART SCHOOLS AT THE TURN OF THE 19th AND 20th CENTURIES



# Мастацкія школы Мюнхена. 1880–1900-я гг.

На працягу XIX ст. мастацкія школы Германіі прыцягвалі ўвагу прафесараў Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. У сярэдзіне XIX ст. у Расіі лічылася прэстыжным удасканальваць веды ў малюнку і жывапісе не толькі ў Італіі, але і ў Дзюсельдорфе, дзе існавала вядомая школа пейзажнага жывапісу. Але ўжо праз некалькі дзесяцігоддзяў Дзюсельдорф саступіў пальму першынства Мюнхену з яго Каралеўскай акадэміяй выяўленчых мастацтваў і шматлікімі прыватнымі школамі, якія ўяўлялі сабой атэлье-майстэрні. Пад кіраўніцтвам вядомых і прызнаных мастакоў там ішло навучанне, заснаванае на новых прынцыпах стаўлення да рэчаіснасці. У Мюнхене ў другой палове XIX ст. паспяхова суіснавала традыцыйная акадэмічная і наватарская мастацкая адукацыя прыватных школ. «Адпраўляйцеся ў Мюнхен, і Вы адчуеце, што значыць жыць і дыхаць мастацтвам, што значыць народ, якога займае карціна, рэльеф, помнік… Прытым у Мюнхене таннае ўтрыманне; мастакі жывуць не раскошна, але для іх малога хапае на многае», — з захапленнем пісаў у той час ананімны французскі крытык пра творчую атмасферу ў Мюнхене.

Каралеўская акадэмія выяўленчых мастацтваў была адкрыта ў 1770 г. і хутка стала адной з самых вядомых навучальных устаноў Еўропы. У ёй выкладалі такія вядомыя майстры, як Петэр Карнэліус, Вільгельм фон Каўльбах, Карл Тэадор фон Пілоці, Франц фон Штук. «Вывучэнне і абажанне старажытнасці, руплівае пераймание старажытных твораў» — так абазначыў сучаснік прынцыпы навучання ў акадэміі, накіраваныя на вывучэнне багацця не толькі старога нямецкага, але і сусветнага мастацтва. У той час крытыкі падкрэслівалі добрую вывучку і разам з тым недахоп праўдзівай арыгінальнасці ў творчасці яе вучняў.

У 1880 г. у Каралеўскую акадэмію выяўленчых мастацтваў паступіў сын слонімскага рабіна, васямнаццацігадовы Ізраіль Крупене. Твораў мастака, як і звестак з біяграфіі, захавалася вельмі мала. Два прадстаўленыя на выстаўке партрэты — І. І. Поляка і Э. Х. Поляк — у 1920-я гг. былі перададзены іх нашчадкамі ў Беларускі дзяржаўны музей. Напісаныя са скрупулёзнай, амаль фатаграфічнай дакладнасцю, яны дэманструюць уважлівае стаўленне маладога І. Крупене да вывучэння твораў старых нямецкіх майстроў у Мюнхенскай Старой пінакатэцы і цудоўнае валоданне тэхнікай лесіровачнага жывапісу. «Натуральная школа» другой паловы XIX ст. патрабавала дэманстрацыі абсалютнага майстэрства ў перадачы партрэтнага падабенства, аб'ёмнага, ажно да ілюзорнасці, супадзення, віртуознага малюнка фактур любых матэрыялаў. Іншыя нешматлікія творы І. Крупене вядомыя толькі па рэпрадукцыях, з чаго можна зрабіць выснову, што ён альбо змяніў род дзейнасці, альбо, пражыўшы нядоўгае жыццё, памёр у невядомасці.

З 1880-х гг. устарэлы ўзровень кансерватыўнай акадэмічнай адукацыі, якую давала Акадэмія мастацтваў у Санкт-Пецярбургу, перастаў задавальняць маладых мастакоў з Беларусі. Іх пачалі цікавіць прыватныя школы Еўропы, якія адрозніваліся больш прагрэсіўнымі праграмамі навучання, працай з натуры, магчымасцямі захавання творчай індывідуальнасці. Менавіта ў гэты час у Мюнхене адкрылася большасць прыватных школ-майстэрань. Самымі вядомымі з іх былі школа польскага мастака Ё. Бранта (заснавана ў 1866 г.), венгра Ш. Халошы (заснавана ў 1886 г.) і славенца А. Ажбе (заснавана ў 1891 г.).

У навучальных установах Мюнхена займаліся выхадцы з розных краін, у тым ліку і з беларускіх зямель Расійскай імперыі, складваліся



Антон Ажбе. Фота 1904 г.



У майстэрні А. Ажбе. Фота мяжы XIX–XX стст.

інтэрнацыянальныя і нацыянальныя суполкі мастакоў, што канкуравалі адна з адной, але давалі магчымасць шырокага выбару ў навучанні.

У 1889 г. атрымалі стыпендыі і з'ехалі ў Мюнхен з Пецярбурга вучні акадэміі Генрых Вейсенгоф, Зянон Ленскі, з Кіева — вучань мастацкага вучылішча Абрам Маневіч. Ленскага і Вейсенгофа прыцягнулі школы польскіх жывапісцаў — баталіста Ёзафа Бранта і майстра жанравых сцэн Альфрэда Веруш-Кавальскага.

Ёзаф Брант быў знакавай асобай польскай калоніі ў Мюнхене. Выпускнік Мюнхенскай каралеўскай акадэміі, ён апяваў жыццё польскай шляхты, звяртаючыся да гісторыі сваёй айчыны, да падзей, героямі якіх былі казакі, татары, бунтоўная шляхта. Яго батальныя гістарычныя карціны карысталіся папулярнасцю ў польскім мастацкім асяроддзі. У 1878 г. ён стаў членам і ганаровым прафесарам Баварскай акадэміі прыгожых мастацтваў.

З афіцыйнай атмасферы халоднага Пецярбурга маладыя мастакі трапілі ў кола сяброў і аднадумцаў, занятых пошукамі новых сродкаў і прыёмаў жывапісу. Школа Бранта раскрывала зусім іншыя далягляды. Ад сентыменталізму афіцыйных нямецкіх школ яна адрознівалася рэалізмам і прыўзнятай эмацыйнай настроенасцю.

У майстэрні Ё. Бранта на мяжы стагоддзяў некалькі гадоў працаваў ураджэнец Міншчыны, былы вольны слухач майстэрні баталістаў Багдана Вілевальдэ ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Зянон Ленскі. Жывапіс шматфігурных палотнаў самога Бранта ўражваў, але не стаў для Ленскага ўзорам: яго талент быў больш сціплы, камерны. Гасціннаму і добразычліваму мэтру, напэўна ж, прыйшоўся да душы малады незалежны жывапісец: напрыканцы 1880-х гг. ён напісаў рамантычны партрэт Ленскага — элегантнага дэндзі ў зграбным адзенні з трагічным, амаль «байранаўскім» позіркам. Такога мастака — больш, чым баталіі Бранта — павінны былі прыцягваць творы іншага «мюнхенца»: стыльныя інтэр'еры і таямнічыя сімвалісцкія

жанры польскага жывапісца прафесара Мюнхенскай акадэміі мастацтваў Уладзіслава Чахурскага, які з 1879 г. жыў у Мюнхене. Нездарма пазней, ужо на радзіме, у сваёй вёсачцы Татары каля Ракава ён пабудаваў невялічкі палац у стылі Людовіка XV паводле праекта гэтага вядомага мастака-эстэта.

У беларускіх музеях знаходзяцца чатыры творы Ленскага з фамільнай партрэтнай галерэі, сярод якіх вылучаюцца жывапісныя партрэты яго сястры Эльжбеты Ленскай, у замужжы Васілеўскай, і маці, Таіды Ленскай з Карказовічаў.

Польскі крытык Генрых Пянткоўскі вельмі дакладна вызначыў стыль Ленскага як «дасканалую прастату і дасканалую непрэтэнцыёзнасць». Створаныя ім вобразы сястры і маці інтэлігентныя, поўныя абаяння і прастаты. Каларыт партрэтаў амаль манахромны, вытрыманы ў строгай зеленавата-вохрыстай гаме.

Для Зянона Ленскага, сына багатага землеўласніка, аднаго з вельмі нямногіх прадстаўнікоў «чыстага мастацтва», творчасць была, відавочна, духоўным прытулкам, а не славалюбнай арэнай або спосабам заробку. Таму ён рэдка выстаўляў свае працы і амаль ніколі іх не прадаваў.

Інакш склалася жыццё ўраджэнца Мсціслава Абрама Маневіча. У гэтым невялікім беларускім мястэчку ён пражыў да 20 гадоў і, мяркуючы па назвах работ, шмат пісаў з натуры («Сінагога ў мястэчку», «Мая халодная радзіма»). Пасля заканчэння Кіеўскага мастацкага вучылішча А. Маневіч атрымаў стыпендыю барона Г. Гінцбурга для трохгадовай замежнай стажыроўкі і з’ехаў у Германію, дзе паступіў у Мюнхенскую акадэмію выяўленчых мастацтваў (скончыў яе ў 1907 г.). З 1895 г. там выкладаў вядомы мастак мадэрну сімваліст Франц фон Штук, стыль якога, вытанчаны, трохі зламаны, паўплываў на светаўспрыманне А. Маневіча. Не абышло маладога жывапісца і захапленне постімпрэсіяністамі. Менавіта зліццё некалькіх стылістычных уплываў — мадэрну, сімвалізму, экспрэсіянізму і постімпрэсіянізму — дало феномен Маневіча.

Пасля завяршэння навучання ў акадэміі А. Маневіч правёў персанальную выстаўку ў Мюнхене ў галерэі Kunst Verein, дзе прадставіў працы, якія мелі вялікі поспех: А. Луначарскі назваў жывапісца «бурным, моцным мастаком», Давід Бурлюк называў яго палотны «самацветамі», а самога майстра — «музыкантам фарбаў».



Акадэмія вытанчаных мастацтваў у Мюнхене.
Фота 2000-х гг.

Дэкаратыўным экспрэсіянізмам адрозніваецца карціна «Стары Віцебск», якую можна датаваць пачаткам 1920-х гг.

Але найбольш за ўсіх з Мюнхенам быў звязаны ўраджэнец вёскі Высокае Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні Роберт Генін. У 1902 г. пасля заканчэння Адэскага мастацкага вучылішча ён адправіўся на вучобу ў Мюнхен у школу славенца А. Ажбе. У ёй вучылі маляваць не натуру ўвогуле, а канкрэтнага чалавека па пэўнай аўтарскай методыцы. Вялікае значэнне ў школе надавалася вывучэнню анатоміі чалавечага цела, лічылася абавязковым прытрымлівацца прынцыпу прывядзення яго складанай формы да простых элементаў — шара, цыліндра, куба, пасля чаго вялася дэталізацыя, мадэліроўка больш дробнымі плоскасцямі. А. Ажбе вучыў, што форма і тон непарыўна звязаны, і бачыў шлях канкрэтызацыі формы ў выяўленні яе канструкцыі з дапамогай святлоценявых адносін.

І хоць Р. Генін, расчараваны вучобай у Мюнхене ў А. Ажбе, у 1904 г. выехаў у Парыж, гэтая школа моцна паўплывала на яго раннюю творчасць, асабліва ў галіне малюнка. У 1906 г. ён вярнуўся ў Мюнхен, дзе ажно да 1919 г. як карыкатурыст супрацоўнічаў з мясцовым штотыднёвікам «Jugend». Разам з Паўлем Клее ён увайшоў у групу «Зема», пазней, у 1914 г., стаў адным з заснавальнікаў групы «Новы Мюнхенскі Сецэсіён».

Менавіта тут выходзіць у свет альбом яго літаграфій «Фігурныя кампазіцыі» (1912). Гэтыя раннія працы мастака выяўляюць усю разнастайнасць творчых пошукаў і захапленняў майстра.

Вядомасць прыйшла да Геніна ў Мюнхене. У 1913 г. ён падпісаў эксклюзіўны дагавор з вядомым галерыстам Генрыхам Танхаўзерам, паводле якога ўсе гатовыя і ўсе будучыя карціны перадаваліся ў яго галерэю. У гэтым жа годзе адбылася персанальная выстаўка мастака, пасля якой работы Р. Геніна сталі купляць амерыканскія калекцыянеры. У 1920-я гг. ён перабраўся ў Берлін, набыў домік у гарах Швейцарыі.

Мастак-ідэаліст, захоплены сацыялістычнымі ідэямі і жаданнем адчуць «радасць калектыўнай працы», у 1937 г. ён вярнуўся са шчаслівай Швейцарыі ў СССР. Ілюзіі развеяліся амаль адразу. Замоўленую яму фрэску «Збор ураджаю» у павільёне на ВДНГ, якую ён пісаў з захапленнем, не прыняў мастацкі савет. Яна была замазана вапнай. Жыццё мастака скончылася трагічна: у пачатку вайны ён пакончыў з сабой, прыняўшы вялікую дозу морфію.

У пачатку ХХ ст. Мюнхен з яго школамі стаў толькі прэлюдыяй да мастацкага Парыжа, неабходным этапам адыходу ад акадэмізму, засваення новых тэм і матываў, разумення адлюстравання формы ў малюнку і жывапісе. Многія майстры, выхадцы з Беларусі, — З. Ленскі, Р. Генін, Г. Вейсенгоф — з’ехалі з Мюнхена дзеля парыжскіх акадэмій, у якіх лунаў дух наватараў: імпрэсіяністаў, постімпрэсіяністаў і мадэрністаў. Менавіта там яны працягнулі сваё навучанне і сфарміраваліся як майстры жывапісу.

У гісторыі мастацкіх сувязей Беларусі і Германіі «мюнхенская» старонка — адна з самых цікавых, яскравых і шматпланавых. Даследчыкаў тут чакае яшчэ шмат адкрыццяў.

*Надзея Усава,*
намеснік генеральнага дырэктара па навуковай рабоце
Нацыянальнага мастацкага музея
Рэспублікі Беларусь

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «МАСТАЦКІЯ ШКОЛЫ МЮНХЕНА»

**Генін Роберт Львовіч**
(1884, в. Высокае Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. — 1941, г. Масква, Расія)

*Жывапісец, графік.*

*Нарадзіўся ў сям’і крамніка. Вучыўся ў Віленскай народнай мастацкай школе акадэміка І. Трутнева, у Адэскім рысавальнай вучылішчы Таварыства прыгожых мастацтваў імя Вялікага князя Уладзіміра Аляксандравіча. У 1902 г. адправіўся на вучобу ў Мюнхен ў школу А. Ажбе. Пазней пераехаў у Парыж, жыў у камуне мастакоў «Вулей» (1904–1905). У 1904–1906 гг. вучыўся ў Акадэміі Р. Жуліяна і на факультэце сацыяльных навук у Сарбоне, потым вярнуўся ў Мюнхен, дзе ўваходзіў у аб’яднанне «Sema». Удзельнік Восеньскага салона (1907).*

*Сумесна з М. Фінгештэнам выдаў цыкл гравюр сухой іголкай «З берлінскіх прытонаў» (1919). У 1935 г. у галерэі «Ліліенфельд» прайшла персанальная выстаўка.*

*У 1936 г. вярнуўся ў СССР, член МАССМ (Маскоўскі абласны саюз савецкіх мастакоў) з 1937 г. У верасні 1941 г., пасля пачатку вайны з Германіяй, спрабаваў запісацца ў апалчэнне. Памёр у Маскве.*

*Творы захоўваюцца ў Мастацкім музеі Рэгенсбурга, Берлінскай галерэі, Базельскім мастацкім музеі, Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, прыватных калекцыях Германіі, Швейцарыі, Францыі, Галандыі, ЗША, Расіі і Беларусі.*

**Каменьскі Антон Іосіфавіч**
(1860, в. Ярылаўка Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. — 1933, г. Варшава, Польшча)

*Жывапісец, ілюстратар, графік.*

*Вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1882–1885). У 1886 г. з-за фінансавых цяжкасцей спыніў вучобу і з’ехаў у Ярылаўку. З 1890 г. жыў у Варшаве, дзе супрацоўнічаў з часопісам «Ілюстрацыйны штотыднёвік».*

*У 1891 г. пераехаў у Парыж, вучыўся жывапісу і скульптуры ў Акадэміі Р. Жуліяна. Яго ілюстрацыі публікуюцца ў «Le Monde Illustre» і лонданскай «Графіцы». У 1894 г. вярнуўся ў Варшаву. Некалькі разоў наведваў Парыж. Там жа правёў гады Першай сусветнай вайны. У 1919 г. паступіў салдатам у польскую армію Ю. Халера, з натхненнем сустрэў нацыянальнае адраджэнне Польшчы.*

*Памёр у Варшаве. Пахаваны на варшаўскіх могілках Старыя Павонзкі.*

*У мастацкай спадчыне значная колькасць графічных малюнкаў, акварэлей, карыкатур. Асабліва*

*вылучаецца серыя, якая склала альбом «Нарысы Белавежскай пушчы» (1912). Работы А. Каменскага выстаўляліся ў Парыжы, Варшаве, Вільні.*

**Крупене Ізраіль Абрамавіч**
(1862 (?), г. Слонім — пасля 1887)

*Сын слонімскага рабіна Абрахама (Іцхрока) Крупене. З 1880 г. вучыўся ў Мюнхенскай акадэміі мастацтваў. Звестак пра далейшае жыццё і творчасць не маецца.*

*Вядомыя ў рэпрадукцыях дзве яго карціны — «Мінулае» і «Майсей». У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь захоўваюцца тры яго творы: партрэты пары Поляк (1887) і «Партрэт невядомай» (1884).*

**Ленскі Зянон Аляксандравіч**
(1864, маёнтак Сула Мінскай губ. — 1927, г. Варшава, Польшча)

*Жывапісец, партрэтыст, пейзажыст.*

*Вучыўся ў Віленскай гімназіі (1875–1883), затым у Горным інстытуце і ў Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу, дзе атрымаў вялікі і малы срэбраныя медалі за натурныя пастаноўкі, у прыватнай школе малявання Брандта ў Мюнхене. У 1890 г. вярнуўся ў Расію. Выстаўляў свае працы ў Мінску, Пецярбургу, Кракаве, Варшаве.*

*У Парыжы захапіўся калекцыянаваннем, асабліва прадметамі французскага мастацтва, уваходзіў у назіральны савет Таварыства аховы помнікаў.*

*Пахаваны ў родавым маёнтку ў Суле.*

*У беларускіх музеях знаходзяцца творы Ленскага з фамільнай партрэтнай галерэі, сярод якіх партрэты яго сястры Эльжбеты Ленскай (1903) і маці.*

**Маневіч Абрам Аншэлавіч**
(1881, г. Мсціслаў — 1942, г. Нью-Ёрк)

*Мастак-мадэрніст, графік.*

*Да 20 гадоў жыў у Мсціславе. Пераехаў у Кіеў, дзе паступіў у Кіеўскае мастацкае вучылішча. Пазней паступіў у Мастацкую акадэмію ў Мюнхене, якую скончыў у 1907 г. Першыя работы, сярод якіх шмат краявідаў роднага горада, пісаў у стылі мюнхенска-венскага кірунку мадэрнізму («Сінагога ў мястэчку», «Мая халодная радзіма»). У 1913 г. з поспехам прайшла выстаўка твораў Маневіча ў парыжскай галерэі Д. Руэля. Пасля гэтага мастак спрабаваў пісаць у стылі кубізму, што дапамагло выпрацаваць уласную выяўленчую манеру. У 1922 г. пераехаў з Мінска ў Лондан, а затым у ЗША, дзе пражыў да канца жыцця. Да ліку людзей, якім падабаліся творы Маневіча, належаў А. Эйнштэйн.*

*Карціны знаходзяцца ў Эрмітажы, Люксембургскім музеі ў Парыжы, Ліёнскім мастацкім музеі, Бруклінскім музеі ў Нью-Ёрку і інш.*

# Художественные школы Мюнхена. 1880–1900-е гг.

На протяжении XIX ст. художественные школы Германии привлекали внимание профессоров Императорской Академии художеств в Петербурге. В середине XIX в. в России считалось престижным совершенствоваться в рисунке и живописи не только в Италии, но и в Дюссельдорфе, где существовала известная школа пейзажной живописи. Но уже спустя несколько десятилетий Дюссельдорф уступил пальму первенства Мюнхену с его Королевской академией изобразительных искусств и многочисленными частными школами, представлявшими собой ателье-мастерские. Под руководством известных и признанных художников там шло обучение, основанное на новых принципах отношения к действительности. В Мюнхене во второй половине XIX в. успешно сосуществовало традиционное академическое и новаторское художественное образование частных школ. «Отправляйтесь в Мюнхен, и Вы почувствуете, что значит жить и дышать искусством, что значит народ, которого занимает картина, рельеф, памятник… Притом в Мюнхене дешево содержание; художники живут не роскошно, но для них малого хватает на многое», — с восхищением писал в то время анонимный французский критик о творческой атмосфере в Мюнхене.

Королевская академия изобразительных искусств была открыта в 1770 г. и скоро стала одним из известнейших учебных заведений Европы. В ней преподавали такие известные мастера, как Петер Корнелиус, Вильгельм фон Каульбах, Карл Теодор фон Пилоти, Франц фон Штук. «Изучение и обожание древности, ревностное подражание древним произведениям» — так определил современник принципы обучения в академии, направленные на изучение богатств не только старого немецкого, но и мирового искусства. В то время критики подчеркивали хорошую выучку и вместе с тем недостаток истинной оригинальности в творчестве ее учеников.

В 1880 г. в Королевскую академию изобразительных искусств поступил сын слонимского раввина, восемнадцатилетний Израиль Крупене. Произведений художника, как и сведений из биографии, сохранилось очень мало. Два представленных на выставке портрета — И. И. Поляка и Э. Х. Поляк — в 1920-е гг. были переданы их потомками в Белорусский государственный музей. Написанные со скрупулезной, почти фотографической точностью, они демонстрируют внимательное отношение молодого И. Крупене к изучению произведений старых немецких мастеров в Мюнхенской Старой пинакотеке и превосходное владение техникой лессировочной живописи. «Натуральная школа» второй половины XIX в. требовала демонстрации абсолютного мастерства в передаче портретного сходства, объемного, вплоть до иллюзорности, подобия, виртуозного изображения фактур любых материалов. Другие немногочисленные произведения И. Крупене известны только по репродукциям, из чего можно сделать вывод, что он либо сменил род деятельности, либо, прожив недолгую жизнь, умер в безвестности.

С 1880-х гг. устаревшее консервативное академическое образование, которое давала Академия художеств в Санкт-Петербурге, перестало удовлетворять молодых художников из Беларуси. Их начали интересовать частные школы Европы, отличавшиеся более прогрессивными программами обучения, работой с натуры, возможностями сохранения творческой индивидуальности. Именно в это время в Мюнхене открылось большинство частных школ-мастерских. Самыми известными

из них были школа польского художника Й. Брандта (основана в 1866 г.), венгра Ш. Холлоши (основана в 1886 г.) и словенца А. Ажбе (основана в 1891 г.).

В учебных заведениях Мюнхена занимались выходцы из разных стран, в том числе и из белорусских земель Российской империи, складывались интернациональные и национальные сообщества художников, конкурировавшие друг с другом, но дававшие возможность широкого выбора в обучении.

В 1889 г. получили стипендии и уехали в Мюнхен из Петербурга ученики академии Генрих Вейсенгоф, Зенон Ленский, из Киева — ученик художественного училища Абрам Маневич. Ленского и Вейсенгофа привлекли школы польских живописцев — баталиста Йозефа Брандта и мастера жанровых сцен Альфреда Веруш-Ковальского.

Йозеф Брандт был знаковой личностью польской колонии в Мюнхене. Выпускник Мюнхенской королевской академии, он воспевал жизнь польской шляхты, обращаясь к истории своего отечества, к событиям, героями которых были казаки, татары, вечно бунтующая шляхта. Его батальные исторические картины пользовались популярностью в польской художественной среде. В 1878 г. он стал членом и почетным профессором Баварской академии изящных искусств.

Из официальной атмосферы холодного Петербурга молодые художники попали в круг друзей и единомышленников, занятых поисками новых средств и приемов живописи. Школа Брандта открывала совсем иные горизонты. От сентиментализма официальных немецких школ она отличалась реализмом и приподнятой эмоциональной настроенностью.

В мастерской Й. Брандта на рубеже веков несколько лет работал уроженец Минщины, бывший вольный слушатель мастерской баталистов Ю. Виллевальде в Петербургской академии художеств Зенон Ленский. Живопись полотен самого Брандта впечатляла, но не стала для Ленского примером для подражания: его талант был более скромным, камерным. Приветливому и доброжелательному мэтру, наверное, пришелся по душе молодой независимый живописец: около 1880-х гг. он написал романтический портрет Ленского — элегантного денди в модном наряде, но с трагическим, почти «байроновским» взглядом. Такого художника — более, чем баталии Брандта — должны были притягивать произведения другого «мюнхенца»: стильные интерьеры и таинственные символические жанры польского живописца профессора Мюнхенской академии Владислава Чахурского, который с 1879 г. жил в Мюнхене. Недаром позднее в своей деревеньке Татары под Раковом он построил небольшой дворец в стиле Людовика XV по проекту этого известного художника-эстета.



Брандт Е. Всадник.



Брандт Е. Схватка с татарами.

В белорусских музеях находятся четыре произведения Ленского из фамильной портретной галереи, среди которых выделяются живописные портреты его сестры, Эльжбеты Ленской, в замужестве Василевской, и матери, Таиды Ленской из Коркозовичей.

Польский критик Генрих Пянтковский очень точно определил стиль Зенона Ленского как «совершенную простоту и совершенную непретенциозность». Созданные им образы сестры и матери интеллигентны, полны обаяния и простоты. Колорит портретов почти монохромен, выдержан в строгой зеленовато-охристой гамме.

Для З. Ленского, сына богатого землевладельца, одного из очень немногих представителей «чистого искусства», творчество было, очевидно, духовным пристанищем, а не честолюбивым поприщем или способом заработка. Поэтому он редко выставлял свои работы и почти никогда их не продавал.

Иначе сложилась жизнь уроженца Мстиславля Абрама Маневича. В этом небольшом белорусском городке он прожил до 20 лет и, судя по названиям работ, много писал с натуры («Синагога в местечке», «Моя холодная родина»). После окончания Киевского художественного училища А. Маневич получил стипендию барона Г. Гинцбурга для трехлетней заграничной стажировки и уехал в Германию, где поступил в Мюнхенскую академию изобразительных искусств (окончил ее в 1907 г.). С 1895 г. там преподавал известный художник модерна символист Франц фон Штук, стиль которого, изысканный, немного изломанный, повлиял на мировосприятие А. Маневича. Не обошло молодого живописца и увлечение постимпрессионистами. Именно слияние нескольких стилистических влияний — модерна, символизма, экспрессионизма и постимпрессионизма — дало феномен Маневича.

После завершения обучения в академии А. Маневич провел персональную выставку в Мюнхене в галерее Kunst Verein, где представил работы, имевшие большой успех: А. Луначарский назвал живописца «бурным, сильным художником», Давид Бурлюк называл его холсты «самоцветами», а самого мастера — «музыкантом красок».

Декоративным экспрессионизмом отличается картина «Старый Витебск», которую можно датировать началом 1920-х гг.

Но более всех с Мюнхеном был связан уроженец деревни Высокое Климовичского уезда Могилевской губернии Роберт Генин. В 1902 г. после окончания Одесского художественного училища он отправился на учебу в Мюнхен в школу словенца А. Ажбе. В ней учили рисовать не натуру вообще, а конкретного человека по определенной авторской методике. Большое значение в школе придавали изучению анатомии человеческого тела, считалось обязательным следовать принципу приведения его сложной формы к простейшим элементам — шару, цилиндру, кубу, после чего велась детализация, моделировка более мелкими плоскостями. А. Ажбе учил, что форма и тон неразрывно связаны, и видел путь конкретизации формы в выявлении ее конструкции с помощью светотеневых отношений.

И хоть Р. Генин, разочарованный учебой в Мюнхене у А. Ажбе, в 1904 г. уехал в Париж, эта школа сильно повлияла на его раннее творчество, особенно в области рисунка. В 1906 г. он вернулся в Мюнхен, где вплоть до 1919 г. как карикатурист сотрудничал с местным еженедельником «Jugend». Вместе с Паулем Клее он вошел в группу «Зема», позднее, в 1914 г., стал одним из учредителей группы «Новый Мюнхенский Сецессион».

Именно здесь выходит в свет альбом его литографий «Фигурные композиции» (1912). Эти ранние работы художника представляют все многообразие творческих поисков и увлечений мастера.

Известность пришла к Р. Генину в Мюнхене. В 1913 г. он подписал эксклюзивный договор с известным галеристом Генрихом Танхаузером, по которому все готовые и все будущие картины передавались в его галерею. В этом же году состоялась персональная выставка художника, после которой работы Генина стали покупать американские коллекционеры. В 1920-е гг. он перебрался в Берлин, купил домик в горах Швейцарии.

Художник-идеалист, увлеченный социалистическими идеями и желанием испытать «радость коллективного труда», в 1937 г. он вернулся из благополучной Швейцарии в СССР. Иллюзии развеялись почти сразу. Заказанную ему фреску «Сбор урожая» в павильоне ВДНХ, которую он писал с увлечением, не принял худсовет. Она была замазана известью. Жизнь художника закончилась трагически: в начале войны он покончил с собой, приняв большую дозу морфия.

В начале XX в. Мюнхен с его школами стал лишь прелюдией к художественному Парижу, необходимым этапом ухода от академизма, усвоения новых тем и мотивов, понимания изображения формы в рисунке и живописи. Многие мастера, выходцы из Беларуси, — З. Ленский, Р. Генин, Г. Вейсенгоф — уехали из Мюнхена ради парижских академий, где витал дух новаторов: импрессионистов, постимпрессионистов и модернистов. Именно там они продолжили свое обучение и сформировались как мастера живописи.

В истории художественных связей и контактов Беларуси и Германии «мюнхенская» страница — одна из интересных, ярких и многоплановых. Здесь исследователей ждет еще немало открытий.

*Надежда Усова,*
заместитель генерального директора по научной работе
Национального художественного музея
Республики Беларусь

1. Mutermilch H. Obrazy Z. Łęskiego // Prawda. — 1900. — № 11. — S. 129.
2. Piątkowski H. Ś.p. Zenon Łęski // Kurjer Warszawski. — 1927. — № 331. — 2 grudnia.
3. Życka L., Łęska M. Działalność popowstaniowa Polaków na Ziemi mińskiej. — Warszawa, 1939. — S. 121, 127–128.
4. Усава Н. Вяртанне імя: Зянон Ленскі // Наша Вера. — 1999. — № 3 (9). — С. 11–16.
5. Усава Н. Ленскі Зянон // Памяць. Стаўбцоўскі раён. — Мінск, 2004. — С. 163–165.
6. Родионов А. Художник Роберт Генин (1884–1941). Творчество и судьба // XXI Междунар. Шагаловские чтения. Витебск, 11–12 июня 2011 г. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://chagal-vitebsk.com/node/275.
7. Маневич Абрам Аншелович. Искусство и архитектура русского зарубежья. Авторы проекта: Лейкинд Олег Леонидович (Санкт-Петербург), Махров Кирилл Васильевич (Париж), Северюхин Дмитрий Яковлевич (Санкт-Петербург) [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.artrz.ru/1804785172.html.

## КРАТКИЕ БИОГРАФИИ АВТОРОВ РАБОТ В ПОДРАЗДЕЛЕ «ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ ШКОЛЫ МЮНХЕНА»

**Генин Роберт Львович**
(1884, д. Высокое Климовичского уезда
Могилевской губ. — 1941, г. Москва , Россия)

*Живописец, график.*

*Родился в семье лавочника. Учился в Виленской народной рисовальной школе академика И. Трутнева, в Одесском художественном училище Общества изящных искусств имени Великого князя Владимира Александровича. В 1902 г. отправился на учебу в Мюнхен в школу А. Ажбе. Позже переехал в Париж, жил в коммуне художников «Улей» (1904–1905). В 1904–1906 гг. учился в Академии Р. Жулиана и на факультете социальных наук в Сорбонне, потомвернулся в Мюнхен, где входил в объединение «Sema». Участник Осеннего салона (1907).*

*Совместно с М. Фингештеном издал цикл гравюр сухой иглой «Из берлинских притонов» (1919). В 1935 г. в галерее «Лилиенфельд» прошла персональная выставка.*

*В 1936 г. вернулся в СССР, член МОССХ (Московскийобластной союз советских художников) с 1937 г. В сентябре 1941 г., после начала войны с Германией, пытался записаться в ополчение. Умер в Москве.*

*Произведения хранятся в Художественном музее Регенсбурга, Берлинской галерее (Германия), Базельском художественном музее (Швейцария), Национальном художественном музее Республики Беларусь, частных коллекциях Германии, Швейцарии, Франции, Голландии, США, Россиии Беларуси.*

**Каменьский Антон Иосифович**
(1860, д. Яриловка Волковысского уезда
Гродненской губ. — 1933, г. Варшава, Польша)

*Живописец, иллюстратор, график.*

*Учился в Петербургской академии художеств (1882–1885). В 1886 г. из-за финансовых трудностей прервал учебу и уехал в Яриловку. С1890 г. жил в Варшаве, где сотрудничал с журналом «Иллюстративный еженедельник».*

*В 1891 г. переехал в Париж, учился живописи и скульптуре в Академии Р. Жулиана. Его иллюстрации публикуются в «Le Monde Illustre» и лондонской «Графике». В 1894 г. вернулся в Варшаву. Несколько раз навещал Париж. Там же провел годы Первой мировой войны. В 1919 г. поступил солдатом в польскую армию Ю. Халлера, с воодушевлением встретил национальное возрождение Польши.*

*Умер в Варшаве. Похоронен на варшавском кладбище Старые Повонзки.*

*В художественном наследии значительное количество графических рисунков, акварелей, карикатур. Особо выделяется серия, составившая альбом*

*«Очерки Беловежской пущи» (1912). Работы А. Каменского выставлялись в Париже, Варшаве, Вильнюсе.*

**Крупене Израиль Абрамович**
(1862 (?), г. Слоним — после 1887)

*Сын слонимского раввина Абрахама (Ицхрока) Крупене. С 1880 г. учился в Мюнхенской академии художеств. Сведений о дальнейшей жизни и творчестве не имеется.*

*Известны в репродукциях две его картины — «Прошлое» и «Моисей». В Национальном художественном музее Республики Беларусь хранятся три его произведения: портреты четы Поляк (1887) и «Портрет неизвестной» (1884).*

**Ленский Зенон Александрович**
(1864, имение Сула Минского уезда Минской губ. — 1927, г. Варшава, Польша)

*Живописец, портретист, пейзажист.*

*Учился в Виленской гимназии (1875–1883), затем в Горном институте и в Академии художеств в Петербурге, где получил малую и большую серебряные медали за натурные постановки, в частной школе рисования Брандта в Мюнхене. В 1890 г. вернулся в Россию. Выставлял свои работы в Минске, Петербурге, Кракове, Варшаве.*

*В Париже увлекся коллекционированием, особенно предметами французского искусства, входил в надзирательный совет Общества охраны памятников.*

*Похоронен в родовом поместье в Суле.*

*В белорусских музеях находятся произведения Ленского из фамильной портретной галереи, среди которых портреты его сестры Эльжбеты Ленской (1903), и матери.*

**Маневич Абрам Аншелович**
(1881, г. Мстиславль — 1942, г. Нью-Йорк)

*Художник-модернист, график.*

*До 20 лет жил в Мстиславле. Переехал в Киев, где поступил в Киевское художественное училище. Позже поступил в Художественную академию в Мюнхене, которую окончил в 1907 г. Первые работы, среди которых много видов родного города, писал в стиле мюнхенско-венского направления модернизма («Синагога в местечке», «Моя холодная родина»). В 1913 г. с успехом прошла выставка произведений Маневича в парижской галерее Д. Рюэля. После этого художник пробовал писать в стиле кубизма, что позволило выработать собственную изобразительную манеру. В 1922 г. переехал из Минска в Лондон, а затем в США, где прожил до конца жизни. К числу людей, которым нравились произведения Маневича, принадлежал А. Эйнштейн.*

*Картины находятся в Эрмитаже, Люксембургском музее в Париже, Лионском художественном музее, Бруклинском музее в Нью-Йорке и др.*

# Munich Art Schools. 1880s–1900s

During the 19th century, the art schools of Germany drew the attention of the Council of professors of the Imperial Academy of Arts. In the middle of the 19th century, it was thought necessary to study drawing and painting not only in Italy, but also in Dusseldorf, in the famous school of landscape painting. However, several decades later Dusseldorf yielded the palm to Munich with its Royal Academy of Fine Arts and the network of private schools which were studio-workshops. There, guided by known venerable artists, education took place based on the new principles of relation to reality. In the second half of the 19th century traditional academic education and innovative education in private schools successfully co-existed in Munich.

In 1880, the 18-year-old Israel Krupienie, the son of Slonim rabbi Abraham Krupienie, entered the Royal Academy of Arts. This artist's biographical information is very poor, but his works are unique. In the 1920s, two portraits of the Poliak couple were donated to the Belarusian State Museum by their descendants. Painted with scrupulous, almost photographical, accuracy, they demonstrate the young artist's attentive attitude to studying the old German masters in Munich Pinakothek and an excellent mastery of glazing technique.

In the 1880s, the inert and outdated level of academic education in the pre-reform Academy of Arts in St. Petersburg did not satisfy young artists from Belarus. Instead, they were more and more attracted by the private schools in Europe with more progressive programmes of education, work with nature, and the possibility of preserving artistic individuality.

In the first half of the 19th century, in Munich, several dozen private studio-schools functioned. The most famous of them were the school of a Polish artist J. Brandt founded in 1866, of Hungarian artist S. Holloshi founded in 1886, and the school of Slovenian A. Ažbe founded in 1891. All of these schools taught foreigners, including those from the Belarusian lands of the Russian Empire.

In Munich, international and national communities of artists were formed which, competing with each other, provided the possibility for a wide range of choice in education.

Z. Lenski and G. Wiesengof were attracted by the schools of Polish military painter J. Brandt and of the household scenes master A. Veruš-Kovalski. Brandt was an iconic person in the Polish colony in Munich. Being the alumni of Munich Royal Academy of Fine Arts, Brandt glorified the exotic features of the life of the Polish gentry. His favourite themes for paintings were the scenes from the 'Kresy' history which involved the Cossacks, the Tatars, and the eternally rebelling gentry as its characters. His historical battle paintings were popular among the Polish. In 1878, he became a member and an honoured professor of the Bavarian Academy.

The life of Abram Manevich, a native of Mstislavl, was different. After graduating from Kiev School of Art, he received the Baron Hinzburg scholarship to travel abroad and went to Munich for three years, where he entered the Royal School of Pictorial Arts, from which he graduated in 1907. Since 1895, a famous painter of modernist and symbolist art, Franz von Schtuk taught there; his exquisite and a bit broken style influenced Manevich's world-view. He also had a passion for the post-impressionists. The merger of several influences — Modernism, Symbolism, Expressionism and post-Impressionism — formed the phenomenon of Manevich. The same year Manevich had his personal exhibition in Munich, in the Kunst Verein gallery.

However, more than anyone connected with Munich, was Robert Genin, a native of Vysokae village of

Klimavičy district in Mahilioŭ governorate. In 1902, after graduating from Odessa School of Arts, for the Maecenas's money he went to Munich to study at the school of Slovenian Anton Ažbe. There, they didn't paint models in general, but a particular person following the author's method. Ažbe laid great store in studying human anatomy and especially the principle of reducing the complex form of the human body to its simplest elements — a ball, a cylinder, a cube. After this was done, the detailing of the form and its modelling with smaller planes took place.

Even though he was disappointed with Ažbe's school, where he spent two years, and even after moving to Paris, the school significantly influenced his early art, especially his drawing. In 1906, he came back to Munich where he cooperated with the Munich weekly 'Jugend' until 1919. Together with Paul Klee, he joined 'Sema' group (1910–1912) and in 1914 he became one of the founders of the Neue Münchner Secession group. Almost 15 years of active artistic activity connect Genin with Munich. It was the very place where the album of his lithographs, Figuerliche Kompositionen, was published (1912).

Genin gained popularity in Munich where in 1913 he signed an exclusive contract with famous gallerist H. Thannhauser. The same year his personal exhibition took place at Thannhauser's gallery; after that American collectors started to buy his works.

In the 1910s Munich with its schools was only a prelude to what happened later in Paris, a necessary stage of escape from academism, learning new themes and motives, of a new understanding of creating shape in drawing and painting. Many native Belarusian artists — Lenski, Genin, and Weisengof — left Munich for the Paris Academies where the spirit of impressionists-innovators and Cézanne soared. There they continued their education and formation as painting masters.

*Nadzeia Usava*
Deputy Director for Scientific Work
National Art Museum
of the Republic of Belarus

## SHORT BIOGRAPHIES OF THE AUTHORS OF ART WORKS IN 'THE MUNICH ART SCHOOLS' SUBSECTION

**Genin, Robert**
(1884, Vysokae of Klimavičy district in Mahilioŭ guberniya — 1941, Moscow)

*Painter, graphic artist.*

*He was born into a shopkeeper's family, studied at the Ivan Trutnev Vilna School of Drawing and at Odessa School of Art. In 1902, the artist went to Munich and studied at A. Ažbe School; later moved to Paris where he lived in the artists' commune 'La Ruche' (1904–1905). In 1904–1906, he studied at Académie Julian and at the faculty of social sciences of Sorbonne, then returned to Munich where he joined the Sema group. He participated in Autumn Salon in 1907.*

*Together with M. Fingesten, he issued a cycle of dry point etchings (Fingesten M. und Genin R. Aus den Spelunken Berlins. Berlin: Pan-Presse, 1919). In 1935, the artist's personal exhibition was held in Lilienfeld gallery (New York).*

*In 1936, Genin returned to the USSR, and since 1937 he was a member of the Moscow Regional Association of Soviet Artists (MRASA). In September, 1941, the artist could join troops after the war with Germany started. He died in Moscow.*

*Genin's paintings are kept in many museums: Kunstforum Ostdeutsche Galerie Regensburg, the National Gallery in Berlin (Germany), Museum of Art in Basel (Switzerland), the National Art Museum of the Republic of Belarus; in private collections in Germany, Switzerland, France, the Netherlands, the USA, Russia, and Belarus.*

**Kamenski (Kamienski), Anton (Antoni)**
(1860, Yarilaŭka village of Vaŭkavysk district in Hrodna guberniya — 1933, Warsaw)

*Painter, illustrator, graphic artist.*

*He studied at St. Petersburg Academy of Arts (1882–1885). In 1886, due to financial constraints, he interrupted his studies and left for Yarilauka. Since 1890 he lived in Warsaw, where he was associated the 'Tygodnik illustrowany' magazine.*

*In 1891, the artist moved to Paris, studied painting and sculpture at Académie Julian. His illustrations were published in 'Le Monde Illustré' and in London 'Graphics'. In 1894, he returned to Warsaw. Kamenski visited Paris several times; spent the years of World War I there. In 1919, he recruited as a soldier to the Polish Army of*

*Y. Haller. He died in Warsaw and was buried at Powązki Cemetery.*

*Kamenski left a large number of graphic drawings, as well as water-colours and caricatures. A series of works, which constituted the 'Sketches of the Belavezha Forest' album (1912) is of special importance. Works by A. Kamenski were exhibited in Paris, Warsaw, and Vilna.*

**Krupiene, Israel**
(1862 (?), Slonim — after 1887)

*Painter.*

*He was the son of Slonim rabbi Abraham (Yitzhrok) Krupiene. From 1880 he studied at Munich Academy of Arts. The information about his further life and art is missing.*

*Two of his works are known in reproductions: 'The past' and 'Moses'. Three of his works are in the National Art Museum of the Republic of Belarus: the portrait of Poliak couple (1887) and the 'Portrait of an unknown woman' (1884).*

**Lenski, Zianon (Zenon)**
(1864, Sula, now of Stoubcy district in Minsk region — 1927, Warszaw)

*Portrait and landscape painter.*

*He studied at a Vilna gymnasium (1875–1883), at Mining Institute and at the Academy of Arts in St. Petersburg where he was awarded the big and small medals for a staged nature work; at the private school of Brandt in Munich. In 1890, he returned to Russia. Lenski's works were exhibited in Minsk, Petersburg, Krakow, and Warsaw.*

*While in Paris, he discovered passion for collecting, especially the items of the French art; was a member of the Supervising Council of the Association for Monuments Protection.*

*The artist was buried in Sula ancestral estate.*

*Belarusian museums possess Lenski's works from his family's portrait gallery, including portraits of his sister Alžbeta Wasilewska (Lenskaya) (1903) and of his mother.*

**Manevich (Maniewicz), Abram (Abraham)**
(1881, Mscislauye — 1942, New York)

*Art Nouveau painter, graphic artist.*

*He lived in Mscislaŭye until he was 20. Then he moved to Kiev where entered the Art School. Later he entered Munich Academy of Art, from which graduated in 1907. His first works, including numerous views of his native town, were painted in Munich-Vienna style of Modernism ('Synagogue in a small town', 'My cold Motherland'). In 1913, Manevich exhibited with success his works at the Ruelle de Paris gallery. Later the artist tried to paint in the style of Cubism, which led to the creation of his own artistic manner. In 1922, he moved from Minsk to London and later to the USA where he lived until his death.*

*Manevich's works are in Hermitage, in Luxembourg Museum in Paris, in Lyon Art Museum, in Brooklyn Museum in New York.*



***Крупене Ізраіль***

**Партрэт Іллі Іосіфавіча Поляка, жыхара Мінска.** 1887 (?) г. Палатно, алей. 68,7×49,8 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Крупене Израиль***

**Портрет Ильи Иосифовича Поляка, жителя Минска.** 1887 (?) г. Холст, масло. 68,7×49,8 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Krupiene, Israel***

**Portrait of Illya Iosifavich Poliak, resident of Minsk.** 1887 (?). Oil on canvas. 68.7×49.8 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Крупене Ізраіль***

**Партрэт Эстэр Хаймаўны Поляк, жонкі Іллі Іосіфавіча Поляка.** 1887 (?) г. Палатно, алей. 68,4×50,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Крупене Израиль***

**Портрет Эстер Хаймовны Поляк, жены Ильи Иосифовича Поляка.** 1887 (?) г. Холст, масло. 68,4×50,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Krupiene, Israel***

**Portrait of Esther Haimaŭna Poliak, the wife of Illya Iosifavic Poliak.** 1887 (?). Oil on canvas. 68.4×50.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Ленскі Зянон*

**Сабіна з Карказовічаў Ленская, маці мастака.** 1890-я гг. Кардон, алей. 35×27,5 см
З калекцыі сялянска-фермерскай гаспадаркі «Панскі маёнтак Сула»

*Ленский Зенон*

**Сабина из Карказовичей Ленская, мать художника.** 1890-е гг. Картон, масло. 35×27,5 см
Из коллекции крестьянско-фермерского хозяйства «Барское имение Сула»

*Lenski, Zianon*

**Sabina Lenskaya, née Karkazowicz, the artist's mother.** 1890s. Oil on cardboard. 35×27.5 cm
In the collection of the 'Panski Mayontak Sula' farm estate



***Ленскі Зянон***

**Партрэт Эльжбеты Васілеўскай, сястры мастака.** 1903 г. Палатно на кардоне, алей. 44,2×27,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Ленский Зенон***

**Портрет Эльжбеты Василевской, сестры художника.** 1903 г. Холст на картоне, масло. 44,2×27,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Lenski, Zianon***

**Portrait of Elzbieta Wasilewska, the artist's sister.** 1903. Oil on canvas laid on cardboard. 44.2×27.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Маневіч Абрам*

**Стары Віцебск.** 1920-я гг. Палатно, алей. 125,5×183 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Маневич Абрам*

**Старый Витебск.** 1920-е гг. Холст, масло. 125,5×183 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Manevich, Abram*

**Old Vicebsk.** 1920s. Oil on canvas. 125.5×183 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Каменьскі Антон***

**Партрэт Эльжбеты Васілеўскай.** 1899 г. Папера, аловак. 57×42,5 см
З калекцыі сялянска-фермерскай гаспадаркі «Панскі маёнтак Сула»

***Каменьский Антон***

**Портрет Эльжбеты Василевской.** 1899 г. Бумага, карандаш. 57×42,5 см
Из коллекции крестьянско-фермерского хозяйства «Барское имение Сула»

***Kamenski, Anton***

**Portrait of Elżbieta Wasilewska.** 1899. Pencil on paper. 57×42.5 cm
In the collection of the 'Panski Mayontak Sula' farm estate



***Генін Роберт***

**Пастух, які адпачывае.** Аркуш 8 з тэчкі «Кампазіцыі з фігурамі»
1912 г. Папера, літаграфія. А. 44×39; В.18,5×21 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Генин Роберт***

**Отдыхающий пастух.** Лист 8 из папки «Композиции с фигурами»
1912 г. Бумага, литография. Л. 44×39; И. 18,5×21 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Genin, Robert***

**Resting shepherd.** Sheet 8 in the folder 'Compositions with figures'
1912. Lithography on paper. Sheet 44×39 cm; image 18.5×21 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Генін Роберт***

**Вечар.** Аркуш 9 з тэчкі «Кампазіцыі з фігурамі»
1912 г. Папера, літаграфія. А. 44×39; В. 16,7×20,2 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Генин Роберт***

**Вечер.** Лист 9 из папки «Композиции с фигурами»
1912 г. Бумага, литография. Л. 44×39; И. 16,7×20,2 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Genin, Robert***

**Evening.** Sheet 9 in the folder 'Compositions with figures'
1912. Lithography on paper. Sheet 44×39 cm; image 16.7×20.2 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus

# Віленская рысавальная школа акадэміка Івана Трутнева (1866–1915)

У 1820 г. была зачынена Полацкая езуіцкая акадэмія, а дзесяцігоддзем пазней скасавана існаванне Віленскага ўніверсітэта. У Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі не засталося ніводнай навучальнай установы, дзе б выкладалі малюнак, жывапіс, скульптуру і ажыццяўлялі б падрыхтоўку прафесійных мастакоў. У той жа час з узмацненнем уплыву праваслаўнай царквы для стварэння іканастасаў у цэрквы, якія яшчэ будаваліся ці пераабсталёўваліся з касцёлаў, патрабаваліся прафесійныя майстры. У 1864 г. мастаку з Пецярбурга Васілю Васільеву было даручана адкрыць у Вільні іканапісную майстэрню, якую разглядалі, перш за ўсё як рамесную ўстанову, якая не прэтэндавала на статус мастацкай вучэльні. Аднак дзякуючы папячыцелю Віленскай навучальнай акругі Івану Карнілаву яна стала асновай для арганізацыі рысавальнай школы.

Улетку 1866 г. паспяхова завяршыліся пошукі арганізатара і годнага кіраўніка школы. Ім стаў выкладчык малявання Віцебскай мужчынскай гімназіі Іван Трутнеў, якога ведалі па малюнках помнікаў архітэктуры «рускай даўніны» заходніх губерняў. І. Трутнеў скончыў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў і на працягу шасці гадоў быў яе пенсіянерам, удасканальваючыся ў галіне мастацтва ў Бельгіі, Францыі і Італіі. Ён стварыў шэраг жанравых карцін досыць высокага акадэмічнага ўзроўню, а ў 1868 г., ужо будучы дырэктарам Віленскай рысавальнай школы, атрымаў званне акадэміка.

Віленская рысавальная школа адкрылася 6 снежня 1866 г. у памяшканні Першай мужчынскай гімназіі, якая размяшчалася ў будынку былога ўніверсітэта. Яна была падзелена на два класы: рамесна-малявальны і жывапісны. Школу маглі наведваць прадстаўнікі ўсіх саслоўяў старэйшыя за 12 гадоў незалежна ад полу і веравызнання. Навучанне ў рамесна-рысавальным класе было бясплатным, а за наведванне жывапіснага класа плата за паўгода складала 3 рублі. Кіраўніком школы і спачатку адзіным выкладчыкам жывапісу быў сам І. Трутнеў. Толькі ў 1874 г., калі ў ёй значна павялічылася колькасць вучняў, у якасці яшчэ аднаго выкладчыка быў запрошаны пейзажыст Віктар Разанаў, а ў 1876 г. — рыжскі мастак Павел Рэмер.

Навучанне малюнку будавалася па прынцыпах акадэмічнага выкладання, а жывапісу — па метадыцы натурных студый. Некалькі гадоў работы школы паказалі, што яна не выконвала пастаўленых перад ёй утылітарных і ідэалагічных задач — рыхтаваць іканапісцаў для царкоўных патрэб і адаптаваць мясцовае мастацтва ў адпаведнасці з патрабаваннямі афіцыйнай культурнай палітыкі расійскага ўрада. Магчыма, таму фінансаванне школы было недастатковым, яна мела патрэбу ў выкладчыцкіх кадрах, метадычных дапаможніках, у больш прасторных памяшканнях.

Дзякуючы намаганням І. Трутнева і апецы Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, а таксама дапамозе мецэнатаў рамесны клас аддзялілі ад школы, перавёўшы яго ў дом банкіра Ю. Мантвіла. Аснову рэфармаванай такім чынам навучальнай установы склаў жывапісны клас, што дазволіла захаваць за ім назву Віленскай рысавальнай школы. Курс навучання ў ёй павялічыўся з трох да чатырох гадоў. Гэта давала магчымасць палепшыць падрыхтоўку будучых мастакоў. Пасля прызначэння ў 1899 г. выкладчыкам маладога і таленавітага педагога Івана Рыбакова школа набыла яшчэ большую папулярнасць. Пасля смерці І. Трутнева ў 1812 г. дырэктарам стаў Мікалай Сяргееў-Корабаў. У 1915 г. навучальнай ўстанове прысвоілі імёны І. Трутнева і І. Карнілава — былога начальніка Віленскай навучальнай акругі, аднаго з ініцыятараў яе стварэння.



Іван Трутнеў. Фота 1908 г.



І. Трутнеў. Панарама Вільні з гары Бякеша. 1865 г.

У той жа год у сувязі з наступленнем нямецкіх войскаў у ходзе Першай сусветнай вайны школу эвакуіравалі ў Самару, дзе яна так і не аднавіла сваю дзейнасць.

Вучнямі Віленскай рысавальнай школы за гады яе дзейнасці былі прадстаўнікі розных этнічных груп: беларусы, рускія, палякі, яўрэі, літоўцы. Нямала сярод іх было і тых, хто нарадзіўся на беларускіх землях. Так, у першыя гады працы школы там вучыўся будучы жывапісец і педагог Іосіф Дабравольскі. Ужо ў 1869 г. яго працы экспанаваліся на акадэмічнай выстаўцы ў Пецярбургу, а з 1871 г. ён заняўся выкладаннем малявання ў Шклове.

У гэты ж час у Віленскай рысавальнай школе вучыліся выхадцы з беларускіх зямель Борух (Барыс) Гіршовіч (1858–1911) і Аўраам Буткоўскі (1859–?). У 1875 г. яны паступілі на аддзяленне жывапісу Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, і абодва былі ўзнагароджаны медалямі. Борух Гіршовіч потым скончыў таксама архітэктурны факультэт, застаўся жыць у сталіцы і стаў выдатным архітэктарам. Па яго праекце ў Пецярбургу была пабудавана харальная сінагога і шэраг іншых будынкаў горада. Менавіта ён стаў настаўнікам Юдаля Пэна.

У 1876–1878 гг. вучнем школы быў ураджэнец Ашмянаў, будучы жывапісец Бенцэль Крэмер (1861–?). Пасля ён вучыўся ў Пецярбургу, падарожнічаў па Еўропе, кіраваў невялікай прыватнай школай у Лондане, а затым пасяліўся ў Пецярбургу. Амаль адначасова з ім у мастацкай школе вучыўся Зянон Ленскі, які нарадзіўся ў маёнтку Сула недалёка ад Койданава (цяпер г. Дзяржынск). Пасля вучобы ў Пецярбургу і Мюнхене, падарожжаў па Еўропе ён асеў у родавых маёнтках Сула і Татары пад Ракавам, дзе пісаў партрэты і пейзажы, упрыгожваў фрэскамі інтэр'еры сядзібнага дома ў Сулах.

Да 1883 г. у Віленскай рысавальнай школе навучаўся і ўраджэнец Віцебскай губерні жывапісец Баляслаў Тамашэвіч (1863 — пасля 1914). Скончыўшы Пецярбургскую акадэмію мастацтваў, ён некаторы час выкладаў у Наўгародскай губерні, затым жыў і працаваў у Віцебску, Ашмянах, Гальшанах, Крэве і адначасова актыўна ўдзельнічаў у выстаўках Вільні. Баляслаў Тамашэвіч пісаў партрэты і пейзажы, але больш ён стаў вядомы як жанравы жывапісец, які адлюстроўваў правінцыйны побыт.

Вікенцій Лукашэвіч (1861–1931), родам з Ракава, вучыўся ў школе да 1881 г. Мастацкую адукацыю ён працягнуў у Пецярбургу, а пасля заканчэння акадэміі ў 1891 г. жыў у Літве, падарожнічаў па Амерыцы і Еўропе, з 1895 г. пасяліўся ў Варшаве. Яго творчасць абмяжоўвалася, ў асноўным, творамі на рэлігійныя тэмы для касцёлаў Літвы і Польшчы.

Сын беднага яўрэя з Оршы Юдка Эпштэйн (1870–1945) быў своеасаблівым папярэднікам Хаіма Суціна і Пінхуса Крэменя. У Вільню ён з'ехаў супраць волі бацькі, паступіўшы ў Віленскую рысавальную школу ў 1887 г. Дзякуючы намаганням аршанскага валаснога старасты таленавіты юнак атрымліваў ад канцылярыі Віленскай навучальнай акругі штомесячную шасцірублёвую стыпендыю. У 1890 г. ён, без гроша ў кішэні, выправіўся ў Вену і быў прыняты адразу на другі курс Акадэміі мастацтваў. Нягледзячы на складанае матэрыяльнае становішча, неабходнасць зарабляць на жыццё у гандляра жалезам, Ю. Эпштэйн упарта займаўся. У 1894 г. за карціну «Саўл і Давід» ён атрымаў стыпендыю фонду Міхаэля Бершэна на паездку ў Італію. У 1900 г. мастак атрымаў

стыпендыю другі раз, што дазволіла яму некалькі гадоў правесці ў Венецыі, шмат падарожнічаць. У гэты час Ю. Эпштейн пісаў творы на тэмы Старога Запавету, выконваў заказныя партрэты, стварыў некалькі жанравых карцін, якія адлюстроўвалі сцэны паўсядзённага жыцця яўрэяў, удзельнічаў у шматлікіх выстаўках у Вене, Берліне, Дрэздэне, Дзюсельдорфе.

З 1890 г. у Віленскай мастацкай школе вучыўся будучы жывапісец Леў Альпяровіч (1874–1913). Сваю адукацыю ён працягнуў у Адэсе, дзе ў 1895 г. скончыў мясцовую рысавальную школу. Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу ў 1902 г. Л. Альпяровіч асталяваўся ў Мінску, выкладаў у гарадскім рэальным вучылішчы, пісаў пейзажы, жанравыя карціны, партрэты.

У Віленскай мастацкай школе Майсей Ляйбоўскі (1876–1942 ці 1943) вучыўся ў 1893–1898 гг. Пасля ўдасканальваў сваё майстэрства ў Парыжы, да 1940-га жыў у Вільні, потым у Гродне. Вядомасць мастаку прынеслі не толькі партрэты і пейзажы, але і працы па афармленні і ілюстраванні кніг. Ён актыўна ўдзельнічаў у мастацкіх выстаўках у Вільні і Варшаве, а ў 1940 г. прадставіў свае творы на выстаўцы мастакоў Беларускай ССР у Маскве.

Фёдар Пархоменка (1868–1940), родам з Магілёўшчыны, пасля заканчэння школы абраў шлях педагога. У 1895–1896 гг. ён працаваў у мастацкай школе выхавальнікам і памочнікам І. Трутнева, а ў пачатку ХХ ст. заснаваў сваю мастацкую школу ў родным Магілёве. З 1910 г. Ф. Пархоменка выкладаў у мужчынскай гімназіі ў Коўне, пісаў пейзажы («Наваколлі Магілёва», «Лес у ваколіцах Оршы»).

Жывапісец Павел Южык (1874–1944), родам з вёскі Вётхава Смаргонскага раёна, пасля заканчэння Віленскай рысавальнай школы ў 1901 г. таксама займаўся выкладаннем малюнка, працуючы ў школах Вілейскага павета, у Дзісне. У 1915 г. ён аказаўся ў Пензе і, карыстаючыся выпадкам, працягнуў сваё навучанне ў Пензенскай мастацкай школе. З 1920 г. П. Южык выкладаў у Беларускай гімназіі і Духоўнай семінарыі ў Вільні, а ў 1930 г. вярнуўся ў Беларусь. Маляваў партрэты і пейзажы, пісаў выявы святых і апосталаў для сельскіх цэркваў у вёсках Залессе і Сукневічы.

Францішак Ясевіч (1873–1930) з Віцебшчыны пасля заканчэння Рысавальнай школы атрымаў адукацыю ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў (1897–1903), а пасля яе заканчэння звязаў свой лёс з Вільняй. Пісаў партрэты, пейзажы, карціны на рэлігійныя тэмы.

Мастацкі лёс Лейбы Мендэля Орланда (1884–?) з Ліды менш вядомы. У Вільні ён вучыўся да 1899 г., у 1900–1904 гг. наведваў Адэскую рысавальную школу, у 1909–1913 гг. вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Да 1916 г. ён, верагодна, яшчэ жыў у сталіцы, займаючыся выкладаннем, а летні адпачынак праводзіў у Вільні і Віцебску.

У пачатку ХХ ст. у Віленскай рысавальнай школе вучыўся будучы пейзажыст і педагог Станіслаў Дамброўскі (1884–1941 ці 1942) з маёнтка Альбярцін Слонімскага павета. У 1906–1907 гг. ён выкладаў у рэальным вучылішчы ў Слоніме, а ў 1908–1913 гг. працягнуў вучобу ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў, удасканальваў майстэрства ў Парыжы. З 1918 г. С. Дамброўскі звязаў лёс з Варшавай.

Мабыць, адным з самых вядомых выпускнікоў Віленскай рысавальнай школы з'яўляецца Язэп Драздовіч (1888–1954), які нарадзіўся ў в. Пунькі Дзісенскага павета (цяпер Глыбоцкі раён). Пасля завяршэння вучобы ён жыў у Вільні (1906–1910), працаваў у кніжнай графіцы, афармляў кнігі беларускіх аўтараў, пасля выкладаў маляванне ў жаночай гімназіі г. Мінска. Дыяпазон творчых інтарэсаў Я. Драздовіча дастаткова шырокі: ад графічных замалёвак помнікаў замкавай архітэктуры да захаплення космасам. З 1920-х гг., падарожнічаючы па Беларусі, ён пачаў пісаць «маляванкі» (насценныя дываны), якія сталі класічнымі прыкладамі інсітнага мастацтва.

Віленская рысавальная школа праклала шлях да сусветнай славы цэлай плеядзе яркіх прадстаўнікоў Парыжскай школы ў мастацтве: Хаіму Суціну (1893–1943), Міхаілу Кікоіну (1892–1968), Пінхусу Крэменю (1890–1981), Роберту Геніну (1884–1941), Сэму Царфіну (1899–1975). Па-рознаму склаліся іх лёсы, але творчай калыскай гэтых майстроў была Беларусь, а Вільня — горадам здзяйснення юнацкіх мар.

*Іаланта Шыркайтэ,*
доктар культуралогіі

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «ВІЛЕНСКАЯ РЫСАВАЛЬНАЯ ШКОЛА І. ТРУТНЕВА»

**Альпяровіч Леў (Лейба) Абрамавіч**
(1874, в. Куранец Віленскай губ. — 1913, г. Мінск).

*Жывапісец. Пісаў партрэты, пейзажы, бытавыя кампазіцыі.*

*Вучыўся ў мастацкай школе І. Трутнева (Вільня, 1890–1892), Адэскай мастацкай школе (1895–1896) у М. Кузняцова, Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1896–1902) у І. Рэпіна. Жыў у Мінску з 1902 г. Выкладаў у Мінскім прыватным мужчынскім яўрэйскім рэальным вучылішчы (1912–1913). Удзельнік выставак з 1902 г. (Санкт-Пецярбург, Масква, Мінск, Вільня).*

*Набыў вядомасць дзякуючы карцінам і замалёўкам, прысвечаным жыццю і побыту мінчан. Сёння вядомыя 34 творы жывапісу мастака (32 — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі) і каля 20 графікі (18 — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі). Творы захоўваюцца таксама ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі і ў Адэскім мастацкім музеі. Творчасць Л. Альпяровіча — своеасаблівае памежжа мастацкіх павеваў таго часу. Гэта традыцыйны рэалізм позняга перасоўніцтва («На каменяломні», «Прачка», «Жанравая сцэна», шэраг партрэтаў), імпрэсіянізм (большасць пейзажных і жанравых эцюдаў), сімвалізм («Бераг ракі», «У мора», «Пахаванне інстытуткі»), рамантызм («Домік», «Адэскі порт», позція партрэты), некаторыя рысы мадэрну.*

**Драздовіч Язэп Нарцызавіч**
(1888, в. Пунькі Дзісненскага пав. Віленскай губ. — 1954, г. п. Падсвілле Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл.)

*Беларускі жывапісец, графік, скульптар, пісьменнік, фальклярыст, этнограф і археолаг.*

*Вучыўся ў Віленскай рысавальнай школе (1906–1910) у прафесара жывапісу І. Трутнева. У Першую сусветную вайну — на Заходнім фронце. У 1919 г. працаваў у Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Камісарыяце асветы БССР.*

*У 1919–1920 гг. у Мінску: быў настаўнікам малявання ў Беларускай вышэйшай жаночай школе, ілюстратарам у літаратурных выдавецтвах і мастаком-дэкаратарам у Таварыстве беларускага мастацтва і Беларускім дзяржаўным тэатры, арганізаваў культурна-асветніцкае таварыства «Заранка». У другой палове 1920-х выкладаў маляванне ў Глыбоцкай школе, Навагрудскай і Радашковіцкай беларускіх гімназіях.*

*З 1926 г. Драздовіч працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, пры якой стварыў мастацкую студыю-майстэрню. Супрацоўнічаў з сатырычным часопісам «Маланка», Таварыствам беларускай школы (ТБШ). У канцы 1910-х — пачатку 1920-х гг. стварыў графічную серыю помнікаў замкавай архітэктуры, увасобіў вобраз беларускай прыроды ў графічных аркушах «Дзісненшчына», у малюнках з серыі «Прырода Беларусі». Сярод жывапісных твораў (тэматычныя карціны, партрэты, пейзажы) вылучаюцца карціны з жыцця сярэдневяковай Полаччыны. Аўтар скульптуры Ф. Скарыны (1910-я). З 1920-х гг. падчас падарожжаў па Беларусі Я. Драздовіч стаў пісаць маляваныя дываны. У 1931 г. выдаў папулярную кнігу па астраноміі «Нябесныя бегі» і стварыў графічную серыю карцін на касмічную тэму.*

**Крэмень Пінхус (Павел)**
(1890, в. Жалудок Віленскай губ. — 1981, Серэ, Францыя)

*Жывапісец, графік, скульптар.*

*Нарадзіўся ў сям'і рамесніка, вучыўся ў Віленскай рысавальнай школе. У 1912 г. прыехаў у Парыж, дзе пасяліўся ў камуне «Вулей». У 1914 г. тры яго скульптуры экспанаваліся ў Салоне незалежных.*

*З 1915 г. са скульптуры пераключыўся на жывапіс. Карціны мастака набыты арт-дылерамі Шэронам, Збароўскім, Гіёмам. Першая персанальная выстаўка адбылася ў Парыжы ў 1919 г. у галерэі Жака Павалоцкага. У 1921–1924 гг. рэгулярна экспанаваў працы на Восеньскіх салонах. Затым адбыліся працяглыя падарожжы, падчас якіх былі напісаны шматлікія работы.*

*У 1940–1944 гг. хаваўся ад нацыстаў у Цюрэне дэпартамента Карэз. У Парыж, у майстэрню на вуліцы Франсуа-Жыбер, вярнуўся ў 1944 г. У 1949–1956 гг. удзельнічаў у выстаўках у Іерусаліме; прайшлі персанальныя выстаўкі ў Парыжы, Лондане. У 1958 г. — персанальная выстаўка ў мастацкай галерэі Коўлман у Філадэльфіі. Пахаваны ў Парыжы на могілках Манпарнас.*

*Сярод работ — «Дзве сяброўкі», «Аголеная», «Пейзаж. Францыя», «Букет», «Нацюрморт».*

**Царфін (Зарфін) Сэм (Файбіш-Шрага)**
(1900 (1899?), м. Смілавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ. — 1975, Рані-су-Буа, Францыя)

*Жывапісец, ілюстратар.*

*Нарадзіўся ў сям'і прамыслоўца. Вучыўся ў Віленскай мастацкай школе І. Трутнева. У 1914 г.*

*эміграваў у Палестыну, вучыўся ў Іерусаліме ў Мастацкай акадэміі Бецалель. У 1923 г. пераехаў у Берлін. Удзельнічаў у выстаўках, працаваў над ілюстрацыямі для кніжных выданняў. На творчасць мастака аказалі ўплыў М. Ліберман і нямецкія экспрэсіяністы. У 1924 г. — у Парыжы, дзе сустрэўся з Х. Суцінам. З 1925 г. захапіўся жывапісам на тканіне, вырабам эскізаў для дамоў высокай моды. У 1931 г. атрымаў французскае грамадзянства. У 1939 г. быў мабілізаваны ў французскую армію ў сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны. Альбом малюнкаў, выкананых мастаком у гэты перыяд, набыты французскім урадам.*

*У 1944 г. прайшла персанальная выстаўка мастака. У 1958–1975 гг. — персанальныя выстаўкі ў Яўрэйскім музеі ў Нью-Ёрку, музеі Эшмолін у Оксфардзе, у замку Лаверсін недалёка ад Крэйля, у г. Мантрэй. Сярод твораў — «Пейзаж з фігурай», «Вадаспад у лесе», «Букет белых кветак», «Вежа Брысак» і інш.*

# Виленская рисовальная школа академика Ивана Трутнева (1866–1915)

В 1820 г. была закрыта Полоцкая иезуитская академия, а десятилетием позже упразднен Виленский университет. В Северо-Западном крае Российской империи не осталось ни одного учебного заведения, где бы преподавали рисунок, живопись, скульптуру и осуществляли бы подготовку профессиональных художников. В то же время с усилением влияния православной церкви для создания иконостасов в строящихся и переоборудованных из костелов церквей требовались профессиональные мастера. В 1864 г. художнику из Петербурга Василию Васильеву было поручено открыть в Вильне иконописную мастерскую, которую рассматривали, прежде всего, как ремесленное заведение, не претендовавшее на статус художественного училища. Однако благодаря попечителю Виленского учебного округа Ивану Корнилову она стала основой для организации рисовальной школы.

Летом 1866 г. успешно завершились поиски организатора и достойного руководителя создаваемой школы. Им стал преподаватель рисования Витебской мужской гимназии Иван Трутнев, известный по своим рисункам памятников архитектуры «русской старины» западных губерний. И. Трутнев окончил Петербургскую академию художеств и в течение шести лет был ее пенсионером, совершенствуясь в области искусства в Бельгии, Франции и Италии. Он создал ряд жанровых картин достаточно высокого академического уровня, а в 1868 г., уже будучи директором Виленской рисовальной школы, получил звание академика.

Виленская рисовальная школа открылась 6 декабря 1866 г. в помещении Первой мужской гимназии, размещавшейся в здании бывшего университета. Она была поделена на два класса: ремесленно-рисовальный и живописный. Школу могли посещать представители всех сословий старше 12 лет независимо от пола и вероисповедания. Обучение в ремесленно-рисовальном классе было бесплатным, а за посещение живописного класса плата за полгода составляла 3 рубля. Руководителем школы и поначалу единственным преподавателем живописи был сам И. Трутнев. Только в 1874 г., когда в ней значительно увеличилось количество учеников, в качестве еще одного преподавателя был приглашен пейзажист Виктор Резанов, а в 1876 г. — рижский художник Павел Ремер.

Обучение рисунку строилось по принципам академического преподавания, а живописи — по методике натурных студий. Несколько лет работы школы показали, что она не выполняла поставленных перед ней утилитарных и идеологических задач — готовить иконописцев для церковных нужд и адаптировать местное искусство в соответствии с требованиями официальной культурной политики российского правительства. Возможно, поэтому финансирование школы было скудным, она нуждалась в преподавательских кадрах, методических пособиях, в более просторных помещениях.

Благодаря стараниям И. Трутнева и покровительству Петербургской академии художеств, а также помощи меценатов ремесленный класс отделили от школы, переведя его в дом банкира Ю. Монтвилла. Основу реформированного таким образом учебного заведения составил живописный класс, что позволило сохранить за ним название Виленской рисовальной школы. Курс обучения в ней увеличился с трех до четырех лет. Это давало возможность улучшить подготовку будущих художников. После назначения в 1899 г.

преподавателем молодого и талантливого педагога Ивана Рыбакова школа приобрела еще большую популярность. После смерти И. Трутнева в 1812 г. директором стал Николай Сергеев-Коробов. В 1915 г. учебному заведению присвоили имена И. Трутнева и И. Корнилова — бывшего начальника Виленского учебного округа, одного из инициаторов ее создания. В тот же год в связи с наступлением немецких войск в ходе Первой мировой войны школу эвакуировали в Самару, где она так и не возобновила свою деятельность.

Учениками Виленской рисовальной школы за годы ее деятельности были представители различных этнических групп: белорусы, русские, поляки, евреи, литовцы. Немало среди них было и тех, кто родился на белорусских землях. Так, в первые годы работы школы там учился будущий живописец и педагог Иосиф Добровольский. Уже в 1869 г. его работы экспонировались на академической выставке в Петербурге, а с 1871 г. он занялся преподаванием рисования в Шклове.

В это же время в Виленской рисовальной школе учились выходцы из белорусских земель Борух (Борис) Гиршович (1858–1911) и Авраам Бутковский (1859–?). В 1875 г. они поступили на отделение живописи Петербургской академии художеств, и оба были награждены медалями. Б. Гиршович впоследствии закончил также архитектурный факультет, остался жить в столице и стал видным архитектором. По его проекту в Петербурге была построена хоральная синагога и ряд других зданий города. Именно он стал учителем Юделя Пэна.

В 1876–1878 гг. учеником школы был уроженец Ошмян, будущий живописец Бенцель Кремер (1861–?). Впоследствии он учился в Петербурге, путешествовал по Европе, руководил небольшой частной школой в Лондоне, а затем поселился в Петербурге. Почти одновременно с ним в рисовальной школе учился родившийся в имении Сула неподалеку от Койданова (теперь г. Дзержинск) Зенон Ленский (1864–1927). После учебы в Петербурге и Мюнхене, путешествий по Европе он осел в родовых имениях Сула и Татары под Раковом, где писал портреты и пейзажи, украшал фресками интерьеры усадебного дома в Сулах.

До 1883 г. в Виленской рисовальной школе обучался и уроженец Витебской губернии живописец Болеслав Томашевич (1863 — после 1914).



Виленская рисовальная школа. Фото начала XX в.

Окончив Петербургскую академию художеств, он некоторое время преподавал в Новгородской губернии, затем жил и работал в Витебске, Ошмянах, Гольшанах, Креве и одновременно активно участвовал в выставках в Вильне. Б. Томашевич писал портреты и пейзажи, но больше он стал известен как жанровый живописец, изображавший провинциальный быт.

Викентий Лукашевич (1861–1931), родом из Ракова, обучался в школе до 1881 г. Художественное образование он продолжил в Петербурге, а после окончания академии в 1891 г. жил в Литве, путешествовал по Америке и Европе, с 1895 г. поселился в Варшаве. Его творчество ограничивалось в основном произведениями на религиозные темы для костелов Литвы и Польши.

Сын бедного еврея из Орши Юдка Эпштейн (1870–1945) был своеобразным предшественником Хаима Сутина и Пинхуса Кременя. В Вильну он уехал против воли отца, поступив в Виленскую рисовальную школу в 1887 г. Благодаря стараниям оршанского волостного старосты талантливый юноша получал от канцелярии Виленского учебного округа ежемесячную шестирублевую стипендию. В 1890 г. он, без гроша в кармане, отправился в Вену и был принят сразу на второй курс Академии художеств. Несмотря на сложное материальное положение, необходимость зарабатывать на жизнь у торговца железом, Ю. Эпштейн упорно занимался. В 1894 г. за картину «Саул и Давид» он получил стипендию фонда Михаэля Бершена на поездку в Италию. В 1900 г. художник получил стипендию вторично, что позволило ему несколько лет провести в Венеции, много путешествовать.

В это время Ю. Эпштейн писал произведения на темы Ветхого Завета, выполнял заказные портреты, создал несколько жанровых картин, изображавших сцены повседневной жизни евреев, участвовал в многочисленных выставках в Вене, Берлине, Дрездене, Дюссельдорфе.

С 1890 г. в Виленской рисовальной школе учился будущий живописец Лев Альперович (1874–1913). Образование он продолжил в Одессе, где в 1895 г. окончил местную рисовальную школу. После окончания Академии художеств в Петербурге в 1902 г. Л. Альперович обосновался в Минске, преподавал в городском реальном училище, писал пейзажи, жанровые картины, портреты.

В Виленской рисовальной школе Моисей Лейбовский (1876–1942 или 1943) учился в 1893–1898 гг. Впоследствии совершенствовал мастерство в Париже, до 1940-го жил в Вильно, потом в Гродно. Известность художнику принесли не только портреты и пейзажи, но и работа над оформлением и иллюстрированием книг. Он активно участвовал в художественных выставках в Вильно и Варшаве, а в 1940 г. представил свои произведения на выставке художников Белорусской ССР в Москве.

Федор Пархоменко (1868–1940), родом с Могилевщины, после окончания школы выбрал путь педагога. В 1895–1896 гг. работал в Рисовальной школе воспитателем и помощником И. Трутнева, а в начале XX в. учредил свою художественную школу в родном Могилеве. С 1910 г. Ф. Пархоменко преподавал в мужской гимназии в Ковно, писал пейзажи («Окрестности Могилева», «Лес в окрестностях Орши»).

Живописец Павел Южик (1874–1944), родом из деревни Ветхово Сморгонского района, после окончания Виленской рисовальной школы в 1901 г. тоже занимался преподаванием рисунка, работая в школах Вилейского уезда, в Дисне. В 1915 г. он оказался в Пензе и, пользуясь случаем, продолжил обучение в Пензенской художественной школе. С 1920 г. П. Южик преподавал в Белорусской гимназии и Духовной семинарии в Вильно, а в 1930 г. вернулся в Беларусь. Рисовал портреты и пейзажи, писал лики святых и апостолов для сельских церквей в деревнях Залесье и Сукневичи.

Франтишек Ясевич (1873–1930) с Витебщины после окончания Рисовальной школы получил образование в Краковской академии художеств (1897–1903), а после ее окончания связал свою судьбу с Вильной. Писал портреты, пейзажи, картины на религиозные темы.

Художественная судьба Лейбы Менделя Орланда (1884–?) из Лиды менее известна. В Вильне он учился до 1899 г., в 1900–1904 гг. посещал Одесскую рисовальную школу, в 1909–1913 гг. учился в Академии художеств в Петербурге. До 1916 г. он, вероятно, еще жил в столице, занимаясь преподаванием, а летние отпуска проводил в Вильне и Витебске.

В начале XX в. в Виленской рисовальной школе учился будущий пейзажист и педагог Станислав Домбровский (1884–1941 или 1942) из поместья Альбертин Слонимского уезда. В 1906–1907 гг. он преподавал в реальном училище в Слониме, а в 1908–1913 г. продолжил учебу в Краковской академии художеств, совершенствовал мастерство в Париже. С 1918 г. С. Домбровский связал судьбу с Варшавой.

Пожалуй, одним из самых известных выпускников Виленской рисовальной школы является Язеп Дроздович (1888–1954), родившийся в д. Пуньки Дисненского повета (теперь Глубокский район). После завершения учебы он жил в Вильне



Группа учащихся Виленской рисовальной школы. Крайний слева — М. Кикоин, справа (стоит) С. Царфин. 1912 г.

(1906–1910), работал в книжной графике, оформлял книги белорусских авторов, впоследствии преподавал рисование в женской гимназии г. Минска. Диапазон творческих интересов Я. Дроздовича достаточно широк: от графических зарисовок памятников замковой архитектуры до увлечений космосом. С 1920-х гг., путешествуя по Беларуси, он стал писать «маляванки» (настенные ковры), ставшие классическими примерами инситного искусства.

Виленская рисовальная школа проложила путь к всемирной славе целой плеяде ярких представителей Парижской школы в искусстве: Хаиму Сутину (1893–1943), Михаилу Кикоину (1892–1968), Пинхусу Кременю (1890–1981), Роберту Генину (1884–1941), Сэму Царфину (1899–1975). По-разному сложились их судьбы, но творческой колыбелью этих мастеров была Беларусь, а Вильно — городом исполнения юношеских надежд.

*Иоланта Ширкайте,*
доктор культурологии

## КРАТКИЕ БИОГРАФИИ АВТОРОВ ПРОИЗВЕДЕНИЙ В ПОДРАЗДЕЛЕ «ВИЛЕНСКАЯ РИСОВАЛЬНАЯ ШКОЛА И. ТРУТНЕВА»

**Альперович Лев (Лейба) Абрамович**
(1874, д. Куренец Виленской губ. — 1913, Минск).

*Живописец. Писал портреты, пейзажи, бытовые композиции.*

*Учился в рисовальной школе И. Трутнева (Вильна, 1890–1892), Одесской рисовальной школе (1895–1896) у Н. Кузнецова, Петербургской академии художеств (1896–1902) у И. Репина. Жил в Минске с 1902 г. Преподавал в Минском частном мужском еврейском реальном училище (1912–1913). Участник выставок с 1902 г. (Санкт-Петербург, Москва, Минск, Вильна).*

*Приобрел известность благодаря картинам и зарисовкам, посвященным жизни и быту минчан. Сегодня известны 34 произведения живописи художника (32 в Национальном художественном музее Беларуси) и около 20 графики (18 в Национальном художественном музее Беларуси). Произведения хранятся также в Национальном музее истории и культуры Беларуси и Одесском художественном музее.*

*Творчество Л. Альперовича — своеобразное пограничье художественных веяний того времени. Это традиционный реализм позднего передвижничества («На каменоломне», «Прачка», «Жанровая сцена», ряд портретов), импрессионизм (большинство пейзажных и жанровых этюдов), символизм («Берег реки», «У моря», «Похороны институтки»), романтизм («Домик», «Одесский порт», поздние портреты), некоторые черты модерна.*

**Дроздович Язеп Нарцизович**
(1888, д. Пуньки Дисненского уезда Виленской губ. — 1954, г. п. Подсвилье Глубокского р-на, Витебской обл.)

*Белорусский живописец, график, скульптор, писатель, фольклорист, этнограф и археолог.*

*Учился в Виленской рисовальной школе (1906–1910) у профессора живописи И. Трутнева. В Первую мировую войну — на Западном фронте. В 1919 г. работал в Белорусском литературно-издательском отделе при Комиссариате просвещения БССР.*

*В 1919–1920 гг. в Минске: был учителем рисования в Белорусской высшей женской школе, иллюстратором в литературных издательствах и художником-декоратором в Обществе белорусского искусства и Белорусском государственном театре, организовал культурно-просветительское общество «Заранка». Во второй половине 1920-х преподавал рисование в Глубокской школе, Новогрудской и Радошковичской белорусских гимназиях.*

*С 1926 г. Дроздович работал в Виленской белорусской гимназии, при которой создал художественную студию-мастерскую. Сотрудничал с сатирическим журналом «Маланка», Обществом белорусской школы (ТБШ).В конце 1910-х — начале 1920-х гг. создал графическую серию памятников замковой архитектуры, воплотил образ белорусской природы в графических листах «Дисненщина», в рисунках из серии «Природа Беларуси» (1940-е). Среди живописных произведений (тематические картины, портреты, пейзажи) выделяются картины из жизни средневековой Полотчины. Автор скульптуры Ф. Скорины (1910-е). С 1920-х гг. во время путешествий по Беларуси Я. Дроздович стал писать рисованные ковры. В 1931 г. издал популярную книгу по астрономии «Небесные беги» и создал графическую серию картин на космическую тему.*

**Кремень Пинхус (Павел)**
(1890, д. Желудок Виленской губ. — 1981, Сере, Франция)

*Живописец, график, скульптор.*

*Родился в семье ремесленника, учился в Виленской школе рисования. В 1912 г. приехал в Париж, где поселился в коммуне «Улей». В 1914 г. три его скульптуры экспонировались в Салоне независимых.*

*С 1915 г. со скульптуры переключился на живопись. Картины художника приобретены арт-дилерами Шероном, Зборовским, Гийомом. Первая персональная выставка состоялась в Париже в 1919 г. в галерее Жака Поволоцкого. В 1921–1924 гг. регулярно экспонировал работы на Осенних салонах. Затем состоялись продолжительные путешествия, в ходе которых были написаны многие работы.*

*В 1940–1944 гг. скрывался от нацистов в Тюренне департамента Коррез. В Париж, в мастерскую на улице Франсуа-Жибер, вернулся в 1944 г. В 1949–1956 гг. участвовал в выставках в Иерусалиме; прошли персональные выставки в Париже, Лондоне. В 1958 г. — персональная выставка в Художественной галерее Коулмана в Филадельфии. Похоронен в Париже на кладбище Монпарнас.*

*Среди работ — «Две подруги», «Обнаженная», «Пейзаж. Франция», «Букет», «Натюрморт».*

**Царфин (Зарфин) Сэм (Файбиш-Шрага)**
(1900 (1899?), м. Смиловичи Игуменского уезда Минской губ. — 1975, Рони-су-Буа, Франция)

*Живописец, иллюстратор.*

*Родился в семье промышленника. Учился в Виленской рисовальной школе И. Трутнева. В 1914 г. эмигрировал в Палестину, учился в Иерусалиме в Художественной академии Бецалель. В 1923 г. переехал в Берлин. Участвовал в выставках, работал над иллюстрациями для книжных изданий. На творчество художника оказали влияние М. Либерман и немецкие экспрессионисты. В 1924 г. — в Париже, где встретился с Х. Сутиным. С 1925 г. увлекся живописью на ткани, изготовлением эскизов для домов высокой моды. В 1931 г. получил французское гражданство. В 1939 г. был мобилизован во французскую армию в связи с началом Второй мировой войны. Альбом рисунков, выполненных художником в этот период, приобретен французским правительством.*

*В 1944 г. прошла персональная выставка художника. В 1958–1975 гг. — персональные выставки в Еврейском музее в Нью-Йорке, музее Эшмолин в Оксфорде, в замке Лаверсин недалеко от Крейля, в г. Монтрей. Среди произведений — «Пейзаж с фигурой», «Водопад в лесу», «Букет белых цветов», «Башня Бриссак» и др.*

# The Artists from Belarus in Vilna Drawing School (1866–1915)

After the Polack Jesuit Academy was abolished in 1820 and Vilna (Vilnius) University was closed in 1832, there remained no art education institution in the region. A few decades later, the establishment of an art school became one of the tools in the Empire's cultural policy in the area. There were no artists to paint icons and make iconostases in Orthodox churches, newly constructed or established in former Roman-Catholic cathedrals. Ivan Trutnev, a teacher of drawing at the Vicebsk male gymnasium, distinguished by drawing 'Russian' ancient architectural monuments, was invited to set up a drawing school.

The Vilna (Vilnius) Drawing School was opened on 6 December 1866 in the 1st male gymnasium accommodated in the building of the former university. It was divided into two classes: those of trades-cum-drawing and of painting. Representatives of all social estates irrespective of their gender or religious denomination could attend the school from the age of 12. Trutnev was the director of the school and its only teacher. It took some time before Victor Rezanov and Pavel Remer were invited to teach there.

Drawing was taught on the principles of academic drawing while painting was based on life studies. The school was popular; it was attended by students of various ethnic communities: Russian, Polish, Jewish, and Lithuanian. The school did not fulfill either its utilitarian task to train icon-painters or the ideological task "to convert local art, as a cultural expression, into Russian forms".

Students from Belarus attended the Vilna Drawing School throughout its existence. Immediately after the school was opened, the would-be painter and art teacher Iosif Dabravolsky became its student and a few years later Baruh (Boris) Girshovich and Avraam Bootkovsky joined the school. Approximately from 1875 to 1885, Bentsel Kremer, Zenon Lensky, Boleslaw Tomaszewicz, Vikenty Lukashevich, and, in the late 19th century, Lev Alperovich, Naum Aronson, Moisey Leibowski, Leiba Mendel Orland, Franciszek Jasewicz, Pavel Yuzhik, and Fyodar Parkhomenka studied at the school. Students from Belarus Jehuda Epstein, Robert Genin, Abel Pann, William Samuel Schwartz became world famous artists.

In the early 20th century, painters Stanislaw Dombrowski, Yazep Drazdovich, Isaak Itkind studied at the school.

The lives of Belarusian graduates of the Vilna Drawing School were different. Many of them continued studies at the Academy of Arts in St. Peterburgh, became more or less famous artists and professors. While some returned to their homeland, others were lost in the vast territories of the Soviet Union or associated themselves with Poland. The artists of the School of Paris Michel Kikoïne, Chaïm Soutine, Pinchus Krémègne made the school and their country famous all over the world. They were followed by Schraga Faïbich Zarfin, who also went to Paris and became the last world famous representative of the Vilna Drawing School born in Belarus.

The Drawing School in Vilna existed until 1915 and was a starting point for the dreams of hundreds of artists to come true.

*Dr. Jolanta Širkaitė,*
*Lithuanian Culture Research Institute*

## SHORT BIOGRAPHIES OF THE AUTHORS OF ART WORKS SHOWN IN 'THE I. TRUTNEV VILNA DRAWING SCHOOL' SUBSECTION

**Alperovich, Lev (Leiba)**
(1874, Kuranec, now in Vileyka district of Minsk region — 1913, Minsk)

*Painter of portraits, landscapes, household compositions.*

*He studied at the I. Trutnev Vilna School of Drawing (1890–1892), Odessa Art School (1895–1896) with N. Kuznetsov as a teacher, at St. Petersburg Academy of Arts (1896–1902) with I. Repin as professor. He lived in Minsk since 1902. Alperovich taught at Minsk private Jewish male Realschule (1912–1913). He participated in exhibitions since 1902 (Saint-Petersburg, Moscow, Minsk, Vilna).*

*The artist became famous through his paintings and sketches dedicated to Minskers' everyday life. Today, the artist's 34 paintings are known (32 of them are at the National Art Museum of the Republic of Belarus), as well as 20 graphic works (18 of them are in the National Art Museum of the Republic of Belarus). His works are also at the National Museum of History of Belarus and at the Odessa Art Museum.*

*Alperovich's art were in the junction of artistic trends of his time. Those were the traditional realism of the late Itinerarism ('At the quarry', 'Laundress', 'Genre scene', portraits), Impressionism (in the majority of landscapes and genre studies), Symbolism ('A river bank', 'At the sea', 'Funeral of a schoolgirl'), Romanticism ('A small house', 'Odessa port', late portraits), some features of Modern.*

**Drazdovich, Jazep**
(1888, Punki of Hlubokaye district, Vicebsk region — 1954, Padsville of Hlubokaye district).

*Belarusian painter, graphic artist, sculptor, writer, folklorist, ethnographer and archaeologist.*

*He studied at Vilna Drawing School (1906–1910) with I. Trutnev as his teacher. During World War I he was in the Western Front. In 1919, he worked at the literature and publishing department at the Commissariat for Education of BSSR.*

*From 1919 till 1920, he lived in Minsk and worked as a teacher of drawing at Belarusian Higher School for Women, as illustrator at publishing houses, and artist at the Society of Belarusian Art and at Belarusian State Theatre. He organized 'Zaranka' cultural and educational association. In the late 1920s, he taught drawing at a school in Hlubokaye, at Navahrudak and Radaškovičy Belarusian gymnasiums.*

*Since 1926, Drazdovich worked at Vilna Belarusian gymnasium, where he set up an art studio. He was associated with the 'Malanka' satiric magazine, with the Society of Belarusian Schools. In late 1910s — early 1920s, he created a graphic series of palace architecture monuments, depicted Belarusian nature in graphic sheets 'Disnenscina' ('Disna area'), in the series of drawings 'The nature of Belarus' (1940s). Especially prominent among his paintings (theme works, portraits, landscapes) are those of life of Medieval Polack.*

*Drazdovich was the author of F. Skaryna's sculpture (1910s). Since the 1920s, while traveling across Belarus, Drazdovich started to paint carpets. In 1931, he published a popular book on astronomy 'Celestial run' and created a graphic series of paintings in space theme.*

**Krémègne, Pinchus**
(1890, Žaludok, now in Ščučin district of Hrodna region — 1981, Céret, France)

*Painter, graphic artist, sculptor.*

*He was born into a craftsman's family; studied at Vilna Drawing School. In 1912, he arrived in Paris and settled in the artists' commune 'La Ruche'. In 1914, three of his sculptures were exhibited at Salon des Indépendants.*

*Since 1915, he turned to painting. The artist's works were purchased by marchands Cheron, Guillaume, Zborowski. His first personal exhibition took place in Paris in 1919 at J. Povolozki gallery. In 1921–1924, he regularly exhibited his works at Autumn Salons. Later, he traveled a lot and painted many pictures during his long journeys.*

*From 1940 till 1944, Krémègne was hiding from the Nazis in Turenne of Correze Department. After the war, he returned to his Paris studio. From 1949 till 1956, the artist participated in exhibitions in Jerusalem; held personal exhibitions in Paris, London. In 1958, the artist's personal exhibition took place at Coloman art gallery in Philadelphia. He died and was buried at the Montparnasse Cemetery in Paris.*

*His works include 'Two friends', 'Nude', 'Landscape. France', 'Bouquet', 'Still life'.*

**Zarfin, Sam (Faibich-Schraga)**
(1900 (1899?), Smilaviči, now Červen district of Minsk region — 1975, Rosny-sous-Bois, France)

*Painter, illustrator.*

*He was born into an industrialist's family and studied art at Vilna Drawing School from I. Trutnev as his teacher. In 1914, he immigrated to Palestine, studied at Bezalel Art Academy in Jerusalem. In 1923, he moved to Berlin, took part in exhibitions there, worked on illustrations for books.*

*Zarfin's art was influenced by M. Liberman and the German expressionists. In 1924, he arrived in Paris where met Ch. Soutine again. In 1925, Zarfin became keen on painting on fabric, creating sketches for fashion houses. In 1931, Zarfin received French citizenship. In 1939, when World War II started, he was recruited to the French army. The album of artist's drawings created during the war period was acquired by the French government.*

*In 1944, the artist's personal exhibition took place. From 1958 till 1975, his personal exhibitions were held at Jewish Museum in New York, at the Ashmolean museum in Oxford, in Chateau de Laversine near Creteil, in Montpellier. His works include 'Landscape with a figure', 'Cascades in a forest', 'Bouquet of white flowers', 'The donjon at Brissac' and many other.*



*Альпяровіч Леў*

**Пахаванне гімназісткі.** 1909–1913 (?) гг. Палатно, алей. 105×64,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Альперович Лев*

**Похороны гимназистки.** 1909–1913 (?) гг. Холст, масло. 105×64,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Alperovich, Lev*

**Funeral of a grammar-school girl.** 1909–1913 ?. Oil on canvas. 105×64.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Драздовіч Язэп***

**Прарок.** 1931 г. Палатно, алей. 98×62 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Дроздович Язеп***

**Пророк.** 1931 г. Холст, масло. 98×62 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Drazdovich, Jazep***

**A prophet.** 1931. Oil on canvas. 98×62 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus





*Крэмень Пінхус*

**Паляўнічы.** 1950–1960-я гг. Палатно, алей. 81×60 см
Карпаратыўная калекцыя Белгазпрамбанка

*Кремень Пинхус*

**Охотник.** 1950–1960-е гг. Холст, масло. 81×60 см
Корпоративная коллекция Белгазпромбанка

*Krémègne, Pinchus*
**Hunter.** 1950–1960. Oil on canvas. 81×60 cm
Corporate collection of Belgazprombank






***Царфін Сэм***

**Фантастычны сабор.** Каля 1950 г. Палатно, алей. 80,8×59,8 см
Прыватная калекцыя

***Царфин Сэм***

**Фантастический собор.** Около 1950 г. Холст, масло. 80,8×59,8 см
Частная коллекция

***Zarfin, Sam***

**Fantastic Cathedral.** C. 1950. Oil on canvas. 80.8×59.8 cm
Private collection

# «Вы першы ў Віцебску. Горад не зможа вас забыць…» Ю. Пэн і яго школа

«І я ведаю, колькіх яшчэ ў Віцебску і ва ўсёй губерні юнакоў Вы лёсы вырашалі. Ваша менавіта майстэрня першая ў горадзе вабіла дзясяткі гадоў. Вы першы ў Віцебску. Горад не зможа Вас забыць. Вы выхавалі вялікае пакаленне яўрэйскіх мастакоў», — пісаў Марк Шагал, віншуючы Юрыя (Юдаля) Майсеевіча Пэна з 25-годдзем яго дзейнасці ў Віцебску.

Прыватная школа Ю. Пэна была не адзінай падобнай установай у «беларускіх губернях»: крыху пазней у Мінску з'явіліся блізкія па накіраванасці школы Я. Кацэнбогена (1903), Я. Кругера (1904), І. Яроменкі (1906). Але ні гэтым педагогам, ні іх вучням не ўдалося аказаць такога ўплыву на развіццё беларускага і нават сусветнага мастацтва, як гэта зрабілі Ю. Пэн і яго выхаванцы.

Пра феномен Ю. Пэна напісана нямала, але наўрад ці калі-небудзь атрымаецца раскрыць загадку педагагічнага дару мастака. Якім чынам чалавек, які скончыў курс Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу са сціплым званнем «някласны мастак», аказаўся першым настаўнікам цэлай плеяды прызнаных майстроў, еўрапейскіх знакамітасцей?

Вядома, адыгралі ролю адданасць Ю. Пэна мастацтву і шчырае жаданне перадаць гэтае пачуццё вучням, самаадданае служэнне сваёй школе.

Юрый Майсеевіч нарадзіўся ў невялікім мястэчку Нова-Аляксандраўск Ковенскай губерні (цяпер — Зарасай, Літва). Як указваецца ў пасведчанні, выдадзеным у 1881 г. мясцовым рабінам, адбылося гэта 24 мая (5 чэрвеня па новым стылі) 1854 г. Юрый Майсеевіч успамінаў, што першы яго малюнак быў зроблены выпадкова, у хедэры: ён разззлаваўся на дачку рэбэ і намаляваў прама на сцяне храма, як яна нясе вёдры з вадой на карамысле. Нягледзячы на рэлігійныя забароны, навакольныя памяркоўна ставіліся да захаплення хлопчыка, і яго аддалі на навучанне да маляра ў Дынабург (цяпер — Даўгаўпілс, Латвія).

Пасталеўшы, Ю. Пэн марыў пра паступленне ў Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу і, прайшоўшы праз усе перашкоды, якімі было пазначана ў той час знаходжанне яўрэя па-за мяжой аседласці, у жніўні 1881 г. быў прыняты вольным слухачом у акадэмію, а ў маі наступнага года залічаны вучнем. Сярод выкладчыкаў акадэміі Юрый Майсеевіч асабліва вылучаў Паўла Пятровіча Чысцякова: «Вобраз яго перада мною і да гэтага часу яркі. Я не магу ўзгадаць ніводнага выпадку, каб П. П. каго-небудзь пакрыўдзіў. Ён заўсёды быў самым шчырым сябрам, старэйшым таварышам для студэнтаў, а таму ён мог увесь свой педагагічны сэнс, усе свае веды ў мастацтве выявіць у справе» [1].

Пасля заканчэння ў 1886 г. акадэміі Ю. Пэн ненадоўга вярнуўся ў Нова-Аляксандраўск, затым перабраўся ў Дынабург, жыў у Рызе, потым пяць гадоў правёў у маёнтку барона Корфа ў Крэйцбургe (цяпер — Екабпілс, Латвія) і, нарэшце, з 1896 г. пасяліўся ў Віцебску.

Чаму ж выбар Ю. Пэна выпаў на Віцебск? Ні ў культурным, ні ў эканамічным развіцці цэнтр губерні не пераўзыходзіў знаёмы мастаку з дзяцінства павятовы Дынабург-Дзвінск. На пачатку 1890-х гг. Дынабург нават меў большую колькасць жыхароў — 73 тыс. — супраць 59 тыс. у Віцебску. Зручная сувязь з Санкт-Пецярбургам, Рыгай, Вільняй, тэатр, бібліятэкі… І ўсё-такі Віцебск… Можа быць, адказ на гэтае пытанне дасць сам мастак: «Люблю, ці разумееце, Віцебск. Ды і як гэты горад не любіць! Прыгожая задуменная рака з абрывістымі берагамі… А цэрквы ў нас у горадзе ўвогуле не падобныя



Ю. Пэн. Фота 1905 г.

на смаленскія!.. Разумееце, я люблю партрэтнасць горада. Кожны горад мусіць мець свой партрэт. Дык вось, наш Віцебск адрозніваецца ад усіх гарадоў менавіта сваім тварам…» [2].

Так ці інакш, але выбар быў зроблены.

У лістападзе 1897 г. Ю. Пэн атрымаў пасведчанне віцебскага губернатара на права адкрыцця ў Віцебску школы жывапісу і малявання. Захавалася рэкламная афіша аб адкрыцці школы, дзе паведамляецца: «Праграма заняткаў абумоўліваецца веданнем і ўменнем кожнага абітурыента. Прадметы навучання: маляванне геаметрычных целаў, арнаментаў і гіпсавых фігур і пісанне фарбамі з натуры. Заняткі будуць праходзіць па раніцах і вечарах. <…> Плата за навучанне — месячная, за ранішнія курсы па 8 р. у месяц, а за вячэрнія — па 5 руб. у месяц. Школа абстаўлена ўсімі неабходнымі прыстасаваннямі».

Як вынікае з афішы, навучанне будавалася па акадэмічнай сістэме, але з індывідуальным падыходам. Вядомы беларускі скульптар З. Азгур успамінаў пра вучобу ў Юрыя Майсеевіча: «Пэн быў вельмі настойлівы. Не адыходзіў ад вучня да таго часу, пакуль не прымусіць зрабіць так, як патрабуецца. Таму мне



Ю. Пэн. Вуліца ў Віцебску. 1890–1900-я гг.

здавалася, што навучыцца маляванню і жывапісу ў Пэна вельмі цяжка. Ён ламаў юнацкае "я" і падпарадкоўваў сваёй волі. Кожны вучань павінен быў па-рабску выконваць яго ўказанні. Але затое, калі малюнак выходзіў, — якая радасць была ў Пэна. Ён частаваў нас цукеркамі і гарбатай, вадзіў на прагулкі па "самым лепшым у свеце" горадзе».

«Ламаць юнацкае "я"» — ці можна так казаць пра чалавека, які стаў першым настаўнікам для такіх розных мастакоў і скульптараў, як Марк Шагал і Абель Пан (Феферман), Эль Лісіцкі і Саламон Юдовін, Восіп Цадкін, Оскар Мешчанінаў, Давід Якерсон і Заір Азгур? Які ўмеў убачыць талент і падтрымаць яго яшчэ ў зародку? Так, у іх былі розныя шляхі ў мастацтве, і Пэн не заўсёды разумеў і прымаў творчасць сваіх вучняў, але сувязь з імі і памяць пра іх захоўвалася доўгія гады, нягледзячы на межы і адлегласці.

Заняткі праходзілі на кватэры Ю. Пэна ў доме № 1 па Вялікай Магілёўскай вуліцы непадалёк ад Саборнай плошчы, у цэнтры горада. У школе навучалася ад 10 да 25 чалавек адначасова. Спісы вучняў не складаліся, але ўвогуле за саракагадовую педагагічную дзейнасць Юрыя Майсеевіча вядомая колькасць яго вучняў дасягала 100 чалавек [3].

У ліку самых знакамітых вучняў Ю. Пэна гэтага перыяду — Марк Шагал і Восіп Цадкін.

і лаканічны, нават «сухаваты». Напружанае суседства чыстай, нябеснай сіні з драматычнай узрушанасцю чырвані ўзрывае цішыню выверанай кампазіцыі. Традыцыйныя ростані з пустыннымі шляхамі, на раскрыжаванні — выявы чарапоў (адамавыя галовы), якія абыякава глядзяць пустымі вачніцамі ва ўсе бакі свету, у большасці народаў сімвалізуюць смерць. Пустэча. …Жыхары працай рук сваіх не жывяць дол глухі… Паралізоўна жахлівая цішыня грукае у скроні… Невялікі твор валодае гіпнатычнай сілай уздзеяння. Уваходзячы ў свядомасць, ён нібыта набывае новы філасафічны змест. У савецка-германскую вайну мастак ратаваўся на закінутых хутарах, у паваенныя часы займаўся гістарычным жывапісам, а «карміўся» з дыванкоў-маляванак. Памёр Я. Драздовіч 15 жніўня 1954 г. за 5 гадоў да таго, як у космас адправілі першы штучны спадарожнік.

Лёс вясковага інтэлігента мастака Паўла Южыка (1874–1944) склаўся інакш, чым у Я. Драздовіча, хоць няпростых дарог было зведана безліч. Нашчадак садоўнікаў князёў Агінскіх, ён атрымаў пачатковую адукацыю ў прыходскай Міхневіцкай школе, а ў 1895 г. яму ўручылі пасведчанне аб заканчэнні Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Пасля непрацяглага перыяду работы ў вёсках Сітцы і Падброддзе паступіў у Віленскую рысавальную школу, якую скончыў у 1901 г.

Звыклы жыццёвы рытм мастака парушыла Першая сусветная вайна. Напрыканцы 1917 г. стаў бежанцам і на пачатку 1918 г. паступіў у Пензенскае мастацкае вучылішча, якое мела статус вышэйшай навучальнай установы і ў хуткім часе было рэарганізавана ў Вольныя мастацкія майстэрні. Тут П. Южык далучыўся да лева-рэвалюцыйных ідэй у мастацтве, але не спакусіўся імі ўсур'ёз. У 1921 г. ён рушыў на радзіму, але неўзабаве трапіў у Вільню, дзе працаваў у «Рускім доме», а з 1923 г. выкладаў маляванне ў мясцовай беларускай гімназіі, што зрабіла дабратворны ўплыў на яго нацыянальнае самавызначэнне.

На пачатку 1931 г. П. Южык перабраўся разам з маладой жонкай на сталае жыццё ў Вётхава, дзе пабудаваў прасторны дом з майстэрняй і штодня выпраўляўся з эцюднікам «на натуру». Яму ўдаваліся побытавыя сонечныя кампазіцыі, партрэты вучняў і суседзяў, утульныя, імпрэсіяністычнага ладу краявіды. Аднавяскоўцаў, якім ён прэзентаваў свае творы («карткі»), цешыла сакавітая прыгажосць работ, насычаных радасным светаадчуваннем.

«Інтэр'ер» (1930-я) вылучаецца характэрнымі прыкметамі, уласцівымі заходнебеларускай мастацкай плыні. Выкананы ў цёплым каларыце, ён, ці не ўпершыню, з дакументальнай падрабязнасцю, праўдзіва адлюстроўвае фрагмент дома беларускага селяніна і разам з тым нібыта высвечвае стрыжань яго духоўнай існасці. Кампазіцыйны цэнтр выявы вылучаны вертыкаллю, што ўтварае экзатычная расліна, якая становіцца сімвалам Сусветнага дрэва, а таксама сямейнага шчасця і дабрабыту. Адзнакай набожнасці гаспадара з'яўляецца абраз, паказаны на чырвоным куце хаты і ахінуты традыцыйным ручніком-набожнікам. Фіранка, якой закрываюць акно на змярканні, быццам адасабляе прастору ўнутранага жыцця ад знешняга наваколля.

Напрыканцы 1930-х гг. П. Южык звярнуўся да сакральнага жывапісу. У гэты час ён працягваў выкладаць малюнак і мову ў мясцовых вясковых школах. Памёр мастак у сакавіку 1944 г. і пахаваны ў в. Вётхава, што пад Смаргонню.

Пятра Сергіевіча (1900–1984) можна назваць універсальным мастаком: ён быў здольны працаваць амаль ва ўсіх жанрах, выконваючы сюжэтна-тэматычныя карціны, жанравыя сцэны і гістарычныя палотны, краявіды і партрэты. Жывапісец стварыў свайго роду галерэю характараў беларусаў XX ст. — сялян, рабочых, студэнтаў, творцаў, інтэлігентаў, духоўных асоб. Да мастака, які прайшоў жыццёвы і творчы шлях ад невялікай вёсачкі да Пецярбурга (1917), Віленскага ўніверсітэта (1920) і Кракаўскай акадэміі мастацтваў, прызнанне прыйшло ў другой палове 1930-х гг., калі адбылася персанальная выстаўка работ у Вільні (1935). З твораў, што былі прадстаўлены на ёй, крытыка адзначыла палатно з ёмістай і абагульняльнай назвай «Жыццё» («Шляхам жыцця», 1934).

Са стагоддзя ў стагоддзе, па пратаптаным гасцінцы, да прывідна-блакітнай і недасяжнай стужкі небакраю ідуць людзі, што цягнуць цяжар свайго існавання — магутныя, але згорбленыя… У рабоце адчуваецца ўплыў Ф. Рушчыца, аўтара «Зямлі» (1898) і «Эмігрантаў» (1902), вучнем якога быў П. Сергіевіч. Але калі палотны настаўніка мелі сімваліка-рамантычнае гучанне, то карціна «Жыццё» ўспрымаецца як абагульнены твор-канцэпт з глыбокім сэнсавым насычэннем і шырокім дыяпазонам. Ад лёсу асобнай сям'і да біблейных асацыяцый — так можна акрэсліць змест гэтай работы.

Сяргей Вішнеўскі (1909–1992) нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка ў Докшыцах. У 1930-я гг., калі таленавіты юнак размаляваў інтэр'ер мясцовай гасцініцы, яго запрыкмецілі Людамір і Міраслаў Слатвінскія. Яны і параілі бацьку адпусціць хлопца ў Вільню, далі яму жыллё, аплочвалі вучобу ў Мастацкай школе імя А. Міцкевіча, курс навучання ў якой быў разлічаны на падрыхтоўку мастакоў-афарміцеляў. Нягледзячы на добрыя поспехі ў жывапісе, С. Вішнеўскі не зацікавіўся стварэннем рэпрэзентатыўных і салонна-камерцыйных выяў, якія абяцалі добры заробак. Ён абраў напрамак «дэмакратычнага» партрэта, што пацвярджае карціна «Стары з кіем» (1930), прафесійная па выканні і псіхалагічная па змесце. Кумірам моладзі ў школе быў М.-С. Кулеша (1878–1943), які атрымаў грунтоўную адукацыю ў Герсона ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў і лічыўся захавальнікам найлепшых рэалістычных традыцый. Ён і перадаў юнаку зацікаўленасць да партрэтнага жанру — да чалавека, яго індывідуальнасці і непаўторнасці, да ўсведамлення самакаштоўнасці асобы.

Пільная ўвага да чалавека — характэрная рыса, уласцівая творчасці большасці віленскіх мастакоў-педагогаў, садзейнічала фарміраванню адметнай плыні ў асяроддзі заходнебеларускіх аўтараў. Гэтай плыні, але ўвасобленай у пейзажы, адпавядае работа Зміцера Крачкоўскага (1910–1991) «Перад бурай». Яму ўдалося ў невялікай па памерах выяве стварыць сапраўды ёмісты і змястоўна багаты вобраз прыроды, сугучны адчуванням чалавека.

*Сяргей Гвоздзеў,*
мастацтвазнаўца

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «МАСТАКІ З ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ»

**Вішнеўскі Сяргей Антонавіч**
(1909, г. Докшыцы Віленскай губ. (цяпер Віцебскай вобл.) — 1992, г. Докшыцы Віцебскай вобл.)

*Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. У 1930-я гг. яго здольнасці запрыкмецілі докшыцкія мецэнаты — браты Слатвінскія, якія ўгаварылі бацьку адпусціць хлопца ў Вільню, забяспечылі яму жыллё і аплату вучобы ў Мастацкай школе імя А. Міцкевіча, у якой рыхтавалі мастакоў-афарміцеляў. Нягледзячы на добрыя поспехі ў жывапісе, не зацікавіўся рэпрэзентатыўнымі, салонна-камерцыйнымі творамі, якія абяцалі добры заробак. Ён абраў жанр партрэта. Цікавасць да гэтага жанру юнаку перадаў М.-С. Кулеша (1878–1943), які атрымаў грунтоўную адукацыю ў Герсона ў Кракаўскай акадэміі мастацтваў і лічыўся захавальнікам рэалістычных традыцый.*

*Напрыканцы 1930-х гг. займаўся ў майстэрні-студыі віленскага фатографіка з Навагрудчыны Я. Булгака. У пасляваенны час жыў у Докшыцах, дзе меў фотамайстэрню, працаваў у галіне мастацкай фатаграфіі, графікі, станковага жывапісу, пісаў партрэты, пейзажы, нацюрморты.*

**Крачкоўскі Зміцер Мікалаевіч**
(1910, в. Чаркасы (цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) — 1992, г. Маладзечна)

*Жывапісец.*

*Сын павятовага ўрача. Пачатковую адукацыю атрымаў у гімназіі ў м. Крэве, дзе працаваў бацька, у Віленскай гімназіі (з 1928).*

*Вучыўся ў Віленскім універсітэце імя С. Баторыя (на факультэце прыгожых мастацтваў). Працаваў на Маладзечаншчыне настаўнікам малявання, але нядоўга, бо восенню 1940 г. быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС. Вярнуўшыся ў Беларусь у 1947 г., застаўся ў Маладзечне. З сярэдзіны 1950-х гг. ён навучаў малюнку дарослых у мясцовым Доме народнай творчасці. Удзельнічаў у Першай прафесійнай выстаўцы мастакоў Маладзечна і інш.*

*У 1996 г. у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася пасмяротная выстаўка З. Крачкоўскага і Я. Раздзялоўскай.*

**Сергіевіч Пётр Аляксандравіч**
(1900, в. Стаўрова Віленскай губ. (цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 1984, г. Вільнюс)

*Жывапісец. Заслужаны дзеяч мастацтваў Літоўскай ССР (1960).*

*Першыя ўрокі малявання атрымаў у Пецярбургу на мастацкіх курсах (1917–1919) у А. Андрэева. У 1919 г. паказаў свае работы Ф. Рушчыцу, які параіў*

*заняцца прафесійнай мастацкай адукацыяй. Вучыўся ў свабоднай школе малюнка і жывапісу А. Варнаса (Вільня, 1920), Віленскім універсітэце імя С. Баторыя (1920–1924, 1927–1929, факультэт прыгожых мастацтваў) у Ф. Рушчыца, Л. Слядзінскага. Ад пачатку навучэння сцвердзіў сябе як майстар партрэта. Першая персанальная выстаўка мастака адбылася ў 1935 г. Творы экспанаваліся ў розных краінах (двойчы ў Беларусі). Усё жыццё пражыў у Вільні.*

*Аўтар галерэі вобразаў беларусаў, стваральнік сюжэтна-тэматычных і гістарычных твораў («Шляхам жыцця», «Усяслаў Полацкі», «А хто там ідзе» і інш.). Творы захоўваюцца ў прыватных і дзяржаўных зборах ЗША, Германіі, Польшчы, Літвы, Расіі, Беларусі.*

**Южык Павел Фаміч**

(1874, в. Нова-Аляксандраўка Віленскай губ. (цяпер в. Вётхава Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.) — 1944, в. Вётхава)

*Жывапісец.*

*Захапляўся маляваннем з дзяцінства, але бацькі адправілі яго ў 1893 г. ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1895 г. Папрацаваўшы ў в. Сітцы і Падброддзе, паступіў у Віленскую рысавальную школу І. Трутнёва (скончыў у 1901 г.). Ратуючыся ад Першай сусветнай вайны, інспектар Дзісенскай навучальнай акругі П. Южык апынуўся ў Роўне, потым — у Пензе, дзе ўдасканальваўся ў Вольных мастацкіх майстэрнях (1917–1918). Папулярныя ў першыя паслярэвалюцыйныя гады левыя ўхілы ў мастацтве мала ўражвалі яго, і ён вярнуўся на Смаргоншчыну, потым пераехаў у Вільню. Працаваў у Рускім доме, а неўзабаве атрымаў запрашэнне на выкладанне ў Віленскую беларускую гімназію. Выкладаў на Вілейшчыне, у Пензе (1918–1920), у Дзісне (1920), у Віленскай беларускай гімназіі (1922–1935), у Залессі (1939–1944).*

*Выйшаўшы на пенсію, пабудаваў дом з майстэрняй у Вётхаве. Працягваў маляваць (па большасці сакральны жывапіс) і выкладаць у вясковых школках.*

*Вялікая калекцыя твораў з майстэрні мастака, адабраная для персанальнай выстаўкі ў Маладзечне, беззваротна знікла ў сярэдзіне 1950-х гг.*

# Художники из Западной Беларуси

Понятие «Западная Беларусь», возникшее после 1921 г., сейчас приобрело смысл до конца не изученного социокультурного феномена. На «подпольской» территории Беларуси с населением более пяти с половиной миллионов человек не было собственной художественной школы, но существовали учебные заведения в разных городах Второй Речи Посполитой. Удобным было утверждение, что учиться белорусу при поляках из-за социального и национального давления было невозможно. Третье тысячелетие опровергает его. Главную просветительскую роль в становлении «белорусской художественности» определенное время играло Вильно — историческая столица Великого княжества Литовского. Университет, обновленный в 1919 г., стал для многих белорусов важным центром получения художественного образования. Была Варшавская школа искусств, реорганизованная в 1927 г. в академию, и Краковская академия искусств, а также школы в сопредельных странах.

После включения Западной Беларуси в состав БССР особенно очевидными стали расхождения в художественном мировосприятии и оценке действительности, которые отличали творцов из этих двух больших частей уже одной страны. Наверное, потому понятие «западно-белорусская художественная школа» выразительно демонстрирует «различие путей, по которым разошлось белорусское искусство после 1921 г.». Едва ли не первой отличительной ее образно-стилевой чертой является присутствие в произведениях мастеров «свободного воздуха», как, например, у Ф. Рущица (1870–1936), художника с Воложинщины, который «подтолкнул» белорусскую нацию к романтично-возвышенному небосклону.

Противоположным «аристократу» Рущицу был не менее значимый художник из Западной Беларуси — Я. Дроздович. Разносторонность его творческих устремлений, очерченных не только изобразительным искусством, но и литературой, просвещением, археологией, народоведением, философией, космологией, позволили П. Сергиевичу назвать Я. Дроздовича «нашим уездным Леонардо да Винчи».

Родившийся в многодетной шляхетской семье в 1888 г. на хуторе Пуньки (теперь Глубокский район), после Дисненской гимназии он поступил в Виленскую рисовальную школу, которой руководил И. Трутнев. Освоив азы реалистического рисунка и получив основы знаний по истории, чуткий к красоте юноша пленился «идеальной», но построенной в собственном сознании мечтой, к которой он стремился всю жизнь. Тайные мечтания и фантазии временами вели художника тропами подсознательного и мистического, что воплощалось в символических образах.

Так было до того времени, пока работа в редакции газеты «Наша Ніва», с которой Дроздович сотрудничал с 1908 г., не вернула его на стезю реализма. Художник познал многое: военное лихолетье и вихри революции, несладкий хлеб художника в Минском театре и многочисленных издательствах, работа учителем в гимназиях и школах Глубокого, Радошковичей, Вильно. Все это, но уже в художественном воплощении, нашло отражение в историческом романтизме некоторых его работ: «Всеслав Полоцкий в порубе» (1923), «Погоня Яра» (1927), «Франциск Скорина» (1927). Вдумчиво наискавшись «души народа» на Полесье, Новогрудчине, художник в конце 1930-х гг. оказался без паспорта, работы и крыши над головой в Вильно. Здесь, в очень сложных условиях, он всецело увлекся космической темой: днями просиживал в университетской библиотеке, вечерами

штудировал физику и математику, изучал философию… Результатом труда того времени стало больше сотни настроенческих сюжетов, посвященных космосу.

«Над бездной… Знак предупреждения на краю кольца Сатурна» (1931) — композиция, размещенная в экспозиции, имеет «графический» вид, выразительный и лаконичный, даже «суховатый». Напряженное соседство чистой небесной сини с драматической взволнованностью красноты взрывает тишину выверенной композиции. Традиционные перекрестки с пустынными дорогами, на пересечении — изображения черепов (адамовы головы), которые равнодушно глядят пустыми глазницами во все стороны света, у большинства народов символизируют смерть. Пустота. …Жители трудом рук своих не оживляют дол глухой… Парализующе жуткая тишина стучит в виски… Небольшое произведение обладает гипнотической силой воздействия. Проникая в сознание, оно будто приобретает новый философский смысл. В советско-германскую войну художник спасался на заброшенных хуторах, в послевоенное время занимался исторической живописью, а «кормился» с ковриков-«маляванок». Умер Я. Дроздович 15 августа 1954 г. за пять лет до того, как в космос отправили первый искусственный спутник.

Судьба сельского интеллигента художника Павла Южика (1874–1944) скложилась иначе, чем у Я. Дроздовича, хотя непростых дорог было изведано множество. Потомок садовников князей Огинских, он получил начальное образование в приходской Михневичской школе, а в 1895 г. ему вручили свидетельство об окончании Молодечненской учительской семинарии. После короткого периода работы в деревнях Ситцы и Подбродье поступил в Виленскую рисовальную школу, которую окончил в 1901 г.

Привычный жизненный ритм художника нарушила Первая мировая война. В конце 1917 г. стал беженцем и в начале 1918 г. поступил в Пензенское художественное училище, которое имело статус высшего учебного заведения и в скором времени было реорганизовано в Свободные художественные мастерские. Тут П. Южик примкнул к лево-революционным идеям в искусстве, но не соблазнился ими всерьез. В 1921 г. он направился на родину, но вскоре попал в Вильно, где работал в «Русском доме», а с 1923 г. преподавал рисование в местной белорусской гимназии, что оказало благотворное влияние на его национальное самоопределение.

В начале 1931 г. П. Южик перебрался вместе с молодой женой на постоянное место жительства в Ветхово, где построил просторный дом с мастерской и ежедневно отправлялся с этюдником «на натуру». Ему удавались бытовые солнечные композиции, портреты учеников и соседей, уютные, импрессионистического строя пейзажи. Односельчан, которым он презентовал свои произведения («карточки»), восхищала сочная красота работ, насыщенных радостным мироощущением.

«Интерьер» (1930-е) выделяется характерными приметами, присущими западнобелорусскому художественному течению. Выполненный в теплом колорите, он, едва ли не впервые, с документальной подробностью, правдиво отображает фрагмент дома белорусского крестьянина и вместе с тем будто высвечивает стержень его духовной сущности. Композиционный центр изображения выделен вертикалью, созданной экзотическим растением, которое становится символом Мирового древа, а также семейного счастья и благополучия. Признаком набожности хозяина является икона, показанная в красном углу дома и покрытая традиционным рушником-набожником. Занавеска, которой закрывают окно в сумерки, будто отделяет пространство внутренней жизни от внешнего мира.

В конце 1930-х гг. П. Южик обратился к сакральной живописи. В это время он продолжал преподавать рисунок и язык в местных школах. Умер художник в 1944 г. и похоронен в д. Ветхово под Сморгонью.

Петра Сергиевича (1900–1984) можно назвать универсальным художником: он был способен работать почти во всех жанрах, выполняя сюжетно-тематические картины, жанровые сцены и исторические полотна, пейзажи и портреты. Живописец создал своего рода галерею характеров белорусов XX ст. — крестьян, рабочих, студентов, творцов, интеллигентов, духовных лиц. К художнику, который прошел жизненный и творческий путь от маленькой деревушки до Петербурга (1917), Виленского университета (1920) и Краковской академии искусств (1924), признание пришло во второй половине 1930-х гг., когда состоялась персональная выставка работ в Вильно (1935). Из произведений, которые были представлены на ней, критика

выделила полотно с емким и обобщенным названием «Жизнь» («Дорогой жизни», 1934).

Из века в век, по протоптанному большаку, к призрачно-голубой и недосягаемой ленте небокрая идут люди, которые несут тяжесть своего существования — могучие, но согбенные… В работе ощущается влияние Ф. Рущица, автора «Земли» (1898) и «Эмигрантов» (1902), учеником которого был П. Сергиевич. Но если полотна учителя имели символико-романтическое звучание, то картина «Жизнь» воспринимается как обобщающее произведение-концепт с глубоким смысловым насыщением и широким диапазоном. От судьбы отдельно взятой семьи до библейских ассоциаций — так можно обозначить содержание этой работы.

Сергей Вишневский (1909–1992) родился в семье железнодорожника в Докшицах. В 1930-е гг., когда талантливый юноша разрисовал интерьер местной гостиницы, его заметили Людомир и Мирослав Слатвинские. Они и посоветовали отцу отпустить парня в Вильно, дали ему жилье, оплачивали учебу в Художественной школе имени А. Мицкевича, курс обучения в которой был рассчитан на подготовку художников-оформителей. Невзирая на хорошие успехи в живописи, Вишневский не заинтересовался созданием репрезентативных и салонно-коммерческих изображений, которые обещали хороший заработок. Он избрал направление «демократичного» портрета, что подтверждает картина «Старик с посохом» (1930), профессиональная по исполнению и психологическая по содержанию. Кумиром молодежи в школе был М.-С. Кулеша (1878–1943), который получил фундаментальное образование у Герсона в Краковской академии искусств и считался хранителем лучших реалистических традиций. Он и передал юноше интерес к портретному жанру — к человеку, его индивидуальности и неповторимости, к осознанию самоценности личности.

Пристальное внимание к человеку — характерная черта, присущая творчеству большинства виленских художников-педагогов, содействовала формированию отличительного течения в среде западнобелорусских авторов. Этому течению, но воплощенному в пейзаже, соответствует работа Дмитрия Крачковского (1910–1991) «Перед бурей». Ему удалось в небольшой по размерам картине создать действительно емкий и содержательно богатый образ природы, созвучный чувствам человека.

*Сергей Гвоздев,*
искусствовед

## КРАТКИЕ БИОГРАФИИ АВТОРОВ ПРОИЗВЕДЕНИЙ В ПОДРАЗДЕЛЕ «ХУДОЖНИКИ ИЗ ЗАПАДНОЙ БЕЛАРУСИ»

**Вишневский Сергей Антонович**
(1909, г. Докшицы Виленской губ. (ныне Витебская обл.) — 1992, г. Докшицы Витебской обл.)

*Живописец.*

*Родился в семье железнодорожника. В 1930-е гг. его способности заметили докшицкие меценаты — братья Слатвинские, которые уговорили отца отпустить парня в Вильно, обеспечили ему жилье и оплату учебы в Художественной школе им. А. Мицкевича, где готовили художников-оформителей. Несмотря на хорошие успехи в живописи, он не заинтересовался репрезентативными, салонно-коммерческими произведениями, которые обещали хороший заработок, а выбрал жанр портрета. Интерес к этому жанру юноше привил М.-С. Кулеша (1878–1943), который получил основательное образование у Герсона в Краковской академии искусств и считался хранителем реалистических традиций.*

*В конце 1930-х гг. занимался в мастерской-студии виленского фотографика с Новогрудчины Я. Булгака. В послевоенное время жил в Докшицах, где имел фотомастерскую, работал в области художественной фотографии, графики, станковой живописи, писал портреты, пейзажи, натюрморты.*

**Крачковский Дмитрий Николаевич**
(1910, д. Черкассы (ныне Сморгонский р-н Гродненской обл.) — 1992, г. Молодечно)

*Живописец.*

*Сын уездного врача. Начальное образование получил в м. Крево, где работал отец, в Виленской гимназии (с 1928).*

*Учился в Виленском университете им. С. Батория (на факультете изящных искусств). Работал на Молодечненщине учителем рисования, но недолго,*

*так как осенью 1940 г. был безосновательно арестован органами НКВД. Вернувшись в Беларусь в 1947 г., остался в Молодечно. С середины 1950-х гг. он обучал рисунку взрослых в местном Доме народного творчества. Участвовал в Первой профессиональной выставке художников Молодечно и др.*

*В 1996 г. в Национальном художественном музее Беларуси состоялась посмертная выставка Д. Крачковского и Я. Раздяловской.*

**Сергиевич Петр Александрович**
(1900, д. Ставрово Виленской губ. (ныне Браславский р-н Витебской обл.) — 1984, г. Вильнюс)

*Живописец. Заслуженный деятель искусств Литовской ССР (1960).*

*Первые уроки рисования получил в Петербурге на художественных курсах (1917–1919) у А. Андреева. В 1919 г. показал свои работы Ф. Рущицу, который посоветовал заняться профессиональным художественным образованием. Учился в свободной школе рисунка и живописи А. Варнаса (Вильнюс, 1920), Виленском университете имени С. Батория (1920–1924, 1927–1929, факультет изящных искусств) у Ф. Рущица, Л. Слядинского. С начала обучения утвердился как мастер портрета. Первая персональная выставка художника состоялась в 1935 г. Произведения экспонировались в разных странах (дважды в Беларуси). Всю жизнь прожил в Вильнюсе.*

*Автор галереи образов белорусов, создатель сюжетно-тематических и исторических произведений («Дорогой жизни», «Всеслав Полоцкий», «А кто там идет» и др.). Произведения хранятся в частных и государственных собраниях США, Германии, Польши, Литвы, России, Беларуси.*

**Южик Павел Фомич**
(1874, д. Ново-Александровка Виленской губ. (ныне д. Ветхаво Сморгонского р-на Гродненской обл.) — 1944, д. Ветхово)

*Живописец.*

*Увлекался рисованием с детства, но родители отправили его в 1893 г. в Молодечненскую учительскую семинарию, которую окончил в 1895 г. Поработав в д. Ситцы и Подбродье, поступил в Виленскую рисовальную школу И. Трутнева (окончил в 1901 г.). Спасаясь от Первой мировой войны, инспектор Дисненского учебного округа П. Южик оказался в Ровно, затем — в Пензе, где совершенствовался в Свободных художественных мастерских (1917–1918). Популярные в первые послереволюционные годы левые уклоны в искусстве мало впечатляли его, и он вернулся на Сморгонщину, потом переехал в Вильно. Работал в Русском доме, а вскоре получил приглашение на преподавание в Виленскую белорусскую гимназию. Преподавал на Вилейщине, в Пензе (1918–1920), в Дисне (1920), в Виленской белорусского гимназии (1922–1935), в Залесье (1939–1944).*

*Выйдя на пенсию, построил дом с мастерской в Ветхово. Продолжал рисовать (в большинстве сакральную живопись) и преподавать в сельских школах.*

*Большая коллекция произведений из мастерской художника, отобранная для персональной выставки в Молодечно, безвозвратно исчезла в середине 1950-х гг.*

# Artists of Western Belarus

The notion 'Western Belarus', which emerged after 1921, now has the meaning of a social and cultural phenomenon which is yet to be studied in depth. The territory, which was under Polish rule (1921–1939), with a population of over 5 million, did not have its own art school. Art educational institutions existed in various cities of the Second Rzeczpospolita. The principal role in the development of Belarusian art in Western Belarus was played by Vilna (Vilnius), the historical capital of the Grand Duchy of Lithuania, especially by Vilna University re-established in 1919. The University became an important centre of art education for Belarusians. There were also the Warsaw School of Arts and the Krakow Arts Academy and art schools in neighbouring countries

The term 'Western Belarusian art school' indicates the difference in ways the Belarusian art was developing after 1921. Probably, one of its distinctive features was 'open air', so characteristic for the masters of that period, especially for F. Ruszczic (1870–1936).

Yazep Drazdovich, another no less important artist in Western Belarus and the antipode of 'aristocrat' Ruszcic, was nick-named 'Local Leonardo da Vinci' due to his versatile aspirations. The artist experienced war hardships, revolutionary upheavals, the meager existence of an artist in Minsk theatre and in numerous publishing houses, and that of a teacher at schools in small towns around Vilna. This all was reflected by the Historical Romanticism of his pictures. In the late 1930s, when the artist was left without identity documents and a roof over his head he became absorbed by the theme of outer space and used to spend the whole day in the University library, studying physics, mathematics and philosophy. The efforts of that period resulted in over a hundred pictures devoted to outer space.

The life of Pavel Yuzhik (1874–1944), a countryside intellectual, was different. A descendent of gardeners at the Oginski princes' estate, he studied at a parochial school, a teachers' training college and at the Vilna school of drawing, from which he graduated in 1901. During World War I as a refugee he found himself in Russia where he studied at the Penza art school. Having returned to his homeland, he moved to Vilna, where he taught art in the Belarusian gymnasium. In 1931, he settled in his native village and devoted himself to art. He painted portraits of his pupils and neighbours, and landscapes in an Impressionistic manner.

Pyotr Serhievich (1900–1984) can be defined as a versatile artist. He could work in practically all genres, painting pictures of concrete subjects and topics, depicting genre scenes and historical events, landscapes and portraits. The artist created a portrait gallery of Belarusians of the 20th century: peasants, workers, artists, intellectuals, and clergy.

Siarhey Vishneusky (1909–1992) was born into the family of a railwayman. In the 1930's he decorated the interior of a local hotel. Art patrons paid for his studies at the art school in Vilna which trained decorators. However, Vishneusky was not interested in commercial success. Instead, he was inclined towards 'democratic' portrait painting. His works were very professional and depicted human psychology in the best realistic traditions.

Close attention to the life of ordinary people was the characteristic feature of works by the artists of Western Belarus. Even their landscapes were painted in keeping with the inner world of their compatriots.

*Siarhey Hvozdzeu,*
art critic

## SHORT BIOGRAPHIES OF THE AUTHORS OF ART WORKS SHOWN IN 'ARTISTS FROM WESTERN BELARUS' SUBSECTION

**Vishneŭski, Siarhei**

(1909, Dokšycy now in Vicebsk region — 1992, Dokšycy)

*He was born into the family of a railwayman. In the 1930s his art abilities were noticed by the Dokšici art patrons Slatvinski brothers who persuaded Vishneŭski's father to let him go to Vilna. They provided accommodation and covered tuition fee for him to study at A. Mickiewicz Art School which trained decoration artists. Despite his success in painting, he was not interested in producing striking, commercial income-earning works. He chose the genre of portrait. His interest in portrait panting was provoked by M. — S. Kulesha (1878–1943), who had been well educated by Gerson at Krakow Academy of Arts and was considered to be the keeper of the realistic traditions.*

*In late 1930s, Vishnneuski studied at Vilna studio of Ya. Bulgak, photographer born in Navahrudak After the war he lived in Dokšycy where he had a photo studio, worked in art photography, graphics, easel painting. He painted portraits, landscapes and still lives.*

**Krachkoŭski, Dzmitry**

(1910, Čarkasy, now in Smarhon district of Hrodna region — 1992, Maladzechna)

*He was a son of the district doctor. He received his basic education at the school in Krewa where his father worked, and at a Vilna gymnasium (since 1928).*

*He studied at S. Bathory University in Vilna (the Faculty of Fine Arts). He started to work in Maladzechna district as a teacher of drawing, but in autumn 1940 was arrested on the basis of groundless accusations. After coming back to Belarus in 1947, he settled in Maladzechna. Since the mid-1950s, he taught adults drawing at the local House of People's Art. He participated in the First Professional Exhibition of Maladzecna Artists and in other exhibitions.*

*In 1996, the post mortem exhibition of the works by D. Krachkoŭski and Ya. Razdzialoŭskaya was held at the National Art Museum of Belarus.*

**Siarhievich, Pyotr**

(1900, Staŭrova (now in Braslaŭ district of Vicebsk region) — 1984, Vilnius)

*Honoured Art Worker of Lithuania SSR (1960).*

*He took his first lessons of drawing at the art courses in St. Petersburg from A. Andreev (1917–1919). In 1919, he showed his works to F. Rushchyc who advised him to take up art professionally. He studied at the A. Varnas Free School of Drawing and Painting (Vilna, 1910), at the Faculty of Fine Arts of S. Batory University in Vilna, where F. Rushchyc, L. Slendzinski were his teachers (1920–1924, 1927–1929,). At the very beginning of his education he proved to be a master of portrait. His first personal exhibition took place in 1935. His works were exhibited in many countries (twice in Belarus). He spent his entire life in Vilna (Vilnius).*

*He painted a portrait gallery of Belarusians, narrative and historical works ('On paths of life', 'Usiaslaŭ of Polack', 'Who marches there?' etc.). His works are now in private and state collections in the USA, Germany, Poland, Lithuania, Russia, and Belarus.*

**Yuzhik, Pavel**

(1874, Vethava, now in Smarhon district of Hrodna region– 1944, Vethava)

*He had passion for drawing since his childhood, but his parents sent him to Maladzechna Teachers Seminary in 1893, which he graduated from in 1895. He worked at Sitcy and Padbroddze villages, later entered the I. Trutnev Vilna Drawing School (graduated in 1901). Escaping World War, I P. Yuzhik, who was then the inspector of Disna education district, found himself in Rovno and later in Penza, where he perfected his art skills at Free Art Studios (1917–1918). He was not impressed by post-revolution leftist trends in art, so he returned to Smarhon and then moved to Vilna. He worked at the Russian House and soon was invited to teach at the Vilna Belarusian gymnasium. Later he was a teacher in Zalesse.*

*When retired, P. Yuzhik built a house with a studio in Vethava. He continued to paint (mostly pictures on religious themes) and taught at village schools. He died in spring 1944 and was buried at a local cemetery.*

*A large collection of works selected in the artist's studio for his personal exhibition in Maladzechna was lost in the mid-1950s.*



*Вішнеўскі Сяргей*

**Стары з кіем.** 1930 г. Кардон, алей. 70×52 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Вишневский Сергей*

**Старик с тростью.** 1930 г. Картон, масло. 70×52 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Vishneŭski, Siarhei*

**An old man with a cane.** 1930. Oil on cardboard. 70×52 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Южык Павел***

**Дзяўчынка ў капелюшы.** 1930-я гг. Палатно, алей. 35,8×26,8 см
Смаргонскі гісторыка-краязнаўчы музей

***Южик Павел***

**Девочка в шляпке.** 1930-е гг. Холст, масло. 35,8×26,8 см
Сморгонский историко-краеведческий музей

***Yuzhik, Pavel***

**A girl with a hat.** 1930s. Oil on canvas. 35.8×26.8 cm
Smarhon Local Lore and History Museum



***Сергіевіч Пётр***

**Шляхам жыцця.** 1934 г. Палатно, алей. 158×120 см
Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы

***Сергиевич Петр***

**Дорогой жизни.** 1934 г. Холст, масло. 158×120 см
Государственный литературный музей Янки Купалы

***Siarhievich, Piotr***

**On paths of life.** 1934. Oil on canvas. 158×120 cm
State Yanka Kupala Literature Museum



***Драздовіч Язэп***

**Над безданню… Знак перасцярогі на краі кальца Сатурна.** 1931 г. Палатно, алей. 49,5×60,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Дроздович Язеп***

**Над пропастью… Знак предупреждения на краю кольца Сатурна.** 1931 г. Холст, масло. 49,5×60,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Drazdovich, Yazep***

**Above the abyss… A warning sign at the edge of the Saturn's ring.** 1931. Oil on canvas. 49.5×60.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Крачкоўскі Зміцер***

**Вільня.** 1935 г. Папера, аловак. 18,5×26 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Крачковский Дмитрий***

**Вильно.** 1935 г. Бумага, карандаш. 18,5×26 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Krachkoŭski, Dzmitry***

**Vilna.** 1935. Pencil on paper. 18.5×26 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Крачкоўскі Зміцер***

**Вільня.** 1937 г. Папера, аловак. 18×26 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Крачковский Дмитрий***

**Вильно.** 1937 г. Бумага, карандаш. 18×26 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Krachkoŭski, Dzmitry***

**Vilna.** 1937. Pencil on paper. 18×26 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus

# МАСТАКІ
# З БЕЛАРУСІ Ў СВЕЦЕ



## ХУДОЖНИКИ
## ИЗ БЕЛАРУСИ В МИРЕ

## ARTISTS FROM BELARUS
## IN THE WORLD

# Мастакі з Беларусі ў свеце

Мастакі, згодна з абраным ім заняткам, мусяць быць вандроўнікамі. Для гэтага ёсць шмат прычын: вучоба, удасканаленне майстэрства, пошук крыніц натхнення, выбар натуры, нарэшце, выбар заказчыкаў і пакупнікоў вынікаў іх працы. Дарэчы, у выяўленчага мастацтва ёсць істотная перавага. Яно не абцяжарана моўнымі абмежаваннямі, а этнічная прыналежнасць толькі спрыяе аўтарскай адметнасці.

Беларускія майстры здаўна працавалі па-за межамі радзімы. Творы мастацтва, выкананыя імі, упрыгожваюць многія будынкі ў Рускай дзяржаве: царкву Міколы ў Хамоўніках, Пакроўскі сабор у Ізмайлаве, царкву Успення Божай Маці ў Ганчарах, надбрамны церамок Круціцкіх метрапалітаў у Маскве, храмы Новадзявочага і Новаіерусалімскага манастыроў. У Збройнай палаце ў 1660-я гг. працавалі дзясяткі майстроў з беларускіх зямель: Клім Міхайлаў са Шклова, Андрэй Фёдараў з Оршы, Восіп Андрэеў з Вільні, Якаў Іваноў з Віцебска. Яны, як і шмат іншых, траплялі ў сталіцу Рускай дзяржавы рознымі шляхамі. Адных бралі ў палон падчас войнаў, некаторых заахвочвалі пераехаць у Маскву заробкамі. У другой палове XVII ст. перасяленцы з беларускіх зямель складалі 10 % насельніцтва Масквы. Большая частка іх асела ў спецыяльна вызначаных для іх слабодах.

Беларускія майстры прынеслі з сабой не толькі новыя тэхналогіі, але і еўрапейскія барочныя матывы дэкору. У першую чаргу гэта датычылася разьбы па дрэве, якая, маючы сваю адметнасць, кардынальна змяніла выгляд рускіх іканастасаў. Майстар з Копысі Ігнат Максімаў наладзіў вытворчасць паліхромнай кафлі, якая пачала шырока выкарыстоўвацца ў тагачасным храмавым і свецкім дойлідстве. Яго паплечнікамі і паслядоўнікамі былі Сцяпан Палубес з Мсціслава, Восіп Іваноў са Шклоўшчыны, Фёдар Чука з Вільні. Многія выхадцы з беларускіх зямель, якія засталіся жыць у Маскве, іншых гарадах Рускай дзяржавы, значна паўплывалі на развіццё новага для яе стылю, арыентаванага на заходнееўрапейскія ўзоры.

Плённая традыцыя ўдзелу майстроў з Беларусі ў развіцці рускага выяўленчага мастацтва аднавілася пасля далучэння тэрыторый Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. да Расійскай імперыі. Будучыя мастакі накіроўваліся ў новую сталіцу — Пецярбург — для прафесійнага ўдасканалення. Пасля заканчэння Полацкага езуіцкага калегіума ў Акадэміі мастацтваў займаліся Іван Хруцкі (1810–1885) і Валенцій Ваньковіч (1800–1842), якія раней вучыўся жывапісу ў Віленскім універсітэце. Першы стаў заснавальнікам і яркім прадстаўніком акадэмічнай школы нацюрморта, другі — вядомым партрэтыстам. З цягам часу абодва вярнуліся на радзіму. Апалінарый Гараўскі (1833–1900), выпускнік Акадэміі мастацтваў, парадніўшыся са знакамітай сям’ёй Бенуа, застаўся ў Расіі і набыў



Пакроўскі сабор у Ізмайлаве.



Р. Генін. Аўтапартрэт. Каля 1908 г.

вядомасць як пейзажыст. Славутым партрэтыстам у Расіі стаў Сяргей Заранка (1818–1871). За афармленне Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу званне акадэміка атрымаў Нікадзім Сіліванович (1834–1919), які нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага павета Мінскай губерні. Выпускнік Пецярбургскай акадэміі Казімір Стаброўскі (1869–1929), родам з Навагрудчыны, заснаваў у Варшаве школу прыгожых мастацтваў, дзе, дарэчы вучыўся М. Чурлёніс. Непераўзыдзеным майстрам сядзібнага пейзажа ў тагачаснай Расіі, а потым і ў Польшчы, лічыўся Станіслаў Жукоўскі (1875–1944), які паходзіў з Гродзеншчыны. Усе гэтыя мастакі заўсёды памяталі пра радзіму, прысвячалі ёй свае працы.

Сусветную славу атрымалі выхадцы з Беларусі, якія прыйшлі ў мастацтва на пачатку ХХ ст. Амаль для ўсіх шлях да прызнання быў пакручасты. Большасць творчай моладзі, народжанай не ў шляхецкіх сем’ях, а ў яўрэйскім асяроддзі, не магла вучыцца ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў: не дазваляў цэнз на знаходжанне ў сталіцы для асоб іўдзейскага веравызнання. Таму прафесійныя навыкі яны маглі атрымаць толькі ў мясцовых прыватных школах. М. Шагал, В. Цадкін, А. Мешчанінаў спасцігалі асновы мастацтва ў школе малявання і жывапісу Ю. Пэна ў Віцебску. У такой жа школе, створанай у Мінску Я. Кругерам, навучаліся Х. Суцін і М. Кікоін. Пазней яны працягнулі заняткі жывапісам у Віленскай рысавальнай школе, заснаванай І. Трутневым, дзе вучыліся П. Крэмень С. Царфін, Р. Генін. Менавіта на радзіме, у прыватных школах, пачаў раскрывацца талент гэтых сусветна вядомых творчых асоб. Многія з іх потым пераехалі ў Францыю і пасяліліся ў парыжскай камуне мастакоў «Вулей».

Якава Балглея, Рыгора Глюкмана, Яўгена Зака і Восіпа Любіча прывялі ў Парыж іншыя шляхі. Напрыклад, Я. Зака бацькі з маленства вучылі маляванню: спачатку ў мястэчку Магільна Ігуменскага павета, дзе ён нарадзіўся, а потым у Варшаве, куды пераехала яго аўдавелая маці. У Парыжы ён далучыўся да кола мастакоў — выхадцаў з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, якія гуртаваліся вакол вядомага французскага скульптара Э.-А. Бурдэля. В. Любіч, які нарадзіўся ў Гродне, таксама мэтанакіравана рыхтаваўся стаць мастаком. Да прыезду ў Парыж ён вучыўся ў Адэскім мастацкім вучылішчы, разам з Іванам Пуні і Паўлам Чэлішчавым афармляў інтэр’еры берлінскіх тэатраў і кінатэатраў.

Шлях у Парыж з роднага Віцебска праз Берлін, а таксама Фларэнцыю пралёг і ў Р. Глюкмана. Да гэтага ён займаўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Нашмат больш складаным быў творчы шлях у мастацтва для Я. Балглея. Сыну рабіна з Брэст-Літоўска было неймаверна цяжка парушыць традыцыі артадаксальнага асяроддзя, у якім у той час яшчэ ўсур’ёз успрымалася забарона на выявы людзей. Таму былі спробы юнака атрымаць прафесію лекара, потым архітэктара. І толькі ў Парыжы здзейснілася яго мара стаць мастаком.

Майстры з Беларусі з’явіліся стрыжнем легендарнай Парыжскай школы ў мастацтве поруч з такімі знанымі асобамі, як П. Пікасо, А. Мадыльяні, Ф. Лежэ. У гэтым ёсць свая заканамернасць і прадвызначанасць. На думку экспертаў, без такіх якасцей нашых суайчыннікаў, як прыродная стрыманасць, лірызм, паэтычнасць, накірункі мадэрнізму (кубізм, фавізм і інш.), сфарміраваныя пераважна ў Парыжы, маглі аказацца чарговымі эксперыментамі. Дзякуючы творчай энергетыцы мастакоў з беларускіх гарадоў і мястэчак, а таксама іх калег



В. Любіч. Фота 1930-х гг. Парыж.

з розных краін Еўропы і Амерыкі, атрымала развіццё новая для таго часу мастацкая плынь — экспрэсіянізм.

Многія мастакі апынуліся за межамі Беларусі ў выніку шматлікіх трагічных падзей, што адбываліся на іх радзіме на працягу XX ст. Так, выхадзец з Пінска Арсень Заяц у 1920-я гг. быў вымушаны пакінуць родны горад, які на той час быў у складзе Польшчы, і накiравацца на заробкі ў Францыю. Там ён прайшоў шлях ад простага маляра да выбітнага дызайнера, быў узнагароджаны прэстыжнымі прэміямі. Гэта здарылася ў той час, калі тон у еўрапейскім мастацкім асяроддзі задавалі такія мэтры, як А. Маціс, А. Дэрэн, Ф. Лежэ. Славянская загартоўка дапамагла яму, тады яшчэ французскаму вайскоўцу, перажыць нямецкі палон, а пасля вайны працягваць займацца мастацтвам у Францыі і ЗША. Ён заўсёды памятаў пра сваю радзіму і прысвяціў роднаму Пінску цэлую серыю лінарытаў.

Пасля Першай сусветнай вайны былы баец санітарнага атрада, а да гэтага студэнт Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства Канстанцін Геда вярнуўся ў Магілёў, дзе некалі жылі яго бацькі. Праз некаторы час ён актыўна ўключыўся ў мастацкае жыццё горада і рэспублікі. Падчас Другой сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Беларусі мастак зарабляў на хлеб маляваннем абразоў для храмаў. Ратуючыся ад магчымых рэпрэсій, К. Геда апынуўся ў Празе, потым — у Аўстрыі, дзе ўдзельнічаў у выстаўках, афармляў тэатральныя пастаноўкі рускага эмігранцкага тэатра. Пераехаўшы ў 1948 г. у Аргенціну, ён працаваў над кніжнымі ілюстрацыямі, выстаўляў на прэстыжных выстаўках свае работы, у якіх аргенцінская рэчаіснасць суседнічала з успамінамі пра радзіму.

Мастакі з Беларусі пакінулі заўважны след і ў рускім мастацтве савецкага перыяду. Георгій Ніскі, які нарадзіўся ў Навабеліцы пад Гомелем, наведваў Гомельскую студыю імя М. Урубеля, вучыўся ва Усерасійскіх мастацка-тэхнічных майстэрнях (ВХУТЭМАС) у Роберта Фалька. Пад уплывам гэтага майстра высокай культуры, наватара ў мастацтве, а таксама дзякуючы свайму таленту і выключнай працаздольнасці Г. Ніскі стаў прызнаным класікам індустрыяльнага і батальнага пейзажа, быў узнагароджаны званнем народнага мастака РСФСР.

Вострая экспрэсіўнасць, якая часам пераходзіла ў графічнасць, вылучыла сярод тысяч савецкіх мастакоў яшчэ аднаго ўраджэнца Гомельшчыны — Яўсея Маісеенку. Ён атрымаў званне народнага мастака СССР, выхаваў у Расіі некалькі пакаленняў жывапісцаў.

Пасля палітычных і сацыяльных перамен на пачатку 1990-х гг. у СССР аднавілася традыцыя творчых вандровак. Большасць мастакоў, паспрабаваўшы знайсці прымяненне свайму таленту за мяжой, вярталіся на радзіму з новым досведам. Некаторыя інтэграваліся ў культурнае асяроддзе іншых краін.

Мастакоў, якія вандруюць па свеце, больш не лічаць перабежчыкамі. Яны — прадстаўнікі мастацтва Беларусі ў свеце.

*Уладзімір Шчасны*

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «МАСТАКІ З БЕЛАРУСІ Ў СВЕЦЕ»

**Аксельрод Меер (Марк) Майсеевіч**
(1902, г. Маладзечна Віленскай губ. (цяпер Мінская вобл.) — 1970, г. Масква, Расія)

*Жывапісец*
*Вучыўся ў Тамбоўскай рысавальнай школе і гарадскім вучылішчы (1916–1917), Мінскім рэальнам вучылішчы (1918–1919), Смаленскай мастацкай студыі Пралеткульта (1919–1920), Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях / Вышэйшым мастацка-тэхнічным інстытуце (Масква, 1921–1928, графічны факультэт) у С. Герасімава, У. Фаворскага, П. Паўлінава, К. Істоміна. Выкладаў маляванне ў школах Мінска (1921), малюнак у Вышэйшым мастацка-тэхнічным інстытуце (1928–1930) і Маскоўскім тэкстыльным інстытуце (1923–1932). Працаваў у яўрэйскіх тэатрах Мінска, Масквы, Кіева (1930–1940-я). Сябра аб'яднання «4 мастацтвы» з 1921 г. (Масква), маскоўскага філіяла Усебеларускага аб'яднання мастакоў з 1927, Рэвалюцыйнага аб'яднання мастакоў Беларусі з 1929 г., Аб'яднання станкавістаў (ОСТ) з 1929 г. (Масква), Маскоўскага абласнога саюза савецкіх мастакоў (МОССХ) з 1932 г. Удзельнік выставак з 1921 г.*
*Мастак вядомы акварэльнымі работамі, якія прысвечаны жыццю яўрэяў у Расійскай імперыі і СССР. Аўтар серый «Гета», «У стэпе», карцін «Успаміны аб старым Менску». Творы захоўваюцца ў Траццякоўскай галерэі, Рускім музеі, Музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна.*

**Глюкман (Глікман) Рыгор Яфімавіч**
(1898, г. Віцебск — 1973, г. Лос-Анджэлес, ЗША)

*Жывапісец, графік.*
*Вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства (1917–1920). У 1922 г. эміграваў у Заходнюю Еўропу. Жыў у Берліне, дзе ўваходзіў у літаратурную суполку «Верацяно». Некаторы час працаваў у Фларэнцыі, затым пасяліўся ў Парыжы. У гэты перыяд працаваў пераважна ў галіне кніжнай графікі. Затым звярнуўся да станковага жывапісу. Экспанаваў свае працы на Восеньскім салоне, Салоне незалежных і Цюільры, правёў цэлы шэраг персанальных выстаў. У 1937 г. быў узнагароджаны залатым медалём на Міжнароднай выстаўцы ў Парыжы. З пачаткам Другой сусветнай вайны пераехаў у ЗША. У 1940–1957 гг. рэгулярна ладзіў персанальныя выстаўкі. У 1945 г. атрымаў прэмію Мастацкага інстытута Чыкага.*
*У творчасці Р. Глюкмана злучыліся традыцыі рускага мастацтва і веданне прыёмаў еўрапейскіх школ жывапісу, у прыватнасці ён актыўна выкарыстоўваў каларыстычныя дасягненні старых венецыянскіх майстроў і французскіх мастакоў другой паловы XVII — пачатку XVIII стст. Як і старыя майстры, пісаў пераважна на драўляных дошках, накладваючы фарбы паслойна, дзякуючы чаму дамагаўся эфекту глыбіні і багацця адценняў.*

**Зак Яўген Савельевіч**
(1884, в. Магільна Мінскай губ. — 1926, г. Парыж, Францыя)

*Скончыў школу ў Варшаве. У 1902 г. прыехаў у Парыж, дзе вучыўся ў Школе прыгожых мастацтваў пад кіраўніцтвам Ж.-Л. Жэрома. З 1904 г. — удзельнік Восеньскага салона, Салона незалежных, выстаў Нацыянальнага таварыства прыгожых мастацтваў. У 1906–1908 гг. здзейсніў паездку ў Брэтань (Францыя). Удзельнік Таварыства польскіх мастакоў у Францыі. У 1911 г. прайшла персанальная выстаўка ў галерэі «Друэ». З 1912 г. прызначаны прафесарам у Акадэміі Ла Палет. У 1913 г. ажаніўся з мастачкай Я. Кон, якая заснавала пасля смерці мужа галерэю «Зак».*
*Выстаўляўся ў галерэях Парыжа, Нью-Ёрка, Кёльна і Лондана. У 1914–1916 гг. жыў на поўдні Францыі. У 1916 г. прыехаў у Польшчу, у г. Чэнстахова. Лічыцца адным з заснавальнікаў руху мастакоў «Рытм». У 1922 г. выехаў у Германію, дзе супрацоўнічаў з часопісам «Kunst und Dekoration». З 1923 г. — у Парыжы.*
*Творы Я. Зака знаходзяцца ў музеях Польшчы, у Мастацкім інстытуце Чыкага, у Цэнтры Пампіду і Музеі сучаснага мастацтва ў Парыжы, Музеі Ізраіля ў Іерусаліме і Мастацкім музеі ў кібуце Эйн Харод.*

**Любіч Восіп Майсеевіч**
(1896, г. Гродна — 1990, г. Парыж, Францыя)

*Нарадзіўся ў сям'і каваля. Вучыўся ў Адэскім мастацкім вучылішчы Таварыства прыгожых мастацтваў. У 1919 г. пераехаў у Германію, дзе ствараў тэатральныя дэкарацыі і дэкарацыі для кіно. У 1923 г. годзе атрымаў заказ на дэкаратыўнае афармленне кабарэ на Манпарнасе і пераехаў у Парыж. У 1925 г. скульптар А. Бурдэль увёў В. Любіча ў салоны Цюільры. У 1934 г. апублікаваў альбом «Цырк», які складаецца з 10 афортаў.*
*Падчас Другой сусветнай вайны працягваў працаваць у майстэрні на Манпарнасе. У 1940 г. не адзначыўся як яўрэй у прэфектуры паліцыі, а ў 1944 г. быў арыштаваны па даносе і інтэрнаваны ў транзітны лагер Дрансі, адкуль збег пры вызваленні Парыжа. Пасля вайны вярнуўся ў Парыж, дзе працаваў да канца жыцця.*



***Давідовіч Ісак***

**Сын палка.** 1943 г. Палатно, алей. 35,9×50,7 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Давидович Исаак***

**Сын полка.** 1943 г. Холст, масло. 35,9×50,7 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Davidovich, Isaac***

**Son of the regiment.** 1943. Oil on canvas. 35.9×50.7 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Гаўрыленка Павел*

**На прывале.** 1943 г. Папера, гуаш. 14,5×20,5 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Гавриленко Павел*

**На привале.** 1943 г. Бумага, гуашь. 14,5×20,5 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Haŭrylenka, Pavel*

**On a Halt.** 1943. Gouache on paper. 14.5×20.5 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




*Гаўрыленка Павел*

**Бязлітасна знішчым захопнікаў!** 1942 г. Папера, кардон, гуаш, туш, акварэль. 54×36 см
Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны

*Гавриленко Павел*

**Безжалостно уничтожим захватчиков!** 1942 г. Бумага, картон, гуашь, тушь, акварель. 54×36 см
Белорусский государственный музей истории Великой Отечественной войны

*Haŭrylenka, Pavel*

**We'll Ruthlessly Destroy the Invaders!** 1942. Gouache, Indian ink and water-colour on paper laid on cardboard. 54×36 cm
Belarusian State Museum of History of the Great Patriotic War




***Манасзон Монас***

**Мінск. Ленінская вуліца.** 1944 г. Папера, каляровы аловак. 11,2×18,3 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Моносзон Монос***

**Минск. Ленинская улица.** 1944 г. Бумага, цветной карандаш. 11,2×18,3 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Manaszon, Monas***

**Minsk. Lenin street.** 1644. Coloured pencil on paper. 11.2×18.3 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus




***Манасзон Монас***

**У цяплушцы на шляху ў Філонава.** З серыі «Франтавыя замалёўкі»
1942 г. Папера, туш. 21,8×16 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Моносзон Монос***

**В теплушке по пути в Филоново.** Из серии «Фронтовые зарисовки»
1942 г. Бумага, тушь. 21,8×16 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Manaszon, Monas***

**In a van on the way to Filonovo.** In ‘Front sketches’ series
1942. Indian ink on paper. 21.8×16 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Кашкурэвіч Арлен***

**Смага.** З серыі «Партызаны»
1969 г. Папера, афорт, сухая іголка. А. 79×60 см; В. 49×42 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Кашкуревич Арлен***

**Жажда.** Из серии «Партизаны»
1969 г. Бумага, офорт, сухая игла. Л. 79×60; И. 49×42 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Kashkurevich, Arlen***

**Thirst.** In the 'Partisans' series
1969. Etching and drypoint on paper. Sheet 79×60 cm, image 49×42 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Бржазоўскі Генрых***

**Партызаны.** 1944 г. Папера, каляровы аловак. 28,5×36 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Бржозовский Генрих***

**Партизаны.** 1944 г. Бумага, цветной карандаш. 28,5×36 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Brzhazoŭsky, Henryh***

**Partisans.** 1944. Coloured pencil on paper. 28.5×36 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



***Бржазоўскі Генрых***

**Разведчык.** 1944 г. Папера, каляровы аловак. 41,5×32 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

***Бржозовский Генрих***

**Разведчик.** 1944 г. Бумага, цветной карандаш. 41,5×32 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

***Brzhazousky, Henryh***

**A scout.** 1944. Coloured pencil on paper. 41.5×32 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus



*Азгур Заір*

**Герой Савецкага Саюза Міхаіл Фёдаравіч Сільніцкі.** 1943 г. Медзь (1966), гальванапластыка. 99×84×44 см
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

*Азгур Заир*

**Герой Советского Союза Михаил Федорович Сильницкий.** 1943 г. Медь (1966), гальванопластика. 99×84×44 см
Национальный художественный музей Республики Беларусь

*Azgur, Zair*

**The Hero of the Soviet Union Mikhail Fyodaravich Silnitsky.** 1943. Copper (1966), galvanoplasty. 99×84×44 cm
National Art Museum of the Republic of Belarus

# ВЫКЛАДЧЫКІ І ВЫПУСКНІКІ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА



## ПРЕПОДАВАТЕЛИ И ВЫПУСКНИКИ БЕЛОРУССКОГО ТЕАТРАЛЬНО-ХУДОЖЕСТВЕННОГО ИНСТИТУТА

## PROFESSORS AND ALUMNI OF THE BELARUSIAN THEATRE AND ART INSTITUTE

# Выкладчыкі і выпускнікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў)

У пасляваенныя гады цэнтр мастацкай адукацыі Беларусі перамясціўся з Віцебска ў Мінск. У 1947 г. тут было адкрыта Мінскае мастацкае вучылішча (у 1969 г. прысвоена імя А. Глебава, цяпер — Мінскі дзяржаўны мастацкі каледж імя А. Глебава), якое стала на шэсць гадоў амаль адзінай прафесійнай навучальнай установай у краіне [1]. Менавіта тут можна было атрымаць першапачатковую мастацкую адукацыю, прычым такога ўзроўню, што для многіх яго выпускнікоў вучылішча набыло статус акадэміі.

У розныя гады тут вучыліся тыя майстры беларускага мастацтва, якія пасля склалі яго найвышэйшы творчы ўзровень, свайго роду аблічча нацыянальнай мастацкай школы, сфарміравалі аснову пасляваеннага Беларускага саюза мастакоў. Гэта былі розныя па маштабе таленту, творчай манеры, ідэйных поглядах аўтары. Выпускнікамі Мінскага мастацкага вучылішча, напрыклад, былі такія вядомыя жывапісцы, як В. Грамыка, Л. Шчамялёў, М. Савіцкі, І. Стасевіч, Д. Алейнік, М. Данцыг, Л. Дударэнка, М. Казакевіч, Л. Асядоўскі, Я. Шыбнёў, Б. Аракчэеў, В. Пратасеня, В. Вярсоцкі.

Не менш значным выглядае і пералік выпускнікоў вучылішча, якія скончылі аддзяленне графікі і скульптуры. Сярод іх Ю. Пучынскі, Л. Асецкі, У. і М. Басалыгі, В. Шматаў, Н. і Г. Паплаўскія, С. Вакар, І. Міско, І. Глебаў, Л. Гумілеўскі, Г. Мурамцаў. Да ліку гэтых майстроў, што набылі заслужаную славу і пашану, варта дадаць і дзясяткі іншых мастакоў, якія, можа быць, не атрымалі вялікай вядомасці, але шчырыя і майстравітыя ў творчасці.

Выкладалі ў ранні перыяд у Мінскім мастацкім вучылішчы В. Волкаў, І. Ахрэмчык, Х. Ліўшыц, В. Цвірка, А. Бембель, А. Шаўчэнка, К. Касмачоў, А. Мазалёў, Л. Лейтман, Ф. Лейтман і іншыя яркія і таленавітыя педагогі.

Можна казаць пра тое, што ў Мінскім вучылішчы працягвалася адукацыйная традыцыя, закладзеная ў даваенныя гады ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме (вучылішчы): працавалі тыя ж выкладчыкі, у тым ліку выпускнікі тэхнікума, захоўвалася тая ж методыка навучання і творчыя прынцыпы. Пасля частка гэтых педагогаў перайшла ў Тэатральна-мастацкі інстытут. Яго гісторыя пачалася ў 1953 г., калі пры Беларускім дзяржаўным тэатральным інстытуце, адкрытым у 1945 г., было створана мастацкае аддзяленне.

Упершыню на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явілася вышэйшая мастацкая навучальная ўстанова [2], калі не лічыць кароткага перыяду існавання Мастацка-практычнага інстытута ў Віцебску. Але паміж імі была значная розніца, якая заключалася ў адмаўленні прынцыпаў акадэмічнай адукацыі. На мастацкім жа аддзяленні мінскага інстытута выкладанне вялося па выпрацаванай стагоддзямі і апрабаванай многімі пакаленнямі майстроў сістэме — на аснове паслядоўнага вывучэння спецыяльных і спадарожных дысцыплін, агульнаадукацыйных прадметаў, авалодвання спосабамі і сродкамі рэалістычнага адлюстравання навакольнага свету. Інакш і быць не магло ў пару, калі галоўным творчым метадам у мастацтве быў абвешчаны і заставаўся доўгія гады сацыялістычны рэалізм і любое мастацкае іншадумства сурова асуджалася.

Разам з тым індывідуальнасць мастакоў у той ці іншай ступені прабівалася скрозь жорсткія



Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў.



Андрэй Бембель.

патрабаванні ўніфікаванага (сацыялістычнага) рэалізму. Гэта адбывалася не проста і не без страт. Рэалістычны складнік у сацрэалізме быў вельмі спецыфічны, уключаў на розных этапах рэмінісцэнцыі класіцызму, акадэмізму, ампіру і сентыменталізму, не кажучы ўжо пра неабходны для «адлюстравання рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці» рамантызм. Усё гэта адпавядала агульнай эклектычнасці савецкай ідэалогіі. Такім чынам, сацыялістычны рэалізм быў шмат у чым мастацтвам міфа і мары, як спрадвеку мастацтву і ўласціва. Толькі ў савецкім выпадку заказчык быў практычна адзін — дзяржава са сваёй манаполіяй у ідэалогіі.

Некаторая стылістычная варыятыўнасць пры ідэалагічнай кананічнасці дазваляла мастакам усё ж такі знаходзіць розныя, уласцівыя кожнаму рашэнні. Але ідэалагічны прэсінг да канца 1980-х гг. заставаўся несумненным і татальным пры ўсіх эвалюцыях цэнзуры. Яна мела значэнне не толькі палітыка-ідэалагічнага, але і эстэтычнага, і галоўнае — этычнага кантролю. Варта прызнаць, што цэнзура, у якім бы выглядзе яна ні існавала ў савецкую эпоху, была злым наглядчыкам або добрым гувернёрам, ёю выхоўвалі мастакоў, але і правакавалі на фальш, на светапоглядны інфантылізм, на цынізм і паразітызм на дазволеным, вядомае «дваядумства».

Выдаткі ідэалагізаванага навучання ў інстытуце ў гады савецкай Беларусі не адмянялі добрых якасцей самога навучання прафесійнай граматнасці і майстэрству. Тым больш, мастацкае аддзяленне ўтварылася ў той самы перыяд паслясталінскай «адлігі», калі жорсткі таталітарызм пайшоў на змяншэнне як у палітыцы, так і ў культуры. Ён прыўнёс змены ў неадназначнасць самой ідэалогіі, якая мела, акрамя асаблівa адмоўных рысаў, і высокі маральны канон, што ўплываў на практыку чалавечых адносін.

У выніку з’яўлення вышэйшай мастацкай установы ў краіне тыя, хто хацеў працягнуць адукацыю, маглі цяпер зрабіць гэта на радзіме, што садзейнічала фарміраванню школы і яе нацыянальнай адметнасці. Большасць выпускнікоў Мінскага мастацкага вучылішча так і зрабілі, як і многія іншыя пазней, на працягу 60 гадоў існавання Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, ператворанага ў 1991 г. у Беларускую акадэмію мастацтваў.

Сёння акадэмічная адукацыя працягвае захоўваць свой класічны характар, прытрымліваючыся эвалюцыйнай палітыкі. Ацэнкі гістарычнай і сучаснай ролі акадэміі могуць быць рознымі і супрацьлеглымі. Але важна адно — нельга страціць прафесійную школу. Альтэрнатыўнае навучанне, або другі Уновіс, маглі б існаваць на іншых «пляцоўках» або пры акадэміі.

Наяўнасць розных і шматлікіх спосабаў мастацкага выказвання не разбурае рэалістычнага метаду мастацкай адукацыі ў Беларусі, ён застаецца вядучым у культурнай практыцы. Але гэта рэалізм, які ўключае фармальныя элементы іншых плыней і стыляў — як апошняга стагоддзя, так і папярэдніх. У гэтым амаль «рэалізме без берагоў» ёсць многае з таго, што было адкрыта ў мастацтве і што

дапамагае мастаку выказацца адэкватна свайму светаўспрыманню. На яго палітры становіцца ўсё больш фарбаў. Таму рэалізм у цяперашнім сэнсе слова мала падобны на рэалізм 1940-х гг. і радніць іх толькі тое, што мастак адлюстроўвае рэальныя аб'екты ў іх відавочных і ўнутраных сувязях, імкнучыся перадаць цэласны вобраз з'явы як часткі свету, дзе ёсць сэнс, надзея і мэта.

На выстаўцы прадстаўлены работы, якія ўвасабляюць розныя аспекты і магчымасці рэалістычнага метаду. Некаторыя майстры дзесяцігоддзі аддалі выкладанню. Яны валодаюць не толькі яркай творчай індывідуальнасцю, але і маюць не менш значную для настаўніка якасць — уменне выхаваць у вучню імкненне да майстэрства як сродку перадачы свайго светабачання і светаразумення і ў той жа час застацца непадобным да педагога, выпрацаваць здольнасць да «самастаяння».

Віталь Канстанцінавіч Цвірка (1913–1993) — адзін з самых таленавітых жывапісцаў за ўсю гісторыю беларускага мастацтва. Ён працаваў пераважна ў жанры пейзажа, стварыўшы творы, якія злучаюць высокае майстэрства, панарамнае бачанне, глыбіню і шматпланавасць зместу. Нельга сказаць, што яго творчасць «адмяняе» астатніх беларускіх пейзажыстаў, але ў ім ёсць усё тое, што ўласціва і іншым, хоць бы канспектыўна. В. Цвірка не толькі выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы і Тэатральна-мастацкім інстытуце больш за паўтара дзясятка гадоў, але і быў дырэктарам інстытута, унёсшы ў яго жыццё, у духу пачатку 1960-х гг., вялікую светапоглядную шырыню і свабоду.

Віктар Аляксандравіч Грамыка (нар. 1923) вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце ў такіх розных мастакоў, як В. Цвірка і В. Волкаў, якія з'яўляліся па адукацыі прадстаўнікамі маскоўскай і пецярбургскай школ. Ад настаўнікаў ён атрымаў павышаную цікавасць да выразнасці колеру (толькі ў В. Грамыкі ён набывае часта сімвалічны характар) і схільнасць да дакладнасці, акрэсленасці формы, з наступным дэкаратыўным абагульненнем. Малюнак пейзажаў з палётнай вышыні, разам з вышэйназванымі якасцямі і моцнай эмацыйнай напоўненасцю, робіць працы мастака былінна-эпічнымі. Любоў да людзей і жыцця, якой прасякнуты яго працы, не легкаважная: у гады вайны мастак ваяваў у партызанах. В. Грамыка амаль сорак гадоў выкладаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце, быў дэканам мастацкага факультэта.

Леанід Дзмітрыевіч Шчамялёў (нар. 1923) вучыўся ў першым наборы Тэатральна-мастацкага інстытута ў В. Цвіркі. Своеасаблівасць творчага падыходу маладога мастака выклікала канфлікты са «старэйшымі таварышамі» ўжо на стадыі дыплома. І далей яму даводзілася адстойваць сваё права на індывідуальнасць. Можна казаць пра тое, што мастак адхіліў зададзеную апавядальнасць, абраўшы свабодны маляўнічы характар увасаблення, перш за ўсё эмацыйнага перажывання рэальнасці. Шырокія прасторы насычаных яркіх або светлых святочных тонаў звычайна кантрасна спалучаюцца ў яго працах з цёмнымі прадметамі і ценямі, што ўжо візуальна сведчыць пра драматызм жыцця і яго адчуванне аўтарам. Гэта ўражанне ўзмацняюць рэзкія або вуглаватыя мазкі пэндзля.

Уладзімір Іванавіч Стальмашонак (1928–2013) вучыўся ў Ленінградзе, скончыўшы Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна, вярнуўся ў Мінск. Напэўна, у параўнанні з іншымі беларускімі мастакамі яго творчасць перажыла самыя радыкальныя фармальныя змены. Ён пачынаў, і таленавіта, у духу традыцыйнага рэалізму, але паступова, для дасягнення большай экспрэсіі вобразаў, пачаў выкарыстоўваць сродкі фармалізацыі мастацкай мовы — абагульненасць і трансфармацыю формы і колеру, акцэнты на сэнсавай выразнасці колеру. Займаючыся паралельна манументальным мастацтвам, У. Стальмашонак выкарыстоўваў манументальны размах, маштаб і ў станковых кампазіцыях, дамагаючыся максімальнага візуальнага канцэнтравання, «чытэльнасці» вобразаў, знаходзячы ў кожным выпадку асаблівае рашэнне. Больш за 40 гадоў мастак выкладаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце.

Май Вольфавіч Данцыг (нар. 1930) вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы ў В. Цвіркі, потым у Маскоўскім мастацкім інстытуце імя В. Сурыкава. Выкладаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце, а затым у Акадэміі мастацтваў больш за 50 гадоў. Успрыняўшы прыёмы «суровага стылю», ён застаўся ім верны на працягу ўсёй творчасці: відавочна, у дадзеным выпадку мела месца супадзенне светаўспрымання яго як жывапісца і гэтай мастацкай мовы. Яго творы знаходзяцца на стыку жанраў станковай карціны і плаката дзякуючы «фарсіраванню» колеру і арыгінальнасці кампазіцыйных рашэнняў. Акрамя таго, ён першым у беларускім мастацтве ўвёў калаж (калі не лічыць магчымых і малавядомых нам доследаў беларускіх мастакоў

1910–1920-х гг.). Але М. Данцыг не адмаўляўся ад перадачы рэальнага колеру і размяшчэння аб'ектаў, толькі завастраў іх. Мінчанін М. Данцыг захаваў горад у шэрагу энергічных, жыццесцвярджальных, хоць часта і драматычных, пейзажаў, якія з'яўляюцца, напэўна, самымі вядомымі выявамі Мінска ў жывапісе.

Творчасць Аляксандра Міхайлавіча Кішчанкі (1933–1997) — сплаў паўднёвага жыццялюбства і беларускай сузіральнасці, статыкі формаў і напружанай дынамікі, перададзенай кампазіцыйна або, часцей за ўсё, каларыстычнай гульнёй. Ураджэнец Варонежскай вобласці, выпускнік Львоўскага інстытута прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, які больш за 30 гадоў выкладаў у Тэатральна-мастацкім інстытуце, А. Кішчанка — адзін з тых, хто прывіў беларускаму мастацтву густ да самакаштоўнасці колеру і формы, калі адлюстраванае з'яўляецца перш за ўсё падставай для яго мастацкай інтэрпрэтацыі і стварэння эфектнага манументалізаванага твора.

Магчыма, адно з самых поўных выяўленняў нацыянальнага светаўспрымання ў мастацтве — гэта творчасць Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанкі (1928–2014). Ураджэнец Беларускага Палесся, які вучыўся мастацтву ў Кіеве і Львове, ён больш як 30 гадоў выкладаў студэнтам манументальны жывапіс. У яго станковых і манументальных творах відавочны ўзаемаўплыў гэтых разнавіднасцей жывапісу. І ў іх суіснуюць увасабленне дабрадатнасці жыцця і яго трагедый, яго складанасці, што абумоўлена не толькі дарослым вопытам мастака, але і драматычнымі падзеямі яго дзяцінства і малалецтва. У карцінах Вашчанкі, поўных засяроджанага сузірання-роздуму, прырода паўстае як адзіная матэрыяльна-духоўная субстанцыя, часткай якой, але толькі часткай, з'яўляецца чалавек, часам амаль раствараючыся ў яе прасторах, святло-паветраным эфіры.

У творах Анатоля Васільевіча Бараноўскага (нар. 1937) свет паўстае як прыўкрасны сон наяве, адначасова знаёмы і загадкавы. Мазаічная фактура жывапісу нібы перадае складанасць светабудовы, у якім галоўным з'яўляецца святло. І форма — толькі згушчэнне святла з украпінамі колеру. У творах А. Бараноўскага мы бачым нібыта душы рэчаў, вызваленыя ад зменлівасці колеру і зададзенасці формы. Мастак, які выкладаў у інстытуце, а затым у акадэміі 40 гадоў, развівае вытанчана-сузіральную лінію мастацтва савецкага «сярэбранага стагоддзя» канца 1970 — пачатку 1980-х гг., далучаючы да яе сваіх вучняў.

Георгій Георгіевіч Паплаўскі (нар. 1931) вучыўся ў Тэатральна-мастацкім інстытуце як жывапісец у В. Цвіркі і А. Мазалёва. Але пераважнай часткай яго творчасці з'яўляецца графіка. Можна казаць пра павышаную жывапіснасць яго графічных аркушаў, пра значэнне перадачы тону і аб'ёму ў іх. У сваю чаргу, яго жывапіс нясе сляды графічнасці — вялікую ролю іграюць пляма і лінія. У працах мастака бачыцца маньерыстычная тэндэнцыя позняга савецкага мастацтва — імкненне да эфектнасці кампазіцыі ў цэлым. Выява ператвараецца ў свайго кшталту ўзор, які аб'ядноўвае гнуткую, выразную лінеарнасць і дэкаратыўны, амаль адвольны каларыт. Творчасць Г. Паплаўскага шырока прызнана, мастак — уладальнік шматлікіх узнагарод і званняў.

Раіса Уладзіміраўна Кудрэвіч (1919–2000) скончыла Віцебскае мастацкае вучылішча перад самай Вялікай Айчыннай вайной, вучылася ў І. Ахрэмчыка. У вялікай ступені яе мастацтва можна лічыць увасабленнем віцебскай школы тых гадоў — маляўнічасць, дэмакратычнасьць вобразаў і мастацкай мовы, жыццялюбства і аптымізм. У яе творчасці, пік якой прыйшоўся на другую палову 1950 — канец 1960-х гг., галоўнымі персанажамі былі жанчыны — энергічныя, моцныя, часам лірычныя. Раіса Кудрэвіч, дачка вядомага беларускага жывапісца Уладзіміра Кудрэвіча, — адзіная жанчына, удастоеная звання народнага мастака.

Антон Стэфанавіч Бархаткоў (1917–2001) вучыўся ў Маскве, скончыў інстытут імя В. Сурыкава, але, як бачыцца, найбольшы ўплыў на фарміраванне мастака аказалі творчыя стасункі з В. Бялыніцкім-Бірулем. Ён валодаў рэдкім уменнем перадачы шматлікімі градацыямі тону трапяткога дыхання прыроды, настрою, выкліканага рэальным пейзажам. Кантрастам гэтаму бязважкаму калыханню святло-паветранага асяроддзя выступае колеравая пэўнасць прадметаў, як рэчыўная, так і эмацыйна афарбаваная.

Ігар Антонавіч Бархаткоў (нар. 1958) вучыўся ў П. Крохалева, М. Данцыга. І ў нейкай меры яго творчасць вырасла з дэкаратыўнасці пейзажаў першага, рашучай сілы другога і традыцый рускай пейзажнай школы канца мінулага стагоддзя. Акрамя таго, ён ператварае пейзаж настрою, кампазіцыйна

адкрыты, у кампазіцыйна завершаную, трывала «пабудаваную» карціну, хутчэй, пейзаж стану, тым самым відазмяняючы творчы падыход бацькі. Нязменная энергія мастака ўвасабляецца ў суладны і паўнагучны ўнісон кампазіцыі, каларыту, фактуры.

Барыс Іванавіч Казакоў (1937–2008) вучыўся сцэнаграфіі ў Я. Чамадурава і О. Марыкса. І тэатральная, або кінематаграфічная, адточанасць мізансцэн стала характэрнай прыкметай яго твораў. Ён увайшоў у мастацтва ў 1970-я гг., калі распаўсюдзілася захапленне некласічнымі тыпамі творчасці — Паўночным Адраджэннем, прымітывізмам. Руплівасць выканання, таямнічая сур'ёзнасць светаўспрымання, сімвалізм колеру, што адрозніваюць іх, адпавядалі памкненням мастака. Б. Казакоў распрацаваў сваю фактурную сістэму, названую ім «стэрэажывапіс», якая дазваляла дамагчыся максімальнай дакладнасці твораў, адначасова простых і велічных.

Валерый Фёдаравіч Шкаруба (нар. 1957) скончыў аддзяленне прамысловага мастацтва Тэатральна-мастацкага інстытута, дзе сярод яго выкладчыкаў былі Л. Міронава, В. Гардзеенка, В. Пасюкевіч, Н. Лівенцава. Творчасць мастака пасвойму шматслойная і шматстайная: часам наіўная, «адкрытая» тэхніка, «пералік» дэталей, што яднае з інсітным мастацтвам, суседнічаюць адначасова з гіперрэалізмам. І ў той жа час такое бачанне і трактоўка асноўнага колеравага кампанента ў яго адносінах з астатняй карцінай дазваляюць мастаку дасягнуць увасаблення не толькі пачуцця прыроды, але і філасофіі быцця. Яго цалкам зямныя краявіды, хоць і «пераствораныя» ў майстэрні, звычайна простыя па матыве і кампазіцыі, але ўспрымаюцца як частка таямніцы светабудовы.

Ягор Ягоравіч Батальонак (нар. 1946) — прадстаўнік віцебскай школы ў нацыянальным мастацтве. Ён скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, вучыўся ў выдатных майстроў акварэлі І. Сталярова і Ф. Гумена. У сваіх творах мастак увасабляе святочнае светаадчуванне, малюючы архетыпічна-абагульненыя пейзажныя матывы, апускаючы іх у стыхію спектральначыстых або высветленых тонаў. Як бачыцца, яго творчасць з'яўляецца злучэннем незамутненанепасрэднага погляду на свет, роднаснага ідэям Я. Драздовіча, і фавісцкага стаўлення да колеру як да асноўнага кампанента жывапісу, здольнага перадаць захапленне прыгажосцю існага.

Работы Сяргея Іванавіча Селіханава (1917–1976) адрозніваюцца асаблівай натуральнасцю, свабодай і разнастайнасцю пластычных прыёмаў, што вылучае яго сярод майстроў свайго пакалення. Гэта тлумачыцца, відавочна, як прыродным талентам, так і адсутнасцю акадэмічнай скульптурнай адукацыі, хоць у Віцебскім вучылішчы сярод яго педагогаў быў і скульптар М. Аўчыннікаў. С. Селіханаў стварыў шэраг пераканаўчых і запамінальных вобразаў. У яго творчасці выявілася напружаная эмацыянальнасць светаадчування, рэдкая праўдзівасць у трактоўцы мадэлей.

З імем Анатоля Аляксандравіча Анікейчыка (1932–1989) звязана сапраўдная эпоха ў мастацкай адукацыі і ў практыцы станковай і манументальнай скульптуры Беларусі. Гэта той выпадак, калі ў асобе, творчасці, у абліччы майстра ўвасабляецца адзін з вобразаў часу. А. Анікейчык вучыўся ў А. Бембеля і А. Глебава, гэта значыць атрымаў максімальна рознабаковую скульптурную адукацыю. У сваёй творчасці ён застаўся верны жыццесцвярджальнаму і драматычнаму рамантызму шасцідзясятнікаў. Хоць часам у яго працах адчувальны ўплыў вытанчанай і меланхалічнай эстэтыкі мадэрну.

Іван Якімавіч Міско (нар. 1932) дэманструе ў сваёй творчасці спакойную пераканаўчасць традыцыяналізму, павагу да рамяства разьбяра, які ідзе ўслед за праўдай факта. Воляю лёсаў ён стаў «штатным» скульптарам Зорнага гарадка, адлюстраваўшы, і неаднаразова, не толькі расійскіх, беларускіх касманаўтаў, але і прадстаўнікоў замежных краін. Традыцыйны рэалізм уяўляецца як быццам не зусім прыдатным для такой тэмы, але цяжка ўявіць, якая арыгінальная мастацкая форма магла б адпавядаць фантастычнасці прафесіі гэтых людзей, што якраз і падкрэсліваецца вонкавай звычайнасцю.

*Валянціна Вайцэхоўская,*
вядучы навуковы супрацоўнік
аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага
мастацкага музея Рэспублікі Беларусь

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІІ АЎТАРАЎ ТВОРАЎ У ПАДРАЗДЗЕЛЕ «ВЫКЛАДЧЫКІ І ВЫПУСКНІКІ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКАГА ІНСТЫТУТА»

**Анікейчык Анатоль Аляксандравіч**
(1932, г. Барысаў Мінскай вобл. — 1989, г. Мінск)

*Скульптар. Народны мастак Беларусі (1972), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974).*

*Скончыў кафедру скульптуры Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (выпускнік першага выпуску інстытута 1959 г.). Вучань А. Бембеля, А. Глебава. Выкладаў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (1959–1989, загадчык кафедры скульптуры ў 1978–1989). Прафесар (1981). Член Саюза мастакоў БССР з 1962 г. Удзельнік выставак з 1958 г. У 1972 г., не будучы заслужаным мастаком, адразу стаў народным мастаком Беларусі, адным з самых маладых сярод беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва.*

*Аўтар шматлікіх работ у галіне манументальнай, манументальна-дэкаратыўнай і станковай скульптуры, у тым ліку помнікаў У. Леніну, М. Гастэла (арх. В. Занковіч, Л. Левін), Я. Купалу ў Мінску (з Л. Гумілеўскім і А. Заспіцкім, Дзяржаўная прэмія Беларусі), мемарыяльнага комплексу «Прарыў» у г. п. Ушачы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці (арх. Ю. Градаў, Л. Левін), мемарыяльнага комплексу «Праклён фашызму» на месцы вёскі Шунеўка ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці, станковых работ, скульптурных кампазіцый фантанаў ў парку Янкі Купалы і каля касцёла Св. Алены і Сымона ў Мінску.*

**Бараноўскі Анатоль Васільевіч**
(нар. 1937, г. Мінск)

*Жывапісец. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1996), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2002). Народны мастак Беларусі (2012).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1958), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1965). У 1966–2007 гг. выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў, з 1996 г. прафесар. Удзельнік міжнародных і рэспубліканскіх мастацкіх выставак з 1965 г. Член Саюза мастакоў БССР з 1973 г.*

*Жыве ў Мінску. Працуе ў жанры станковага жывапісу (фігуратыўнай карціны, нацюрморта і партрэта). З паэтычнай пранікнёнасцю перадаў прыгажосць Беларусі ў творах: «Аблокі плывуць над зямлёй роднай», «Дарога дзяцінства», «Бярозы», «Зімовы спакой», «Сабор у Мінску», «Гальшаны», «Каложа» і інш. Работы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Беларускім музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва г. Мінска, фондах Беларускага саюза мастакоў і прыватных калекцыях.*

**Бархаткоў Антон Стэфанавіч**
(1917, в. Шчаглоўка, Магілёўскай губ. (цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл.) — 2001, г. Мінск)

*Жывапісец. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1991).*

*Вучыўся ў Маскоўскім абласным мастацкім педагагічным вучылішчы памяці 1905 года (1936–1940) у М. Крымава, П. Пятровічава. У Вялікую Айчынную вайну быў членам партызанскага атрада. Пасля вызвалення Беларусі прымаў удзел у арганізацыі і правядзенні першай выстаўкі мастацтва Беларусі ў Маскве, дзе пазнаёміўся з В. Бялыніцкім-Бірулем. Удзельнік выставак з 1940 г. Вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце імя В. І. Сурыкава (1945–1948, жывапіснае аддзяленне). У 1945–1957 гг. вучыўся ў майстэрні В. Бялыніцкага-Бірулі, стаў яго паслядоўнікам ў жывапісу. Член Саюза савецкіх мастакоў БССР з 1957 г.*

*Творы мастака знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску і іншых музеях Беларусі, у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі ў Маскве, Цвярской карціннай галерэі, а таксама ў прыватных калекцыях ў Бельгіі, Галандыі і іншых краінах.*

**Бархаткоў Ігар Антонавіч**
(нар. 1958, г. Мінск)

*Жывапісец.*

*Вучыўся ў мастацкай студыі В. Сумарава (1974–1976), студыі А. Луцэвіча (1976–1985). Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1984), творчыя майстэрні Акадэміі мастацтваў СССР у Мінску (1987). Яго настаўнікамі былі П. Крохалеў, М. Данцыг, М. Савіцкі. Удзельнік мастацкіх выставак з 1982 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1988 г. Персанальныя выстаўкі праходзілі ў Італіі, Галандыі, Літве, Расіі (сумесна з жонкай А. Бархатковай). Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2010).*

*Жыве ў Мінску. Працуе ў жанрах пейзажа, нацюрморта, партрэта, сюжэтнай карціны, увасабляючы тэмы Вялікай Айчыннай вайны, сельскага жыцця і духоўна-рэлігійнага зместу. Карціны знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі,*

*у фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, а таксама прыватных зборах Беларусі, Расіі, Канады, ЗША, Ізраіля і ўсіх еўрапейскіх краін, у тым ліку ў калекцыі Рэйнальда Вурта ў Штутгарце (Германія).*

**Батальёнак Ягор Ягоравіч**
(нар. 1946, в. Вялікія Труханавічы Чашніцкага р-на)

*Жывапісец.*

*У 1968 г. скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Працаваў у Бягомальскай школе-інтэрнаце, у Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве. З 1974 г. удзельнічае ў мастацкіх выстаўках у Мінску, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Іспаніі, Галандыі, Арабскіх Эміратах, Італіі, Польшчы, Германіі. З 1981 г. — член Беларускага саюза мастакоў.*

*Працуе ў станковым алейным і акварэльным жывапісе, пераважна ў жанры пейзажа. Работам уласціва паэтычна-асацыятыўнае пераасэнсаванне рэчаіснасці: «Дзяцінства светлы дзень», «Прастора», «Родны край», «Дзе сон-трава», «Белая царква» і інш. Творы Я. Батальёнка знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фондах Беларускага саюза мастакоў, Міністэрства культуры Расіі.*

**Вашчанка Гаўрыла Харытонавіч**
(1928, в. Чыкалавічы Брагінскага р-на Гомельскай вобл. — 2014, г. Мінск)

*Народны мастак Беларусі (1988), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984).*

*Скончыў Львоўскі дзяржаўны інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва (1955). Выкладаў у Кішынёўскім мастацкім вучылішчы (1955–1960), у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (1961–1997), кіраваў майстэрняй пры кафедры жывапісу, быў загадчыкам кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Дацэнт (1965), прафесар (1980).*

*Браў актыўны ўдзел у дзейнасці Беларускага саюза мастакоў, быў членам праўлення Саюза мастакоў СССР, членам экспертнай камісіі Міністэрства культуры БССР, членам Усесаюзнай камісіі па манументальным мастацтве Саюза мастакоў СССР.*

*З 1956 г. удзельнічаў у рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных выстаўках. Працаваў у галіне станковага і манументальнага жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Творчасць Г. Вашчанкі звязана з родным Палессем: «Нескароныя», «Палеская песня», «Маё Палессе» (залаты медаль ВДНГ). Сярод твораў таксама карціны «Дыялог», «Роздум», «Песня дуба», «Прастор», «Мой край» (Траццякоўская галерэя), шматлікія партрэты, пейзажы, нацюрморты, акварэлі, манументальныя работы.*

*Узнагароджаны шматлікімі медалямі. Міжнародным біяграфічным цэнтрам г. Кембрыджа (Англія) Г. Вашчанку былі прысуджаны ганаровыя званні «Чалавек года» і «Чалавек XX стагоддзя».*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, Нацыянальным музеі ўкраінскага мастацтва, Нацыянальным мастацкім музеі Малдавіі, Нацыянальным мастацкім музеі Балгарыі.*

*У 2002 г. была адкрыта карцінная галерэя Г. Вашчанкі ў Гомелі, для якой мастак перадаў у дар 70 жывапісных палотнаў, акварэлей і эскізаў манументальных работ.*

**Грамыка Віктар Аляксандравіч**
(нар. 1923, в. Сянькова Магілёўскага р-на)

*Жывапісец. Ганаровы член Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2000), прафесар (1981). Народны мастак Беларусі (1991).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў І. Ахрэмчыка, В. Цвіркі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, рэдактар газеты «Народныя мсціўцы». Удзельнічае ў мастацкіх выстаўках з 1947 г.*

*У 1944–1960 гг. працаваў літсупрацоўнікам, мастаком у рэдакцыях газет, Белдзяржвыдавецтве, мастацкім рэдактарам часопіса «Маладосць». У 1959–1997 гг. выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. У 1962–1972 і 1977–1982 гг. — старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР. Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (1996). Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Міжнароднай прэміі імя М. Шолахава ў галіне літаратуры і мастацтва (2010). Узнагароджаны ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны І ступені, Чырвонай Зоркі, «Знак пашаны», медалямі «За адвагу», «Партызан Вялікай Айчыннай вайны» і інш., залатым медалём ВДНГ, сярэбраным медалём імя М. Грэкава.*

*Працуе ў станковым жывапісе ў жанрах пейзажа, партрэта. Асноўныя працы: «Салдаты», «Песня аб маім атрадзе», «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца», «Яблыкі. Ураджай 1941 года»; партрэты Я. Брыля, В. Быкава; пейзажы «Ільны беларускія», «Над старымі акопамі — цішыня» і інш. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава, Траццякоўскай галерэі ў Маскве.*

**Данцыг Май Вольфавіч**
(нар. 1930, г. Мінск)

*Жывапісец. Народны мастак Беларусі (1995).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952), Маскоўскі дзяржаўны мастацкі інстытут імя В. І. Сурыкава (1958). З 1955 г. удзельнічае ў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках. Работы мастака экспанаваліся ў Румыніі (1959), Даніі і Бельгіі (1962), ГДР (1966), Англіі (1967), на Сусветнай выстаўцы ў Манрэалі (1967). З 1958 г. выкладае ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Член Беларускага саюза мастакоў з 1960 г. Прафесар (1980).*

*Аўтар тэматычных карцін і індустрыяльных пейзажаў: «Мінск. Новы мост», «Новы Мінск», «Мой горад», манументальных твораў: мазаічнага пано ў кінатэатры «Партызан», мазаікі ў гасцініцы «Юбілейная» ў Мінску. Пасля паездак на новабудоўлі БССР напісаў карціны «Гудзе зямля Салігорская», «Навасёлы» (прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1968 г.). Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Дзяржаўнай Трацякоўскай галерэі ў Маскве, музеях Севастопаля і Баку.*

**Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч**
(1933, в. Белы Калодзеж Багучарскага р-на Варонежскай вобл. — 1997, г. Мінск)

*Мастак-манументаліст. Народны мастак Беларусі (1992), лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі (1980, 1996).*

*Пасля заканчэння школы працаваў мастакомафарміцелем на заводзе «Азоўсталь». Вучыўся ў архітэктурна-мастацкім вучылішчы ў г. Сталіна, Расія (1952–1956), Львоўскім інстытуце прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва (1956–1960). Вучань Р. Сельскага і І. Скабалы. У 1960 г. працаваў мастаком-выканаўцам у творчай брыгадзе манументаліста І. Літоўчанкі ў Кіеве. З 1961 г. — удзельнік конкурсаў і мастацкіх выстаў. У 1966–1997 гг. — выкладчык жывапісу і кампазіцыі на кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Член Беларускага саюза мастакоў з 1964 г.*

*Працаваў ва ўсіх жанрах станковага жывапісу, у габелене і манументальна-дэкаратыўным роспісе. Асноўныя творы: карціны «Зарапад», «Чаканне», «Разліў»; манументальныя габелены «Габелен XX стагоддзя», «Чарнобыль» у зале ААН (Нью-Ёрк, ЗША), мазаічныя пано на тарцах жылых дамоў у мікрараёне Усход у Мінску і інш. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Дзяржаўнай Трацякоўскай галерэі, у прыватных калекцыях.*

**Кудрэвіч Раіса Уладзіміраўна**
(1919, г. Мінск — 2000, г. Мінск)

*Жывапісец. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1968).*

*Скончыла Віцебскае мастацкае вучылішча (1941). Удзельніца мастацкіх выставак з 1941 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1946 г.*

*Працавала ў станковым жывапісе ў жанрах карціны, партрэта, пейзажа, нацюрморта. Асноўныя творы: палотны «Майскі дождж», «Рудабельская рэспубліка», «Палеская маладзіца»; шэраг нацюрмортаў; у суаўтарстве з А. Гугелем — «Кастусь Каліноўскі», «Вечная слава» і інш. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Магілёўскім абласным музеі імя П. Масленікава і шэрагу рэгіянальных музеяў.*

**Міско Іван Якімавіч**
(нар. 1932, в. Чамяры (Чэмеры) Слонімскага пав. Гродзенскага ваяводства (цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.))

*Скульптар. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1989), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977), ганаровы грамадзянін г. Слоніма і Слонімскага раёна, народны мастак Беларусі (2008).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1954–1957). Вучыўся ў І. Глебава, В. Папова. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1960–1966). Вучыўся ў А. Бембеля, А. Глебава.*

*Вядомасць прынеслі манументальныя помнікі Маці-патрыёткі Анастасіі Купрыянавай у г. Жодзіна і М. Горкаму ў Цэнтральным дзіцячым парку г. Мінска (створаны ў садружнасці са скульптарамі М. Рыжанковым, А. Заспіцкім і архітэктарам А. Трафімчуком). З 1957 г. адданы тэме асваення касмічнай прасторы. Скульптурны бюст Ю. Гагарына паклаў пачатак галерэі партрэтаў герояў космасу. Работы І. Міско, звязаныя з касмічнай тэмай, устаноўлены ў розных краінах. Скульптар таксама стварыў партрэты канструктара М. Высоцкага, дырыжора В. Роўды і інш. Яго героі — Ф. Скарына, Я. Купала, Я. Колас, У. Караткевіч, І. Шамякін і інш.*

*Удзельнік мастацкіх выставак з 1957 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1965 г.*

*Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (2002), прэміяй Саюзнай дзяржавы за 2013–2014 гг. у галіне літаратуры і мастацтва за серыю скульптурных партрэтаў, прысвечаных заваёўнікам космасу, а таксама за стварэнне помніка рускаму пісьменніку С. Аксакаву (Расія).*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Музеі касманаўтыкі Зорнага гарадка імя Ю. А. Гагарына.*

**Паплаўскі Георгій Георгіевіч**
(нар. 1931, г. Роўна Кіравағрадскай вобл.)

*Графік, жывапісец. Акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў (1991), ганаровы акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1995), народны мастак Беларусі (1997).*

*Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1955), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1961), выкладаў у ім у 1962–1965 гг. У 1965–1968 гг. — выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута. З 1988 г. — кіраўнік графічнай майстэрні Творчых акадэмічных майстэрань Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Удзельнік мастацкіх выставак з 1954 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1961 г*

*Працуе ў розных тэхніках станковай і кніжнай графікі, у станковым жывапісе. Найбольш значныя графічныя цыклы: «Памяць», «Браслаўшчына — край азёрны», «Чарнобыль. Дрэвы без лісця»; працы ў кніжнай графіцы: афармленне твораў Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, У. Караткевіча, В. Быкава, А. Адамовіча, класікаў сусветнай літаратуры. Сярод жывапісных работ — «Сыны-партызаны», «Блакада» і інш.*

*Удастоены прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2002), Міжнароднай прэміі імя Д. Неру (1973). Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, залатымі медалямі імя М. Грэкава, дыпломамі і медалямі Ф. Скарыны. Работы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Дзяржаўным Музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, Дзяржаўным Рускім музеі, Смітсанаўскім цэнтры ў Вашынгтоне (ЗША), выставачным аб'яднанні «Цэнтральны Дом мастака».*

**Селіханаў Сяргей Іванавіч**
(1917, г. Петраград (цяпер Санкт-Пецярбург) — 1976, г. Мінск)

*Скульптар. Народны мастак Беларусі (1963), лаўрэат Ленінскай прэміі (1969).*

*Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча (1937). Удзельнік выставак з 1939 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1948 г. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны пайшоў радавым на фронт, удзельнічаў у баях пад Масквой і Ржэвам, на Курскай дузе. Быў узнагароджаны ордэнамі Вялікай Айчыннай вайны I і II ступеней, ордэнам Чырвонай Зоркі і медалём «За адвагу».*

*У канцы 1940-х гг. стварыў скульптурныя кампазіцыі — «За гонар сцяга» і «Вызваленне». У 1950 г. прыняў удзел у афармленні беларускага павільёна ў Маскве на ВДНГ СССР. У 1954 г. як аўтар аднаго з чатырох гарэльефаў удзельнічаў у стварэнні манумента Перамогі ў Мінску. Аўтар помніка Герою Савецкага Саюза К. Заслонаву (1955, арх. У. Волчак) у Оршы, помніка беларускаму піянеру-партызану М. Казею (1958, арх. У. Волчак) у Мінску.*

*У 1960-я гг. С. Селіханаў стварыў шэраг скульптурных кампазіцый, прысвечаных героям Вялікай Айчыннай вайны, мармуровы бюст Я. Коласа для Акадэміі навук БССР. Аўтар манумента «Нескароны чалавек» у мемарыяльным комплексе «Хатынь» (арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін; 1969).*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Міністэрстве культуры Расійскай Федэрацыі.*

**Стальмашонак Уладзімір Іванавіч**
(1928, г. Мінск — 2013, г. Мінск)

*Жывапісец, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1981), народны мастак Беларусі (1988).*

*Займаўся ў мастацкай студыі М. Керзіна і С. Каткова ў Мінску (1937–1940). Скончыў Ленінградскае мастацкае вучылішча (1951), Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна (1957). У 1957–2000 гг. — выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.*

*Член Беларускага саюза мастакоў з 1959 г. (старшыня ў 1965–1968, 1987–1990). Удзельнік выставак з 1957 г. У 1960–1980-я гг. стварыў шэраг манументальных твораў у Мінску, Светлагорску, Місхоры, Патсдаме.*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Магілёўскім абласным музеі імя П. Масленікава.*

**Цвірко Віталь Канстанцінавіч**
(1913, в. Радзеева Гомельскага пав. (цяпер Буда-Кашалёўскі р-н Гомельскай вобл.) — 1993, г. Мінск)

*Жывапісец, педагог. Народны мастак Беларусі (1963), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1967).*

*Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум (1932), Маскоўскі мастацкі інстытут (1942). Член Беларускага саюза мастакоў з 1946 г. З 1947 па 1953 г. выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы, з 1956 г. — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (у 1958–1960 рэктар). У 1961–1967 гг. быў сакратаром праўлення Саюза мастакоў СССР, а ў 1962–1963 гг. — старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР.*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музее Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, краязнаўчых музеях Беларусі, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і іншых музеях Расійскай Федэрацыі, а таксама ў прыватных калекцыях Беларусі і замежных краін.*

**Шкаруба Валерый Фёдаравіч**
(нар. 1957, г. Барысаў Мінскай вобл.)

*Мастак, пейзажыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002), заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (2014).*

*У 1981 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў У. Гардзеенкі, У. Пасюкевіча. Удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выставак з 1984 г. Член Беларускага саюза мастакоў з 1989 г.*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах Беларускага саюза мастакоў, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, Музеі мастацтваў «Джынтай» (Пекін), Музеі замежнага мастацтва Міністэрства культуры Кітая, Музеі Міністэрства экалогіі Эгейскага мора (Грэцыя), Нямецкім федэральным банку (Лейпцыг) і інш.*

**Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч**
(нар. 1923, г. Віцебск)

*Жывапісец. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1977), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), народны мастак Беларусі (1983).*

*Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1959). Вучыўся ў В. Цвіркі. Удзельнік мастацкіх выставак з 1958 г. Выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы (1959–1964) і Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве (1966–1974). Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1993), срэбраным медалём ВДНГ СССР. Член Беларускага саюза мастакоў з 1964 г. (старшыня ў 2002–2005). У Мінску ў 2003 г. была адкрыта муніцыпальная Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва, аснову якой склалі работы, падораныя гораду мастаком.*

*Працуе ў жанрах станковага жывапісу. Творы вылучаюцца свабоднай пластычнай манерай выканання, экспрэсіўнасцю. Тэма гераізму народа ў Вялікай Айчыннай вайне адлюстравана ў карцінах: «Цяжкія гады», «Генерал Даватар», «Першы дзень міру» і інш. Сярод карцін, прысвечаных гістарычным асобам, дзеячам культуры і мастацтва, — «Кастусь Каліноўскі», «Рэпін у Здраўнёве», «Леся Украінка» і інш.*

*Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музее Рэспублікі Беларусь, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі.*

# Преподаватели и выпускники Белорусского театрально-художественного института (Белорусской государственной академии искусств)

В послевоенные годы центр художественного образования Беларуси переместился из Витебска в Минск. В 1947 г. здесь было открыто Минское художественное училище (в 1969 г. присвоено имя А. Глебова, сейчас — Минский государственный художественный колледж им. А. Глебова), ставшее на 6 лет почти единственным профессиональным учебным заведением в стране [1]. Именно тут можно было получить первоначальное художественное образование, причем такого уровня, что для многих его выпускников училище обрело статус академии.

В разные годы здесь учились те мастера белорусского искусства, которые впоследствии составили ее высший творческий уровень, своего рода лицо национальной художественной школы, сформировали основу послевоенного Белорусского союза художников. Это были разные по масштабу таланта, творческой манере, идейным взглядам авторы. Выпускниками Минского художественного училища, например, были такие известные живописцы, как В. Громыко, Л. Щемелев, М. Савицкий, И. Стасевич, Д. Алейник, М. Данциг, Л. Дударенко, Н. Казакевич, Л. Оседовский, Е. Шибнев, Б. Аракчеев, В. Протасеня, В. Версоцкий.

Не менее значительным выглядит и перечень выпускников училища, закончивших отделения графики и скульптуры. Среди них Ю. Пучинский, Л. Асецкий, В. и М. Басалыги, В. Шматов, Н. и Г. Поплавские, С. Вакар, И. Миско, И. Глебов, Л. Гумилевский, Г. Муромцев. К числу этих мастеров, снискавших заслуженную славу и почет, следует добавить и десятки других художников, может быть, не получивших большой известности, но искренних и мастеровитых в своем творчестве.

Преподавали в ранний период в Минском художественном училище В. Волков, И. Ахремчик, Х. Лившиц, В. Цвирко, А. Бембель, А. Шевченко, К. Космачев, А. Мозолев, Л. Лейтман, Ф. Лейтман и другие яркие и талантливые педагоги.

Можно говорить о том, что в Минском училище продолжалась образовательная традиция, заложенная в довоенные годы в Витебском художественном техникуме (училище): работали те же преподаватели, в том числе выпускники техникума, сохранялась та же методика обучения и творческие принципы. Впоследствии часть этих педагогов перешла в Театрально-художественный институт. Его история началась в 1953 г., когда при Белорусском государственном театральном институте, открытом в 1945 г., было образовано художественное отделение.

Впервые на территории современной Беларуси появилось высшее художественное учебное заведение [2], если не считать короткого периода существования Художественно-практического института в Витебске. Но между ними была значительная разница, заключавшаяся в отрицании принципов академического образования. На художественном же отделении минского института преподавание велось по выработанной веками и апробированной многими поколениями мастеров системе — на основе последовательного изучения специальных и сопутствующих дисциплин, общеобразовательных предметов, овладения способами и средствами реалистического

